


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**9** (1007)

***ВЕРАСЕНЬ***

**Выдаецца**
**са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»**

**Мінск 2013**

# ЗМЕСТ






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



## Мікола МЯТЛІЦКІ

### ВЫЗВАЛЕННЕ

Сляды акопаў сцёртыя даўно,
І поле бою тоне ў збажыне.
І толькі хмурай хронікай кіно
Вайна з экрана жорстка палыхне.

Світае ранак пасмай сінявы,
І воблакі калышуць цішыню.
Вядзе на плошчу франтавік сівы
Прапраўнука да Вечнага агню.

Гарыць агонь, у сцюжах не ачах,
Шугае, як жыцця жывая кроў.
Адбіўся ён у сэрцы і ў вачах
Наступніка вялікіх ваяроў.

Яму гаворыць светлы дзень зямны,
Усю сваю адкрыўшы прыгажосць:
Расці, хлапчук! Не знай жахот вайны.
Ў цябе і воля, і Айчына ёсць.

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002 годзе прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986) і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998).*

Мая зямля, у мужнай славе ты,
Табой пачэсна ганарымся мы.
І нашы беларускія франты
Крышылі жар карычневай чумы.

## ЗОРНЫ ШЛЯХ

*Івану Якімавічу Міско*

Застрэшак... Прэлы дух саломы...
І ноч над пуняй зорна дыша.
Гукае сэрца ў невядомасць
Сусвету стоеная выша.

І ён гадзінамі, нязрушны,
Страху змінаючы спіною,
Глядзіць у неба, сцяўшы вусны,
З тугой нязводнаю зямною.

Ускінуць крылы б — і высока
Кружыць-лунаць, дзе толькі зоркі.
Ды іх іскрыны — кратаць зрокам,
Не больш... І роздум тчэцца горкі.

Ён чуе — космасу шырэча
Жыцця агнём наскрозь працята.
І верыць: крок там чалавечы
Адзначыць скора свой пачатак.

Снуюцца ўсцешлівыя мары,
Бацькоўскі хутар з імі ў змове.
Ужо народжаны Гагарын,
Год даваенны, час вясновы...

Ужо ступаюць па планеце
З адною прагнаю патрэбай
Яе акрыленыя дзеці,
Якім падняць зямное неба!

Парваць вярыгі прыцягнення,
Бязважка плыць у вечным змроку,
Зямлю у нейкае імгненне —
Блакітны шар — убачыць збоку.

Сказаць аседлым і бяскрылым,
Што на Зямлі ім цесна стала,
Што іншых светаў небасхілы
Душа убачыць зажадала.

І прывітаць душой адкрытай
У часе лёткім, часе гонкім
На ўзвысях зорнае арбіты
І Клімука, і Кавалёнка.

Айчыны роднай касманаўты!
Навіцкі зорны шлях свой торыць.
І з кожным крокам іх спазнаў ты,
Што пабліжэлі значна зоры.

...Якой вайны скрышылі зло мы —
Як пашча вогненнай гіены!
Застрэшак... Прэлы дух саломы...
Час паўзабыты даваенны...

Насталі мройныя часіны —
Сусвет сваіх герояў кліча.
І творыць Майстар з вечнай гліны
Эпохі зорнае аблічча.

* * *

У будучыню пазірну —
Мятуць снягі, гудуць вятрыгі.
Шкадую, што не разгарну
Я там напісаныя кнігі.

Не дацягнуцца да паліц —
Яны узнесены высока.
Душу ніяк не прасвятліць
Наступнасці відушчым зрокам.

Там будуць геніі свае
З напята ўчэпнымі вачыма.
І хтось натхнёна дапяе
Мной недапетае, магчыма.

Уславіць свет і прыгажосць
Сваёй няведамай далечы.
Адно мне ведама: ён ёсць,
Не выстыў, розум чалавечы.

Ён шэпча некаму: пішы,
Твары радкоў святліны-гронкі.
Красай агонь жывой душы
На кнігі вечныя старонкі.

Якім ні стаўся б новы свет
І творцаў будзе аж замнога, —
Для ўсіх адзіны ёсць сюжэт —
Бясконцы рух жыцця зямнога.

## БЫЛІ — ЖЫЛІ

Былі — жылі
Ўсёўладныя фараоны,
Імператары, каралі.
Дынастычную нітку роду,
Як павук павуціну,
Вілі.
І душылі паўсюд свабоду
На падданай зямлі.

Хціва марачы аб бязмежжы,
Пашыралі імперый межы,
Асыпаючы дзідаў звонам,
На касцях сталявалі троны.
Вочы ззялі, як вугалі...
Былі — жылі...

У далёкай сваёй далечы
Крыважэрныя ладзілі сечы,
Попел прошласці
Нам пакінулі
І навекі
Пад небам згінулі,
Быццам хвалі ракі,
Сплылі...
Жылі — былі...

Лёткі Час — бесспачынны воін —
Зруйнаваў іх быццё жывое,
Утаптаў у сырэц зямлі...
Былі — жылі...

* * *

Ўзрываюцца дрымотныя вулканы,
І зноўку страх няўтрымна разгушканы, —
Стыхія нагадала аб сабе.
І як мы ні пустошым акіяны,
Свідруем-рыем грунт напластаваны, —
Наш лёс прырода тузае-скубе.

* * *

Лета дзве тысячы дзясятага года —
Нібыта пасланне з пекла
(Спёкай знясіленая прырода)
Жывое наскрозь прапекла.

Няўжо напраўду планета наша
Хітнула воссю — як папярэдзіла:
Жыццёвай моцы адпіта чаша,
Мне дзейнасць ваша душу звярэдзіла.

## 27 ВЕРАСНЯ

Як жа, выгнанніку, выжыць мне,
Сціснуўшы гойстры боль?
Мама, сягоння Узвіжанне,
Павіншаваць дазволь.

Там, у вышэчах небных,
Зорка гарыць твая,
Голас анёла срэбны,
Духу жывога бруя.

Гэта зусім не мала —
Сыдзе нябёс шчадрата.
Сёння Узвіжанне, мама,
Згубнага крыжа Хрыста.

Ён за зямныя страты,
Жменю збалелых слёз
Быў на крыжы распяты,
Каб кожны з Ім уваскрос.

* * *

Пад ліхтарамі ў горадзе
Мною ўжо прызабыта,
Што агнявымі сузор'ямі
Неба начное расшыта.

Быць жа заўсёды ў сіле ім
Ад нашых крокаў наўзбоччы.
Як жа зырчаста над Віліяй
Раптам успыхнулі ноччу.

Зоркі, вы ёсць!.. І не страчаны.
Вамі ўсё неба гарэла.
Зноўку вачамі пабачаны
Так, што душа прасвятлела.

* * *

Тут, дзе рыпеў стары паром,
Прырэчны хмыз падняўся ў рост.

І басавіта пудзіць гром
Рачную строму — мкне наўпрост.

Яму не трэба перапраў,
Ён небам стомлена брыдзе,
Як сват, што ўчора перабраў.
Аж стынуць дрыжыкі ў вадзе.

Яму наўсцяж адкрыты свет.
Гаворыць голасна з зямлёй.
Аж рэха вухкае услед
Пераляканаю савой.

У раз які, каторы год
Паднеб’ем хмарыстым брыдзе,
І рабізною свой зыход
Прыкметна значыць на вадзе.

* * *

Жыву, як прашчуры жылі,
Чакаю ранішнюю ўдачу:
Арэхаў жменю у галлі,
Грыбоў і ягад у прыдачу.

На бераг стромісты прыйшоў,
Пачуўшы ў жылах моц былую.
На мелкаводдзі на язёў
Заўзята з вудаю палюю.

Як першабытны чалавек,
Нясу дары ў сваю «пячору».
А дзесь грыміць-грукоча век
Ад хімадышкі сцяты, хворы.

Паўсюд прысутны на зямлі,
Ён уладарны, зацкаваны.
Жыву, як прашчуры жылі, —
Ад навальніц жыцця схаваны.

* * *

Шорсткі вецер травы ліжа
І аблокі ў небе рве.
Уссядае рыжы рыжык
У прыземістай траве.

Ледзьве кметны рыжым бокам,
Асцярога ў жылах ног —

Прабягаю чэпкім вокам
Гэты выстылы мурог.

Вось ён — рыжы спадкаемец,
Побач два яго браты.
У траве мурожнай дрэмле
Цуд чырвона-залаты.

Ён таемна прыхаваны.
І пульсуе чуйна скронь.
— Прывітанне, мой жаданы!
Уссядай жа на далонь.

Свету Божаму дзівіся,
Азірай яго красу!
Нібы зорку з небнай высі,
Рыжык высака нясу.

Ух! — і сэрца страпянецца
Ад удачы той грыбной.
Памяць стрэчы застанецца
Млець салодка нат вясной.

* * *

Адгаманіла досвіта лісцвяна
Лясная нетра — ліст зляцеў руды.
І слухае затоена паляна,
Як мох шчакі казычуць жалуды.

Магутны дуб ступіў з сярэднявечча,
Укрыты забурэлаю карой,
Пад ветрамі, сукі узнёсшы, крэкча,
Не кіне, сквапнік, ліст пажухлы свой.

Як ні кудлаціць сіверам завея,
Не здасца ёй, бязлітаснай, аднак,
Апрацінай сшарпанаю ўсё грэе
Цыбаты калатлівы мададняк.

Калі ж вясна зялёная сакрэтна
Пяройдзе схаладнелую мяжу,
Магутнік лесу, скіне дуб някметна
Падзёрты завірухамі кажух.

* * *

Адгукніся мне з былога,
Стуль, дзе бляск жыццёвай юні,

Дзе бяжыць сцяга-дарога
Не па пожні, а па руні.

Я чакаю каля гаю —
Тыя ж гожыя бярозы.
Той жа хмельны водар маю,
Тыя ж горычныя слёзы.

Ты знайшла сабе другога.
Чым жа ён, скажы мне, лепшы?
Адгукніся мне з былога
Хоць у гэтым гойным вершы.

Чую смутак твой жаночы,
Слёз акроплены расою.
Ты, як зорка сярод ночы,
Ззяеш ранішняй красою.

Муж нягеглы, горка спіты,
Час зямны сышоў убога.
Боль мой востры і адкрыты…
Адгукніся мне з былога.

* * *

«Зорка Венера ўзышла над зямлёю».
Гляну на зорку і светла прымрою:
Вось і ступіла нага чалавека
На травяныя планеты груды.
Там разліваюцца шырака рэкі
І патанаюць у кветках сады.

Хіба ж Венера быць не прыгожай
У мроях маіх засяроджаных можа?
Думкай на зорку-іскрыну ляту:
Светла ўзыходзіць душы падарожжа,
Мераю там за вярстою вярсту.

І не пачую, што скажа вучоны:
Зорка Венера на погляд ягоны —
Самае страшнае пекла нябёс.
З ім не пагодзяцца мрой маіх звоны:
Хай застаецца планетай дзівос!

* * *

Няма глыбей за часу акіян.
О, колькі ў ім учора патанула
Планет і зорак, гарадоў, краін,
І астравоў зялёных, і народаў —

Усячыны ўсялякае...
Былое
Ўбірае ўсё у сховы пакрысе,
Усё жывое робіцца мінулым,
І нежывое падае на дно
Ад першых дзён
Сусвету сатварэння.

Хай выбліснула іскрынай адной
Маё жыццё,
Зырчыць яно пад сонцам
І згасне хутка,
І жыццё планеты
Па імені
Зялёная Зямля
Пагасне гэтак —
І на дно асядзе
Сівога часу —
Прорвіны прачорнай,
Якой глыбей
Нічога не было.

Мой зорны міг!
Маё быццё зямное!
Табою прыжыццёва даражу,
Табе аддам пад небам
Даастатку
Жывую кроў,
Святлістасць лёткіх мар
І пачуцця ўзгарачаную хвалю,
Што здольныя
У слове ацалець.

Ляці, Зямля,
Па сонечнай арбіце
І утрымай
Усіх сваіх жывых
Над прорвінай
Раз'ятранага часу,
Не адпускай
У чорныя глыбіні
Жывы прамень —
Зялёны блік вясны,
Жывую чалавечую прысутнасць.



Таццяна МУШЫНСКАЯ

# У ПРАСТОРЫ СЯМІ НОТ

*Дакументальная аповесць*

## Спяваюць — усе!

Калі азіраюся назад і згадваю дзяцінства, складваецца ўражанне, што музыка вакол і побач са мной была заўжды. Любіла спяваць мама, Тамара Фёдараўна, хоць заўсёдныя клопаты прафесійныя, настаўніцка-школьныя, і побытава-хатнія, магчыма, не надта таму спрыялі. Мамін голас не вельмі моцны, але чысты і вельмі шчыры. А сама манера выканання адлюстроўвае далікатнасць унутранага свету. Нячаста, але спяваў бацька, Міхась Іосіфавіч, найперш народныя песні — кшталту «Ой, сівы конь бяжыць» або славуты раманс «Ты не пришла, а я так ждал…». Вельмі любіла спяваць бабуля Марыя Іванаўна. Цікава, што на Грушаўцы, дзе нарадзілася мама, спявалі часцей, чым у Быхаве, на бацькавай радзіме.

Увогуле калі за святочным сталом збіраліся госці, абавязковай, а магчыма, лепшай часткай сустрэчы аказваліся вядомыя народныя або папулярныя эстрадныя творы. Ты таксама падпяваеш, «падцягваеш»... І адчуванне сябе ўнутры згуртаванай грамады блізкіх людзей, якія пяюць і яднаюцца не толькі галасамі, але суладдзем эмоцый, агульнага душэўнага ладу, — яно па вялікім рахунку мацуе дух. Уплывае на тое, як будзеш бачыць і чуць навакольны свет усе наступныя гады. А галоўнае, застаецца ў глыбінях памяці праявай неабдымнай, зіхоткай радасці, памножанай на колькасць выканаўцаў.

Згадваю, музыка ў той час літаральна панавала ў прасторы паўсядзённага жыцця. Прычым, творы розныя і першакласныя. Яны гучалі з радыёпрыёмнікаў, якія ў гарадскіх кватэрах і вясковых хатах не выключаліся цэлы дзень. Яркімі мелодыямі, таленавітымі музычнымі сачыненнямі былі прасякнутыя фільмы і тэлеперадачы. Цяперашняй моладзі цяжка ўявіць, але новыя опер-

---

***Мушынская Таццяна Міхайлаўна*** *нарадзілася 26 чэрвеня 1958 года ў Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981). Працавала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». З 1991 года — рэдактар аддзела музыкі часопіса «Мастацтва».*

*Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар паэтычных кніг «Я вандрую ў стагоддзях» (1998), «Рабро Адама» (1999), «Сны кахання» (2006), «Души ожиданье» (2006), кнігі прозы «Доўгае развітанне» (1997), кніг для дзяцей «Калі тата — Дзед Мароз» (2000), «Свята печанай бульбы» (2003), «Вожыкі ў футбол гуляюць» (2008) і інш.*

ныя і балетныя пастаноўкі часта транслiраваліся з маскоўскага Вялікага або ленінградскага Кіраўскага тэатраў. Яны суправаджаліся каментарыямі музыказнаўцаў, якія перад пачаткам дзеі прайгравалі на раялі вядомыя тэмы, знакамітыя арыі і дуэты. Тлумачылі, распавядалі — увогуле захаплялі нязмушаным падарожжам у свет геніяльных твораў.

На святочных імпрэзах з нагоды юбілеяў класікаў літаратуры, дзеячаў тэатральнага ці музычнага мастацтва мінулага часта гучала класіка. У выкананні найбольш знакамітых аркестраў і салістаў. А з сучаснага — тое, што было пазначана пячаткай густу і безумоўнага, бясспрэчнага таленту. Тых музычных скарбаў пры канцы 1960-х, у 1970—1980-я гады аказвалася столькі, што яны здаваліся бясконцымі. Іх хацелася адкрываць і спасцігаць.

## Клавішы белыя і чорныя

У 1964-м бацькі атрымалі новую кватэру на вуліцы Якуба Коласа ў Зялёным Лузе. У наступным годзе я пайшла ў школу, тады ж мама і тата купілі чорна-бліскучае, урачыстае з выгляду піяніна «Беларусь», каб я вучылася музыцы. Купілі ў крэдыт, потым выплачвалі неабходную суму, напэўна, цэлы год. Кватэра здавалася агромністай, як на цяперашні погляд, нават неабходнай мэблі не хапала. А піяніна ў напаўпустой хаце з'явілася.

Два або тры разы на тыдзень я хадзіла на заняткі да Людмілы Міхайлаўны, мілай і ўсмешлівай настаўніцы музыкі. Зразумела, самы пачатак іх, авалодванне тэхнікай, патрабуе цярпення і настойлівасці. У педагога, відавочна, іх хапала, у мяне — не заўсёды.

Але захапляў вынік. У той час я заўзята збірала песеннікі з нотамі, там абавязкова друкаваліся мелодыі, якія можна прайграць на піяніна, калекцыяніравала дуэты і арыі з опер, змешчаныя ў музычных часопісах. Гэта хвалюючы момант, калі кранальна-пяшчотная або ўрачыста-велічная мелодыя, асноўная музычная тэма нараджаецца пад тваімі пальцамі. У сугуччы белых і чорных клавіш, у сугуччы асобных нот і акордаў.

Любіла я музычную літаратуру, з захапленнем чытала біяграфіі кампазітараў, славутых выканаўцаў і ў той жа час не зусім разумела, навошта мне трэба сальфеджыа. Я ж не збіралася быць піяністкай! Музыка існавала сярод іншых захапленняў, была часткай навакольнага свету, але не вызначальнай. Цяпер разумею, што без тых заняткаў, без музычнай школы не ўзнікла б глыбокае адчуванне і разуменне шматлікіх музычных твораў — оперных, балетных, інструментальных, камерных, што спатрэбіліся падчас прафесійных заняткаў музычнай журналістыкай.

Праз шмат гадоў, у 2003-м, калі разам з кампазітарамі мы ладзілі першую сумесную вечарыну ў касцёле Святога Роха, тагачаснай камернай зале філармоніі, я запрасіла і Людмілу Міхайлаўну, сваю настаўніцу. Яна выглядала здзіўленай. Напэўна, не спадзявалася, што тыя, даўнія заняткі будуць мець нейкі працяг...

Школьныя гады прайшлі пад знакам адкрыцця свету музыкі, тэатра, кіно. Падзея, калі бацькі куплялі — уявіце, якое шчасце! — камплекты пласцінак, дзе цалкам запісаны оперы «Яўгеній Анегін», «Травіята», «Аіда», балеты «Лебядзінае возера», «Спячая красуня», «Жызэль». Іх выпускала тагачасная фірма «Мелодыя». Усё слухалася, ды па некалькі разоў, пакуль сцэны з опер і аперэт, знакамітыя арыі і дуэты не запаміналіся цалкам.

Мне споўнілася 11 ці 12 гадоў, калі аднойчы бацька прынёс з акадэмічнай бібліятэкі манаграфію, прысвечаную Чайкоўскаму, вялізны том музыказнаўцы Альшванга. Спачатку прачытала, а потым, седзячы за фартэпіяна, прайгравала найбольш вядомыя эпізоды опер, балетаў, галоўныя музычныя тэмы. Дзіцячыя ўспаміны — яны вызначальныя. І застаюцца ў сховішчах памяці на ўсё жыццё...

## Пад кіраўніцтвам Аляксандры Нікалаевай

З дзяцінства неадольна вабіў балет. Калі вучыліся ў першым класе, выправіліся ў культпаход на «Лебядзінае возера». Наступны раз я пайшла на ранішні балетны спектакль сама — замест таго, каб прыйсці ў нядзелю на школьнае мерапрыемства. За свавольства атрымала ад класнага кіраўніка вусную, але вымову. Пры ўсіх вучнях… Было крыўдна, але ў душы жыло перакананне, што тэатральныя ўражанні больш цікавыя і важныя, чым панылы сход.

У дзесяць гадоў упершыню ўбачыла па тэлевізары балет «Жызэль». Тое ўзрушэнне засталося ў памяці ажно на некалькі дзесяцігоддзяў. Як быццам неспадзявана адкрылася іншая, агромністая прастора, іншы свет. Непараўнальна лепшы за будзённы і паўсядзённы, які існаваў вакол. Свет фантастычны, ілюзорны, але прасякнуты прыгажосцю і моцнымі пачуццямі, якіх не хапала ў рэальнасці. Тое ўражанне павярнула ўсё жыццё ў іншым накірунку. З таго моманту збірала ўсё, што мела прамое ці ўскоснае дачыненне да балета, — кнігі, альбомы, часопісы, паштоўкі з выявамі артыстаў. Прычым, іх кошт не меў абсалютна ніякага значэння. Спачатку — балет, а потым усё астатняе — па магчымасці.

У пэўны момант я вырашыла: з таямнічым і загадкавым мастацтвам харэаграфіі трэба знаёміцца бліжэй. Бо зразумець пабудову танца, сольнага ці масавага, народнага ці характарнага, можна толькі праз уласныя рукі і ногі. У 8-м класе пайшла запісвацца ў студыю класічнага танца, якая існавала ў Палацы культуры прафсаюзаў. Ён і цяпер знаходзіцца на Кастрычніцкай плошчы сталіцы. Бацькам нічога не сказала, дазволу не пытала. Знайшла, запісалася. Выправілася на першыя заняткі, загадзя купіўшы купальнік і «чэшкі». Пабачыла ўсё на ўласныя вочы. Пасля першых заняткаў і паведаміла. Так сказаць, паставіла перад фактам.

Кіравала студыяй легенда айчыннага балета, яго былая зорка, народная артыстка Беларусі Аляксандра Нікалаева, або «баба Шура», як мы называлі яе за вочы.

Праз два месяцы рэпетыцый юныя артысткі, якія прыйшлі ў студыю разам са мной, выйшлі на сцэну. Няхай і ў масавым танцы. Гэты быў беларускі «Дубочак». Уражанне сцэны, асветленай агнямі рампы і «юпіцераў», адчуванне чорнай агромністай прасторы залы, з’яднаныя і пераплеценыя ў душы неверагодныя хваляванні, адказнасць, страх, узбуджанасць, імкненне станцаваць яе мага лепш — засталіся на ўсё жыццё. Сцэна — зачараванае месца. І хто туды трапіў, асабліва ў юнацтве, будзе наступныя гады да яе імкнуцца. Быць на ёй альбо каля яе.

Рэпертуар студыі дзякуючы намаганням Нікалаевай быў багаты і разнастайны: урыўкі з класічных балетаў «Дон Кіхот», «Лебядзінае возера», «Раймонда», «Шчаўкунок», харэаграфічныя мініяцюры, характарныя і народныя танцы. Аляксандра Васільеўна ставіла на нас новыя нумары. Ганаруся, што разам з іншымі ўдзельнікамі студыі паспела выступіць ці не на ўсіх канцэртных пляцоўках Мінска — Дом афіцэраў, Палац спорту, палацы прафсаюзаў, спорту, трактарнага, аўтазавода, чыгуначнікаў, камвольнага камбіната. Адной-

чы нават танцавалі на сцэне Опернага тэатра. Шмат ездзілі і па Беларусі, выпраўляліся на гастролі ў Літву.

Салісты, якія займаліся не першы год (часам яны мелі адукацыю, набытую ў харэаграфічнай вучэльні, або паралельна займаліся ў культасветвучылішчы), трымаліся асобна. Моладзь, занятая ў масавых танцах, часцей сябравала паміж сабой.

Вядома, «бабу Шуру» мы любілі. Студыя існавала, развівалася, а значыць, увесь час удзельнічала ў канцэртах, фестывалях, аглядах, выпраўлялася на гастролі найперш дзякуючы яе аўтарытэту, тэмпераменту, нястомнай энергіі. І кіраўніцтва палаца, і студыйцы яе паважалі, але адначасова крыху пабойваліся. Не так яе, як уласцівых ёй успышак нечаканага гневу. Была яна асобай эксцэнтрычнай, настрой на працягу адной рэпетыцыі мог мяняцца імгненна і кардынальна, ад радаснага і лагодна-памяркоўнага да раздражнёнага і спапяляльна-абуранага. Не ўсе вытрымлівалі такі эмацыйны «накат», які ўзнікаў імгненна і да якога ты ніяк не паспяваў падрыхтавацца. Здаралася, хтосьці з салістаў на рэпетыцыі не выходзіў, а літаральна вылятаў з залы, моцна грымнуўшы дзвярыма. Тыдзень не з'яўляўся на занятках, потым прыходзіў, як быццам нічога не здарылася. Салісты мелі права абурацца, «кардэбалет» звычайна моўчкі трываў хвалі гневу. Але што зробіш! Хочаш навучыцца — цярпі…

Але, думаю, менавіта з такім характарам і можна арганізоўваць шматлікія канцэрты і выезды за межы палаца і горада. Калі хочаш утрымаць вялікі калектыў, арганізаваць паказ дасягненняў на сваёй сцэне або на чужой пляцоўцы — значыць, трэба думаць пра спіс і паслядоўнасць нумароў, якія будуць паказвацца, ноты акампаніятара, стосы сцэнічнай вопраткі (а для кожнага танца яны свае), пра мяхі танцавальнага абутку. Думаю, што анёл, далікатны, крохкі інтэлігент, такіх клопатаў проста не вытрымае.

## Сукенка для іспанскага танца

У савецкія часы прафсаюзы лічыліся «школай камунізму». І большасць структур, звязаных з імі, мелі прыстойнае фінансаванне. У тым жа палацы, дзе мы займаліся, працавала безліч студый і ансамбляў. Заўжды знаходзіліся сродкі на новыя касцюмы (уявіце, колькі каштуе апрануць увесь калектыў!). А абутак?.. Боцікі для характарных танцаў, туфлі для народных, пуанты для класікі.

Памятаю, для харэаграфічнай мініяцюры «Раманс» на музыку Дзмітрыя Шастаковіча (з кінафільма «Авадзень», які тады быў надзвычай папулярны) студыйкам шылі доўгія «шапэнаўскія» пачкі ў вытворчым камбінаце опернага. Туды мы выпраўляліся на прымеркі з заміраннем сэрца. Прозвішча кожнай юнай балерыны было напісана алоўкам на адваротным баку ліфа.

Прайшло амаль чатыры дзесяцігоддзі, але ў памяці засталіся (пэўна, назаўсёды) выгляд, фасон і колер нашых сцэнічных касцюмаў. Бэзава-сіні ўбор з блёскаўкамі — для ўсходняга; гафрыраваная і стракатая спадніца — для «Дубочка»; сінія атласныя сарафаны з вышыўкай — для рускага.

З шыкоўнай сукенкай каралавага колеру для іспанскага танца звязана асобная гісторыя. На заняткі да Нікалаевай я прыходзіла і тады, калі паступіла на факультэт журналістыкі. Мы вучыліся на першым курсе, калі ва ўніверсітэце набліжаўся вельмі адказны канцэрт. У першакурснікаў папыталі: хто што ўмее — чытаць, спяваць? Неяк неабачліва я паведаміла, што магу станцаваць. Іспанскі з «Раймонды». Іспанскі — о, экзотыка! Усе дружна ўзрадаваліся…

На чарговых занятках папрасіла Аляксандру Васільеўну на два дні іспанскую сукенку. Для выступлення... Так рабілі многія нашы студыйкі, калі

хацелі станцаваць там, дзе вучыліся або працавалі. Балетная зала знаходзілася на трэцім паверсе палаца, а касцюмы захоўваліся на другім. Зразумела, без дазволу кіраўніка касцюмерка нават не варухнецца.

Выслухаўшы маю просьбу, Нікалаева як сапраўдная актрыса, узяла паўзу і трымае яе. Моўчкі глядзіць на мяне сваімі пранізліва-чорнымі вачыма. А я пачынаю думаць: «І навошта папрасіла?! Не дасць, не дазволіць! Адназначна... Сёння яна не ў настроі! Рэпеціравалі млява. Але заўтра ўжо позна... Не, нічога не будзе!»

Нарэшце, калі Аляксандра Васільеўна зразумела, што прасіцелька псіхалагічна адчула адказнасць моманту і важнасць рашэння кіраўніка, літасціва дазволіла. Папярэдзіўшы: толькі два дні — і не болей!

Сцэнічная вопратка сапраўды выглядала шыкоўна. Небанальны ружова-аранжавы колер утвараў высакароднае адценне. Сукенка была цяжкая, пашытая з шоўку, мела аздабленні на рукавах і дэкальтэ, ніжнюю спадніцу — усё як мае быць. Верхняя спадніца, упрыгожаная валанамі, марудна і эфектна раскрывалася падчас вярчэння.

Іспанскі, імклівы, тэмпераменты панадэрас з «Раймонды», выкананы мной на канцэрце, меў не надта зразумелую рэакцыю ў гледачоў. Як усвядоміла потым, мой рэйтынг сярод аднакурснікаў узляцеў на нечуваную вышыню. Падведзеныя вочы, ружа ў валасах — гэта зусім не тая паненка, што адказвае на занудных семінарах «Ленін — журналіст і рэдактар»!

Не паспела скончыцца музыка і я вылецела за кулісы, як туды імгненна прымчалі студэнты-замежнікі са смуглай скурай, якія вучыліся ў БДУ. Відавочна, музыка Глазунова і сукенка каралавага колеру ўзрушылі глыбінныя пласты іх паўднёвай душы. Вочы гараць:

— Дэвушка, а вы ў інтэрнаце жывяце?! А ў якім пакоі? А можна ваш тэлефончык?..

Як яны хацелі пазнаёміцца! З якім імпэтам пaглядалі!

«У гарэм потым аддадуць!» — са страхам чамусьці падумала я.

— Не, — давялося расчараваць, — не ў інтэрнаце...

Гучны поспех у вузкіх студэнцкіх колах я ўспрымала спакойна. Маўляў, зрабіла тое, што ад мяне чакалі, і жыццё пайшло далей. Эмоцыі публікі лічыла заслугай класіка рускай музыкі Аляксандра Глазунова і харэаграфіі, прыдуманай Аляксандрай Нікалаевай.

Таццяна Дзмітрыеўна Арлова, вядомы тэатральны крытык, надалей кіраўнік маіх курсавых і дыпломнай, з усмешкай патлумачыла: «Ну што ты хочаш? На пурытанскім, ідэалагічным факультэце — іспанскія танцы... Эмоцыі, эротыка. Вядома, уздзейнічае!» Самае смешнае і неверагоднае, што той панадэрас былыя студэнты журфака згадвалі праз два або тры дзесяцігоддзі падчас нашых традыцыйных сустрэч: «А ты помніш?...»

Сцэна — незвычайная прастора. Быў ты, рэальны, а цяпер быццам ужо і не ты. А хтосьці іншы, аддалена падобны на цябе. А можа, тая ці той, якім бы хацеў на самай справе быць?..

## Нашчадкі

Заўважу, кожны танец, незалежна ад жанру, грунтуецца на музыцы. Дзякуючы ёй нараджаецца пластычны малюнак. Без музыкі сольнае ці масавае выступленне рэдка калі адбываецца. Таму ў нашай рэпетыцыйнай зале з мноствам люстэрак, падчас заняткаў ля балетнага станка, і на рэпетыцыях, якія ладзіліся на сцэне палаца, музыка гучала ўвесь час. Лепшая, класічная.

Стварэнне вобраза — усё-такі задача прафесійнага артыста. Мы «набіралі» тэхніку. Вучыліся адольваць уласную разгубленасць, чуць музыку на сцэне (калі хвалюешся, можаш і не рэагаваць на яе належным чынам). Развіваць рухавасць і каардынацыю — у адпаведнасці з рытмічным малюнкам. Тонка ўспрымаць музычны твор. Адчуваць яго прыгажосць, мелодыку, рытм, тэмп. Існаваць унутры музычнай прасторы. Фантазіраваць, як можна інструментальнаму фрагменту знайсці пластычнае ўвасабленне.

Таму маю глыбокае перакананне: заняткі танцам не толькі фарміруюць і ўдасканальваюць фігуру. Не толькі робяць паставу і спіну больш грацыёзнай на ўсе астатнія гады. Яны гарманізуюць тваё ўзаемаадносіны з прасторай. Сцэнічнай і жыццёвай.

Студыя Нікалаевай і шматгадовыя заняткі паўплывалі на лёс многіх яе выхаванцаў. Георгій Чорны, адзін з нашых салістаў, скончыў тагачасны Інстытут культуры і зрабіўся харэографам знакамітага ансамбля «Крупіцкія музыкі». Многія вынаходліва пастаўленыя ім нумары і цяпер можна ўбачыць у канцэртах калектыву.

Вольга Бабушкіна выкладае танец у адной з ВНУ Мінска. Людміла Іванова, з’ехаўшы колькі гадоў таму ў Канаду, арганізавала там уласную харэаграфічную студыю. Кіруе, сама ставіць танцы і гастралюе. Не менш удачлівай аказалася і Людміла Галайдзенка. Яшчэ падчас заняткаў у студыі, яна, кідкая, эфектная брунетка, выразна выконвала многія характарныя танцы (персідскі, цыганскі). Добра асвоіўшы адметную лексіку ўсходніх танцаў, іх стыль, Людміла сабрала ў Мінску невялікі танцавальны калектыў такіх жа яркіх, пластычных паненак. Ужо не першы год яны выступаюць па кантрактах у Аб’яднаных Арабскіх Эміратах і суседніх з імі краінах.

Так што, Аляксандра Васільеўна, ваша справа жыве і перамагае! Значыць, вучылі так, як і трэба. І сваю пецярбургскую школу танца, бязмежную ўлюбёнасць у балетнае мастацтва, зіхатлівую радасць жыцця і нястрыманую энергію здолелі перадаць шматлікім вучням.

## Няўжо нікому не трэба?..

Супрацоўніцтва з кампазітарамі ўзнікла пры канцы 90-х гадоў, і шмат у чым нечаканым. Аўтары музыкі самі нястомна шукаюць вершы, якія потым зробяцца асновай вакальных твораў (сольных, харавых, песень, рамансаў, дуэтаў). Хтосьці купляе зборнікі стосамі ў кніжнай краме (як Аліна Безенсон), некаму дораць паэты (з таемнай надзеяй на сумесную творчасць). Але большасць аўтараў музыкі хоча мець непасрэдныя стасункі з аўтарам, каб заказаць патрэбнае тут і цяпер.

Калі супрацоўніцтва распачалося, я досыць добра ведала айчынных кампазітараў. Іх творы, улюбёныя жанры і магчымасці. Я пісала пра музыку, а кампазітары ведалі, што я знаёмая з многімі паэтамі.

— Падкажыце, да каго звярнуцца? Вельмі патрэбныя новыя, свежыя тэксты... — такія просьбы і пажаданні чула неаднойчы.

Пры сустрэчах з паэтамі я ўгаворвала іх пазнаёміцца з маладымі кампазітарамі. Але тыя не надта спяшаліся. Мо баяліся, што ў выніку атрымаецца пошласць і «папса»? Мо турбаваліся, што знікне глыбіня, філасофія, аўтарская інтанацыя? У пэўны момант задумалася: стараюся для некага, угаворваю, яны не хочуць... А мо паспрабаваць самой, калі ў тэкстах ёсць такая пільная патрэба?

Спачатку супрацоўніцтва не складвалася ніяк. Са стосам уласных тэкстаў абышла сем ці восем добра вядомых, аўтарытэтных кампазітараў, але нікому мой рыфмаваны «прадукт» аказаўся не патрэбен. «Чаму? — думала я пакутліва. — Можа, супакоіцца і спыніцца, калі паўсюль такая рэакцыя?»

— А навошта мне гэта? — сказаў мне вядомы кампазітар. — Уявіце: пошукі верша, потым мелодыі, потым выканаўцаў. А колькі трэба намаганняў і грошай, каб зрабіць аранжыроўку. У выніку песня можа прагучаць адзін раз, або два... І ўсё! А клопатаў колькі?!

«Яму **ўжо** не трэба, — падумала я тады. — А мне **яшчэ** трэба...»

Выснова першая. Калі ты малады і малавядомы (менавіта ў такой якасці), шукай гэткіх самых маладых і пакуль малапрызнаных, як ты сам. Кампазітар, які напісаў шмат, хутчэй за ўсё мае пастаяннага суаўтара-паэта. Калі тандэм працуе даўно і вынік плённы, ты тут будзеш трэці лішні.

## Першая песня

Аднойчы ў рэдакцыю часопіса «Мастацтва» па справе завітала Алена Атрашкевіч, малады кампазітар, якая на той час жыла ў Маладзечне і працавала там у музычным вучылішчы. Я вырашыла паказаць ёй асобныя вершы, што павінны былі ўвайсці ў першы зборнік. Алена вызначалася выключнай тактоўнасцю, якой нельга было не падзівіцца. Некаторыя тэксты, зробленыя яшчэ не надта ўмела, можна было і раскрытыкаваць, але як мудры педагог, яна гэтага рабіць не стала.

— Вось глядзіце, — кампазітар звярнула ўвагу на кароткі верш, прысвечаны маме і яе клопатам, — гэта гатовы прыпеў да песні. У ім ёсць рытм і дынаміка. Гэта важна! Я нават ведаю, як яго музычна вырашыць...

Алена намалявала на гэтым жа аркушы пяць нотных лінеек і хуценька раскідала па іх ноты. Яны нагадвалі птушак, якія імкліва паселі на галінках дрэва. Я пазірала як зачараваная. Няўжо штосьці скранулася, і папярэднія пошукі не былі марныя? Няўжо нарэшце я знайшла таго, хто маімі тэкстамі зацікавіўся?!

— Дапішыце на гэтую тэму запевы. Песні пра маму запатрабаваныя, іх заўжды не хапае. А гэты лісток паперы са сваімі ноткамі я з вашага дазволу забяру...

## «Мама — наша сонца»

Неўзабаве пасля Новага, 1998 года, Атрашкевіч запрасіла на прэм’еру музычнага спектакля «Чараўнік Смарагдавага горада», які паставіў Мінскі абласны драматычны тэатр, што працуе ў Маладзечне. Музыку да спектакля пісала Алена Віктараўна. У маляўнічым, прыгожым «Чараўніку...» гучала шмат спеваў. Адчувалася, што артыстам падабаецца атмасфера пастаноўкі і тая акалічнасць, што раптам усе яны аказаліся такія галасістыя.

У антракце спектакля Алена прадставіла мяне свайму мужу Мікалаю, які таксама прыйшоў на прэм’еру:

— Коля, пазнаёмся, гэта «Мама — наша сонца»!

А прэм’ера песні адбылася на кватэры маёй сяброўкі, музыказнаўцы Людмілы Ляшчэвіч, з якой Алена ў той час працавала разам у Маладзечанскім музычным вучылішчы. Зразумела, аўтар тэксту заўсёды з нецярпеннем і душэўным трымценнем чакае, што пачуў кампазітар у ягоных радках, як іх увасобіў?

Як толькі загучаў жыццярадасны, імклівы ўступ, захацелася падхапіцца і пачаць танцаваць. Рэальнасць пераўзышла ўсе магчымыя варыянты. Песню слухалі разы чатыры, а мо і пяць. І каб атрымаць асалоду, станоўчыя эмоцыі, і каб заўважыць усе дэталі. Так захапіліся, што на патрэбную электрычку на Мінск я, вядома, спазнілася. Імчалі мы ўтрох да вакзала напрамкі, як кажуць, агародамі і загуменнямі. Прыбеглі, але ўбачылі толькі хвост цягніка. А наступны — ажно праз дзве гадзіны. Так і сядзелі ўтрох у зале чакання. Праўда, не без карысці, абмяркоўвалі тэксты будучых сумесных твораў…

Сапраўдная прэм’ера песні «Мама — наша сонца» адбылася на рэспубліканскім фестывалі «Спяваем з аркестрам». Уявіце, вялікая зала Беларускай дзяржаўнай філармоніі, на сцэне Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга ў поўным складзе, дзіцячы хор «Фэст» адной з мінскіх школ, а таксама саліст Рома Івашчанка. Песня гучыць дзве-тры хвіліны. Але колькасць неверагодных эмоцый, якія атрымліваеш за гэты час, такая, што адмовіцца ад падобнага эмацыйнага задавальнення больш немагчыма. Ты будзеш працаваць колькі заўгодна, каб твая песня або раманс прагучалі ў такой зале наноў! Песня аказалася ўдалай і потым увайшла ў аўтарскую аўдыёкасету Алены Атрашкевіч «Лодка дзяцінства» і аднайменны нотны зборнік кампазітара.

## Лёс асобнага верша

Час ад часу згадваю радкі свайго любімага Фёдара Іванавіча Цютчава. Вядомыя, шмат разоў цытаваныя ўсімі і ўсюды, што нават няёмка іх згадваць: «Нам не дано предугадать, Как наше слово отзовется...»

Лёс асобнага верша непрадказальны. Як і лёс музычнага твора — песні, раманса, хору, напісанага на яго аснове. Тэкст можа назаўсёды застацца ў рукапісным выглядзе ў нататніку. А можа быць надрукаваным у часопісе або зборніку. І вось тады пачынаецца самае цікавае! Бо ён перастае быць уласнасцю аўтара і пачынае жыць асобным, незалежным ад цябе жыццём.

## Музычныя вандроўкі «Дзеда Мароза»

Летам 1999 года ў выдавецтве «Юнацтва» рыхтаваўся да друку мой зборнік вершаў для дзяцей. Ён меў назву «Калі тата — Дзед Мароз», рэдактарам яго быў Уладзімір Іванавіч Карызна, вядомы паэт, чалавек чулы і душэўны. Нарэшце рэдагаванне скончана. «Вы не ўяўляеце, якая будзе кніга! Убачыце, калі выйдзе...», — сказаў між іншым Карызна з усмешкай, у якой ядналіся гарэзнасць і зычлівасць. «Які эмацыйны чалавек!» — падумала я. Сказ прапусціла міма вушэй, а ўспомніла непараўнальна пазней.

У якасці мастака над кнігай працавала цудоўны графік Галіна Хінка-Янушкевіч. Калі аўтар тэксту і мастак ведаюць і паважаюць творчасць адзін аднаго, тыя веданне і павага моцна ўплываюць на канчатковы вынік. У кніжных графікаў заказаў хапае, таму яны імкнуцца брацца за тое, што вабіць. Прачытаўшы зборнік, Галіна адразу патэлефанавала:

— Мне спадабаліся вашы вершы. Яны смачныя, апетытныя...

Пачуць такія ацэнкі ад мастачкі, якая ўспрымае рэчаіснасць пачуццёва, зрокава і колерава, дарагога каштуе. Акварэльных малюнкаў у зборніку аказалася шмат. І маленькія застаўкі, на якіх узнікалі зацярушаныя снегам гронкі

чырвонай рабіны, ліловыя лясныя званочкі, бухматая пчала і спелая маліна, акно з імклівымі фіранкамі, расчыненае ў вясну. І «палосныя» ілюстрацыі з разгорнутымі, маляўнічымі карцінамі прыроды — луг з копамі маладога сена, агарод, дзе растуць сланечнікі, так падобныя на сонца. І пейзажы з мноствам радасных, трапна заўважаных мастакоўскім вокам дэталей, якія і даросламу і дзіцяці хочацца доўга разглядаць. І прыгожыя, высакародныя твары.

Акварэльныя малюнкі Галіны адлюстроўвалі сапраўды жаноцкае, ласкава-добрае і вясёла-ўсмешлівае ўспрыманне рэчаіснасці. А таксама інтэлігентнае стаўленне да маленькага чытача. Невыпадкова Дзед Мароз атрымаўся ў яе не традыцыйным старым з белай барадой, а сучасным інтэлектуалам, які адаптаваўся да цывілізацыі, жыве не ў лесе, а ў горадзе, а ў вольны час, магчыма, спявае пад гітару бардаўскія песні.

Напрыканцы 2000 года, якраз напярэдадні каталіцкага Ражства, тагачасны дырэктар «Юнацтва» Алесь Камароўскі аддаў у рукі сігнальны экзэмпляр «Таты...». Дадаўшы, што такой прыгожай кнігі выдавецтва даўно не мела. А каб кніга выходзіла на пачатку года, а не напрыканцы, дык можна было б ставіць тыраж пяць тысяч, а не тры.

Рыхтуючы разам з Уладзімірам Карызнам зборнік, атрымліваючы яго з рук Алеся Камароўскага, нават уявіць не магла, што літаральна ўсе тэксты невялікай, у 48 старонак кніжкі «разыдуцца» на... музычныя сачыненні. Адны зробяцца песнямі, іншыя — харавымі творамі для шматлікіх калектываў, іх будуць спяваць самыя розныя выканаўцы — і дзіцячыя, і дарослыя. Самае цікавае, што некаторыя тэксты двойчы і тройчы пакладзены на музыку. Рознымі творцамі, калі пра існаванне яшчэ аднаго музычнага варыянта не здагадваўся ніхто.

## Слова і музыка

Увогуле кампазітары дужа не любяць, калі над тым вершаваным тэкстам, над якім ён столькі шчыраваў, хтосьці працаваў раней, да яго, або цяпер, паралельна працуе іншы сабрат-кампазітар.

Выключэнне — толькі класікі. Бо творы Пушкіна, Лермантава, Цютчава, Фета, Буніна, Купалы, Багдановіча і іншых паэтаў кампазітары імкнуліся музычна ўвасобіць безліч разоў, і ніхто тое ўвасабленне за ганьбу не лічыў. Хутчэй наадварот — за гонар! Але што датычыць тэкстаў сучасных паэтаў, ні ў якіх спаборніцтвах кампазітары ўдзельнічаць не хочуць, і гэта зусім натуральна.

Аддаючы кампазітару пэўную колькасць тэкстаў (паказваць адзін ці два бессэнсоўна!), ніколі не ведаеш, што «зачэпіць» і зробіцца штуршком для нараджэння музычнага твора, а што застанецца проста вершам. Ёсць шэраг уласных тэкстаў, якія здаюцца гатовым рамансам ці песняй. Але чамусьці ніхто не піша! Ёсць гатовыя песні, рамансы і хоры, якія ні адзін музычны калектыў ці саліст пакуль не ўзяў для выканання. Яны годна зроблены прафесійнымі кампазітарамі, але ж ляжаць не першы год без усялякага руху. Чаму? Для мяне загадка.

Чаму бяруць або не бяруць пэўныя тэксты (чужыя ці мае) у работу, чаму пішуць ці не пішуць на іх музыку, — таямніца, якую нават не імкнуся разгадаць. Тут шмат незразумелага, ірацыянальнага. Як зрэшты і ва ўзаемадзеянні слова і музыкі.

Музыка бязмежна ўзмацняе ўздзеянне верша. Гучанне пачуццёвае, псіхалагічнае, энергетычнае. І па той простай прычыне, што музыка ўплывае на

падсвядомасць, а тэкст — найперш на свядомасць. І па фізічным законе рэзанансу, калі эмацыянальныя і сэнсавыя абертоны слова і музыкі пачынаюць супадаць. І дзякуючы таму, што радыё- і тэлеаўдыторыя слухачоў песень і рамансаў непараўнальная з той невялікай часткай чытацкай аўдыторыяй (1—2 працэнты), якая яшчэ мае патрэбу звяртацца да вершаў. Пакладзенае на музыку, слова часам набывае нечаканы сэнс і пераходзіць у іншае вымярэнне.

Поспех да вакальнага твора прыходзіць, мне здаецца, толькі ў тым выпадку, калі аўтар верша і кампазітар добра разумеюць адзін аднаго. Дакладней, адчуваюць. Калі ў разуменні мастацтва шмат агульнага, калі суаўтары супадаюць у часе і эстэтычных прынцыпах. Найлепш адчуваюць мастацкія памкненні іншага прадстаўнікі аднаго пакалення, аднаго ўзросту і, як ні падасца дзіўным, аднаго сацыяльнага статусу. Бо бедны з багатым сябраваць не будуць — і наадварот. Усё хутка рассыплецца...

Працэс сумеснай працы ідзе найбольш плённа да таго часу, пакуль мора глыбокае, пакуль вабіць творчая асоба іншага, пакуль ідзе працэс яе разгадвання і спасціжэння. Калі асоба расчароўвае чалавечымі якасцямі, наўрад ці можна нарадзіць што-небудзь разам. Здараецца, гатовыя ноты сведчыць, што кампазітар цябе не зразумеў, што ў адны і тыя ж словы, вобразы і паняцці вы ўкладаеце зусім розны сэнс. Але на фоне адносных удач ярчэй выглядае бясспрэчная перамога. І таму адчуваеш сябе акрыленай і невымерна шчаслівай, калі кампазітар знаходзіць у тваім тэксце (або дадае ўласнай фантазіяй і талентам) сэнс і глыбіню, пра якую ты, магчыма, нават не здагадваўся.

## Гісторыя аднаго раманса

Вакальны твор гучыць звычайна ад дзвюх да чатырох хвілін. Калі б наведвальнікі «жывых» канцэртаў, радыёслухачы і тэлегледачы, маглі здагадвацца, колькі эмоцый, працы і намаганняў утойваюць гэтыя хвіліны! Якія страсці вiруюць за кулiсамi падчас падрыхтоўкі адказных канцэртаў, рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў — сутыкненне амбіцый, творчых і не творчых, смеласці, сціпласці, таленту, нахабства, крыўд... Усяго!

Напрыканцы 1998 года або на пачатку 1999-га кампазітар Марына Марозава напісала раманс «Ноч» на мае словы (на старонцы вершаванага тэксту стаяла прысвячэнне — «Марыне Цвятаевай»). А крыху пазней узнік і першы вакальны цыкл «Споведзь жанчыны», які складаўся з трох частак. Твор, як потым казалі слухачы, атрымаўся незвычайны. Артыстка пачынала спяваць акапэльна, калі фартэпіяна яшчэ маўчала. Першыя гукі чамусьці прымушалі ўбачыць неабсяжнае вечаровае поле (або бясконцы стэп), успомніць працяглыя народныя песні-плачы, убачыць рухома-трапяткое полымя свечкі ў паўзмроку пакоя, аблічча і твар жанчыны ў белым адзенні, якая чакае каханага... Музычныя вобразы паўставалі перад вачыма так ярка!

Раманс — у процівагу таннай «папсе», якая часам успрымаецца як сродак тыражыравання пошласці і безгустоўшчыны, арыентаваны на слухача інтэлігентнага і інтэлектуальнага. Само слова «раманс» вядзе за сабой пэўны сэнсавы ланцужок: класічныя традыцыі, іх сучаснае ўвасабленне, высакароднасць стылю, увага да слова, імкненне знайсці ў ім сэнс, эмоцыі і прыхаваную музыку.

Марозава заўсёды пісала шмат рамансаў, актыўна працавала ў гэтым жанры яшчэ са студэнцкіх часоў. Гэткую прыхільнасць некалі ўхваліў нават яе настаўнік Яўген Глебаў. Класік беларускай музыкі XX стагоддзя спачатку

досыць недаверліва ставіўся да практыкаванняў студэнткі ў такім накірунку, але вынік яго пераканаў. Глебаў сказаў Марыне: «Магчыма, гэта якраз ваш жанр...»

Са студэнцкіх часоў прайшло шмат гадоў. За гэты час Марозава са студэнткі ператварылася ў дацэнта педагагічнага ўніверсітэта, а потым прафесара Інстытута сучасных ведаў. Потым — у музычнага кіраўніка аркестра Дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі». Напісала вялікую колькасць песень на словы беларускіх паэтаў — Н. Гілевіча, А. Лойкі, Н. Мацяш, В. Аколавай, М. Башлакова, І. Ждановіча. А таксама рамансаў, дзе прадстаўлены паэты розных эпох. І класіка — А. Пушкін, М. Валошын, А. Міцкевіч; і сучасныя паэты — С. Красікаў, С. Капуцікян, Л. Паўлікава.

Раманс «Ноч» напісаны. Калі ноты гатовыя, адразу паўстае пытанне: хто будзе спяваць? Хто з выканаўцаў запіша твор у студыі радыё — так, каб якасны запіс можна было выкарыстоўваць у шматлікіх перадачах?

Прафесійнаму кампазітару ў той час было досыць лёгка атрымаць на некалькі гадзін студыю Нацыянальнага радыё. Марына вырашыла, што лепш за ўсё вакальны цыкл «Споведзь жанчыны» выканае салістка оперы Таццяна Траццяк, уладальніца на дзіва прыгожага, палётнага сапрана — з незвычайна лёгкімі, срабрыстымі верхнімі нотамі. Таццяна бліскуча выконвала многія вядучыя оперныя партыі ў спектаклях. І ў Мінску, і ў час гастроляў у Германіі і Швейцарыі.

Акампаніраваць Таццяне падчас запісу павінен быў Алег Крымер, лаўрэат міжнароднага конкурсу, дацэнт Акадэміі музыкі і выкладчык гімназіі-каледжа. У той час шмат вучняў Алега Майсеевіча атрымалі званне лаўрэатаў на прэстыжных конкурсах піяністаў. Спачатку ён ездзіў за мяжу разам з вучнямі як педагог, потым як член журы міжнародных конкурсаў, а гадоў дзесяць таму назусім перабраўся з сям'ёй у Германію. У сталым узросце вывучыў нямецкую мову, і цяпер яго былыя вучні і вучаніцы ездзяць да свайго педагога ў Германію, каб удасканальваць майстэрства.

Але вернемся ў 1999 год. Каб адпаведна настроіць і спявачку, і піяніста, Марозава загадзя паказала ім ноты і тэксты рамансаў. Настрой музыкантаў заўсёды залежыць ад сэнсу твора, яго глыбіні, арыгінальнасці музычнай мовы. Падчас рэпетыцый, напярэдадні запісу, ідзе карпатлівая праца, калі шматкроць паўтараецца і адточваецца кожны сказ, асобныя словы, працягласць паўз і нават асобных нот. У студыі рэдка сачыненне запісваюць з першага дубля, іншым разам для ўдалага варыянту і пяць дубляў патрэбна. Нарэшце — запісалі. Як меркавалі гукарэжысёры, удала.

Але праз нейкі час Марыне падалося, што Таццяна Траццяк як маладая спявачка здолела ўвасобіць не ўсе адценні твора. І прапанавала запісаць цыкл яшчэ раз — народнай артыстцы Наталлі Рудневай, з якой супрацоўнічала. Салістка Нацыянальнай оперы, яна мае неверагодна вялікі оперны і камерны рэпертуар. З гастролямі аб'ездзіла літаральна ўвесь свет. Марына слушна лічыла, што ў голасе Рудневай, густым і насычаным меццa-сапрана, больш драматызму і нават трагічнасці гучання.

Запіс вакальнага цыклу, зроблены Наталляй Аляксандраўнай, як потым і двух наступных цыклаў, таксама напісаных Марынай на мае словы, увайшоў потым у наш сумесны з Марозавай CD-дыск «Тихо музыка в дом мой вошла...».

Але на гэтым гісторыя аднаго раманса не скончылася. Аказалася, гэта была толькі першая серыя, скажам так, акадэмічна-оперная. Другая сталася песенна-эстраднай. У прафесара Марозавай, якая выкладала ў Інстытуце

сучасных ведаў, з'явілася абаяльная студэнтка, Марына Філіпава. У яе выканаўчай манеры натуральна спалучаліся рысы эстрады, блюза і фолька. Марына-студэнтка развучыла той самы раманс «Ноч». З поспехам выконвала на студэнцкіх імпрэзах, аднойчы нават у камернай зале філармоніі. І Філіпаву нельга было не заўважыць побач з вопытнымі і масцітымі артыстамі.

Лістапад 2003 года. У Палацы Рэспублікі ў межах «Залатога шлягера» праходзіць «Рамансіяда», міжнародны конкурс выканаўцаў старадаўняга раманса. І Марозава рашыла паказаць прадстаўнічаму журы Філіпаву і раманс «Ноч». Цяпер яго назвалі «Чаканне душы». Поспех на спаборніцтвах міжнароднага ўзроўню, вядома, акрыляе і натхняе. Артыста і тых, хто вакол яго. Але ў такой жа ступені магчымая няўдача ці правал могуць потым прыгнятаць. У выступленні Філіпавай на «Рамансіядзе» хавалася пэўная рызыка. Усе канкурсанткі выконвалі класічныя рамансы, а Філіпава — сучасны і аўтарскі. Як паставяцца да гэтага члены журы? Невядома. Акрамя таго, Марына спявае ў розных стылях — блюз, джаз, фолк, але акадэмічная пастаноўка голасу таксама нечага вартая. Побач з ёй — канкурсанткі з опернымі галасамі, якія, вядома ж, пераўзыходзілі Філіпаву ў насычанасці гуку. Акустыка ў вялікай зале Палаца далёкая ад ідэальнай. Прастора такая, што «ўзяць» яе можна толькі супергучнасцю.

У рэшце рэшт адметны рэпертуар і індывідуальнасць Філіпавай перамаглі. Яна атрымала дыплом III ступені, словы падтрымкі і ўхвалы ад зоркі сусветнай оперы Зураба Саткілавы (ён уваходзіў у склад журы), і магчымасць паказаць сваю конкурсную праграму ў Маскве, у канцэрце лаўрэатаў «Рамансіяды».

Пераканаўшыся ў бясспрэчным поспеху студэнткі і раманса, Марозава вырашыла зрабіць для твора аранжыроўку, ператварыўшы яго ў песню. Здарылася тое напярэдадні міжнароднага конкурсу «Ялта-2004», куды спевакі збіраюцца з многіх краін свету. Вядома, у бясспрэчна таленавітым атачэнні цяжка быць заўважаным, а тым больш адзначаным! Але прэтэндаваць на прызавыя месцы можна, толькі выконваючы арыгінальныя творы. Калі тэкст, музыка, аранжыроўка ўтвараюць гарманічнае цэлае. А ў дадатак твор адпавядае знешняму абліччу, вобразу і іміджу спявачкі. Для конкурсу ў Ялце песню-раманс «Чаканне душы» пераклалі на ўкраінскую.

На пачатку верасня 2004 года Марына вярнулася з Ялты з дыпломам III ступені і прапановамі ўдзельнічаць яшчэ ў некалькіх міжнародных спаборніцтвах. Як казалі Філіпавай у кулуарах, уражанне ад яе песень у журы было такое моцнае, што Марыну ўспрымалі як відавочную прэтэндэнтку на першае або другое месца.

У эфіры Нацыянальнага радыё час ад часу гучыць наш з Марозавай раманс «Чаканне душы». То ў выкананні Таццяны Траццяк, то Наталлі Рудневай, то Марыны Філіпавай. І кожны раз успрымаецца як розны твор. Хто думаў, што гэты раманс будзе мець столькі выканаўцаў, калі тэкст быў толькі напісаны і існаваў у выглядзе сціплай і крыху несамавітай машынапіснай старонкі?

## Мажор і мінор

Мяне заўсёды моцна здзіўляў кантраст паміж псіхалагічным абліччам Марыны ў паўсядзённым жыцці і тым эмацыйна-вобразным ладам, які паўставаў у яе сачыненнях. Марозава — чалавек лёгкі, таварыскі, іранічны. Тонка адчувае субяседніка, яго стан і настрой. З ёй часта здараюцца незвычайныя

прыгоды. Уражанне, што яна прыцягвае да сябе сюжэты і падзеі, куды б ні выправілася — у адпачынак, на гастролі ці проста за кулісы.

У сваіх аповедах Марына ўмее так віртуозна расквеціць панылую і часам безнадзейную рэальнасць уласнай багатай фантазіяй, што нават калі разумееш: перад табой таленавітая казачніца (а на самай справе ўсё было не так ярка, прыгожа і рамантычна), — слухаеш, бо адарвацца немагчыма! Сюжэт і напружанне трымаюць. Пагаворыш з ёй, настрой узнімаецца, заблытаныя і невырашальныя пытанні больш такімі ўжо і не здаюцца.

Ды толькі ў сачыненнях Марозавай каларыт зусім іншы. Ёсць сярод іх радасныя, віртуозна-дасціпныя, усхвалявана-светлыя. Але доўгі час я не магла зразумець: чаму ў творах чалавека жыццярадаснага і смяшлівага нязменна прысутнічае адчуванне напятага нерва, унутраная трывога, часам трагедыйнае светаўспрыманне? Адкуль такое абвостранае ўспрыманне рэчаіснасці? Здаецца, яе сачыненні адлюстроўваюць стан чалавека, які перажыў глыбокую драму і шмат у чым непапраўна расчараваўся. Аднойчы спытала — ці то жартам, ці то ўсур'ёз:

— Марына, а дзе ты сапраўдная, — у паўсядзённасці ці ў музыцы? Што ў большай ступені адлюстроўвае тваю сутнасць?

Памаўчаўшы, яна адказала:

— Думаю, мае сачыненні...

## Ці заканчваюцца гукі?

Пасля бясспрэчнага поспеху першага вакальнага цыкла Марозава пачала думаць наконт працягу. Яе запаветнай марай было зрабіць музычны монаспектакль пра каханне і лёс таленавітай спявачкі. Адначасова кампазітар хацела дасягнуць шматпланавай драматургіі тэмбраў у інструментальным суправаджэнні. У першым вакальным цыкле гучаць толькі голас і фартэпіяна. У другім, акрамя голасу, — кларнет і гітара. А ў трэцім інструменты двух цыклаў аб'ядноўваюцца і такім чынам дасягаецца структурная і сэнсавая завершанасць.

Але да напісання другога цыкла было яшчэ далёка. Марына шукала для яго тэксты. Штосьці ўжо акрэслівалася, а дзесьці былі «белыя плямы», якія трэба запоўніць.

Той час, 2000 год, аказаўся для мяне псіхалагічна цяжкім. Знешне ўсё выглядала прыстойна. Нядаўна выйшаў новы зборнік вершаў. Нарэшце прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Дзеці падрасталі. Але, магчыма, у папярэднія гады я занадта многа пісала. І свайго — прозы, вершаў, і для часопіса«Мастацтва», у якім працавала. Але ж калі з зямлі б'е «гейзер» фантазіі і ідэй, яго немагчыма спыніць!

У 1999-м, у часопісе пачынаўся выдавочны крызіс — і фінансавы, і творча-арганізацыйны. Ён доўжыўся потым яшчэ не адзін год. Выданне «схуднела», бо зменшылася колькасць старонак, стала выглядаць не так прывабна. Зарплаты і ганарары рабіліся ўсё меншыя. Як пражыць на іх, невядома. Зямля пад нагамі пачала хістацца. Так яна гайдалася і раней, усе 90-я. Незразумела, што з намі будзе далей? Пісаць артыкулы пра эканоміку і трактары? Можна, але нецікава!

Проза прыносіла творчае задавальненне, але патрабавала мноства намаганняў. Здавалася, закончу, надрукую і жыццё маё не можа не памяняцца ў іншы, лепшы бок! Надрукавалі. Але ў рэальнасці як было, так усё і засталo-

ся. З кампазітарамі супрацоўнічаем, а вынік?.. Дзе знакамітыя артысты, якія мараць атрымаць нашы творы, дзе прэстыжныя пляцоўкі? Пытанняў шмат, адказаў няма.

Пры канцы чэрвеня 2000 года разам з сынамі-падлеткамі і мамай мы выправіліся на поўдзень, у Сочы. Дзеці раслі хутка, а таму час ад часу хварэлі. І дактары параілі: звазіце іх хоць раз на поўдзень, бліжэй да мора! Мо, усе прастуды і скончацца? Так яно і атрымалася.

Але пакуль раздражняла ўсё. Невыносная гарачыня ў цягніку. Дзеці, якія чамусьці ўвесь час хацелі есці, не слухаліся і лёталі па вагоне, як падсмаленыя. Раздражняла халоднае мора, бо ў чэрвені яно не паспела прагрэцца, і мы наўрад ці ўволю накупаемся. Ціхую нянавісць выклікаў і чэмпіянат свету па футболе, які маім «архараўцам» абавязкова трэба глядзець кожны вечар. І на ўвесь пакой аглушальна крычаць: «Го-о-л! Мама, яны забілі! Францыя — чэмпіён!»

Здавалася б, атрымлівай асалоду ад паўднёвай прыроды. У краму бегчы не трэба, гатаваць — таксама. Але чамусьці ў душы ўвесь час нараджаліся дысанансы, але як іх адолець? Хацелася цішыні. Нікога не бачыць, ні з кім не размаўляць, слухаць плёск хваль, спаць — і нічога больш не рабіць.

І вось у Сочы, сярод маляўнічай прыроды, шыкоўнага, зялёнага і дагледжанага парку, дзе на галінах дрэў урачыста квітнелі белыя магноліі, нечаканa нарадзіліся вершаваныя радкі. Пра тое, што гукі, якія жывуць у душы, скончыліся. І невядома, ці вернуцца калі-небудзь. Уласная эмацыйная і духоўная нерухомасць, напэўна, асабліва моцна ўсведамлялася сярод квітнеючых паўднёвых ландшафтаў. Немагчымасць творчасці (няхай часовая), пачуццёвая прыгнечанасць суб'ектыўна ўспрымаецца як пачатак духоўнага небыцця. Гукі — абагулены вобраз. Замест іх могуць быць рыфмы, вобразы, сюжэты, мелодыі. Напісала я той верш — і пайшла разам з дзецьмі іграць у бадмінтон. Каля будынка, у якім мы жылі.

Вярнуліся з поўдня. Тэлефаную Марозавай, якая пакуль у Мінску і збіраецца ў адпачынак пазней, у жніўні. Пагаварылі пра адно, другое. Марына:

— А новых вершаў няма?

Я вазьмі і прачытай напісанае ў Сочы.

Узнікла паўза. Марына:

— Цудоўна! Гэта якраз тое, што мне трэба! Выдатна...

Цяпер паўза ўзнікла ў мяне. Бо я не разумела яе рэакцыі. Мне хацелася праз верш «вынуць» з сябе або зменшыць стан псіхалагічнай прыгнечанасці, душэўнай стомленасці. Толькі і ўсяго...

— Марына, было так пагана, калі я пісала тыя радкі! А ты кажаш — «цудоўна»...

— Пачуеш, як гэта прагучыць у музыцы, і ўсё зразумееш!

«Дзіўныя людзі, гэтыя кампазітары — падумала я. — Ніколі не здагадаешся, што ім трэба! Тут неадольны душэўны змрок, а яна радуецца!»

Словы Марыны я неаднойчы згадвала пазней, і дзівілася ўменню прафесійнага кампазітара невырашальныя канфлікты і душэўныя дысанансы, якія акрэслены ў вершы,ператварыць у гармонію і светлы сум. Тая гісторыя пераканала, што ў мастацтве могуць быць адлюстраваныя якія заўгодна эмоцыі і перажыванні. Песімістычныя, змрочныя, тыя, што ўвасабляюць адчай. Але мяне заўжды непакоіла думка: а ці трэба жанчыне з яе не надта моцнай псіхікай паглыбляцца ў інфернальныя і цёмныя прасторы духу? Як бы там не згубіцца назаўжды! Забягаючы наперад, заўважу, што пасля другога цыкла святло і гармонія, увасобленыя ў фінальным, трэцім цыкле, успрымаліся як душэўнае ратаванне і надзея.

На тым гісторыя з гукамі, якія зніклі, не завяршылася. Калі Марына цыкл напісала і запісала (зноў спявала Руднева), а потым паказала калегам-кампазітарам, тыя былі здзіўлены. Пры сустрэчы нават цытавалі ёй асобныя радкі. Значыць, запомніліся! Па рэзанансе, які мела гэтае дастаткова драматычнае сачыненне, я зразумела, што мы здолелі выявіць пачуцці, уласцівыя кожнаму мастаку, калі творчасць заканчваецца. Ненадоўга ці назаўжды — ты пакуль не ведаеш. Праблема маўчання, душэўнай спустошанасці, часовай ці працяглай, — стан, знаёмы многім. Таму і хвалюе, знаходзіць водгук.

Але вярнуся да ўсіх трох вакальных цыклаў, напісаных Марозавай. Цяпер яны часта гучаць на хвалях Беларускага радыё. Марыне абавязкова хтонебудзь патэлефануе з калег-кампазітараў ці знаёмых:

— Тваё гучыць, ідзі і хутчэй уключай!

Марына ўключае і тэлефануе мне, каб таксама ўключыла. А я слухаю і кожны раз думаю: няўжо, каб твор моцна ўздзейнічаў на слухача, ты абавязкова павінен пеpажыць глыбокую дэпрэсію? Ці ўсё-такі неабавязкова? Вядома, на пэўны час гукі могуць заканчвацца. Не для ўсяго свету — ён гучыць, а для цябе аднаго. Галоўнае — дачакацца, калі яны ўсё-такі спакваля да цябе вернуцца.

## Першыя прэзентацыі

Калі распачалося супрацоўніцтва з кампазітарамі, дык самы складаны час — пакуль музычныя творы на твае вершы не трапілі на вялікія пляцоўкі і не запісаны ў студыі радыё. Ты хочаш гучаць на самых прэстыжных сцэнах горада і краіны, марыш, каб цябе выконвалі лепшыя артысты з шыкоўнымі вакальнымі дадзенымі? А табе прапануюць маладзенькіх, самадзейных і не надта вопытных. Ды ўсяго некалькі нумароў у канцэрце, што пройдзе ў музычнай школе. Што рабіць? Схаваць гардыню і згаджацца на тое, што прапаноўваюць. Усё прыйдзе, але не адразу.

Згадаю такі прыклад. Адным з першых твораў, якія Алена Атрашкевіч напісала на мае словы, аказалася песня-раманс «А я буду спяваць» — твор з прыгожай мелодыяй, шырокім дыханнем, дзе палётнасць і эмацыйны ўздым ядналіся з драматызмам лёсу артысткі, якая займеўшы прызнанне, вымушана заплаціць за тое асабістым шчасцем. А мо, наадварот, адсутнасць асабістага шчасця дапамагае ёй дасягнуць прафесійных вяршынь?

Мне заўжды хацелася знайсці адказ на пытанне: чаму адзін знаходзіць шчасце рэальна-зямное, а другі толькі летуценна-творчае? Першы варыянт грэе душу чалавеку і яго сям'і. Другі прыносіць шчасце многім. А які шлях павінна выбраць жанчына, каб адчуваць гармонію з сабой і навакольным светам? І ці можна гэтыя шляхі спалучыць?

Песня-раманс нарадзілася ў 1998-м, а сапраўднае, годнае выкананне адбылося... праз восем гадоў, у 2006-м. У вялікай зале філармоніі, калі яе пранікнёна выканала Таццяна Цівунова, салістка оперы. Сачыненне ёй так падышло — па галасе, эмоцыях, што здавалася напісаным спецыяльна для яе. Лепшага выніку і чакаць не трэба. Калі раманс у выкананні Цівуновай пачулі іншыя салісткі, дык пасля канцэрта падышлі да Атрашкевіч, каб папрасіць ноты.

А ў наступным годзе эстрадная спявачка Алеся Кульша з песняй «А я буду спяваць» узяла Гран-пры на конкурсе маладых выканаўцаў, які адбываўся ў Маладзечне ў межах Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі.

Яна выконвала твор у суправаджэнні Дзяржаўнага канцэртага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

Памятаю, прыехаць на фестываль у мяне не атрымлівалася. Глядзела песеннае свята па тэлебачанні. У той вечар з неба няспынна лілося. Думалася, што канцэрт могуць адмяніць, бо як спалучыць мікрафоны, узмацняльную апаратуру, электрычнасць, правады і дождж? І ўсё-такі конкурс ішоў. Вакалістка спявала, імкнучыся не трапіць пад завесу дажджу. Яна ж паабяцала, што будзе спяваць! Але ж і ў спалучэнні песні і дажджу ёсць штосьці рамантычнае...

Пакуль ноты ляжаць нерухома ў кампазітара ці аўтара тэксту, яны з'яўляюцца часткай іх прыватнага, асабістага жыцця. Калі твор выкананы, ён робіцца здабыткам грамадства, часткай культурнага працэсу.

Ды што, варта чакаць?.. Магчыма. Толькі ж і цярпенне трэба мець моцнае. Міжволі думаеш: а калі б гэты раманс пачулі на пяць гадоў раней? Поспех натхняе і вядзе за сабой наступныя ўдачы. Тады яркія, вядомыя артысты і значныя пляцоўкі з'яўляюцца ў тваім жыцці хутчэй. Тады час заняты новымі ідэямі і творамі, а не тым, каб «прабіцца» і нарэшце быць заўважаным.

## Загадка і — майстэрства

Атрашкевіч заўжды была і застаецца, прынамсі для мяне, асобай шмат у чым загадкавай. Зрэшты, чалавек, які ўмее пісаць таленавітую музыку, — заўжды хавае ў сабе таямніцу. З аднаго боку, Алена Віктараўна — тыповы экстраверт, дружалюбны, кантактны. Выдатны педагог, які бачыць не відавочныя здольнасці, але адчувае пакуль прыхаваны патэнцыял сваіх выхаванцаў, юных або сталых вакалістаў, якія звяртаюцца па кансультацыі і парады. Яна ўсім патрэбная, з ахвотай адгукаецца на чужыя клопаты і праблемы, заўжды гатовая дапамагчы.

Але ў тым, што датычыць творчасці, Алена — тыповы інтраверт, стрыманы, закрыты. Не схільны не тое што да экзальтацыі, а нават да вялікай эмацыйнасці і захопленых ацэнак. «Сімпатычна...», — самае высокае азначэнне. Яна не любіць расхінутасці (магчыма, звычка педагога?). Калі Атрашкевіч нечага не хоча або не лічыць патрэбным, пераконваць бессэнсоўна. На яе не надта лёгка паўплываць, бо заўсёды мае ўласнае меркаванне, і не схільная яго па нейкай прычыне мяняць. Супрацоўніцтва з такім творцам асабліва каштоўнае.

Арыгінальнасць і нечаканасць успрымання кампазітарам твайго тэксту, здараецца, ацаньваеш не адразу. Нават не тады, калі ён паказвае табе нядаўна народжанае сачыненне. А тады, калі твор увасоблены на сцэне. Сапраўдны музыкант заўжды вынаходлівы. У тым, што і як ён напісаў, выяўляецца яго стаўленне да радкоў і сэнсу, у іх адлюстраванага. Здольнасць шматлікімі гукавымі эфектамі і прыёмамі ўзмацніць сэнс і значнасць вобраза.

У адным з маіх зборнікаў быў верш, які называўся «Анёл». Невялікі, усяго восем радкоў. Пачынаўся так:

Крылы анёлу звязалі,
Каб над зямлёй не лунаў.
У тлуме, спрэчках і звадках
Каб ціха, памалу сканаў...

Калі Атрашкевіч напісала музыку на гэты тэкст, дык першы радок артыстамі хору нават не спяваўся, а паўтараўся амаль шэптам. Прычым шматкроць: «Крылы анёлу звязалі...», «Крылы анёлу звязалі...». Галасы вакалістаў

накладваліся, і стваралася ўражанне мітусні, тлуму, таго, што супярэчыць маральным правілам і законам прыгажосці.

У лірыка-камедыйным хоры «Мак таўклі камары», напісаным пазней, кампазітар да тэксту верша дадала асобныя склады — «Тукі-тукі, тукі-тук!». Як адлюстраванне гукаў, якімі ў камароў суправаджаецца, так бы мовіць, працэс працы. Такія, здавалася, дробязь і дэталь дадалі опусу непасрэднасці і радасных фарбаў.

Сярод харавых сачыненняў, напісаных Аленай на мае тэксты, ёсць некалькі твораў «хадавых», якія выконваюцца часта і падабаюцца ўсім. Спяваюць «профі» і аматары, дзеці і дарослыя, выконваюць калектывы і дуэты. Падобны вакальны імпэт мне часам незразумелы і нават выклікае разгубленасць. Так здарылася з харамі «Гармонія» і «Святло невыказнае». Тэкст другога опуса мае ўсяго восем радкоў. Гэта калі надрукавана «слупком», а калі зрабіць радок працяглым і доўгім, дык наогул атрымаецца чатыры (!) радкі. У музычным творы яны паўтараюцца шмат разоў, і кожны раз, набываючы лёгкасць і паветранасць, увасабляюць розныя адценні сэнсу. Пачуць такое сачыненне — вялікае задавальненне і шчасце.

## Харавая паэма. Падрыхтоўка

Унутры кампазітарскай прафесіі заўсёды існуе спецыялізацыя. Той, хто піша сімфанічную і інструментальную музыку, рэдка звяртаецца да жанру песні і — наадварот. Здабыткі ў галіне песні ці раманса не азначаюць, што гэтак жа лёгка напішацца харавы твор.

Велізарная колькасць харавых сачыненняў, напісаных Аленай Атрашкевіч, і запатрабаванасць іх living рознымі калектывамі сведчылі: яна — менавіта харавы кампазітар і жанры харавога пісьма адчувае тонка і дакладна. Знаёмячыся бліжэй з творчасцю Алены, я была ўражана неверагоднай разнастайнасцю харавых жанраў. Жаночыя хары, апрацоўкі беларускіх народных песень, харавыя рамансы, цыклы мініяцюр, цыклы калыханак і эстрадных хароў, эстрадна-песенныя цыклы для харавога ансамбля... А яшчэ асобныя сачыненні, кантата на словы В. Дудзіна, «Сакраментальная паэма» на вершы В. Жуковіча. Калі кампазітар смела спалучае гучанне хору з самымі рознымі інструментамі — арганам, арфай, званочкамі, духавымі, — тады дасягаецца не толькі свежасць тэмбральнага гучання, але адметнасць і арыгінальнасць музычнай мовы ўвогуле.

На пачатку 2002 года Алена Віктараўна прапанавала:

— Давайце зробім харавую паэму. Падумайце… Жанр прывабны!

Значныя жанры прапаноўваюць не кожны дзень і нават не кожны год. У чымсьці гэта праява даверу (маўляў, справішся!). Праца ў буйным жанры прыцягвае. Дае магчымасць разгарнуцца, паказаць сабе і іншым, на што здатны. Сачыненні больш камерныя — песня, раманс, асобны хор, няхай вельмі яркія! — могуць лёгка згубіцца ў неабсяжнай плыні музыкі, якая пішацца і выконваецца на працягу толькі аднаго канцэртнага сезона. Значны твор не згубіцца.

Але ў працы над маштабнымі сачыненнямі падсцерагае і небяспека. Паколькі ніхто з сучасных айчынных кампазітараў з творчай працы не жыве, усе яны працуюць — педагогамі музычнай вучэльні ці ВНУ, музычнымі рэдактарамі радыё, дык працэс стварэння сімфоніі, кантаты, араторыі, харавой паэмы можа доўжыцца гадамі. Асабліва актыўна ён ідзе летам, падчас

адпачынку, у выхадныя дні і святы. Заўсёды існуе боязь, што на вялікай дарозе першапачатковы імпэт будзе згублены і на ўзвядзенне не дачнай «халупы», а высакароднага храму не хопіць часу.

Пакуль з 2002 па 2004 гады Алена ўрыўкамі, пакрысе працавала над паэмай «Кахаю», мяне не пакідала адчуванне, што на вынік, закончаную паэму, можна разлічваць, а можна і не. Бо некалькі нашых сумесных буйных музычна-тэатральных праектаў так і засталіся нерэалізаванымі. Распачатымі, але не скончанымі.

У Атрашкевіч заўжды хапала абавязкаў і клопатаў — як кіраўніка эстраднай студыі «Спяваем разам», чые выхаванцы выступаюць на міжнародных конкурсах, як выкладчыка Маладзечанскай музычнай вучэльні і Мінскага каледжа мастацтваў, нарэшце, як маці дваіх дзяцей, каб займацца толькі творчым самавыяўленнем.

Тэксты для будучай паэмы я адабрала, прапанавала кампазітару. Існавала некалькі варыянтаў тэксту і магчымага драматургічнага развіцця. Бо харавая паэма не проста адлюстроўвае паслядоўнасць музычных нумароў, складзеных як заўгодна. Яна — своеасаблівы музычны спектакль, у якім заняты аркестр, хор, салісты. І таму важна, з якіх эмоцый і вакальных фарбаў аўтары і выканаўцы пачынаюць. Як ідзе развіццё вобразаў, ці дастаткова яно пераканаўчае, дзе будзе кульмінацыя і развязка. Прадуманасць пабудовы потым дапаможа кампазітару і вакалістам, нелагічнасць ці хаатычнасць звядзе ўсе намаганні да нуля.

Падчас працы пад паэмай Атрашкевіч неаднойчы раілася з калегамі, паказвала напісаныя фрагменты. Погляд прафесіяналаў, якія маюць і практычны вопыт, і тэарэтычны досвед, заўсёды карысны і толькі ўдасканальвае твор.

## Харавая паэма. Выкананне

Восенню 2003 года тры першыя часткі паэмы былі паказаныя ў камернай зале філармоніі. Яны стаялі амаль у фінале канцэрта — як сачыненні найбольш значныя. Кампазітар пераканаўча заўважыла, што фрагменты незавершанага твора на заканчэнне праекта ставіць нельга. Музыка трох першых частак і гучанне хору падаваліся такімі фантастычна-прыгожымі, прычым, з адценнем нейкай незямной красы, што было незразумела: а куды, у які бок кампазітар будзе рухацца далей? А галоўнае, навошта ісці, калі такі жаданы і такі недасяжны вынік — абсалютная гармонія чалавека і свету — ужо дасягнуты?

З самага пачатку кампазітар вырашыла: будучая паэма будзе мець свецкі характар, у адрозненне ад «Сакраментальнай паэмы», твора, відавочна рэлігійнага гучання. У дзевяці частках сачынення мы імкнуліся ўвасобіць заўсёды хвалюючую гісторыю кахання Жанчыны і Мужчыны, нараджэнне і развіццё узаемных пачуццяў, канфлікт дзвюх яркіх асоб і няпросты шлях да ўзаемаразумення. Хор у паэме шматаблічны — ён задае агульны эмацыянальны лад, адгукаецца на пачуцці герояў, спрачаецца або спачувае ім.

...Мы сустрэліся з кампазітарам у яе дома, ля фартэпіяна, бо Алена хацела паказаць усё сачыненне запар, частка за часткай. Атрашкевіч сама цудоўна іграе і спявае. Я была ўражана велізарным аб’ёмам працы, але найперш незвычайнай пранікнёнасцю твора, незлічонай колькасцю на дзіва арыгінальных і запамінальных музычных тэм. Не сакрэт, меладычны дар маюць далёка не ўсе аўтары. Навучанне ў Акадэміі музыкі на такую якасць не заўсёды ўплывае. Меладычны талент — сапраўды дар Божы! У навакольным, дысанансным

свеце адшукаць і пачуць гармонію, а потым увасобіць яе на нотнай паперы можа далёка не кожны прафесіянал.

Спачатку харавая паэма існавала толькі ў клавіры, значыць, калі хор спявае ў суправаджэнні фартэпіяна. Атрашкевіч марыла і пра тое, каб хор і салісты спявалі ў суправаджэнні сімфанічнага або камернага аркестра. Таму ўслед за клавірам на працягу летніх месяцаў 2004 года зрабіла партытуру, дзе ў кожнай партыі было распісана гучанне ўсіх інструментаў сімфанічнага аркестра. Калі давялося гартаць амаль 60 велізарных старонак фармату А3, запоўненых дарэшты нотнымі значкамі, я не магла не ганарыцца. І таму, што велізарная работа Аленай нарэшце закончана, і таму, што пад нотамі харавых і сольных партый напісаны мой уласны тэкст.

У адрозненне ад песень, калі кампазітар, паэт і выканаўца заклапочаны тым, дзе знайсці аранжыроўшчыка і немалыя грошы на аранжыроўку, харавыя творы прывабныя тым, што клопаты пра іх увасабленне — найперш клопат харавога калектыву і дырыжора. Выконваць паэму «Кахаю...» павінен быў Дзяржаўны камерны хор Беларусі.

Шмат гадоў ім кіруе Наталля Міхайлава. Яна належыць да рэдкай катэгорыі «карункавых жанчын». Прыгажуня, што на сцэне, што па-за ёю. Зграбнасць і вытанчанасць дырыжорскай пластыкі — як у артысткі балета. Тонкі і ўдумлівы музыкант. Фанат — і жанру, і свайго калектыву. Але, скажам шчыра, жанчына з характарам — можа зірнуць так, што, здаецца, цвік увойдзе ў сцяну сам, без малатка і па самую плешку. А потым — зноў мілая і прыемная ўсмешка... Але ты разумееш: дыстанцыя ёсць, і кіраўнік заўжды застаецца кіраўніком, бо адказвае за мастацкі вынік.

За два тыдні да прэм’еры «Кахаю...» нечакана высветлілася, што барытон, які павінен быў спяваць пяць нумароў у паэме (асобныя нумары сола, некаторыя разам з хорам) у гэты час у Мінску будзе адсутнічаць. Таму трэба тэрмінова шукаць іншага спевака, які здолее не толькі хутка вывучыць матэрыял, але і складзе годны ансамбль з сапрана. У рэшце рэшт дырыжор і кампазітар спыніліся на кандыдатуры Сяргея Лазарэвіча, саліста Нацыянальнай оперы.

Партыю сапрана павінна спяваць Таццяна Вайтовіч, салістка хору. Літаральна за тыдзень да прэм’еры ў Таццяны памірае мама, самы блізкі чалавек... Уявіце, як у такім эмацыянальным стане спяваць пра светлае і ўзнёслае пачуццё кахання? Амаль кашчунна! Але такія парадоксы артыстычнай прафесіі. Афішы і праграмкі надрукаваны, замест гэтай салісткі вывучыць партыю ніхто не паспее.

— Таццяна — веруючы чалавек, яна эмацыянальна «збярэцца» і ўсё зробіць... — крыху суцешыла нас з кампазітарам дырыжор.

У паэме, бліжэй да фіналу, ёсць нечаканы і моцны фрагмент, які называецца «П’янкое віно». Салісты пакуль маўчаць, спявае хор, яму акампануюць ударныя. Прадуманасць вакальных ліній і ўдарных інструментаў такая, што нараджае безліч асацыяцый. Свядомая змрочнасць настрою і брутальнасць інтанацый прымушае згадаць Іспанію, фламенка, Гарсіа Лорку. Адчуванне, што перад тваім унутраным зрокам узнікаюць містычныя вобразы, што музыка ўвасабляе плынь падсвядомасці. Уражанне, што ад гэтай глыбіні, якая нечакана расхінулася, у цябе праз імгненне проста «паедзе дах»...

Зала слухала паэму ў выкананні камернага хору, салістаў Таццяны Вайтовіч і Сяргея Лазарэвіча ўважліва, у абсалютнай цішыні, бо апладысменты паміж часткамі звычайна не прадугледжваюцца. Але агульнае ўражанне ад усяго твора аказалася надзвычай моцнае. Які дождж з кветак і апладысментаў выліўся ў фінале на артыстаў!

Усю канцэртную праграму здымаў беларускі канал «ЛАД». На падыходзе да касцёла Святога Роха гледачоў сустракалі дзве вялікія «фуры», стацыянарныя ўстаноўкі. Запіс ішоў ажно з чатырох тэлекамер. Дзве з іх стаялі па баках залы, каб не перашкаджаць гледачам, а дзве зверху, на балконе. Калі кампазітары і выканаўцы адчуваюць такую ўвагу, дык яна выклікае самапавагу, успрымаецца як стымул пісаць і спяваць музыку айчынных аўтараў і надалей.

І яшчэ цікавая дэталь. Калі зала напаўцёмная, артыст стаіць на авансцэне і не ведае, гледачы знаходзяцца толькі на трох першых радах паўпустой залы ці паўсюль, нараджаецца адпаведны настрой. Тэлевізійнікі прывезлі магутную асвятляльную апаратуру. Касцёл быў добра асветлены, і гэта стварала адчуванне радасці і свята. Так бы мовіць, велікасвецкага салона, дзе сабраліся не бедныя «разначынцы», занядбаная інтэлігенцыя, прыгнечаная нястачай, а людзі заможныя і высакародныя, якія сабраліся слухаць Музыку.

## Інтэрпрэтацыі і інтэрпрэтатары

Творчыя стасункі з кампазітарамі, спевакамі, харавымі дырыжорамі выхоўваюць эмацыянальную і псіхалагічную гнуткасць ва ўспрыманні чалавека і слова. Агульнавядома, кожны тэкст, тым больш вершаваны, можа мець безліч варыянтаў прачытання. Але каб да такой ступені, калі ты меў на ўвазе адно, а чалавек, які цябе разумее, — меў на ўвазе проста супрацьлеглае?!

Адна з першых песень, напісаных на мае словы, называлася «Шарык». Магчыма, яна адрасавана дзецям, магчыма, дарослым. Верш пісаўся ў мінорным настроі. Калі малады маладзечанскі кампазітар Віктар Кажухар аддаў касету з запісам, я паслухала і была ўражана да глыбіні душы. Суцэльны, нястрыманы мажор!

— Віктар, адкуль вы ўзялі такую радасць?!

Кампазітар мяне відавочна не зразумеў:

— Вы што, не памятаеце, якія словы ў прыпеве?

Яркая зелень — колер надзеі,
Вяртання пачуццяў са сну, забыцця.
Колер зялёны, колер зялёны,
Колер жыцця!

«І праўда… — падумала я. — Можа, кампазітару лепш відаць?»

Нарадзіўся «Шарык» нечакана. Тэкст я аддала Алене Атрашкевіч, ён стаяў на яе фартэпіяна. Аднойчы да Алены зайшоў у госці Віктар Кажухар, які працаваў у той жа музычнай вучэльні. Пра што могуць размаўляць два кампазітары? Вядома, пра музыку і творы, напісаныя і будучыя. Віктар убачыў тэкст «Шарыка».

— Лена, аддай яго мне!

Алена памаўчала. Бо каму ахвота аддаваць тое, над чым ты сам планаваў працаваць?

— Ладна, Віця, бяры. Але аддаю толькі табе. Іншаму б не аддала...

Мажорную песню з энтузіязмам спявалі дзіцячыя харавыя калектывы, дзеці-салісты, а некалькі гадоў таму з задавальннем узяла ў свой рэпертуар дзіцячая эстрадная студыя «Наталі», якая існуе ў Мінску. Яе выхаванцы выступаюць не толькі ў Беларусі, але таксама і ў Італіі, Францыі, Егіпце.

Праз некалькі гадоў на аснове песні быў зняты кліп. Ён перамог падчас глядацкага галасавання ў тэлеэфіры, у перадачы, якую вяла Ксенія Сітнік, а потым на працягу тыдня яго «круцілі» на ўсіх экранах мінскага метро. Прычым, ледзь не па дзесяць разоў на дзень. Стаю я на платформе, чакаю цягніка, а на ўсю станцыю жыццярадасна гучыць: «Яркая зелень — колер надзеі!» І нечакана, і нават смешна... Напэўна, Віктар інтуітыўна адчуў, што песня яго, калі папрасіў аддаць яму тэкст.

Праз некалькі гадоў пасля «Шарыка» нарадзілася яшчэ адно сумеснае сачыненне. Змешаны хор «Адам і Ева». Ноты Віктар аддаў у рукі Наталлі Міхайлавай. Беларускія кампазітары яе любяць — ноты нясуць і нясуць. Стосамі, папкамі, асобнымі партытурамі. Ведаюць: калі хор Міхайлавай возьме партытуру ў работу, атрымаецца вытанчаная рэч, зробленая з любоўю.

Прагледзеўшы ноты «Адама і Евы», а прафесіяналу дастаткова менавіта прагледзець, бо ён іх чытае з ліста (гледзячы на ноты, чуе вынікова гучанне), Наталля Уладзіміраўна сказала: «Нарэшце... Усе хары на вашы тэксты, напісаныя жанчынамі, лірычныя. Калі лірыкі ў праграме зашмат, атрымліваецца аднастайна. А тут — усмешка, гумар, іронія... У сучаснай харавой літаратуры гэтых фарбаў так не хапае!»

«Дзіўна! — падумала я тады. — Мяне цікавіла «карцінка», тое, што адбываецца ў райскім садзе, калі стомлены Бог заснуў, а нядаўна створаныя ім Адам і Ева толькі прачнуліся. Не думала я ні пра гумар, ні пра іронію... А кампазітар, бач ты, адшукаў!»

І яшчэ цікавы выпадак, таксама звязаны з інтэрпрэтацыямі. Дырыжор Вера Іванаўна Дабравольская шмат гадоў кіруе ў мінскай Школе мастацтваў узорным хорам «Ветрык». Звычайна «профі» ходзяць на самыя розныя канцэрты. Не толькі, каб паслухаць новыя творы, атрымаць эстэтычную асалоду. Яны шукаюць рэпертуар. Новае, свежае, нечаканае... Трапіўшы на канцэрт, дзе прагучалі тры першыя часткі харавой паэмы «Кахаю...», Вера Іванаўна была зачараваная гармоніяй і прыгажосцю адной з частак, якая называлася «Аддам табе любоў...».

Дырыжор папрасіла кампазітара перарабіць хор, напісаны для змешанага складу, на жаночы. Бо працуе з хорам дзяўчынак. Алена Віктараўна перарабіла. Калектыў вывучыў твор і павёз на гастролі ў Пецярбург. Вярнуўшыся, Вера Іванаўна расказвала, як тлумачыла юным спявачкам сэнс асобных радкоў. Я дзівілася, бо такія пачуцці з пэўнымі радкамі ў мяне зусім не звязваліся.

— Вера Іванаўна, я пра гэта нават і не думала! Усё прасцей....

— Не! — рашуча запярэчыла дырыжор. — Вы не разумееце сэнсу свайго тэксту!

І пачала тлумачыць. Я слухала яе і думала, што эмацыйны вынік залежыць не столькі ад слова, колькі ад яго інтэрпрэтацыі кампазітарам. Музыка надае вершам тую непрадказальную глыбіню, якую аўтар тэксту, магчыма, нават не ўяўляў.

## Начная прэм’ера

Вясной 2003 года я пазнаёмілася з цікавым чалавекам — ваенным дырыжорам Аляксандрам Фёдаравым. Ён моцна адрозніваўся ад таго стэрэатыпу вайскоўца, які склаўся дзякуючы экранным ці літаратурным штампам, магчыма, шматлікім анекдотам. Вайскоўцы ўяўляліся ў большасці сваёй людзьмі сурова-маўклівымі (калі не велічна-манументальнымі), «бронзавымі», закры-

тымі, нешматслоўнымі, не схільнымі да раскаванасці і эмоцый. Фёдараў гэтае ўяўленне разбурыў адразу. Ён чалавек рухомы, хуткі, робіць некалькі спраў адразу, эмацыянальны, умее пажартаваць з іншых і сябе. Яго расхінутасць жыццю і людзям, эмацыянальная шчырасць падкуплялі.

Падчас гутаркі Аляксандр Уладзіміравіч спытаў, ці няма ў мяне вершаў пра армію. Бо сучасных, прыгожых песень пра салдат і афіцэраў катастрафічна не хапае. Абяцала падумаць, а пры выпадку паказаць — калі што «армейскае» сапраўды будзе.

Падчас чарговай сустрэчы аддала тэкстаў дзесяць, у тым ліку і верш «Салдацкія сны». А чаму не напісаць, што сніцца салдаціку, калі ён спіць у казарме?

— Пакуль нічога з тэкстаў не зачапіла! — рэзюміраваў Фёдараў пры наступнай сустрэчы. — Армейская тэматыка складаная. Шукайце! Прапануйце што-небудзь яшчэ...

— Якраз новае вам прыгатавала...

Сярод стоса новых тэкстаў былі тыя самыя «Салдацкія сны», толькі з іншай назвай — «Чараўніца». Тэкст падабаўся, здаваўся лёгкім, палётным, і мне цяжка было змірыцца з думкай, што з яго нічога не атрымаецца.

Тэксты аддала і занялася іншымі справамі. Кампазітары — людзі далікатныя, не любяць, калі іх пачынаюць тузаць. За крыло ці за крысо. Маўляў, дзе песня, калі будзе?! Кожны твор павінен вырасці сам па сабе, натуральным чынам. Як кветка — спачатку стрэлка, потым лісцё, потым бутон, а ўжо потым і сама яна. Або як яблык на яблыні — саспець і наліцца сокам.

Карацей, пра «Чараўніцу» я нават забыла. Аднойчы ў будзённы дзень, недзе бліжэй да дванаццаці ночы, калі святло ў кватэры ўжо было выключана і ўсе паціху засыналі, у цішыні раптам пачуўся бадзёры тэлефонны званок. Паколькі сын быў бліжэй да тэлефона, дык ён і ўзяў слухаўку.

— Мама, ізноў цябе!

Прыкрыўшы трубку рукой, незадаволена:

— Па-мойму, ізноў твае кампазітары. Хоць бы паспаць далі! Заўтра, між іншым, у школу рана падымацца...

Адчуваючы сябе вінаватай, бяру тэлефонную слухаўку. Кажу як мага больш ціха, таксама прыкрыўшы яе рукой:

— Алё...

— Таццяна, — чую на тым канцы праваду радасны голас ваеннага дырыжора, — Фёдараў турбуе. Я вас віншую! Песня ёсць...

— Якая песня? — са сну не ўцяміўшы, пра што гаворка, пытаюся я.

— Як — якая?! «Чараўніца»! Хочаце паслухаць? Я зараз вам сыграю... Як-раз сяджу ля піяніна...

— Вядома, хачу! Іграйце...

Пасля маёй рэплікі сын па-тэатральнаму гучна ўздыхнуў — з выглядам заўсёднай ахвяры мамінай нястомнай творчасці. Але што я магла сказаць Фёдараву?! Можа, ён дзесяць хвілін назад гэтую песню закончыў? Ну, не выспімся сёння — выспімся заўтра... Пасля таго, як лёгкая, светлая і гарэзная мелодыя прагучала, аўтар музыкі перайшоў да практычных пытанняў:

— Таццяна, толькі мне не падабаецца адзін радок. Вазьміце, калі ласка, тэкст, можа, паправім зараз жа...

Тут давялося сказаць, што святло ў кватэры патушана ўжо і ўключаць я яго не буду. Радкі ўдакладнілі ў наступны дзень.

Далейшая гісторыя «Чараўніцы» разгортвалася досыць нечакана. Спачатку Фёдараў паказаў песню «Сябрам» і Анатолю Ярмоленку. Але паколькі

калектыў шмат гастралюе, прапанова энтузіязму не выклікала. Тады аўтар прапанаваў яе Аляксандру Ціхановічу і Ядвізе Паплаўскай. Ціхановіч адгукнуўся адразу: «Гэта — маё! Больш нікому не прапаноўвай і не паказвай!»

Амаль месяц ішла напружаная праца над аранжыроўкай 4-хвіліннай песні, бо хацелі паспець да 23 лютага, святкавання Дня абаронцаў Айчыны, каб выканаць песню на ўрачыстым канцэрце, які традыцыйна адбываецца ў Палацы Рэспублікі. У студыі асобна пісалі хор Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных Сіл. Асобна — Узорна-паказальны аркестр Узброеных Сіл, якім тады кіраваў сам Фёдараў. Асобна — Сашу і Ядзю, як іх з любоўю называюць слухачы. Асобна — «рэпераў», гурт «Чук і Гек». Так званае «звядзенне», калі гукавыя дарожкі спалучаюцца ў адну, рабілі ў студыі дуэта.

Паспелі! Прэм'ера песні адбылася спачатку на Беларускім радыё, потым у Палацы Рэспублікі, у фінале канцэрта, на які звычайна прыберагаюць новае і адметнае.

А далей «Чараўніца» трапіла ў тэлепраект «На скрыжаваннях Еўропы», дзе трымалася ў хіт-парадзе амаль паўгода. Былі тыдні, калі ў інтэрнэце за яе галасавала больш за 1200 чалавек! Потым яна выйшла ў фінал «Скрыжаванняў», калі з 80 песень журы адабрала 17 лепшых. «Вельмі нечаканая песня! Звычайна жанчыны не ўмеюць пра армію пісаць…» — здзіўлена сказаў пры сустрэчы вядомы беларускі кампазітар-песеннік Эдуард Зарыцкі.

Неспадзявана аўтара вершаў намініравалі на лепшага паэта года — у ліку пяці іншых песеннікаў, Ядвіга Паплаўская перамагла ў намінацыі «лепшая аранжыроўка года». Першы Нацыянальны канал выпусціў дыск з песнямі-пераможцамі, у тым ліку з нашым «хітом». Летам 2004 года песня з'ездзіла ў Віцебск на «Славянскі базар», яе паказвалі ў межах міжнароднага праекта, у якім выступалі лепшыя духавыя аркестры свету.

А пачыналася жыццё «Чараўніцы» з начной прэм'еры...

## Пачуцці Барбары Радзівіл

Супрацоўніцтва з кампазітарам Алінай Безенсон пачалося нечакана. Напрыканцы вясны 2003 года я ведала, што праз паўгода ў касцёле Святога Роха павінен адбыцца першы вечар, дзе прагучаць творы кампазітараў, створаныя на мае вершы. Частка праграмы ёсць, але напісанага відавочна не хапала.

У Саюзе кампазітараў, які знаходзіўся тады на вуліцы Леніна, ладзіліся праслухоўванні новых твораў айчынных аўтараў. На адным з праслухоўванняў мы аказаліся побач, — Атрашкевіч, Безенсон і я.

— Калі ў вас восенню вечарына, — звярнулася да мяне Алена, — прапануйце Аліне свае тэксты. Магчыма, за лета яна напіша. А восенню мы іх пачуем ужо...

Як проста! Ды толькі ніхто, акрамя Атрашкевіч, да такой ідэі не дадумаўся. Я падаравала кампазітару зборнік вершаў «Рабро Адама». І ўсе мы выправіліся на прыроду. Бліжэй да рэчкі, зеляніны, ягад...

У канцы жніўня Аліна патэлефанавала і ўзрадавала, што новыя сачыненні сапраўды з'явіліся. «Маналог Барбары Радзівіл» і вакальны цыкл «Імгненні» з чатырох частак. Ура! Адразу такі ўраджай!

Вобраз Барбары ўзнік невыпадкова. Ён даўно займаў маё ўяўленне. На той час існавала драматычная паэма Раісы Баравіковай, пастаўленая ў адным з мінскіх тэатраў. У Купалаўскім ішла п'еса Аляксея Дударава «Чорная панна

Нясвіжа». Дзеля справядлівасці заўважу: яшчэ раней, чым п’еса, у мяне ўзнікла ідэя і тэкст лібрэта гістарычнага балета «Барбара Радзівіл». Часопіс «Мастацтва», дзе я працавала, друкаваць яго не рызыкнуў. Відаць, пабаяліся, што ўслед драматургі панясуць п’есы. У 1998-м лібрэта апублікавала іншае выданне, «Тэатральная творчасць».

Захопленая вобразам і сюжэтам, я знайшла кампазітара, якому тэма спадабалася. Была нават напісана частка музыкі будучага балета. Але паколькі мы не знайшлі харэографа, які цікавіўся б такой прапановай, дык партытура, на жаль, так і засталася няскончанай. Але вобраз Барбары, водгулле яе ўзнёслага і трагічнага кахання ўвесь час нябачна прысутнічалі ў маім жыцці. І таму хацелася праз вершаваныя радкі выявіць эмацыйны стан жанчыны, якая чакае каханага.

Касцёл Святога Роха, камерная зала філармоніі. Амаль цёмная, пакуль пустая, бо ідзе рэпетыцыя.

— Пазнаёмцеся, а вось і наша Барбара Радзівіл...

Аліна прадстаўляе Святлану Старадзетка, салістку Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Яна будзе спяваць «Маналог...» і цыкл «Імгненні». На рэпетыцыі прысутнічае вядомы дырыжор Генадзь Праватораў. Кампазітар, спявачка і канцэртмайстар Таццяна Дуброўская ўдакладняюць то аптымальны баланс голасу, прыгожага палётнага сапрана, і інструмента, то фанетычныя штрыхі, то эмацыянальна-сэнсавыя адценні музыкі. Калі сачыненне выконваецца ўпершыню, усе хвалююцца. Бо вынік — непрадказальны. Да таго часу, пакуль артыстка не выйдзе на асветленую сцэну, у промні «юпітараў»...

Для шырокай аўдыторыі Святлана літаральна адкрыла і «Маналог», і вакальны цыкл. Паспрыялі выключная эмацыянальнасць. Здольнасць перадаць у голасе і акцёрскай ігры разнастайныя адценні пачуццяў. Бясспрэчная эратычнасць. Але яшчэ і свабода адчування сябе ў розных вакальных стылях. Потым у вакальнага цыкла з’явіліся новыя выканаўцы — Галіна Сакольнік, Ірына Лой, ён прагучаў на некалькіх міжнародных фестывалях. Але першае выкананне заўжды запамінаецца як самае хвалюючае.

## Нястомнасць

Сапраўднае шчасце, калі маеш магчымасць адначасова супрацоўнічаць з рознымі кампазітарамі. Некалі Марк Твэн дасціпна заўважыў: «Не насіце ўсе яйкі ў адным кошыку». Яго параду часта згадваюць фінансавыя аналітыкі, калі паўстае пытанне, у якой валюце лепш захоўваць асабістыя зберажэнні.

Але і свае тэксты не варта «грузіць» у кошык аднаго кампазітара. У пэўны момант вы можаце нечакана і глыбока расчаравацца ў асобе адно аднаго. Паважаны суаўтар можа заняцца іншым жанрам, атрымаць прэстыжную ці тэрміновую замову. А ты пакуль абмяркоўвай сумесныя планы з іншым творцам. Не варта думаць, што для кампазітара, які працуе ў галіне вакальнай музыкі, ты — адзіны вершаплёт з тых, што існуюць на свеце. Ён мае права супрацоўнічаць з рознымі аўтарамі, шукаць патрэбныя тэксты ў класікаў.

У Аліне Безенсон мяне заўжды прываблівала неверагодная разнастайнасць жанраў, а таксама дзівосная інтэнсіўнасць творчай працы. Здольнасць не спыняцца і не стамляцца. І тых, хто з ёй супрацоўнічае, і тых, хто яе творы іграе і спявае, Аліна міжволі прывучае да звышімклівага тэмпу. Уласным імпэтам і энергіяй пераконваючы — няма невырашальных задач! Яны такімі здаюцца? Значыць, мы мала працавалі. Аліна Іванаўна слушна лічыць: калі ў

пэўным калектыве яе не сустракаюць з расхінутай душой, не варта апускаць крылцы (прабачце, рукі), а трэба настойліва шукаць далей.

Кожную восень разам з Алінай мы паказвалі новыя сумесныя творы. Спачатку «Маналог Барбары Радзівіл» і вакальны цыкл «Імгненні». У наступным, 2004-м, калі ў вялікай зале Акадэміі музыкі спадарыня Безенсон арганізоўвала ўласную вечарыну, яна прэзентавала паэму «Спакуса» («Гора таму, хто зрабіўся рабом...») для барытона і хору. Паэму выконвала Гродзенская харавая капэла пад кіраўніцтвам дырыжора Ларысы Іконнікавай і саліст оперы Віктар Скорабагатаў.

Праграма праекта аказалася на дзіва разнастайная — Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам, араторыя «Страцім-лебедзь», сімфанічныя і харавыя творы. У зале сабраліся «профі». Іх цяжка здзівіць, бо прафесійныя музыканты і прафесура акадэміі наслухаліся за сваё жыццё ўжо столькі опусаў, што трэба быць дужа арыгінальным, каб пачуць з іх вуснаў нават сціплую ўхвалу. Якое ж было здзіўленне — кампазітара і маё, калі праз нейкі час з’явілася рэцэнзія тагачаснага прарэктара акадэміі, музыказнаўцы Юрыя Златкоўскага, які палічыў «Спакусу» адным з лепшых сачыненняў, паказаных у праграме. Вядома, тое плён працы кампазітара. Бо вершаў і нот у шуфлядах пісьмовых сталоў ляжыць шмат, яны маўклівыя і нерухомыя. А жыццё набываюць яны тады, калі знаходзяць сцэнічнае ўвасабленне.

Аліна рана ўсвядоміла тэзіс, без якога не можа існаваць сучасны беларускі кампазітар. Напісаць твор (выдатны, арыгінальны, нечаканы) па цяперашнім часе мала. Аўтар музыкі, калі ён хоча паказаць грамадскасці вынік уласнай працы, павінен быць яшчэ і менеджарам. А значыць, думаць пра фінансавую частку праекта. Пра транспарт для выканаўцаў, калі яны едуць з іншага горада. Умець распаўсюдзіць квіткі на аўтарскі вечар. Увогуле быць майстрам на ўсе рукі. Сесці за раяль і акампанаваць салісту ці хору, з якім супрацоўнічаеш. На адным з міжнародных фестываляў Аліна акампанавала хору на домры, па класе якой вучылася ў Гродзенскім музычным вучылішчы. Калі супрацоўнічаеш з такім кампазітарам, адчуваеш сябе як за каменнай сцяной. Бо ведаеш: Аліна заўжды дапаможа.

Працэс супрацоўніцтва аўтара тэксту і аўтара музыкі — гэта не толькі пошук патрэбнага радка, адметнай музычнай інтанацыі. А яшчэ і рух насустрач. Не магу сказаць, што з Алінай мы адразу ідэальна адна адну зразумелі. Вядома, я была шчаслівая, што кампазітару аказаліся патрэбныя мае вершы, і ў выніку ўзніклі такія нечаканыя і арыгінальныя творы, пра якія я нават уявіць не магла.

Часам мы эмацыйна збліжаліся, потым зноў аддаляліся. Крыху прыгнятала імкненне Аліны заўжды кіраваць сітуацыяй і працэсам (напэўна, такая якасць неабходная для педагога, які працуе з дзецьмі).

Але імкненне да агульнага мастацкага выніку прымушае кожнага карэкціраваць уласны характар і яго праявы.

Думаю, фундаментальная крыніца поспеху Аліны Іванаўны — у глыбокай рэлігійнасці. І гэта не мода, не гульня на публіку, а сутнасць. Гледзячы на яе, пераконваешся: Бог сапраўды дапамагае таму, хто ў яго шчыра верыць і звяртаецца з просьбамі аб духоўнай падтрымцы.

Аднак вярнуся да згадак пра агульныя опусы. Восенню 2004 года Аліна прадставіла публіцы дуэт «Адчуваем мы прысутнасць Бога». Назва аказалася ўдалай. І адзін са сваіх наступных вечароў кампазітар назвала менавіта так. Дуэт меў нязвыклы склад выканаўцаў — сапрана, меца, фартэпіяна і флейта. Апошні інструмент гучаў пераважна ў пройгрышах і, здавалася, увасабляў нячутныя, лёгкія крокі Бога.

Як толькі кампазітар адмаўляцца ад звыклай формы (спявак і фартэпіяна), а прыдумвае больш складанае інструментальнае суправаджэнне, колькасць яго клопатаў адначасова рэзка павялічваецца. Бо пытанне, дзе знайсці флейтыста (віяланчэліста, ударніка, арганіста) павінен вырашыць ён сам. Як і паклапаціцца пра набор нот, іх карэктуру, пра тое, каб усіх выканаўцаў забяспечыць раздрукаванымі партыямі.

Пасля прэм'еры, якую выконвалі Нэлі Душчынская і Галіна Сакольнік, мая даўняя знаёмая Людміла Русак, дачка славутага паэта-песенніка, ці то захоплена, ці то разгублена прызналася:

— Я і не ведала, што ў нашай філармоніі працуюць такія салісткі!

Потым дуэт займеў новых інтэрпрэтатараў. Калі твор выкананы неаднойчы, а жыве і змяняецца адпаведна індывідуальнасцям вакалістаў, гэта міжвольнае сведчанне, што вы яго зрабілі як мае быць. І надоўга... Але самыя значныя сачыненні і найбольш цікавыя моманты супрацоўніцтва з Алінай былі яшчэ наперадзе.

## Перформанс як жанр

Цудоўна, калі прафесія дапамагае табе сустракацца з безліччу таленавітых людзей. На адным з канцэртаў у касцёле Святога Роха, якія ладзіла Беларуская асацыяцыя сучаснай музыкі, давялося пачуць незвычайны музычны спектакль. Мо больш дакладна яго было б назваць музычным перформансам, акустычнай медытацыяй?

«Песні Басё» былі напісаны беларускім кампазітарам Ганнай Кароткінай на тэксты знакамітага японскага паэта XVII стагоддзя. «Песні» ствараліся спецыяльна для беларускай спявачкі Вольгі Сотнікавай. Прыгажуня, уладальніца адметнага мецца-сапрана, яна, нягледзячы на малады ўзрост, на той час аб'ездзіла з гастролямі ці не ўсю Еўропу, стажыравалася ў Англіі, Італіі, некалькі разоў перамагала на прэстыжных міжнародных конкурсах.

Мне заўжды ўяўлялася, што Вольга Сотнікава належыць іншай, крыху незямной прасторы. Не нашай і не пабытава-паўсядзённай, са штурханінай у грамадскім транспарце і чэргамі ў крамах. Яе лёгка ўявіць гаспадыняй англійскага замка або радавога маёнтка на поўдні Францыі. Уладальніцай велікасвецкага салона, дзе збіраюцца самыя яркія і таленавітыя асобы эпохі. За раялем, у атачэнні гасцей...

Так у адным музычным праекце сабраліся таленавітыя людзі. Творы Ганны Кароткінай гучалі ў многіх краінах Еўропы, выконвалася на прэстыжных фестывалях фартэпіяннай, арганнай і харавой музыкі.

Але вернемся да Басё. Сплаў японскага верша, гучання чалавечага голасу, імправізацыі фартэпіяна, за якім сядзела кампазітар, і ўдарных, ля якіх чараваў, іншага слова і не падбярэш — віртуоз Аляксандр Новікаў, рабілі незвычайнае ўражанне.

Сотнікава не спявала ў звыклым разуменні, а чытала нараспеў японскія вершы, але сінтэз рэчытацыі і інструментальнай імправізацыі даў нечаканы эфект. Акустычны, эмацыянальны і мастацкі. Цудоўныя рамансы, якія гучалі ў першай частцы канцэрта, неяк міжволі пабляклі, падаліся традыцыйнымі і... у нечым састарэлымі. Падчас прэм'еры міжволі думалася, што, магчыма, такія творы, як «Песні Басё» — пачатак новага напрамку ў айчыннай музыцы XXI стагоддзя?

Пасля прэм'еры, якая прайшла на «ўра», падышла да кампазітара.

— Ну як? — спытала Ганна.

— Супер... — толькі і змагла вымавіць я, бо ўражанне не ператваралася і не пералівалася ў словы.

— Вы хацелі б, каб такі спектакль мы зрабілі на вашы вершы?

Пытанне было рытарычнае. Хто можа адмовіцца ад такой зваблівай і нечаканай ідэі?

## Як нараджалася «Мора»

Працэс стварэння музычна-тэатральнай пастаноўкі, асабліва, калі тая займела потым шырокі розгалас, надзвычай цікава ўспамінаць. Праца над перформансам, які спачатку называўся «Мора, музыка і ты», а потым проста «Мора», ішла вясной і летам 2005 года.

У прыродзе існуе чатыры стыхіі — вада, зямля, паветра, агонь. Можна лёгка ўявіць, як выглядае перформанс, звязаны з агнём-вогнішчам-полымем (бо існуюць на дзіва відовішчныя вогненныя шоу). А ўявіць перформанс, у цэнтры якіх зямля і паветра ў якасці вызначальных матэрый, больш складана. Хоць мысленне сучасных мастакоў такое вынаходлівае, што ад іх можна чакаць што заўгодна.

Мора — магутная стыхія, не падуладная чалавеку. Але і музыка — таксама стыхія. І эмоцыі чалавека, захопленага каханнем, маюць тую ж прыроду, той жа ірацыянальны пачатак, не заўсёды падуладны волі. Таму спектакль у рэшце рэшт атрымаўся пра мора, музыку, пачуцці жанчыны.

Ганна прапанавала, а я выбрала са сваіх вершаў 12-13 тэкстаў, звязаных з тэмамі стыхіі — мора, музыкі, чалавечых эмоцый. Далей кампазітар і выканаўцы працавалі самі, паабяцаўшы паклікаць на генеральную рэпетыцыю. Каб паказаць гатовы вынік. Глыбока паважаю кожнага кампазітара, з якім супрацоўнічала, але ніколі не сустракала такога паважлівага, трапяткога стаўлення да ўласных радкоў, якое ўзнікла ў гэтым перформансе. Мяне не прымушалі перарабляць, дапісваць, доўга і безвынікова пакутаваць. Проста ўзялі — і пачалі з імі працаваць. Будуючы вакол іх музычную драматургію.

Кароткіна — кампазітар, неверагодна таленавіты. І разам з тым асоба не надта простая. Актыўная, часам аўтарытарная. Чуе музыку, але, здараецца, не чуе цябе або артыста. Але ж калі творца хоча мець адпаведны вынік, з'яднаць розныя індывідуальнасці падчас аднаго спектакля, яму цяжка быць рахманым.

Пакуль удзельнікі перформанса сустракаліся, абмяркоўвалі, рэпеціравалі, я займалася арганізацыйнымі клопатамі. Сцэнарый, праграмка, прэс-рэлізы для прэсы і тэлебачання, тэлефонныя званкі з запрашэннямі. А таксама каляровыя афішы — ажно ў трох варыянтах (іх нам прыдумаў і зрабіў Андрэй Гапіенка, дызайнер, які працаваў тады ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета). Наяўнасць афіш не прадугледжана сціплым бюджэтам філарманічнага праекта, таму выдаткі мы з кампазітарам падзялілі на дваіх. І так бывае! Лепшаму ўспрыманню спектакля паспрыяла і тое, што ў праграмцы канцэрта мы надрукавалі вершы, якія будуць гучаць.

Перформансы часта ладзяць мастакі і танцоры, якія працуюць у сучасных жанрах, а музыканты — непараўнальна радзей. Калі жанр выказвання незвычайны (а значыць, і матэрыя, з якой узнікае тканіна твора), тут шмат залежыць ад кампазітара і інтэрпрэтатараў.

Склад інструментаў і выканаўцаў нязвыклы. За фартэпіяна — кампазітар (яна — аўтар музыкі, але і піяністка). Спявачка Вольга Сотнікава — галоўная дзейная асоба. Хоць, мажліва, галоўным персанажам з'яўлялася ўсё-такі мора. Артыстка прамаўляла вершы, час ад часу спявала. Простая на першы погляд роля патрабуе неверагодна дакладнай дыкцыі, каб кожнае слова і гук былі чуваць. Патрабуе натуральнага пераходу ад рэчытацыі да вакалізаў. Праз тэкст і за ім публіка заўжды бачыць артыста. На залу ўздзейнічае і выразнасць твару, і сцэнічнае адзенне (рамантычная сукенка колеру бледна-блакітнага, ранішняга мора была прыдуманая дызайнерам Людмілай Лабковай).

Два інструменталісты. Яўген Мікляеў, віяланчэліст сімфанічнага аркестра філармоніі. І перкусіяніст Аляксандр Новікаў з таго ж аркестра, непераўзыдзены віртуоз, які «шаманіць» ля ўдарных прылад. Заўважу, што ўдарныя інструменты заўжды надаюць твору на дзіва сучаснае гучанне і правакуюць самыя разнастайныя тэмбравыя і санорныя эксперыменты.

«Мора» было паказана ўсяго двойчы. Спачатку ў маі 2005 года, на творчай вечарыне спявачак філармоніі Святланы Старадзеткі і Вольгі Сотнікавай. А ў кастрычніку таго ж года на маёй аўтарскай вечарыне, якая мела назву «Святло невыказнае».

Калі «Мора» мы збіраліся прэзентаваць другі раз, аркестр філармоніі выправіўся на працяглыя гастролі. Таму Кароткіна тэрмінова шукала замену, хвалявалася і, вядома, нервавалася. Бо невядома, ці атрымаецца з іншым складам выканаўцаў такі ж мастацкі эфект? З аркестра Тэатра оперы і балета запрасіла перкусіяніста Уладзіміра Судноўскага, з аркестра капэлы «Санорус» — віяланчэліста Сяргея Стасевіча. У празрыста-летуценнай тканіне спектакля, пасажах фартэпіяна і віяланчэлі асабліва тонкай успрымалася прыгажосць асобных гукаў і акордаў. У адных эпізодах, здавалася, чуўся плёск пяшчотных хваль, а ў іншых — узрушаная марская стыхія.

«Разынка» праекта заключалася ў тым, што частка нот існавала ў рэальнасці, на паперы. Але кожны музыкант у пэўны час павінен быў імправізаваць. А значыць, дакладна адчуваць эмацыйны стан, сола ці дуэты іншых. Здольнасць імправізаваць перад залай — ці не вышэйшае сведчанне прафесіяналізму. А яшчэ багатай фантазіі, абсалютнай пачуццёвай разняволенасці, здольнасці мець моцную энергетыку.

Калі публіка прыходзіць слухаць песні або рамансы, дык ведае, што ёй прапануюць. І настройваецца адпаведна. Сярод гледачоў «Мора» аказалася шмат творчых асоб. Публіка выглядала азадачанай. Адначасова разгубленай і ўзрушанай. Пасля кожнага з паказаў неаднойчы нам задавалі пытанні: «А калі вы гэту праграму пакажаце зноў?»

Было дзіўна! Так проста пабудавана — і такое захапленне?! Напэўна, удзейнічала навізна і нечаканасць жанру. Нязвыклыя ўзаемныя дачыненні слова і музыкі. Ніводная сумесная з кампазітарамі вечарына, якая складалася з больш традыцыйных жанраў, не выклікала такога імкнення асэнсаваць: а што ж гэта было?! Перадача, прысвечаная перформансу «Мора», была паказана на адным з беларускіх тэлеканалаў. Двойчы, з нагоды абедзвюх вечарын пісала пра іх у газеце «Культура» музычны крытык Надзея Бунцэвіч. У штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» — Светлана Берасцень, у «Народнай газеце» — паэтэса і журналістка Таццяна Ахрэмчык, былі водгукі і ў іншых выданнях. І да гэтага часу не надта разумею, якім чынам кампазітар і выканаўцы здолелі так глыбока закрануць фантазію і свядомасць гледача.

## Далёкі плёск хваль

Той дзіўны рэзананс, які займеў перформанс, нарадзіў у нашай творчай групы неверагодную энергію і мноства планаў. Цяпер разумею, што некаторыя з іх аказаліся манілаўскімі. Для пачатку Ганна хацела паказаць «Мора» на вялікай сцэне філармоніі, дадаўшы сцэнаграфію і светлавыя эфекты. Марылі праехаць той жа камандай па ўзбярэжжы Чорнага мора і там прэзентаваць вынік нашых фантазій. Вядома, не публіцы, якая чакае «папсу», а гледачу элітарнаму. Бо арыгінальныя музычныя праекты заўжды карыстаюцца попытам. Узнікала ідэя паказаць перформанс «Мора» на беразе кожнага мора, якое існуе на Зямлі. Жартам я нават склала для Ганны такі спіс.

Планаў шмат. Але… Няма прадзюсараў і арт-менеджараў. Для замежнай вандроўкі патрэбны фінансы, і не маленькія. А галоўнае, як утрымаць каманду? Кожны з выканаўцаў існуе ў межах калектыву, дзе ёсць планы прэм’ер і гастроляў. Ідэальна, калі над чарговымі праграмамі працуе пастаянны калектыў. І для яго засваенне новых музычных сачыненняў — штодзённы клопат. А калі суполка збіраецца на адзін ці два праекты, цяжка, каб графікі і расклады супалі.

Разам з Кароткінай мы задумвалі яшчэ адзін перформанс. Ён меў нечаканую назву, былі сабраныя тэксты. Праца нібыта распачалася. Але не склалася...

Далей у нашы праекты ўмяшалася само жыццё. Неўзабаве пасля другой, восеньскай прэм’еры Вольга Сотнікава выйшла замуж і з’ехала спачатку ў Францыю, дзе працаваў яе муж, потым на яго радзіму, у далёкую Мексіку. Натуральна, калі жанчына хоча быць шчаслівай і ў рэальным жыцці, а не толькі ў творчасці. Цяпер Вольга — шчаслівая мама траіх дзяцей.

Мы з Ганнай спрабавалі знайсці пераемніцу, драматычную артыстку, якая добра спявае, або вакалістку з талентам актрысы. Але некалькі патэнцыяльных выканаўцаў адмовіліся. Відаць, не бачылі сябе ў гэтым праекце.

Удзельнікі перформансу вярнуліся да прафесійных клопатаў. Віяланчэліст Яўген Мікляеў і перкусіяніст Аляксандр Новікаў па-ранейшаму працуюць у Акадэмічным сімфанічным аркестры пад кіраўніцтвам знакамітага дырыжора Аляксандра Анісімава. Уладзімір Судноўскі — у аркестры Тэатра оперы і балета, Сяргей Стасевіч — у капэле «Санорус».

Ганна працягвае эксперыменты ў абраным жанры. Разам з Аляксандрам Новікавым яны зрабілі перформанс на вершы Марка Шагала. Потым ён быў нават паказаны ў Парыжы. Калі тваё імя ў назвах музычных перформансаў стаіць між імёнамі Басё і Шагала — хіба гэта не ўзнімае самапачуванне аўтара, які заўсёды сумняваецца ў каштоўнасці сваіх вершаваных практыкаванняў?

А як жа «Мора»? Яго аўдыяверсія захоўваецца ў фондах Беларускага радыё, відэаварыянт — у архіве кожнага ўдзельніка імпрэзы. Рэха засталося ў афішах, фотаздымках, рэцэнзіях. Магчыма, ва ўражаннях слухачоў. Але, напэўна, галоўнае, наш перформанс аказаўся здольны ў сваіх вобразах і імправізацыях адлюстраваць няхай не ўсе, але многія адценні магутнай і жорсткай, прывабнай, хісткай і зманліва-неспасцігальнай стыхіі.

## «Калізей»

Харавы жанр — адзін з найбольш любімых для Аліны Безенсон. Невыпадкова многія кампазітары сябруюць з пэўнымі харавымі калектывамі. Інтарэс тут узаемны. Хору патрэбен свежы рэпертуар, новыя сачыненні, з якімі можна ўдзельнічаць у філарманічных праектах, аглядах і вечарынах, якія не сорамна

паказаць на прэстыжных замежных фестывалях. А для аўтара-кампазітара такі калектыў — пляцоўка для эксперымента, апрабацыі ідэй, пошукаў новых форм. Ён марыць пачуць у жывым выкананні нядаўна закончаны опус.

Пералік харавых калектываў, з якімі сябруе Аліна, заняў бы не адну старонку тэксту. Але назаву любімыя. Гэта «Ветрык» на чале з Верай Дабравольскай і «Жывіца», якой кіруе Лідзія Якімавец (яны існуюць у Школе мастацтваў, дзе працуе кампазітар). А яшчэ хоры Гродзенскай капэлы, мінскага Чырвонага касцёла, Акадэмічны хор Белтэлерадыёкампаніі.

Плёнам працяглага і плённага супрацоўніцтва Аліны з многімі музычнымі калектывамі краіны зрабіўся шэраг яе аўтарскіх вечароў у вялікай зале філармоніі. Толькі з яе імпэтам можна было некалькі разоў ладзіць маштабнае свята музыкі, калі на сцэне 10—15 хароў змяняюць адзін аднаго на сцэне. Такія ўражанні дарагога каштуюць!

Але вернемся назад, у 2005 год. Падчас нашай сумеснай вечарыны «Святло невыказнае» хор «Арыента» паказаў новы харавы цыкл Аліны Безенсон «Фарбы бясконцага руху». А ў фінале 1-й дзеі прагучала музычная сцэна «На прыступках Калізея». Яе ўвасобілі дзіцячы хор «Крынічка» на чале з дырыжорам Наталяй Агаравай і спявак Віктар Скарабагатаў. Вядомы оперны саліст, Віктар Іванавіч у той час часцей выступаў у якасці рэжысёра, выкладчыка Акадэміі музыкі, і пагаджаўся далёка не на ўсе вакальныя прапановы.

Каб найлепшым чынам прадставіць уласнае сачыненне, кампазітар прыдумала элементы тэатралізацыі. Дзеці, удзельнікі хору, спявалі за кулісамі, а ў фінале, калі гучала малітва, выходзілі на сцэну з маленькімі свечкамі ў руках. Акрамя фартэпіяна, у творы аказаліся патрэбныя ўдарныя і арган. Але апошняга інструмента няма ў камернай зале. Таму за клавішамі, якія маглі перадаць патрэбныя адценні і тэмбры, сядзела сама кампазітар. Асноўны тэкст спяваў Скарабагатаў. І толькі прыканцы кожнай страфы хор адгукаўся словамі: «Распні яго, хутчэй яго распні!»

Калі праца над сачыненнем яшчэ ішла, Аліна мудра заўважыла, што твор не можа заканчвацца змрочным і трагічным словам «распні!». Трэба дадаць тэкст, які пераносіў бы слухачоў у прастору больш высокіх і прасветленых эмоцый. Думалі, шукалі доўга, ды безвынікова. Выйсце знайшлося нечакана. Аліна распавяла пра свой клопат Скарабагатаву, той параіў звярнуцца да Васіля Сёмухі, вядомага перакладчыка, які, акрамя іншага, зрабіў велізарную працу, пераклаўшы Біблію на беларускую мову. Малітвай на беларускай мове, якую спяваў хор, і заканчваўся твор.

Але вернемся да тэксту. Калі сцэна «На прыступках Калізея» прагучала, вядомы кампазітар Сяргей Картэс у антракце спытаў:

— Таня, а чаму гэты тэкст ты мне не аддала?

У ягоным голасе я пачула азадачанасць, пэўную крыўду. Здзіўленне і нават ноты творчай рэўнасці. «Клас! — падумала я тады. — Нават народнага артыста праняло!»

Справа ў тым, што раней я паказвала Сяргею Альбертавічу некаторыя свае вершаваныя опусы. З таемнай надзеяй, што яго нешта зацікавіць. Як можна не захапляцца кампазітарам, які піша оперы, а іх у дадатак ставяць на акадэмічнай сцэне?! Але яго выснова аказалася крыху нечаканай:

— Разумееш, твае вершы жаночыя...

Тады я нічога не адказала, але падумала: «Хм, а чаму яны павінны быць мужчынскія? Усё-такі я — жанчына!» У глыбіні душы здагадвалася: пэўна, Картэсу перашкаджала камернасць. Не хапіла размаху і экспрэсіі. «Калізей» засведчыў: такія якасці ўсё-такі ёсць!

У далёкім 1996 годзе, калі я ўпершыню трапіла ў Рым, выгляд Калізея, часткова разбуранага, але велічнага і магутнага, застаўся ў памяці на ўсё жыццё. Ягоны сілуэт і вобраз выклікаў ланцужок гістарычных і мастацкіх асацыяцый. Антычнасць, рымскія цыркі і гладыятары. Паўстанне Спартака. Раман Джавальёлі і балет Арама Хачатурана. Пастаноўка Юрыя Грыгаровіча ў маскоўскім Вялікім тэатры прызнаная класікай жанру, дзе Спартака танцаваў Уладзімір Васільеў, а Краса — Марыс Ліепа. Харэаграфічная версія Валянціна Елізар’ева, дзе партыі тых жа герояў выконвалі самыя таленавітыя беларускія артысты. Згадвалася кінастужка, дзе Краса іграў славуты Лоўрэнс Аліўе, а Спартака не менш вядомы Кірк Дуглас. Да асацыяцый далучаўся знакаміты верш Анатоля Вярцінскага, які пачынаецца радкамі «Я фільм глядзеў, там Спартака распялі...»

Сэнс і значнасць таго, што вы зрабілі разам з кампазітарам (магчыма, зрабілі інтуітыўна), разумееш, калі бачыш рэакцыю публікі. Потым, аналізуючы ўсё сказанае з нагоды «Калізея», а ён далей займеў яшчэ не адну інтэрпрэтацыю, я ўсвядоміла, што творца мае права адлюстроўваць якія заўгодна тэмы і вобразы сусветнай гісторыі. Так, Італія, антычнасць, але ж убачаная вачыма беларускіх аўтараў.

Акрамя таго, у «Калізеі» закранута адна з галоўных тэм мастацтва — тэма распяцця і крыжа. Пакарання справядлівага і подлага. Тэма асобы і натоўпу, адносін ахвяры і к**а**та. Матыў абрання бяздушным натоўпам ахвяры (у розныя часы і вякі імі, на жаль, часта аказваюцца самыя значныя і яркія асобы эпохі) рабіўся галоўнай ідэяй многіх выдатных твораў мастацтва. Згадаем балеты «Эсмеральда» і «Вясна свяшчэнная».

Крыж завяршае сілуэт кожнага храма, праваслаўнага і каталіцкага. Іконы, дзе адлюстравана тэма распяцця, прысутнічаюць у кожнай царкве. Менавіта ля іх ставяць вернікі свечкі ў памяць пра памерлых. Укрыжаваны Хрыстос — тэма безлічы твораў жывапісу, скульптурных кампазіцый, графічных аркушаў. Трагізм падзеі і пакуты нявіннай ахвяры. Ачышчэнне і смерць. Мяжа быцця і небыцця.

Паказ «Калізея» ў зале Шырмы пераканаў: такому маштабнаму сачыненню тут цесна. Патрэбна большая прастора. Аліне захацелася яшчэ раз вярнуцца да тэмы Рыма. Рэакцыя публікі і словы, сказаныя знаўцамі пасля прэм’еры, натхняюць. Кампазітар зрабіла новы, больш маштабны варыянт музычнай сцэны. Дзіцячы хор ператварыўся ў дарослы і змешаны (дзе яднаюцца жаночыя і мужчынскія галасы). Больш багатай і разнастайнай паўсталі партыі ўдарных і аргана. Сталі думаць: каму прапанаваць для выканання?

## У пошуках «Сноў»

Узнікла два варыянты: альбо хор Беларускага радыё, альбо хор Нацыянальнай оперы. Але першы калектыў у той час спяваў багата твораў кампазітара. Таму на пачатку лета 2006 года, калі сезон ужо заканчваўся, мы з Алінай аддалі ноты «Калізея» і «Спакусы» Ніне Іосіфаўне Ламановіч, галоўнаму хормайстру Тэатра оперы і балета. І паабяцалі, што на пачатку восені можа з’явіцца яшчэ адно сачыненне — «Гімн сонцу», які ўрачыстым, светлым акордам завершыць праграму.

Рашэння Ламановіч (цікава — нецікава, будзе — не будзе?) мы з Алінай чакалі з нецярплівасцю і хваляваннем. Для такіх эмоцый меліся прычыны. Калі хор у праекце не з’явіцца, тады трэба арыентавацца на камерную залу

філармоніі. Калі салісты спяваюць у суправаджэнні фартэпіяна, дык на вялікай пляцоўцы яны згубяцца. Калі хор усё-такі прысутнічае, трэба планаваць вялікую залу, бо ў малой калектыву будзе цесна.

Але тут варта зрабіць невялікае адступленне. Трапіць з адным ці двума ўласнымі опусамі ў чужыя праекты нерэальна. Ніхто не паставіць адзіны беларускамоўны раманс у праграмы італьянскай музыкі ці старадаўняга рускага раманса. Таму, нягледзячы на ўсе арганізацыйныя складанасці, прасцей зрабіць уласную праграму, у якой ты будзеш адчуваць сябе вольна.

На пачатку 2006 года ў Тэатры оперы і балета распачаўся капітальны рамонт. Балет застаўся рэпеціраваць у сваім будынку, а спектаклі даваў у Палацы Рэспублікі. Опера выступала ў Доме афіцэраў, а рыхтавалася да спектакляў на розных пляцоўках. Салісты — у пpасторным, але мала прыстасаваным памяшканні ля парку Горкага, на вуліцы Фрунзе. Хор — у Доме культуры «Сукно» на вуліцы Матусевіча. Адміністрацыя і кіраўніцтва оперы спачатку заставаліся ў тэатры, а потым пераехалі на Фрунзе. У абодвух калектывах колькасць спектакляў рэзка зменшылася. На пляцоўцы Дома афіцэраў оперная трупа выступала толькі ў асобныя дні, бо на гэтую сцэну прэтэндавала і шмат іншых калектываў.

Але на час рамонту опера пачала даваць больш канцэртаў. І ў Мінску, і выязных. Вядома, так існаваць тэатру цяжэй. Больш арганізацыйных клопатаў, не заўсёды ўтульна на чужых пляцоўках. Ды толькі працэс рэканструкцыі, які доўжыўся некалькі гадоў, падказаў цікавую ідэю. Прапанаваць гатовыя творы (рамансы, дуэты, вакальныя цыклы) салістам оперы. Тым больш, што некаторыя з іх — Наталля Руднева, Віктар Скорабагатаў, Таццяна Траццяк, Уладзімір Громаў — іх ужо спявалі. Магчыма, у кампазітараў народзяцца сачыненні новыя. Калі тэатр вернецца ў свой будынак і трупа будзе займацца бягучым рэпертуарам, нават самыя таленавітыя кампазітары з найлепшымі опусамі могуць і не спатрэбіцца. Такую прапанову я выказала сваім суаўтарам-кампазітарам. І мы ўзяліся за справу.

Як робіцца маштабны праект? Спачатку прыдумалі назву. У дадзеным выпадку вырашылі: праект будзе называцца «Сны кахання». У кожнага героя, які ўвасобіць на сцэне гісторыю пачуццяў, уласныя мары, летуценні і сны. Непараўнальна лепш, калі новыя сачыненні пішуцца спецыяльна, да пэўнага праекта, які мае скразную ідэю. Далей абраў пляцоўку, склаў сцэнарый. Пачынаеш шукаць выканаўцаў. Хто лепшыя спевакі ў краіне? Салісты оперы.

Зразумела, спяваць абы-што яны не будуць. І таму, выконваючы сусветную класіку, маюць магчымасць выбіраць. Бо традыцыі высокага і высакароднага жанру раманса не дазваляюць прыстасоўвацца да танных тэкстаў і непатрабавальнага слухача. Калі праект ужо быў паспяхова ўвасоблены, Атрашкевіч трапна заўважыла: «Вы адчулі, што ніша супрацоўніцтва сучасных паэтаў і акадэмічных спевакоў не занятая…» «Ніша» — гэта цудоўна, але за кожным нованароджаным або ўдала выкананым творам стаяла вялікая сумесная праца.

Як рыхтуюцца праграмы старадаўнага рускага раманса або італьянскай музыкі? Ноты даўно напісаныя класікамі, некаторыя з іх вывучаны салістамі яшчэ ў Акадэміі музыкі. Таму канцэртмайстру, які адказвае за праграму, трэба іх разумна размеркаваць паміж выканаўцамі.

А тут трэба стварыць сітуацыю, каб кампазітары тыя творы спачатку нарадзілі. Потым варта здагадацца, што і каму з салістаў паказваць і прапаноўваць. Часам мы з’яўляліся разам з кампазітарам, каб паказаць гатовыя опусы. Здаралася, прыходзіла я, каб паказаць вершы, якія потым могуць

быць асновай раманса ці дуэта. Артысты такога ўзроўню могуць выбіраць, што спяваць. Таму варта зразумець, хто што хоча (або не хоча) спяваць, каму блізкія якія тэмы, стылі, музычная мова.

Прывяду некалькі старонак з дзённікаў таго часу. Яны дазваляюць зразумець, што за кожным удала выкананым рамансам ці дуэтам стаяла сур'ёзная арганізацыйная праца.

***2006. 22 мая,*** *панядзелак. Раздрукавала на «Белтэлекаме» праграму будучага канцэрта. Для філармоніі і Галіны Генрыхаўны Вагнер, яна — дырэктар Нацыянальнай оперы, ад яе прынцыповага рашэння шмат залежыць.*

***25 мая.*** *Сустрэча з Вагнер у тэатры. Ідэя ёй спадабалася.*

Дадам уражанні размовы, якія захаваліся ў памяці ад таго часу. Каб пераканаць, якім цікавым можа атрымацца праект, я маляўнічымі фарбамі «распісвала» таленты кампазітараў, распавядала, з якім імпэтам працавалі над сумеснымі творамі. Нарэшце працытавала фінальныя радкі «Калізея»:

Няўжо заўсёды будзе так?
І нехта дужы крыкне:
— Распні яго,
Хутчэй яго распні!

— Заўсёды! — упэўнена адказала на пытанне Галіна Генрыхаўна, зацягваючыся цыгарэтай. Рэзюміравала ў прозе, не ў вершах.

Вось яшчэ радкі з дзённікаў.

***2006. 25 красавіка.*** *Адвезла ў тэатр ноты для Анастасіі Масквіной. Другі цыкл, наш з Марынай Марозавай. Ёй не падыходзіць, «нізка». Гэты цыкл у рэшце рэшт спявала Эльвіра Рыжановіч. Не падумала, што калі першы цыкл спявала Таццяна Траццяк, нават ёй было крыху нізкавата па тэсітуры.*

***10 мая.*** *Званкі Алене Бундзелевай, Таццяне Цівуновай, Эдуарду Мартынюку. З Марынай Марозавай сустрэліся ля тэатры. З Бундзелевай сутыкнуліся ў калідоры, абмяркоўвалі, тэксты, якія яна хацела б спяваць. Здаецца, знайшлі агульную мову. Пакуль гаварылі, Цівунова нас не дачакалася (сядзела ў рэжысёрскім упраўленні, пайшла). І непрыемна, і няёмка! Самі прасілі, а высвятляецца, што не арганізаваныя і неабавязковыя паненкі. Усё-такі ўбачыліся з ёй у 17.30, перад вячэрняй рэпетыцыяй. У 18.00 размова з Мартынюком.*

***15 мая.*** *У тэатры пакінула тэксты для Масквіной.*

***17 мая****. Званок Мельнікаву. Паказала тэксты, спадабаліся. Сам Алег Уладзіміравіч хацеў, каб кампазітарам быў Эміль Наско, з якім ён раней супрацоўнічаў. Наско я потым доўга шукала. Не знайшла. Магчыма, таму, што лета, скончыліся ягоныя заняткі ў студэнтаў ва Універсітэце культуры. «Перайгралі» на Уладзіміра Саўчыка. Раманс «Пегас і Парнас» атрымаўся нечакана камедыйным.*

***19 мая****. Тэксты, якія спадабаліся Франкоўскаму, адправіла Аліне па электроннай пошце. Верш, які больш за ўсё прывабіў Сяргея Валянцінавіча, з сольнага потым ператварыўся ў харавы «Гімн сонцу».*

*Не адразу зразумела, што вядучых салістаў, якія «цягнуць» на сабе асноўны рэпертуар (Сяргей Франкоўскі, Ніна Шарубіна), або надзвычай занятых выканаўцаў (Алена Шведава, Алена Бундзелева), не варта турбаваць. У іх сваіх планаў столькі, што ім займацца нашымі сачыненнямі няма часу.*

*Тэксты, якія спадабаліся іншым, планую аддаць Марозавай, Даўгалёву, Безенсон, Андрэенка, Саўчыку. Вядома, арганізацыйныя клопаты мяне «забадалі». Спадзяюся, потым слухаць будзе прыемна і цікава, але пакуль бачу толькі будаўнічыя рыштаванні, друз і пыл.*

## Ці лёгка напісаць гімн?

Вясной 2006 года мы з Алінай не надта абачліва паабяцалі Ніне Іосіфаўне восенню прынесці ноты «Гімна сонцу».

Але згадкі пра той твор пачну здаля. Беларусь — не паўднёвая краіна, не Іспанія ці Італія, дзе ясных і пагодлівых дзён амаль столькі, колькі каляндарных за год. У нас сонечных дзён крыху больш за 50. Усяго! Доўгая зіма з маразамі ці адлігай, зацяжная вясна ці вільготная восень, туманы, раннія прыцемкі... Сонечных промняў мала, іх не хапае, таму кожны наш чалавек асабліва любіць нябеснае свяціла.

І ў творах мастацтва, і ў жыцці сонца ўвасабляе перамогу святла над цемрай, робіць дзень і яго фарбы ярчэйшымі. Сваёй зіхоткай радасцю яно напаўняе прастору. Душы, пакоя, кватэры, вуліцы, горада. Нарэшце — усяго свету... Без энергіі сонца не можа нават належным чынам ісці працэс утварэння хларафілу ў зялёным лісці дрэў. Але ж чалавек больш складаная структура, чым асобны ліст! Стаўленне да сонца не толькі ўласнае, але і беларуса ўвогуле, я імкнулася адлюстраваць у такім чатырохрадкоўі:

Зімовая доўгая ноч...
Ідзеш праз яе — як праз поле.
Здаецца, што ранку святло
Ужо не прыйдзе ніколі.

Калі Аліна нарэшце скончыла «Гімн сонцу» і ён упершыню прагучаў у выкананні хору Нацыянальнай оперы, я была ўражана яркай вобразнасцю і шматлікімі гукавымі эфектамі сачынення. Твор пачынаўся такімі радкамі:

Сонца праменне сваё раскідала,
Промні спагады і промні красы.
Вабяць бясконцыя сінія далі,
Вабяць пагоркі, палі і лясы.

Пасля першага спеўнага радка, які ў музыцы паўтараўся шмат разоў, узнікла ўражанне, што ты знаходзішся ў лесе, сярод магутных сосен. Што касыя промні прабіваюцца праз зялёныя кроны. Вакол бясконцы летні дзень. А галасы артыстаў, якія з рознай інтанацыяй, то радасна-ўрачыстай, то захопленай, то ўзнёслай выгукваюць «сонца…», «сонца…», — гэта галасы людзей, вясковых ці гарадскіх, дзяцей ці дарослых, якія выправіліся ў лес у ягады ці грыбы. Або проста вырашылі падыхаць смолкім, гаючым паветрам. А цяпер перагукваюцца, каб не згубіцца...

Пачуўшы вынік, я зразумела, чаму так доўга і пакутліва разам з Алінай мы шукалі патрэбныя радкі, чаму доўга не атрымлівалася і які менавіта тэкст імкнулася мецць для работы кампазітар.

## «Толькі з вуснаў тваіх радасць піць...»

Неверагодна прыгожы дуэт «Любоў твая — светлая музыка...» нарадзіўся ў нас з Алінай дзякуючы выпадковасці. У Доме афіцэраў адбыўся другі па ліку паказ «Джані Скікі», камедыйнай оперы Джакама Пучыні. У фінале зала ўзнялася і радасна, заўзята апладзіравала. У праходах стаяла шмат гледачоў, але таксама і артыстаў, якія спявалі прэм’еру ўчора, а цяпер прыйшлі паслухаць калег.

Не ведаю чаму, але я азірнулася. Амаль за маёй спінай стаялі прыгажуня Таццяна Гаўрылава (яна ўчора спявала маладую гераіню, закаханую Лаўрэту) і Эдуард Мартынюк (тэнар, выканаўца партыі Рынуча, таксама адной з вядучых). Таццяна, уладальніца на дзіва прыгожага, лірыка-каларатурнага сапрана, нядаўна скончыла нашу Акадэмію музыкі, заняла 1-е месца на Міжнародным конкурсе вакалістаў імя Александроўскай. Бясспрэчна, зорка.

Мартынюк незадоўга да таго перайшоў у Оперны з Музычнага тэатра, толькі асвойваўся ў калектыве, паспеў выканаць першыя партыі. Але відавочна: надзвычай перспектыўны артыст, лёгкі, раскаваны. Увогуле гэта пара прываблівала кантрастам аблічча і характараў. Брунетка Гаўрылава — і светлы, рыжаваты Мартынюк. Яна — тыповы «інтраверт», часцей маўклівая і засяроджаная. Ён — гаваркі, гарэзны, у любой сітуацыі гатовы смяяцца і жартаваць.

Гаўрылава стаяла бліжэй да мяне і глядзела на сцэну. А Мартынюк стаяў за ёй і глядзеў не на сцэну, а на яе. У гэтым позірку было... столькі нявыказных эмоцый! Глыбокае, непрыхаванае захапленне. Зачараванасць. Напэўна, жаночай прыгажосцю, душэўнай грацыяй, голасам, талентам. Даўно я не бачыла ў рэальным жыцці такіх паглядаў. І лічыла, што такое можна ўбачыць хіба ў кіно. І толькі ў выкананні таленавітых артыстаў.

«Божа мілы! Дык гэта самае сапраўднае каханне!» — падумалася тады. Гэтай чужой, нечаканай таямніцай, выпадкова заўважанай у перапоўненай зале, калі вакол апладзіравалі гледачы, я была так узрушана, што праз нейкі час далікатна пераказала свае ўражанні Аліне. Потым прапанавала:

— Давайце напішам для іх дуэт...

Верш, які мог зрабіцца асновай дуэта, у мяне быў. А ў ім наступныя радкі:

Толькі з вуснаў тваіх радасць піць...
Будзе многа яе, быццам мёду.
Няма межаў нам у асалодзе,
У каханні бязмежным нам плыць...

Аліна даўно была захопленая выразнасцю і багаццем галасоў Гаўрылавай і Мартынюка, якіх чула ў спектаклях, іх маладосцю і артыстызмам. Магчыма, таму дуэт «Любоў твая — светлая музыка...» атрымаўся ў яе такі чуллівы і сапраўды натхнёны. А Таццяна і Эдуард зрабіліся яго першымі выканаўцамі.

## «Маё» і «не маё»

У працэсе пошуку спевакоў для праекта «Сны кахання» ўзнікала шмат сітуацый нечаканых і амаль камедыйных. Разам з Элай Андрэенка, трымаючы ў руках новы, такі кранальны па мелодыі раманс («Я вярнуць хачу не цябе...»), прыйшлі да Алены Бундзелевай.

Спявачка разгарнула ноты і паставіла іх на пюпітр. Зірнула. Кажа досыць рашуча:

— Не, не маё! Нізка. Я гэта спяваць не буду...

Мы нават разгубіліся. Значыць, вопыту нам не хапае...

— Падкажыце, да каго звярнуцца?

— А вось там у калідоры Эльвіра Рыжановіч рэпеціруе. У яе зараз урок заканчваецца. Пакажыце, можа, ёй падыдзе..

Выходзім сумныя. Цяпер стаім пад дзвярыма ў Рыжановіч. Салістка спявае, не будзеш жа перашкаджаць працэсу! Але трэба размаўляць не тады, калі яна будзе выходзіць ці вылятаць з класа, а крыху раней.

Канцэртмайстар ужо выйшла, значыць, урок скончаны. Асцярожна зазіраем. Распавядаем, што восенню будзе праграма беларускай лірыкі ў вялікай зале філармоніі. Тлумачым, што хацелі.

Зноў — ноты на пюпітр. Спявачка сама садзіцца за інструмент. Прайграла першы радок:

— Усё, бяру! Гэта маё, нікому не аддавайце! Бягу на рэпетыцыю... Яшчэ што-небудзь для мецца ёсць? Адзін раманс — гэтага мала!

Ніколі не ведаеш, дзе згубіш, а дзе знойдзеш. Вось так у праекце з'явілася яшчэ адна выдатная салістка.

Для вакальнага цыкла «Калі пачуцці — як полымя...», напісанага Алінай Безенсон, доўга шукалі годнага выканаўцу. Сітуацыю літаральна выратаваў тэнар Аляксандр Жукаў, якому спадабаўся складаны музычны матэрыял. У тэатры арыгінальна інтэрпрэтуе многія вядучыя партыі. На маю думку, як спявак ён належным чынам не ацэнены.

Творы Алены Атрашкевіч, меладычныя і разам з тым напісаныя сучаснай мовай, прыйшліся да сэрца адразу многім оперным выканаўцам. Раманс «А я буду спяваць» зрабіўся адным з любімых сачыненняў спявачкі Таццяны Цівуновай. Потым выконвала яго неаднойчы, у розных канцэртах. Праз два гады ўласную сольную вечарыну ў зале Шырмы яна так і назвала, у адпаведнасці з гэтым рамансам.

Тады, вясной 2006 года, падалося, што аднаго опуса мала, каб годна прадставіць Алену Атрашкевіч. Большасць нашых агульных сачыненняў з Аленай на той час належалі да іншых жанраў, сярод іх пераважалі харавыя сачыненні і песні. Таму я прапанавала кампазітару:

— Давайце ўключым у праграму дуэт «Не патрабую анічога...» з паэмы «Кахаю»? Сама паэма не так часта выконваецца і для многіх слухачоў дуэт, па сутнасці, прагучыць упершыню...

Так і атрымалася. Салісты Іна Русіноўская і Сяргей Лазарэвіч у розных праектах выконвалі гэты дуэт. І кожны раз на рэпетыцыях ішоў працэс яго шліфоўкі. Твор напаўняўся новым сэнсам і адценнямі. Бо героі апынуліся на жыццёвым раздарожжы і не могуць вырашыць, развітацца ім назаўсёды ці дараваць адно аднаму і застацца разам. Паказ двух нумароў, сумесных з Аленай Атрашкевіч, выклікаў такую непадробную цікавасць у іншых салістаў, што далей, калі ладзіліся наступныя праекты, ужо больш камерныя, многія з артыстак захацелі спяваць у першую чаргу яе сачыненні. І кампазітар надалей напісала шэраг рамансаў — спецыяльна для Анастасіі Масквіной, Наталлі Акінінай, Тамары Глаголевай.

Надзвычай плённым аказалася супрацоўніцтва кампазітара Марыны Марозавай і барытона Уладзіміра Громава. Уладальнік прыгожага голасу, інтэлігентны артыст, Громаў заўсёды карыстаецца неверагоднай папулярнасцю. Ён патрэбен усім! Сумесныя праекты прапаноўвае яму Прэзідэнцкі аркестр, яго сольныя канцэрты праходзяць і за межамі опернай сцэны.

Яркіх і абаяльных спявачак у Беларусі хапае, з харызматычнымі спевакамі-мужчынамі сітуацыя ў краіне больш складаная. Сучасны глядач хоча бачыць на сцэне выканаўцу, які валодае комплексам якасцей: голасам, артыстызмам, абаяльнасцю. Хоча бачыць асобу, якая ўвасабляе рысы недасяжнага, а таму асабліва прыцягальнага ідэалу. Або знаходзіцца блізка ад яго.

Калі спявак запатрабаваны, часам вагаешся: падыходзіць ці не? А раптам зірне з пагардай? Але ўсе творчыя стасункі і кантакты з Уладзімірам на дзіва прыемныя. Ён лёгка адгукаецца на прапановы кампазітараў. Ведае, у гэтай прасторы не круцяцца вялікія грошы. Беларуская музыка часцей існуе для

творчага задавальнення. Але калі б Громаў так не лічыў, дык мо менавіта для яго столькі і не пісалі б? А для кожнага саліста наяўнасць опусаў, прысвечаных яму, ці сачыненняў, якія ён выканаў першым, — і радасць, і гонар.

Уладзіміру надзвычай спадабаліся творы Марыны — «Зорны вальс», «Чаканне. Танга», «Гук струны». Яны аказаліся эфектныя і маляўнічыя. Такія сачыненні ідэальна падыходзяць, каб імі заканчваць праграму. Быць яркім і жыццесцвярджальным клічнікам. Пазней, калі Марозава зрабілася музычным кіраўніком аркестра Дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі», яна неаднойчы запрашала Громава для ўдзелу ў праграмах свайго калектыву.

## Вакол слова «нагбом»

Такім чынам салісты рэпеціравалі са сваімі канцэртмайстрамі. А паралельна ў рэпетыцыйных памяшканнях у Палацы культуры «Сукно», што на вуліцы Матусевіча, хор працаваў над творамі Безенсон.

Разам з Алінай едзем на рэпетыцыю. Падыходзім да палаца. Відавочна, у артыстаў невялікі перапынак. На вуліцы гурт маладых хлопцаў-харыстаў. Яны стаяць купкай ля ўваходу. Хтосьці размаўляе ці дыхае свежым восеньскім паветрам, хтосьці ўбаку з цыгарэтай. Мы павіталіся, зараз памчым далей. Раптам нечаканае пытанне:

— Скажыце... Вось сёння на рэпетыцыі мы доўга абмяркоўвалі, што значыць слова «нагбом»...

Сапраўды, яно ёсць у тэксце харавой паэмы «Спакуса»:

Гора таму, хто зрабіўся рабом
Цёмных, таемных уласных жаданняў,
Гора таму, хто з крыніцы кахання
П'е пажадліва і прагна, нагбом...

Пачала тлумачыць. Калі верыць слоўніку, «нагбом» — значыць, «піць з вялікай пасудзіны, нахіліўшы яе». Але мяне цікавіў не толькі літаральны сэнс. Слова каларытнае, незацяганае, прыдатнае для спеваў. Яго частка — «бом» — асацыіруецца з гукам магутнага звону або гучаннем дробных званочкаў. Менавіта так, «Нагбом», называўся адзін з паэтычных зборнікаў жывога класіка, паэта Рыгора Барадуліна.

Здагадваюся, што хлопцы з хору ў большасці сваёй нарадзілася не ў сталіцы (дзе матчынай мовы мала), а паступалі ў вучэльні ці Акадэмію музыкі з вёсак ці мястэчак. Бо яны пачалі дружна згадваць, якія варыянты слова існуюць у іхняй вёсцы ці гарадку. Як маці і бабуля называлі аналагічную з'яву. І гэты працэс успамінаў аказаўся такім жывым і нечаканым!

Але ж і рэпетыцыя, якую праводзіла ў той жа дзень Ніна Іосіфаўна, галоўны хормайстар тэатра, падалася чымсьці незвычайным.

Калі задумацца, што такое оперны хор? Адзін з найбольш магутных складнікаў спектакля. Без яго немагчыма ўявіць ніводны оперны шэдэўр — «Івана Сусаніна» ці «Яўгенія Анегіна», «Хаваншчыну» ці «Пікавую даму», «Барыса Гадунова» або «Аіду», «Сівую легенду» ці «Дзікае паляванне караля Стаха». Каго ўвасабляе хор? Салдат і вядзьмарак, баяр і шляхту, жабракоў і вяльмож, дваран і манахаў, заваёўнікаў і палонных. Бедных і багатых, шчаслівых і няшчасных, набліжаных да ўлады і нізрынутых ёю. Усіх! Без хору опера робіцца камерным творам. З хорам — эпічным і маштабным палатном.

Хор — асяроддзе, дзе разгортваецца драма ці камедыя. Ён — голас народа і прысуд гісторыі.

Таму, калі вы разам з кампазітарам аддаяце ноты ў хор оперы, хваляванне апаноўвае незвычайнае. Хто ў краіне выканае лепей? Ніхто! Але я ведала шмат выпадкаў, калі твор арыгінальны, калектыў прафесійны, але дырыжору не надта падабаецца музычная мова аўтара, ягоныя прыёмы аркестроўкі або голасавядзення. Калі кіраўнік харавога калектыву не лічыць сачыненне вартым сцэнічнага ўвасаблення, тады ніхто не здолее пераканаць яго ў адваротным.

Для нас з Алінай было вялікай радасцю, што Ніне Іосіфаўне якраз спадабаліся творы спадарыні Безенсон. Яна палічыла іх вартымі многіх рэпетыцый і сваіх дырыжорскіх клопатаў.

...Прасторнае памяшканне, высокая, у метраў пяць столь. Адна сцяна — з абабітай тынкоўкай, таму відаць кладка з бардовай цэглы. Ці знарок абабілі, ці рамонт распачалі. Хор стаіць на станках, кожная прыступка вышэйшая за наступную. Каб тыя, хто далей, былі бачныя. І каб гук свабодна ляцеў.

У нотах музычнай сцэны ёсць такія радкі:

Цела й душа — як зямля і нябёсы,
Д'ябла і Бога заўсёдная спрэчка...

— Не разумею, чаму ў сказе «д'ябла і Бога заўсёдная спрэчка» словы «Бог» і «д'ябал» вы спяваеце з аднолькавай інтанацыяй? — звяртаецца Ламановіч да сваіх артыстаў. — «Бога…» — інтанацыя ідзе ўверх. Такім чынам вы перадаеце ўласнае стаўленне да паняцця «Бог». А слова «д'ябла» — пяецца сцісла, хутка, вельмі дынамічна...

Каб так працаваць над сэнсам кожнага радка?! Мы з Алінай сядзім збоку, моўчкі слухаем, імкнёмся запомніць кожную рэпліку дырыжора. Абодва аддзяленні канцэрта лепей заканчваць сачыненнямі разгорнутымі, маштабнымі. Таму напрыканцы першай часткі праекта паставілі «На прыступках Калізея», на прыканцы другой — «Спакусу» і «Гімн сонцу». У першых дзвюх саліраваў Уладзімір Громаў, у «Гімне» — тагачасныя артысткі хору, а цяпер салісткі Алена Таболіч і Наталля Салавей.

У перапынках дырыжор, кампазітар і Громаў сёе-тое ўдакладняюць. Потым зноў пачынаецца рэпетыцыя. Уражанне такое, што ты знаходзішся ўнутры неверагодна прыгожай, дасканала пабудаванай гукавой прасторы. Сярод вогненнай магмы гукаў...

Забягаючы наперад, скажу, што менавіта ўражанні рэпетыцый на Матусевіча, а потым і выкананне гэтых харавых сачыненняў у філармоніі ўразілі і натхнілі Аліну і мяне. У выніку ўзніклі яшчэ дзве разгорнутыя музычныя сцэны з італьянскага цыкла. Праўда, потым іх спяваў не хор оперы. Але і Аліна Безенсон, і я лічым іх ці не самымі важкімі ва ўласнай творчасці.

## «Сны». Вынік

Паступова кожны спявак вучыў свае рамансы, дуэты, вакальныя цыклы. Восенню пачало збірацца тое, што рыхтавалася па частках. Добра памятаю прагон напярэдадні канцэрта ў пустой, напалову асветленай вялікай зале філармоніі. Спачатку рэпеціраваў хор, яго адпусцілі, каб не трымаць мноства народу.

Далей салісты па чарзе «праганялі» нумары пад акампанемент канцэртмайстраў. Без майстэрства і зацікаўленасці апошніх наогул нічога б не атры-

малася. Спевакам дапамагалі піяністкі Жанна Габа, Таццяна Іванова і Алена Алімпіева. Больш за ўсіх нумароў аказалася ў Галіны Аляшкевіч. Такі артыстызм, далікатнасць і тонкасць разумення музычнага вобраза мала калі можна сустрэць. Некалькі апошніх сезонаў Галіна з’яўляецца канцэртмайстрам у оперным тэатры горада Брно, рэпеціруе з чэшскімі спевакамі.

Уласна музычным вынікам, дакладнасцю разумення нот і вобразаў, штрыхамі і паўзамі, тэмпамі і рытмам былі заклапочаны самі кампазітары.

Перад рэпетыцыяй я адкапіравала праграмку, каб яна мелася ў руках у кожнага вакаліста. І было зразумела, хто за кім выходзіць на сцэну і што ўвогуле павінна атрымацца. Узнікла ўражанне, што будаўнічыя рыштаванні нарэшце знялі. І амаль усе ўбачылі, што мы зрабілі агульнымі намаганнямі. Кампазітары, хор, салісты, інструменталісты... У паветры ўзнікла маўклівае здзіўленне і павага, што абяцанкі не аказаліся пустым гукам і час не змарнаваны ўпустую.

Пасля таго, як праграма была паказана, спявачка Эльвіра Рыжановіч у кулуарах заўважыла:

— Больш за ўсё здзівіла, што ні ў якай сітуацыі вы не пачыналі злавацца і крычаць...

— Эльвіра, а якое права я маю крычаць на салістаў оперы?! Я не працую ў тэатры! Я ім — хто?.. Чалавек збоку. Магу папрасіць, паспрабаваць пераканаць...

Напярэдадні прэм’еры завітала ў Міністэрства культуры, каб запрасіць на вечарыну першага намесніка міністра Уладзіміра Пятровіча Рылатку. Уважліва разглядаючы афішу (позірк на афішу, на мяне, зноў на афішу), ён здзіўлена сказаў:

— Паслухайце, дык у вас заняты ўвесь тэатр оперы!

— Не, Уладзімір Пятровіч! — запярэчыла я. — Яшчэ не ўвесь! Можа, увесь і будзе, але крыху пазней…

Вядома, гэты быў жарт. Але чаму не марыць? Мо, калі-небудзь мара і збудзецца?!

Крыху пра сон з нагоды «Сноў кахання». Напярэдадні паказу праграмы нармальны сон знікае. Перажываеш, ці ўсё сыдзецца, ці не ўзнікне экстрым (а раптам хтосьці захварэе?). Толькі закрыеш вочы, як у вушах і свядомасці гучыць музыка з сачыненняў, якія на папярэдняй рэпетыцыі былі пачутыя ўпершыню.

Прайшоў паказ праграмы. Здавалася б, усё! Напружанне знікла, спі, як нармальны чалавек... Дык не! Ізноў у свядомасці «круцяцца» фрагменты твораў. Ненадоўга заснуў — ізноў прачнуўся. У галаве гучаць знаёмыя тэмы. І выключыць іх немагчыма.

Такім чынам вынік. Сем кампазітараў. Акрамя тых, пра каго ішла гаворка, гэта Эла Андрэенка, Дзмітрый Даўгалёў, Віктар Кажухар, Уладзімір Саўчык. Трынаццаць спевакоў. Тры вялікія харавыя сцэны.

Чатырнаццаць прэм’ер. Пяць вакальных цыклаў. Чатырнаццаць адначасткавых твораў — рамансаў-песень-дуэтаў. І яшчэ адзін рэкорд. У наступныя два выхадныя дні — сумарна амаль 10 гадзін тэлефонных званкоў, уваходных і зыходных. Ад сяброў і знаёмых, запрошаных на вечарыну. Ад кампазітараў і салістаў, з якімі абмяркоўвалі вынікі і планы далейшага супрацоўніцтва.

Такія падзеі, як аўтарская вечарына ў вялікай зале філармоніі, запамінаюцца на ўсё жыццё. І таму, што за такой імпрэзай стаяць намаганні многіх асоб. І таму, што разумееш: аналагічнай з’явы можа і не здарыцца. Бо ў падобны праект укладзена сіл нашмат болей... чым у цябе ёсць.

## Прэм'ера, спадніца і... прас

Як вы думаеце, ад чаго залежыць лёс новага раманса ці дуэта, калі ён павінен прагучаць упершыню? Ад глыбіні і арыгінальнасці вершаў паэта, меладычнага дара кампазітара, вакальных дадзеных выканаўцы? Глыбока памыляецеся! Часам ад такіх рэчаў, наяўнасць або адсутнасць якіх прадугледзець немагчыма.

Закуліссе філармоніі. Калідор і грымёрныя, якія знаходзяцца недалёка ад камернай залы імя Рыгора Шырмы. 18.30. Да пачатку вечарыны застаецца палова гадзіны. Выканаўцы — салісты оперы. Амаль усе яны ўжо ў грыме, апранутыя ў канцэртныя сукенкі. Хтосьці распяваецца з акампаніятарам альбо сам, хтосьці яшчэ раз паўтарае тэкст твора, які будзе спяваць.

Адна з салістак вымае з вялікага пакета сваю канцэртную спадніцу цёмнага колеру. Высвятляецца: па дарозе тая моцна пакамячылася. Вакалістка не падумала, што так можа атрымацца. Таму побач няма тэатральнага касцюмера, якая прыйшла б з прасам. Зразумела, у такім непрэзентабельным выглядзе артыстка на сцэну не выйдзе.

Што рабіць? Варта схапіцца за галаву. У вялікай зале філармоніі канцэрта сёння няма. Значыць, касцюмерныя танцавальных калектываў, дзе можна знайсці прас, зачыненыя. Што касцюмерам рабіць пасля шасці вечара і хто тыя пакоі можа адкрыць без дазволу кіраўнікоў ансамбляў?

Але ж дзе ўзяць прыладу? Сітуацыя анекдатычная. У праграме сённяшняга канцэрта спявачка выконвае тры творы, два з іх — прэм'ерныя. Над імі яна доўгі час працавала з канцэртмайстрам, на рэпетыцыі спецыяльна прыязджала кампазітар. І што — усе гэта марны клопат?! А калі наступным разам здолеем паказаць творы?

Пакуль артыстка ходзіць па калідорах філармоніі і шукае, я, вядома, нервуюся. Маргарыта Ізворска-Елізар'ева, тагачасны мастацкі кіраўнік Нацыянальнай оперы, заўважае:

— Вы робіце вечарыну адзін раз на год. Бачыце, колькі з ёй звязана клопатаў? А ў нас так кожны вечар, калі ідзе оперны спектакль. Як на парахавой бочцы сядзіш. Не ведаеш, што і калі ўзарвецца…

— Але ў вас кожную партыю ведае некалькі выканаўцаў, — пярэчу я. — Калі захварэў адзін, тады на сцэну можа выйсці іншы.

— Па-рознаму, — не згаджаецца Ізворска. — Напрыклад, у «Аідзе» Радамэс адзіны — Сяргей Франкоўскі.

Думаю: «Значыць, ад яго самапачування, стану здароўя залежыць дзеянне агромністага калектыву. Адбудзецца спектакль ці не...»

Тым часам пошукі праса вынікаў не далі. Што рабіць? Бегчы ў ЦУМ, які побач? Позна ўжо, не паспею. Дый я пераапранулася ў канцэртную сукенку. Адна з салістак здагадалася: калі ў філармоніі існуе бар і кавярня, значыць, там стаяць сталы. А на іх ляжаць абрусы. Дзе абрусы, там і прас... Усё геніяльнае — простае!

Далей усё пабегла-пакацілася па сваіх рэйках. Прас знайшоўся, сукенка выглядала, як належыць. І прэм'еры новых твораў, на наша шчасце, адбыліся.

## Паміж «Полымем» і «Споведдзю»

Такая сітуацыя — адна з многіх, якія неспадзявана ўзнікаюць падчас падрыхтоўкі новых праграм. Уражанне ад вечарыны «Сны кахання» аказалася ў самім тэатры дастаткова моцнае, таму восенню наступнага, 2007 года, мы

ажыццявілі новы праект. Праўда больш камерны, у зале імя Шырмы. Ён меў назву «Калі пачуцці — як полымя...»

Дата паказу пазначана ў афішах тэатра і філармоніі. Да яе заставаўся літаральна тыдзень ці два, калі нечакана высветлілася, што ледзь не палова артыстаў, занятых у праекце, захварэла. Шукаць новых — ужо няма часу. А ці згодзяцца? А мо гэтыя паздаравеюць? Будынак, у якім рэпеціравалі оперныя салісты, выглядаў часовым прытулкам. Перш, чым пусціць туды опернікаў, у памяшканні не паспелі правесці нават касметычны рамонт. А холад і вільгаць кепска ўплывалі на звязкі.

Што рабіць? Трэба тэрмінова мяняць сцэнарый і чарговасць нумароў. Бо яркі мажорны твор, які стаяў напрыканцы праграмы, знік, а сумным і мінорным яе заканчваць не будзеш. У выніку мы неяк выкруціліся з сітуацыі, праграму паказалі, прагучала болей вершаў, чым планавалася.

Але хацелася плакаць. Ад усведамлення, колькі сіл, нерваў, часу было выдаткавана на падрыхтоўку, і колькі намаганняў аказаліся марнымі. Кіраўніцтва оперы ў асобах Маргарыты Мікалаеўны Ізворскай і дырэктара трупы саліста Ніны Іванаўны Казловай разумела, колькі працы знікла ў нікуды. Таму вырашылі: у зале Шырмы зробім падобны праект яшчэ раз. Восенню 2008-га. Пакажам творы, якія не змаглі паказаць год таму, і новыя. Праграма будзе называцца «Споведзь жанчыны».

Часам рэплікі звычайных слухачоў, прамоўленыя ў кулуарах, запамінацца на ўсё жыццё. «Цікава, дваццаць тры творы пра каханне. І толькі адзін — пра радзіму...» Не паленаваўся слухач — палічыў! І яшчэ. «А ўвогуле — перад кім можа спавядацца жанчына? Няма перад кім. Толькі перад сабой...»

«Споведзь» атрымалася вечарынай, непараўнальна больш багатай за папярэднюю. Прагучалі сачыненні сямі кампазітараў. Сярод іх асабліва разнастайнымі выглядалі творы Алены Атрашкевіч і Элы Андрэенка. Было прэзентавана шмат прэм’ер. Дадаліся галасы такіх розных і адметных выканаўцаў, як Наталля Акініна, Тамара Глаголева, Ірэна Журко, Алена Сіняўская, Аксана Якушэвіч. Калі супрацоўнічаеш хоць з адной такой спявачкай, падобнай акалічнасцю і аўтар тэкстаў, і кампазітар могуць толькі ганарыцца.

## Вопыт

Парады, як лепей ладзіць аўтарскія вечарыны, вядома, дзесьці можна прачытаць. Але хутчэй за ўсё яны будуць успрымацца абстрактна, як чужы вопыт і чужыя высновы. Калі вопыт твой уласны, набыты нервамі і перажываннямі, ён мае непараўнальна большую каштоўнасць.

Праект «Святло невыказнае» 2005 года пераканаў, што ў адным праекце лепей не яднаць і не перамешваць жанры акадэмічнай музыкі і эстрадныя. Нават калі яны «разведзеныя» па розных аддзяленнях. На вытанчана-ўзвышаныя жанры, збіраецца адна публіка, а на папулярна-дэмакратычныя — іншая.

Для камернага выканальніцтва ідэальна падыходзіць малая зала. Невялікая адлегласць паміж выканаўцам і слухачом стварае атмасферу душэўнай цеплыні, утульнасці. Засяроджанасці на ўнутраным свеце героя. «Салона» — у лепшым сэнсе. Калі ты хочаш сабраць гледачоў у вялікай зале, варта зацікавіць праектам шматлюдныя калектывы, найперш харавыя. Бо на сцэне павінны рухацца масы выканаўцаў.

Спачатку звяртаешся да тых салістаў, якія навідавоку і выконваюць вядучыя партыі. Але высвятляецца, што сярод тых, каго не ведаеш, патрэбных табе

вакалістаў можа быць яшчэ больш. Бо яны не заўсёды на першым плане. Або ты проста не трапіў на пастаноўку з іх удзелам.

Праграму варта планаваць ці не ўдвая большую за тую, якая атрымаецца ў рэшце рэшт. Бо пэўны раманс ці хор кампазітар можа і не паспець дапісаць. Які-небудзь опус спявак не паспее давучыць. Хтосьці, на жаль, захварэе, а хтосьці тэрмінова з’едзе на гастролі. Бо ў тэатры сітуацыя змяняецца кожныя пяць хвілін. Як на фронце... Атрымліваецца тэатр баявых дзеянняў. Здавалася б, простыя, банальныя рэчы. Але іх трэба ўсвядоміць знутры, самому.

Музычныя опусы, паказаныя ў межах аднаго праекта, пачынаюць узаемадзейнічаць паміж сабой. Для публікі і стваральнікаў сачынення становіцца відавочным, якое з іх больш важкае і адметнае, якое больш сучаснае і актуальнае, а што станецца толькі для аднаго паказу. Публічнае выкананне дае магчымасць убачыць сваю працу староннімі вачыма і здагадацца, што можна ўдасканаліць.

Азіраючыся ў думках на музычныя праекты, якія мы ажыццявілі разам з кампазітарамі і опернымі спевакамі, думаю, атрымаўся шмат у чым унікальны вопыт. Кампазітары, якія працуюць у жанрах вакальнай музыкі, пазнаёміліся з лепшымі вакалістамі. Цяпер яны ведаюць адзін аднаго — па прозвішчах і ў твар. Упэўнены, да каго звярнуцца, калі патрэбен новы твор для канцэртнай праграмы або замежнага конкурсу. У рэпертуары спевакоў з’явілася шмат твораў айчынных кампазітараў. Аўтары музыкі атрымалі магчымасць пачуць свае опусы ў інтэрпрэтацыі лепшых вакалістаў краіны. Нацыянальны тэатр оперы і балета і Беларуская дзяржаўная філармонія мелі на афішы праекты, складзеныя з твораў айчынных кампазітараў.

Вечарыны запомніліся як святы. Айчыннай музыкі. Высакародных жанраў. Выдатнага вакалу. У рэшце рэшт выйгралі ўсе...

## «Рэпетыцыя аркестра» ці «Рэпетыцыя хору»?

Восеньскім ранкам 2007 года ў маёй кватэры зазвінеў тэлефон. Быў пачатак верасня, стаялі сонечныя, цёплыя дні, калі ўжо знікла летняя гарачыня, але яшчэ не прыйшла восеньская імжа і не пачаліся няспынныя дажджы. Тэлефанавала Наталля Міхайлава, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага камернага хору.

— Таццяна Міхайлаўна, крыху нечаканая прапанова. У наступным годзе ў калектыву юбілей. Нам спаўняецца дваццаць гадоў. Хацелася б, каб у святочны вечар адбылася прэм’ера. Але не кароткага твора, а большага. Падумайце, можа, з’явіцца цікавая ідэя? Вы ж наш калектыў ведаеце — і салістаў, і рэпертуар, і магчымасці…

Ідэя выглядала заманлівай. Калі не ты прыносіш ноты і імкнешся заахвоціць кіраўніка, а яшчэ ненароджаны твор патрэбен калектыву, тады можна быць упэўненым, што прэм’ера адбудзецца.

— А каго бачыце ў якасці кампазітара? — асцярожна спытала я.

— Ідэальна, каб гэта быў Алег Хадоска, — падзялілася задумай Міхайлава. — Мы з ім вучыліся ў кансерваторыі на паралельных курсах. Ён нас таксама добра ведае, бо мы яго шмат спявалі. І ў дадатак у яго сучаснае музычнае мысленне...

Кандыдатура магчымага кампазітара дадала энтузіязму. Бо з Алегам я хацела супрацоўнічаць даўно. Яшчэ пры канцы 90-х паказвала яму свае вершы, якія маглі зрабіцца вакальнымі творамі. Але кампазітар быў заняты,

працаваў над сімфанічнымі сачыненнямі, і мае тэксты аказаліся ў той момант не надта патрэбнымі.

— Падумаю... — паабяцала я дырыжору. — Калі ідэя або гатовыя тэксты з’явяцца, адразу вам патэлефаную.

На тым і развіталіся. Калі доўгі час займаешся тэкстамі для камерных жанраў (раманс, хор, песня), нават харавых ці вакальных цыклаў, раней ці пазней прыходзіць адчуванне: тэрыторыя засвоена, хочацца большай прасторы.

Але што ж прыдумаць для юбілейнай вечарыны?.. Набор хароў, розных па настроі? Але як іх спалучыць між сабой? Якую тэму ўзяць, каб яна аказалася цікавай і гледачу, і спевакам? Юбілей — урачыстасць. Будзе шмат кветак, віншаванняў, душэўных успамінаў, сустрэч з калегамі, якія ў калектыве спявалі раней. Дык, можа, варта на пачатку праграмы паказаць будні, а значыць, рэпетыцыю? Тое, якім чынам ідуць да творчага выніку?

У памяці ўзніклі кадры са знакамітага фільма Федэрыка Феліні «Рэпетыцыя аркестра». А мо, зробім «Рэпетыцыю хору»? Тут таксама паўстане супярэчнасць, няхай не надта вострая, — але канфлікт паміж кіраўніком, які патрабуе ад артыстаў дасканаласці, і спевакамі, якія стаміліся ад бясконцых рэпетыцый, выязных канцэртаў, крыху лянуюцца, хочуць пажартаваць і пазаляцацца да новых сімпатычных салістак.

У творы будзе тры часткі, якія адлюстроўваюць: хто спявае, як спявае і што спявае. Калі структура акрэслілася, далей праца ідзе прасцей. У дадатак мне хацелася вытрымаць агульную камедыйную танальнасць. Калі перад тым узнікла шмат сачыненняў лірычных ці афарбаваных драматычнасцю, разумееш, што трэба пераключыцца.

Калі сцэнарый і тэксты будучай камічнай кантаты былі гатовыя, мы сустрэліся ў філармоніі з Наталляй Уладзіміраўнай. Ідэя дырыжору спадабалася, і яна паабяцала старонкі лібрэта аддаць Алегу Хадоску.

Супрацоўніцтва з кампазітарам аказалася суцэльным задавальненнем. Ён не патрабаваў пераробак, не мучыў прыдзіркамі. Сёе-тое падкараціў, некаторыя эпізоды апусціў. А потым узяў — і напісаў. Набраную партытуру аддаў дырыжору. Ад першай размовы прайшло ўсяго палова года.

Міхайлава патэлефанавала, і мы сустрэліся ў яе кабінеце ля фартэпіяна. Найбольш хвалюючы момант, калі чуеш новае сачыненне. Уражанне, што ўваходзіш у невядомую прастору. Наталля Уладзіміраўна сама іграла і спявала — за сапрана і мецца, за тэнараў і басоў. А таксама за кіраўніка хору, які таксама быў сярод дзейных асоб.

За акном буяла вясна, канцэртны сезон заканчваўся. Камерны хор тады ж пачаў вучыць кантату, каб скончыць працу над ёй на пачатку наступнага сезона, ужо восенню.

Опус атрымаўся сапраўды камедыйны і нечаканы. Нават для Алега, які да гэтага часу паўставаў як кампазітар, схільны да глыбока філасофскіх сачыненняў. Мой пераход з тэрыторыі харавой лірыкі ў прастору камедыі ўспрынялі і прынялі далёка не ўсе сябры і даўнія знаёмыя. Пасля прэм’еры Ларыса Густова, музыказнаўца і дырэктар Міжнароднага фестывалю праваслаўных песняспеваў, з пэўным расчараваннем заўважыла: «Вашы папярэднія творы падаюцца мне больш глыбокімі!» Што ж, і такое меркаванне можа існаваць. Але тых, хто прыняў і віншаваў, аказалася непараўнальна болей.

Юбілейная вечарына атрымалася святочнай. Разнастайнай па інтанацыях, багатай на рэжысёрскія прыдумкі. Пачыналася якраз «Рэпетыцыяй хору», працягвалася ў харавых опусах розных жанраў і настрояў. У першым аддзяленні

дырыжыравала сама Міхайлава. У другім саступіла пульт Ігару Мацюхову, стваральніку калектыву, які цяпер працуе ў Пецярбургу.

У Мінск ён спецыяльна прыехаў на юбілей свайго дзецішча. І ў другой дзеі дырыжыраваў харавым цыклам «Песні арбацкага двара», створаным паводле вершаў і музыкі славутага Булата Акуджавы. Асобай барда, яго песнямі-баладамі, шчырымі і адначасова глыбокімі, мудрымі і разам з тым іранічнымі, простымі і адначасова прачулымі, у савецкі і постсавецкі час захаплялася не адно пакаленне. Яго песні-малітвы спявалі людзі рознага ўзросту, розных прафесій і сацыяльнага статусу. Многія з іх і я ведаю на памяць.

Калі ж разгорнутае музычнае сачыненне на твае словы стаіць у адной праграме з творамі Акуджавы, падобная акалічнасць прымушае думаць: з гэтым харавым калектывам сябруеш недарма! І агульная праца з кампазітарам вартая прыкладзеных намаганняў.

## Прысвечана Ганне Ахматавай

Восень 2008 года сталася незвычайна насычанай. Акрамя юбілею Дзяржаўнага камернага хору, адбылася яшчэ адна значная падзея. Яна задумвалася даўно, а рэалізавалася толькі цяпер.

З кампазітарам Уладзімірам Саўчыкам мы супрацоўнічалі даўно. Ён напісаў шмат харавых сачыненняў на мае словы, але па нейкіх прычынах не ўсе яны аказаліся запатрабаваныя. Сярод тых, што часта выконваецца, напрыклад, хор «Страла амура», сачыненне камедыйнай танальнасці, віртуозна ўвасобленае камерным хорам.

Некалькі нашых з кампазітарам рамансаў з задавальненнем спявалі салісты оперы. Нечакана высветлілася, што «Мелодыя» (іншая назва — «В начале Бог создал Любовь»), вельмі ўдала адкрывае якую заўгодна канцэртную праграму. Светлы, узнёслы твор з задавальненнем выконвала Анастасія Масквіна. Барытон Сяргей Лазарэвіч усхвалявана ўвасобіў рамантычны твор «Дзе ты, сад на маёй галавою…». Камедыйна-сатырычную вакальную мініяцюру «Пегас і Парнас» неверагодна артыстычна інтэрпрэтаваў вядомы бас Алег Мельнікаў. А фартэпіяннае суправаджэнне дасціпна перадавала цокат капытоў Пегаса, які ўзнімаецца за воблакі. Публіка была вельмі ўзрадавана, што ёй далі магчымасць шчыра, ад душы пасмяяцца. Неяк міжволі нараджалася перакананне: гумару ў вакальнай музыцы да крыўднага мала!

Аднойчы кампазітар паказаў спіс сваіх твораў. Я звярнула ўвагу, што ў пераліку шмат сачыненняў на вершы Ганны Ахматавай.

— Паспрабуйце іх аб’яднаць у праграму або цыкл. Тады яго будзе цікава слухаць. А па адным вашы хары і рамансы згубяцца…

Сказала і забылася пра свае словы. Але, відаць, аналагічныя думкі ўзнікалі і ў галаве аўтара. Бо, вядома ж, кампазітар хоча створанае пачуць. Ноты сваіх опусаў, напісаных на вершы Ахматавай, Саўчык прынёс у музычную капэлу «Санорус», да яе кіраўніка Аляксея Аляксандравіча Шута. Бо ў калектыве раней выконваліся яго сачыненні.

Не ведаю, колькі прайшло часу. Але аднойчы ў кабінеце Аляксея Аляксандравіча гаворка зайшла пра Ахматаву і яе трагічны, пакручасты лёс. Пра здольнасць паэта і жанчыны сілай духу і паэтычнага слова супрастаяць жорсткім рэпрэсіям і магутнай дзяржаўнай машыне. Шут згадаў, што праз год будзе адзначацца 120-гадовы юбілей вялікай паэтэсы.

— Паслухайце, у мяне даўно ляжаць творы Саўчыка, напісаныя на вершы Ахматавай... — дастае з шуфляды ёмістую папку. — Не ведаю, што з імі рабіць. Асобныя хары і рамансы ёсць, але драматургіі няма. Калі яна з’явіцца, можна зрабіць музычны спектакль, дзе галоўны герой — Ганна Андрэеўна. Падумайце! Такую пастаноўку можна нават у школах паказваць. Бо творы Ахматавай ёсць у праграме па літаратуры.

Я ўзяла папку дадому. І пачала вывучаць змест. Калі ствараецца спектакль музычны або музычна-драматычны, спачатку робіцца сцэнарый. Узнікае «шкілет», на якім потым нарастае «мяса». Але як спалучыць кавалкі, што маюць блізкае гучанне? Шмат лірыкі, шмат журбы... І што далей? Мала кантрастаў, не хапае дзеяння. Хто героі, акрамя паэтэсы? Атрымліваецца задача з многімі невядомымі.

Але ўзнік азарт. Цікава, ці здолею я драматургічна пабудаваць няпросты музычны матэрыял. Каб ён «зайграў» і зазіхацеў на сцэне. А для пачатку хоць бы трымаў глядацкую ўвагу. Некалькі кніг пра Ахматаву было ў хатняй маёй бібліятэцы. Кніг рэдкіх, якія ў любы момант у кніжнай краме не набудзеш. Біяграфію Ганны Андрэеўны і падрабязнасці яе жыцця я добра ведала. Зняла з паліцы выбранае ў двух тамах і паглыбілася ў чытанне.

Вырашыла: першая дзея адлюструе дарэвалюцыйны перыяд жыцця паэтэсы. Яе нараджэнне як творцы, складаныя адносіны з мужам, паэтам Мікалаем Гумілёвым, раман з мастаком Амедэа Мадыльяні, які разгортваўся ў Парыжы. Другая частка будзе грунтавацца на паслярэвалюцыйных падзеях. І ў цэнтры апынуцца адносіны паэта і ўлады.

Аляксей Аляксандравіч з маімі прапановамі пагадзіўся. Структуру і дэталі будучага спектакля мы неаднойчы абмяркоўвалі з дырыжорам і кампазітарам у кабінеце кіраўніка «Саноруса» на вуліцы Гікала, у памяшканні Абласной бібліятэкі імя Пушкіна. Пераканалі Саўчыка адмовіцца ад некаторых нумароў, якія не выглядалі абавязковымі і тармазілі дзеянне. Параілі дадаць новыя, больш драматычныя, часам і трагедыйныя эпізоды для другой часткі спектакля. Яны былі звязаныя з перыядам рэпрэсій, Айчыннай вайной. Адлюстроўвалі лёс усяго народа, лёс самой Ахматавай і яе сына, Льва Гумілёва, у далейшым аднаго з буйнейшых расійскіх вучоных. Кампазітар пагадзіўся, новыя фрагменты пісаў з энтузіязмам і творчым імпэтам.

Калі агульная структура пачала набываць стройнасць і дынаміку, засталося паміж музычнымі нумарамі дадаць тэксты Вядучага. Яны ўспрымаліся як каментарый сучаснага чалавека да падзей біяграфіі і лёсу паэтэсы. Ролю Ганны Андрэеўны павінна выконваць Таццяна Пятрова, вядучая салістка «Саноруса».

Амаль усё лета кампазітар займаўся аркестроўкай музычнага матэрыялу, які пакуль існаваў у клавіры. Восенню пачаліся рэпетыцыі, калі часткі спектакля — аркестр, хор, сольныя фрагменты пачалі яднацца ў адно цэлае. У якасці рэжысёра Аляксей Аляксандравіч запрасіў Ягора Лёгкага. Былі прадуманы мізансцэны, святло, касцюмы, візуальны шэраг. Над сцэнай у паветры луналі партрэты Ганны Андрэеўны, зробленыя мастакамі ў розныя перыяды яе жыцця. У тым ліку партрэт Мадыяльні, напісаны ў Парыжы, які няспыннай лініяй віртуозна абмалёўваў фігуру.

Напярэдадні прэм’еры хваляванняў хапала. У якасці пляцоўкі для паказу быў абраны Палац прафсаюзаў. Пасля капітальнага рамонту ён набыў прэзентабельны выгляд. Музычнае жыццё сталіцы восенню, пасля летняга зацішша, насычанае. Таму існуе небяспека, што нягледзячы на арыгінальную назву спектакля, сур’ёзную рэкламу, глядач не збярэцца.

Аднак атрымалася наадварот! Зала аказалася паўнюткая. Думаю, найперш прывабіла імя вялікай паэтэсы, чыя спадчына з кожным дзесяцігоддзем набывае ўсё большую паэтычную і культурную каштоўнасць. Выявіўся інтарэс да яркіх прадстаўнікоў «сярэбранага веку». Нарэшце паўплывала цікавасць музычнай грамадскасці, які ж спектакль атрымаўся ў кампазітара і капэлы «Санорус».

Публіка слухала ўважліва. У зале сабралася шмат кампазітараў, музыкантаў, журналістаў. Напрыканцы слухачы авацыяй віталі аркестр, хор, салістку і дырыжора. Хвалюючы момант! Ён пераконваў, што інтуітыўна мы абралі правільны шлях. Шкада толькі, што паказ музычна-драматычнага спектакля пад назвай «Споведзь кахання» так і застаўся адзіным.

## Сілуэты Венецыі

...Мы з Алінай едзем у таксі. Ад вуліцы Матусевіча, дзе толькі што адбылася рэпетыцыя з хорам оперы, у бок мікрараёна Сухарава, дзе яна жыве. Таксі, вядома, — раскоша, але трэба завезці клавішы на кватэру кампазітара. Іначай, як з дапамогай таксі, не атрымаецца, яны нікуды больш не змесцяцца.

Абедзве мы ўзбуджаныя толькі што пачутым вынікам, галасамі хору, якія працягваюць гучаць у свядомасці. Таму эмоцыі льюцца праз край. Змоўкнуць і супакоіцца пакуль абсалютна немагчыма! Не памятаю, хто з нас першы выказаў думку, што музычныя сцэна «На прыступках Калізея» павінна мець працяг і зрабіцца часткай большага цыкла.

— Якія ў ім могуць быць часткі? — спытала Аліна.

— Думаю, там абавязкова павінна быць Венецыя, — заўважыла я. — Бо «Калізей» дастаткова трагічны. Слухача ўражвае кантраст...

— І штосьці яшчэ, — дадала кампазітар. — Тры часткі — лепшы варыянт.

Вырашылі, апошняя частка павінна так ці іначай быць звязанай з Рымам. Мы абедзве бачылі Венецыю і Рым, але ў розны час. Асабістыя ўражанні важныя, без іх нічога не атрымаецца. Але якім павінен быць тэкст, які задаволіў бы кампазітара і мяне саму?

Пераказваць уласныя ўражанні? Смешна. Іх шмат. Даты і назвы не пяюцца. Ідэальна — увасобіць вобраз горада. Але Венецыя такая зменлівая, у яе столькі абліччаў, як іх спалучыць у штосьці цэласнае? Венецыянскі карнавал? Магчыма. Ужо бліжэй...

Пачала корпацца ў кнігах і альбомах. У адной з энцыклапедый, трапіўся цікавы артыкул, прысвечаны карнавалам увогуле. Дадзена лацінская назва з'явы, «Carrus navalis» і беларускі пераклад — «пацешлівая калясніца».

Вобраз кола ўвесь час прысутнічае ў беларускіх масавых святочных дзеях. Купалле — вянок, сплецены з кветак; кола коціцца з гары. Танцавальны карагод таксама рухаецца па коле. А Каляды, з іх тэатральнымі прадстаўленнямі, маскамі і пераапрананнямі — хіба не карнавал? Масленічны блін — зноў-такі круглы. Так узнік вобраз ўсеагульнага свята, карнавала, які ахоплівае не адну Венецыю. Бо кожнае народнае свята — карнавал, толькі сялянскі. Ура! Вобраз знойдзены...

Словы «Carrus navalis — пацешлівая калясніца» ўявіліся нізкімі мужчынскімі галасамі, што гучаць змрочна і, магчыма, злевесна. Бо венецыянскія маскі розныя. Не толькі прыгожыя, радасна-святочныя, але страшнаватыя, жудасныя, фантасмагарычныя. Далей пайшло лягчэй. Падалося, напачатку хор павінен спяваць таямніча і загадкава:

Фантом... Ілюзія... Міраж...
Венецыя збірае карнавал…
З усіх краін,
з усіх часоў,
з усіх вякоў…

У музычнай сцэне хацелася адлюстраваць няспынную плынь удзельнікаў карнавалу, тых, хто весяліцца. А калі прапанаваць так?

Па вуліцах і плошчах і палацах
Ляціць, грыміць віхурай нестрыманай
Імклівы, маляўнічы і стракаты
Венецыянскі карнавал.

Кампазітару спадабалася, і радкі пайшлі ў работу. А калі дадаць для смеху ці, як кажа моладзь, для «прыколу», размоўныя фрагменты? Яны належаць знакамітым наведвальнікам Венецыі (Атэла, Дэздэмона, граф Каліостра). Рэплікі будуць існаваць не для спеваў, агаворкі ці рэчытатыву. Усё роўна кампазітар іх скароціць! Дык хоць я атрымаю задавальненне... Але, як ні дзіўна, кампазітар тыя дыялогі пакінула. І выканаўцы кожны раз узнаўляюць іх з відавочным задавальненнем. У рэшце рэшт «Міражы Венецыі» сталіся ўсяго чатырма старонкамі рытмізаванага тэксту.

Раней я ведала, што пэўны настрой верша ў музыцы можа трансфамавацца амаль у супрацьлеглы. Але каб да такой ступені?! Калі Аліна працавала над «Міражамі», спатрэбіўся дуэт. Я знайшла ў сваім архіве верш, які называўся «Туманы Венецыі». Зрабіла новы варыянт і даслала кампазітару па электроннай пошце. Некалі верш быў напісаны ў стане скрухі і адчаю. Кампазітар апусціла некаторыя радкі, а ў выніку — дзякуючы музычнаму рашэнню і перазовам галасоў — нумар ператварыўся... у рамантычную баркаролу, хвалюючы любоўны дуэт. Скажыце, такія рэчы можна ўсвядоміць?!

Нарэшце «Міражы» скончаны. Яны былі напісаныя для хору, двух салістаў — сапрана і тэнару, ударных і фартэпіяна. Калі Аліна Іванаўна ўпершыню сыграла твор на рэпетыцыі ў вялікай зале філармоніі, дык, пачуўшы першы фартэпіянны пройгрыш, я зразумела, што атрымаўся шлягер, які будзе надзвычай запатрабаваны. Сапраўды, разгорнутых музычных сцэн з элементамі тэатралізацыі, сачыненняў маляўнічых і жыццярадасных, што ўвасабляюць карнавальныя эмоцыі, да крыўднага мала. І харавыя калектывы, і шматлікія слухачы хочуць падсілкавацца зіхатлівай радасцю, калі яна прысутнічае ў музыцы.

Калі прэм’ера адбылася, пасля яе да кампазітара падышла Вера Дабравольская, кіраўнік хору «Ветрык». І папрасіла, каб аўтар зрабіла новы варыянт сачынення, улічыўшы магчымасці юных выканаўцаў. Кампазітар сапраўды сёе-тое перагледзела, зняла дуэт закаханых (рана яшчэ дзецям, няхай падгадуюцца!). У выніку «Ветрык» выконваў «Міражы Венецыі» на безлічы фестываляў — у Беларусі, Расіі, Латвіі, Балгарыі.

Аднойчы Вера Іванаўна жартам паскардзілася нам з Алінай: — Я ўжо не магу гэтую сцэну выконваць... Мы столькі яе вазілі, столькі спявалі на розных пляцоўках! Мне хочацца іншых твораў! А мае артысткі патрабуюць зноў спяваць «Міражы»...

## «Шляхі ўсе вядуць у Рым...»

Але я забегла наперад. З «Міражамі» мы разабраліся. А вось тэкст, які павінен быў адлюстраваць вобраз Рыма, вечнага горада, аказаўся суцэльнай пакутай. Так я не мучылася ніколі!

Зразумела, ніякай рыфмы, яна будзе толькі перашкаджаць. Першы варыянт. Другі, трэці... Усё — міма, усё — не тое! Праўда, пачатак ёсць:

Шляхі усе вядуць у Рым,
Пачуцці ўсе вядуць у Рым,
Памкненні ўсе вядуць у Рым,
Успаміны ўсе вядуць у Рым!

Падобны тэкст можа моцна прагучаць у спевах, але ж яго мала!

Тым летам ішлі бясконцыя размовы па тэлефоне. І менавіта з нагоды будучага «Вечнага горада». Кампазітар:

— Мне хочацца мець тэкст такога ж узроўню, як «Калізей»!

— Аліна, але той верш быў гатовы! Вы знайшлі яго ў зборніку. Я не азіралася і не думала, каму і для чаго ён спатрэбіцца. Як хацела, так і напісала...

— І тут, як хочаце, так і напішыце...

Усё так, але на псіхіку ціснула адказнасць. Усведамленне, што павінна атрымацца не горш, чым «Калізей», а мо і лепей. Не атрымліваецца — і раздражняе пачуццё ўласнага бяссілля. Уражанне, што павінен стрэліць з артылерыйскага снарада, прычым, на вялікую адлегласць — і трапіць у цэль. Але механізма, які б дазваляў убачыць, куды страляеш, папярэднім разам трапіў блізка ці далёка ад мэты, — яго няма! Усё — усляпую! Пяты варыянт, шосты... Зноў міма!

Калі ідзе праца над будучым сумесным творам, яна — як... працэс цяжарнасці. Чакання дзіцяці. Працэс таямнічы, мала прадказальны. Дзіця расце, развіваецца, але пакуль не бачыш, якое яно. Працэсам нараджэння зробіцца прэм’ера. Да яе далёка. А калі наогул нічога не атрымаецца?!

Падчас пошукаў патрэбнага вобраза спатрэбілася мноства кніг. Плутарх, гісторыя антычнасці, альбомы з жывапісам эпохі Адраджэння. Галоўнае пытанне: як спалучыць Рым антычны, часоў Калігулы і Нерона, з сучасным абліччам горада? А бязлітасную барацьбу язычнікаў супраць першых хрысціян — з тымі глыбока хвалюючымі сцэнамі малітвы вернікаў, якія бачыла на свае вочы ў саборы Святога Пятра?

У стане эмацыйнай прыгнечанасці паглыбілася ў гістарычны раман класіка польскай літаратуры Генрыка Сянкевіча «Куды ідзеш?» («Quo vadis»). Ён прысвечаны той эпосе і тым падзеям. Менавіта там, на адной са старонак рамана, знайшла вобраз, які ў нашай музычнай сцэне потым зрабіўся ключавым. Калі на арэне цырка стаялі крыжы. І на крыжах, прыбітыя цвікамі, марудна, у пакутах паміралі першыя хрысціяне, якія не маглі адмовіцца ад сваёй веры і перакананняў. Сабор Святога Пятра, адзін з самы велічных храмаў свету, узнік на месцы пахавання аднаго з укрыжаваных апосталаў. Мімаволі думаеш: мо гэты храм таму моцна ўздзейнічае на пачуцці чалавека, што пабудаваны на крыві?

Калі музычная сцэна была напісана і мы дачакаліся прэм’еры, Алег Кавалеўскі, саліст хору Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, стоячы за кулісамі і чакаючы свайго выхаду, заўважыў:

— Ну і тэксты ў вас…

Калі спявак праз хвіліну павінен выйсці на сцэну, дык не будзеш пачынаць дыскусіі і ўдакладняць, чаго болей у яго словах — прызнання экспрэсіўнасці верша, ціхага абурэння ці ўнутранай нязгоды. Хоць зразумела, кожнаму артысту нялёгка спяваць або дэкламаваць тэксты, у якіх паўстаюць карціны суровыя, у нечым жорсткія. Але гэта значыць, што задачу, якую акрэслівала кампазітар, я ўсё-такі выканала.

Зыходны тэкст павінен быў атрымацца шматпланавы. Потым кампазітару трэба знайсці ў ім фрагменты, якія будзе выконваць хор, і тыя, дзе спявае саліст. Прадумаць спалучэнне харавой тканіны з інструментальнай. У «Вечным горадзе» ўзаемадзеянне фартэпіяна, ударных і аргана аказалася складаным і віртуозным. Але ж і кампазітару цікава працаваць над жанрамі, дзе ёсць магчымасць эксперыментаваць, спалучаць нечаканыя музычныя фарбы і тэмбры. Дагэтуль памятаю: калі пасля ўступу загучалі званы ўдарных, узнікала трывалае ўражанне, нібы гартаюцца старонкі летапісу, і мы імкліва перамяшчаемся ў іншую прастору, іншую, менавіта антычную, эпоху.

Калі праца над «Міражамі Венецыі» і «Вечным горадам» была скончана, ноты кампазітарам набраныя, партыі хору, салістаў, асобных інструментаў раздрукавыя, мы з Алінай зноў-такі пачалі думаць: каму аддаць? З чатырох музычных сцэн, якія павінны прагучаць на вечарыне, дзве — «Калізей» і «Гімн сонцу» — ужо выконваў хор Опернага тэатра. Калі яны возьмуцца, дык вучыць давядзецца мала.

Але высветлілася, што на гэты калектыў разлічваць не варта. У будынку тэатра завяршаліся капітальны рамонт і рэканструкцыя, чакаліся змены ў кіраўніцтве, хадзілі размовы пра аб’яднанне оперы і балета. У дадатак увесь тэатр заклапочаны тым, каб хутчэй абжыць новыя памяшканні, унікальнае абсталяванне сцэны і пачаць паказваць спектаклі на ўласнай тэрыторыі. Зразумела, ім не да нашых праектаў.

Тады выправіліся ў Акадэмічны хор тэлерадыёкампаніі, які да таго праспяваў шмат сачыненняў спадарыні Безенсон. Было відавочна, што Вользе Янум, дырыжору, якая тады з’яўлялася мастацкім кіраўніком калектыву, ідэя спадабалася. І што хор хутчэй за ўсё будзе ўдзельнічаць у нашым праекце. Але маёй прапановай, каб салісты былі з Опернага, яна амаль абурылася:

— А чаму — яны? Хіба ў нас сваіх няма?!

Як я не здагадалася?! Меркаванне Вольгі Янум было слушным, бо кожны кіраўнік павінен «прасоўваць» сваіх лепшых артыстаў, а не чужых. Проста салістаў хору радыё я ведала на той час мала. Але рашэнне дырыжора ацаніла пазней, падчас канцэрта, бо Алег Кавалеўскі, Вольга Рузіна, Аксана Рагоўская, Святлана Даражок выконвалі свае партыі прафесійна і з вялікай эмацыйнай аддачай.

Аліна аддала дырыжору музычныя сцэны, над якімі так доўга працавала. А я далучыла яшчэ адзін твор. Музычная фрэска называлася «Егіпет. Клеапатра» і была напісаны Аленай Атрашкевіч. Яна займалася гэтым сачыненнем доўга — сумнявалася, адкладвала, вярталася да яго. Бо імкнулася перадаць у спевах салісткі і рэпліках хору адчуванне гарачага паветра, якое бруіцца над палацам Клеапатры. Пачуцці жанчыны неверагоднай прыгажосці, чыё каханне потым зрабіліся міфам. Яе прадчуванне мяжы рэальнага жыцця і небыцця. На мой погляд, фінал сачынення атрымаўся нечаканым. Амаль геніяльным... Гэта шэпт хору — «ш-ш-ш», які перадае рух змейкі па гарачым пяску. Той, якая паставіла кропку ў зямным жыцці легендарнай царыцы.

Паколькі музычнага матэрыялу аказалася багата, Вольга Янум пакінула сабе для дырыжыравання два сачыненні — «Клеапатру» і фінальны «Гімн сонцу», а іншыя сцэны размеркавала паміж дырыжорамі калектыву. Над «Вечным горадам» і «Калізеем» працаваў Андрэй Саўрыцкі, над «Міражамі» — Андрэй Кунцэвіч. На рэпетыцыях, як заўсёды, кампазітары, дырыжоры, салісты ўдакладнялі штрыхі, тэмпы, вакальныя фарбы, узаемадачыненні розных інструментаў.

Праект пад назвай «Я вандрую ў стагоддзях» быў паказаны ў філармоніі ў лютым 2009 года. У вырашэнні фінансавых пытанняў (а без іх ніяк не абыдзешся!) вельмі дапамагла стыпендыя Міністэрства культуры. Без яе, магчыма, нічога б і не адбылося. У першай дзеі на сцэне ўладарыў Дзяржаўны камерны хор, які прадстаўляў сачыненні розных аўтараў, на пачатку другой — аркестр харэаграфічнага ансамбля «Харошкі», які прэзентаваў опус кампазітара Марыны Марозавай. Далей — Акадэмічны хор тэлерадыёкампаніі. Напружанне і маштаб музычных сачыненняў паступова ўзрасталі.

Сядзіш у вялікай зале філармоніі, слухаеш, хвалюешся і ўвесь час табой валодае дзіўнае пачуццё. Няўжо да гэтых прафесіяналаў (у вышэйшай ступені), якія ўладараць на сцэне, ты маеш непасрэднае дачыненне? Няўжо нейкім чынам, хоць ускосна паспрыяў таму, што велічныя, магутныя музычныя карціны паўсталі перад сцішанай глядзельнай залай? Няхай на працягу дзвюх гадзін, але паўсталі...

## Пасля «Вандраванняў»

Праект завяршыўся, але ягонае рэха мы адчувалі яшчэ доўга. Беларускае радыё зрабіла запіс вечарыны, потым у эфіры канала «Культура» прайшла трансляцыя — найперш дзякуючы прафесійнасці кампазітара і гукарэжысёра Віктара Кісценя. Шмат увагі надалі падзеі прэса і тэлеканалы.

Падрыхтоўка той вечарыны і асабліва праца над «Вечным горадам» запатрабавалі столькі душэўных сіл, што потым я доўга не магла нічога пісаць. Што ні зробіш, відавочна: атрымліваецца горш і слабей. «Вечны горад» трымаў і далей, эмацыйна і псіхалагічна. Паглядзела відэаверсію. Два разы, тры... Бо хацелася вярнуцца ў залу і перажыць наноў тыя ж эмоцыі.

У пэўны момант усвядоміла, што і кампазітарам трэба адпачыць, і мне. Або пераключыцца, хоць бы часова, на іншыя жанры і клопаты. Дык што, кропка ці коска?.. Не, хутчэй шматкроп’е, паўза. Жаданне падумаць, прааналізаваць зробленае, неўпрыкмет, паступова назбіраць новыя ўражанні.

## Як знайсці агульную мову?

Аднойчы размаўлялі з Таццянай Герасімаўнай Мдывані, доктарам мастацтвазнаўства, вядомым вучоным, якая ўсё жыццё займаецца даследаваннем музыкі ўвогуле і твораў айчынных кампазітараў у прыватнасці. Гаворка зайшла пра супрацоўніцтва аўтара вершаў і кампазітара. Яна спытала:

— Раскажыце, як з усімі імі вы знаходзіце агульную мову?

Адказаць усур’ёз на такое складанае пытанне немагчыма, таму палічыла, што гумарыстычны варыянт будзе самым дыпламатычным.

— Галоўнае, ніколі не пераказваць аднаму кампазітару, што думаюць пра ягоную творчасць іншыя. І тады ўсё будзе цудоўна!

Жарты жартамі, але адна мастацкая сістэма каардынат досыць часта катэгарычна і прынцыпова адмаўляе іншую.

У якасці прыкладу — таксама гумарыстычная сітуацыя, якая адлюстроўвае адносіны ўнутры кампазітарскай грамады. На афішы творчай вечарыны надрукаваны пералік прозвішчаў кампазітараў, чые сачыненні прагучаць. Тэлефануе адзін з шаноўных аўтараў. І ледзь стрымлівае ўласныя эмоцыі:

— Таня, як ты магла паставіць на афішы маё прозвішча пасля прозвішча імярэк?! Яго са студэнцкіх гадоў ніхто ўсур’ёз не ўспрымае… Усё жыццё песенькі піша!

Што ў такім выпадку можна адказаць?

— Разумееце, прозвішчы на афішы ідуць па алфавіце. Якое прозвішча мама з татам далі, такая паслядоўнасць і атрымалася!

На адлегласці адчуваю, што субяседнік паспакайнеў. Бо аргумент пераконвае.

— Ну, добра. Тады зразумеў…

Аб'ектыўную ацэнку мастацкага выніку можа даць музыказнаўца. І пажадана, калі ён не знаходзіцца ўнутры структуры і тусоўкі. Здараецца, аўтару, паглыбленаму ў сачыненне маштабнага опуса, не надта цікава, што і як піша калега. Ёсць творцы, якія ходзяць на ўсе прэм'еры (як напрыклад, Сяргей Картэс або Аліна Безенсон), а ёсць тыя, хто прынцыпова там не з'яўляецца. У рэшце рэшт не так важна, як ставяцца адзін да аднаго кампазітары, з якімі я супрацоўнічаю. Важней, што мы можам зрабіць разам з кожным з іх.

Магчыма, паміж тэкстамі-вершамі, якія выпадкова ці заканамерна сабіраюцца на пісьмовым стале (ці на фартэпіяна) аднаго кампазітара, ідзе негалоснае спаборніцтва. Калі кампазітар шукае музычную тэму або гукавое ўвасабленне радка, ён свядома ці падсвядома параўноўвае глыбіню і ёмістасць верша, закончанасць формы. Верш падказвае і вызначнае — тэму, вобразы, тэмп, рытм. Але шмат залежыць і ад аўтара музыкі. Слова можна ўзняць (глыбінёй музычнай інтэрпрэтацыі), але можна і апусціць — банальнасцю ці павярхоўнасцю падыходу.

У пэўны момант я прыйшла да высновы: кампазітара не трэба прыспешваць, тузаць, чакаць хуткага выніку. Лепей спакойна і памяркоўна ставіцца да таго, ці атрымалася эмацыйна супасці з аўтарам музыкі на пэўны час. Каб узнік новы твор, павінна з'яднацца шмат прычын. Але калі не ўзнікае, прычын супадае не менш (занятасць іншым праектам, інтарэс да іншых жанраў, банальнае жаданне перавесці дух пасля працы ў вялікіх формах).

Глыбока паважаю і люблю ўсіх сваіх кампазітараў. І тых, з кім разам напісана шмат, як з Аленай Атрашкевіч, Алінай Безенсон, Марынай Марозавай. І тых, з кім напісаны хоць бы некалькі твораў, а далей кожны з нас пайшоў сваёй сцежкай. Таму ўдзячна кожнаму. Усяго болей за 220 сачыненняў. Хіба мала?..

Не перабольшваю ўласных дасягненняў. Бо глыбока перакананая: поспех музычнага твора на дзве траціны залежыць ад таленту кампазітара. І ўсё ж класны твор немагчыма стварыць на прахадны, «ніякі» тэкст.

Вялікае шчасце для аўтара, калі яго слова гучыць. У лепшых залах, на міжнародных фестывалях, па радыё. Знаходзіць увасабленне ў нотах рамансаў, песень, хароў. Вялікае шчасце пачуць музыку, самае высокае і магутнае з усіх мастацтваў, якая нарадзілася дзякуючы і тваім радкам.

## Аліна ЛЕГАСТАЕВА



* * *

Дзе жыве шчаслівая паэтка?
Муза, падкажы каардынаты.
Палячу на лёгкіх крылах лета
Да яе — ў ружовым садзе — хаты.

Распытаю: «Ў чым ты мела шчасце —
У каханні, працы, альбо дзецях?
І якое нажыла багацце
Тут, у прагным, ачарсцвелым свеце?»

Мой намер падслухаў вольны вецер
І шапнуў — таму нябёсы сведкі:
«Не шукай — бо зваблівая квецень
Не заўсёды шчасце для паэткі.

Жыў я на Алімпе і Парнасе,
Знаў багоў і муз адначасова,
Зразумеў, што для паэта шчасце —
Толькі з сэрца вынятае слова!»

---

*__Легастаева Аліна Антонаўна__ нарадзілася 27 ліпеня 1941 года ў вёсцы Верацеі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла хіміка-біялагічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава (1965). Працавала настаўніцай у сярэдняй школе ў Ашмянах, выхавальніцай у дзіцячым садзе ў Вільнюсе, інжынерам-эканамістам на будаўніцтве БАМа, зноў настаўнічала ў Вільнюсе. У 1992 годзе вярнулася ў Беларусь. Працавала ў сярэдняй школе ў вёсцы Швабы Лагойскага раёна.*

*Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар паэтычных кніг «Яшчэ да Евы я жыла» (1998), «На вертикали сердца» (1999), «Кветак позніх святло» (2006), «Яблочный Спас» (2008), «Поле жизни моей» (2011), «Когда-нибудь» (2012).*

* * *

Вечар, як анёлак,
У сусалі срэбнай.
Сіняй мацыёлай
Зацвітае неба.

А над ціхім садам
Маладзік-дзіцятка.
А пад дахам хата
І жыцця загадка.

* * *

Пары юнацкай далячынь,
Ты пазаві мяне ўначы
У сон празрысты, як крышталь,
На развітальны школьны баль.
І ў лёгкім танцы закружы,
Закалышы, завараж̌ы,
Каб засмучоная душа
Адчула зноў кахання жар.
Каб толькі я... Каб толькі ты…
І вальса венскага матыў,
І шэпт доўгачаканых слоў,
І каб усё жыццё — наноў!

* * *

А я была тваёй,
Хоць ты аб тым не ведаў…
І небам, і зямлёй,
І зоркай, і Сусветам.
Была тваёй душой,
Тваім з другой раманам,
Жанчынаю чужой,
Што верыла падманам.
Я і сама падман,
Які каханнем зваўся.
Закончыўся раман,
Таму, што не пачаўся…

* * *

Ад былога кахання —
Толькі зоркі святло.
Нават боль ад расстання

Сціх у сэрцы даўно.
Мроі вецер развеяў,
Як іглiцу ў бары.
Не збылася надзея,
Але ж зорка гарыць…

* * *

Гадоў згусціўся прыцем золкі
Мацней ад восеньскай тугі.
З асенняй хмаркі вецер гонкі
На скроні высыпаў снягі.

І кожны снежань каляндарны
Бялейшай фарбы дадае.
Маршчыны ўсё глыбей на твары,
Ад крокаў сэрца адстае.

Але іду — плячэй не горблю —
Праз радасць, боль і перасуд.
І слова чыстае, як кроплю,
На споведзь да людзей нясу.

* * *

Дзень дагараў, падобны белай драме
Звычайнага жыццёвага сюжэта…
А восень з лістападам на спатканне
Ішла праз дымнасць бабінага лета.
Каханнем забывалася кароткім —
Здараецца такое нават з намі —
І доўга, доўга, як жанчына, потым
Яго аплаквала дажджлівымі начамі.

* * *

Лагойскія мясціны:
Лугі, палі, лагчыны,
Зубчастыя лясы.
Знаёмыя куточкі —
Азёр блакітных вочкі,
Пагоркаў перасып.
Шляхоў раскрыжаванне —
Сустрэча і расстанне,
Як сувязь і разрыў.
Ад берагоў чаротных
Мой човен незваротна

Адчаліў і паплыў.
Праз зімы і праз вёсны
Кіруюць лёсу вёслы,
Рака жыцця цячэ.
А ў памяці крыніца
Зіхотка так бруіцца,
І чым далей — ярчэй…

* * *

Распалю пліту
Пад вячэрні зацем.
Заначую тут,
У настылай хаце.

Хваляй набягуць
Думы-прыпаміны,
Ды майму пяру
Моўчкі слоў падкінуць.

Дзесь ідзе сяўба,
Бо вясна прыспела.
А мая журба
Следам прыляцела.

Пырхае ў акне,
Шчэціцца з куткоў.
А хаціна мне:
«Прыязджай ізноў».

Хоць жыццё — палын,
Пахваліцца нечым, —
Даўні боль стары
Дух жывы падлечыць.



Уладзімір ЛІПСКІ

# АПАВЯДАННІ

## Чуй

— Алі ж смачна п'ецца, — Мікола шлэпнуў на стол апарожненую шклянку, ухапіў маласольны гурок з місы, захрумстаў, аж вушы заёрзаліся.

— Чуй, сам зладзіў, — пахваліўся Ладзік.

— Магёш!.. — Мікола пацягнуўся рукой да слоіка з сівым напоем, плюхнуў у сваю пасудзіну свежую порцыю, сказаў каронны тост: — За тваіх дзевак, Ладзік! Хай ім добра ікнецца!..

Ладзік лізануў языком губы, як кот смятанку, вочы заблішчалі, гыгыкнуў:

— Хай жывуць здаровы-каровы.

— Чаго плявузгаеш на пракрасны пол?

— А што, чуй, з імі чыкацца? — Ладзік лыкнуў хлебнай, а следам і Мікола апустошыў поўную гранёнку.

— Алі ж і коціцца ў гарляк… От смачна п'ецца… — Пячнік яшчэ раз пахваліў гасціннага Ладзіка і запытаў: — Як гэта табе ўдалося столькі дзевак начырыкаць?..

— Як!?. — здзівіўся Ладзік, нахіліўся да Міколавага вуха і таямніча прызнаўся: — Чуй, я — Казанова!.. Паняў?..

— Не-а, — ікнуў Мікола, сербануў расолу і пачаў шавяліць глуздамі. — Хм, Каза-нова?.. Ты што, каза новая?.. Ды якая ж ты каза?.. Ты добры казёл!

---

*__Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч__ нарадзіўся 6 мая 1940 года ў вёсцы Шоўкавічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці (1960) і завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ (1966). Працаваў на Гарадзейскім цукровым заводзе, у рэдакцыі нясвіжскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», у апараце ЦК ЛКСМБ, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. З 1978 года — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». Старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду.*

*Аўтар кніг прозы: «Аўцюкоўцы» (1995), «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод» (1998), «Мама. Малітва сына» (1999), «Каралева белых прынцэс» (2000), «Бацька» (2004), «Мы» (2006), «Янкаў вянок» (2009) і інш.*

*Лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і імя Аляксандра Грына, Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001).*

Мікола зарагатаў. А Ладзік і не думаў у гневе закапыльваць губы. Самагонка расперазала яму язык.

— Ну, калі так засвярбела ведаць, дак чуй ды на вус матай.

Мікола перастаў жаваць, утаропіўся на Ладзіка шклянымі вачыма…

* * *

Ладзіка ў Вужнашы называлі Чуем. Гэту мянушку, лічы, ён сам прышчапіў да сябе. Дзе да месца, а часцей неўпапад, ён жаваў, як жвачку, слова «чуй». Праз гэта аднойчы здарылася нават бойка мясцовага значэння.

На Сёмуху ў кожную хату завіталі госці: хто з блізкіх карчоў, хто з далёкіх гнёздаў. Напрылётвалі да сваякоў хто на конях, хто на веласіпедах, хто на шыкоўных машынах. А як выпілі ды наеліся, — вывалілі на вуліцу. Усе вужнашцы ўраз сталі аднакія госці, падобныя на кагосьці. Адны кудахталі, што куры, другія іржалі, як коні, трэція рохкалі, бы свінні. А большасць мовіліся, чырыкалі, нібыта вераб'і на жытнёвай ніве.

І сярод гэтай грамады аб'явіўся Ладзік. Яму на прыезджую навалач — начхаць. Усе для яго роўныя, пабудуць і змыюцца. А ён тут карэнны жыхар, як корань хрэна, колькі не выдзірай — жыве!

— Чуй, — прыстаў Ладзік да гарадскога госця, — навошта замест нармальнага пуза гарбуз носіш?

— А ў цябе вунь спіна белая, — хацеў аджартавацца дзядзька.

Але Ладзік ужо завёўся, як трактар на салярцы: тарахцеў, фыркаў, ляскатаў.

— Чуй, ты на вус матай, мы, вужнашцы, — завугольнікі. Любога, чуй, за вугал заманім і адмянташым.

Прозвішча таго «гарбуза» было Чуеў. Рабіў у нейкай важнай канторы, і гэтым важнічаў. Няўлюбкі яму сталася, што вясковец так фамільярна, з наскоку, ні з таго ні з сяго, пачаў псаваць яму Сёмуху. Ды яшчэ і прозвішча нахабна перакруціў: не Чуеў, а Чуй.

Гарадскі штурхнуў сельскага:

— Чухай сваёй дарогай.

— Чуй, дак ты шчэ й баран барадаты.

— Я барадаты?

— Чуй, да ты шчэ й валасаты!..

Тут усё і ўсчалося, нібыта ў абліты газай касцёр кінулі запалку. Ладзік сашчапіўся з Чуевым. За Ладзіка заступіўся Сяргунь, па выпіўцы — Братунь. За Чуева — яго цесць крывы Ахрэм. Так і атрымалася завіруха на ўсю Вужнаш. Хто біўся, хто проста назіраў, а ўсім нечага перапала: каму кухталя ў нос, а каму падперчаных слоў.

З той бойкі мясцовага значэння Ладзік набыў новую мянушку — Певень. За гэта ён не крыўдаваў. Нават ганарыўся, бо даўно адчуваў сябе султанам у пер'ях над усімі вужнашскімі курамі.

* * *

Пакуль Ладзік круціў глуздамі, пра якую залётку раскалоцца, Мікола яшчэ раз напоўніў сваю чарчыну, апетытна сербануў:

— От смачная!.. Алі ж сама коціцца ў вантробы…

— Чуй, мо даволі ўжо каўтаць? — Ладзік як бы ачнуўся ад успамінаў,

нахінуўся да суседа, сцішыў голас і пачаў споведзь. — Першую маю зазнобку звалі Людкай.

— Што за могілкамі жыла?

— Ага, цяпер, чуй, яна ўжо на могілках спачывае.

— Шкада, — уздыхнуў Мікола, хацеў памянуць нябогу новым глытком сёрбалкі, але Ладзік сама расчуліўся.

— Яна, чуй, мо б паэткай стала. Усё прасіла, каб на зоры пазіраў, каб кветкі нюхаў, каб салаўя слухаў…

— А ты што?

— А мне, чуй, хацелася ведаць, што ў яе схавана за белай кофтачкай.

— Уведаў?

— Ага, чуй, Людка — старай закваскі дзеўка. Не тое, як цяперакавыя, чуй, самі ўсё пакажуць. А я тады за сваю цікаўнасць па вушах ад Людкі атрымліваў.

— Няўжо толькі па вушах давала? — ікнуў Мікола.

— Чуй і помні, вужнашскія дзеўкі мелі гонар і ўмелі яго шанаваць. Яна адшыла мяне, як у народнай песні: «А той першы, дрэнна піша вершы. Ой, не аддай мяне, мацъ!..»

Ладзік падхапіўся з лавы, борздзенька падбег да сцяны з дзявоцкімі фоткамі. Яны доўгім шлейфам цягнуліся ад іконкі і да выходных дзвярэй святліцы. Прымайстраваны да шпалераў рознымі прыёмамі: скотчам, кнопкамі, цвікамі, клеем. Фотакарткі розных памераў, аматарскія і студыйныя, чорна-белыя і каляровыя. На ўсіх — аўтографы Ладзікавых мух і адбіткі яго пальцаў.

Пачыналася гэта фотавыстава Людкай. Гладказачасаныя, смалістыя валасы. Вочы — зоры начныя, зіхатлівыя. Усмешка сарамлівая, як бы вініцца перад Ладзікам за сваю строгасць.

— Чуй, Мікола, мая першая Людка — глухі юнацкі сон, але ён самы ўчэпісты.

— Давай памянём — Мікола ўжо стаяў каля Ладзіка з дзвюма гранёнымі шклянкамі…

* * *

Параска, Ладзікава маці, з тых бядовых баб, якіх у Вужнашы называлі «гарушчая». А яна да таго ж і святая праведніца. Неба над сабой не бачыла. Ад рання да змяркання адна таўкатня — дзеці, печ, хлеў, агарод, калгаснае поле. Толькі й спачыну, калі занядужвала. Крыху выпадала паляжаць, падумаць. Ды даўкія думы рабіліся горшымі за ўсе балячкі.

Муж вярнуўся з ліхалеткі, так называў вайну, зраненым, кантужаным, нямоглым. Адно, дзякуй, засыпаў хату дзецьмі: Іван, Пятро, Ларыса, Ладзік. Толькі малеча пачала аперавацца, на табе, франтавіка дагналі і замучылі незагойныя раны. Што ўжо галасіла Параска:

— А чаму ж ты, Ігнатка, пакінуў дзетак?.. А ці спраўлюся з імі?.. А што ж так рана ўклаўся ў халодную пасцельку?..

Раней умелі адпяваць згубу. Цяпер плачуць усё болей сухімі вычыма. А словы душэўныя як бы пагублялі. Толькі і пачуеш: «Бывай… Доўга чакай…»

Параска па Ігнату так нараўлася, што сама ледзь Богу душу не аддала. Але ж акрыяла, сабрала дзятву і дала наказ:

— Мае любенькія, хаця вучыцеся. Усё сцярплю, каб толькі не галадалі, каб голымі не хадзілі. Заклінаю — людзьмі парабіцеся!..

Парасчыну просьбу ўважылі ўсе.

Іван пасля школы паступіў у педінстытут. Зачапіўся ў сталіцы. Стаў прызнаным педагогам.

Пятро ўзняўся да аўтамеханіка.

Ларыса ўдала выйшла замуж. Стала шматдзетнай мамай і займела з мужам прасторную гарадскую кватэру.

Адно Ладзік не здрадзіў бацькоўскай хаце. Праўда, адлучаўся з дому часцяком. Бы той бычок-трацячок як толькі выскачыць з загародкі, умомонт — у чужы агарод…

* * *

Два ахмялелыя мужыкі, як маглі, памянулі нябогу Людку. І Ладзік перавёў позірк на суседнюю фотку.

— Чуй, гэта Дар'я з Заходаў. Хата яе стаяла паблізу дубняку. На раздарожжы. Дак, чуй, хто хацеў, той і заходзіў. А яна не скнарай урадзілася, усім, што мела, дзялілася…

Мікола ікнуў, а Ладзік пасмяяўся з яго:

— Чуй, твая мымра ўжо ўспамінае, дзе та мой Мікола гуляе, — Ладзік смачна рагатнуў ад сваёй жа прыдумкі. — Чуй, скажаш Надзі, што быў з Ладзікам у засадзе.

Пустая, голая хата напоўнілася грубым, п'яным рэхам. Яго адгалоскам сталася Міколава хвальба:

— От самагонка твая ўдалася. Магёш! Мо яшчэ нальёш?

А Ладзіку радасна. Мікола адрамантаваў яму печ. Не будзе дымець. Чаму б з добрым чалавекам не пагудзець.

Выпілі, хрумснулі па гурку. І гаспадар прадоўжыў экскурсію па сваёй фотагалерэі.

— О, Дар'я, чуй, мяне прыгрэла так, што ледзь у пятлю не трапіў. Бегаў да яе амаль штовечар. За пяць кіламетраў гойсаў!..

— Ну і што з таго? — як бы крыху зараўнаваў Мікола.

— Дак, чуй, адным прыцемкам ледзь не спаліў Дар'іна кубло.

— Якая муха лыганула за вуха?

— Чуй, прылятаю да яе, а хата на зашчапцы. Стукаю — цішыня, як у магіле.

— І што, не магёш ламануць?

— Чуй, аказалася, я запазніўся. Другі да яе ўскочыў… От шкадаваў, што запалкі дома забыўся…

Мікола-пячнік страціў, як і сам Чуй, цікаўнасць да паўнагрудай Дар'і, і ўжо ўзіраўся ў новую фотку. Яму ўсміхалася вельмі ж знаёмая дзяўчына. На пульхных шчоках — ямачкі-заманкі. Вочы бы вішні. Тоўстая каса. Шыя як у лябёдкі. Дзе ён сустракаў гэту кралю?..

* * *

Параска адчувала: яе жыццёвыя сокі топяцца, як масла на гарачай патэльні. Тлумачыла суседцы:

— Мая любанькая Марфачка, слёзкі мае асушыла вайна, жывасць высмакталі дзеткі, сілачкі забрала ніўка, пяшчоту панёс на неба Ігнатка. Што мне засталося? Мазалі. Бяссонне. Балячкі. Трывога за дзень заўтрашні. З імі, Марфачка, адны пакуты…

А свайму Ладзіку не стамлялася нагадваць:

— Сыночак даражэнькі, усцеш маё сэрца. Прывядзі ў хату гаспадыньку. Парадуй унучкамі. Супакой перад уваходам у Царства нябеснае…

На кожную такую мальбу Ладзік меў адзін адказ:

— Чуй, матка, як рак свісне, тады і жанюся.

Ракі, якія свішчуць, у Вужнашы не вадзіліся. Па той простай прычыне, што гэтаму паселішчу Бог не даў ані рэчачкі, ані азярца. Адны балоты наўкол, а ў іх — каралеўства жаб. Толькі не вадзілася сярод тых квакалак чароўная царэўна. У гэтым Ладзік рана расчараваўся. І таму вельмі ўзрадаваўся, калі ваенкамат паклікаў у армію. Абнадзеіў сябе, што на новым месцы абавязкова спаткае сваю суджаную.

Па тым часе яшчэ існаваў Савецкі Саюз. Нававбранцаў тасавалі як гульнёвых валетаў. І Ладзік трапіў ажно ў Мурманск. Служба маркотная, усе дні — рэжымныя, па графіку, з пастаянным шчоўканнем абцасамі: «Ёсць!.. Слухаюся!..» Але ж былі і аддушыны, калі адпускалі ў горад пагуляць. У гэтыя кароткія вольніцы Ладзік і падчапіў на кручок мурманскую русалку Еву.

У Вужнаш паляцела салдацкае пісьмо:

«Маці, служба мая ідзе нават тады, як сплю. Дзень за днём — і ўсё бліжэй да той часіны, калі твой Ладзік вернецца дамоў. І буду я абараняць і цябе, і наш двор, як я цяпер стаю на варце дзяржаўных рубяжоў. А яшчэ, чуй, магчыма прывязу табе нявестку, агонь-мурманчанку. Чакаю атвета, як салавей лета».

У новых лістах да Параскі ўсё радзей згадваў Ладзік пра Еву. А пад заваяршэнне службы паведаміў: «Чуй, матка, еду ў Вужнаш адзін і буду на сваіх палетках шукаць тую, якая засыпле цябе ўнукамі…»

* * *

Ладзік хваліўся пра свае інтымныя сувязі з далёкай, марской Евай, а Мікола ўсё пазіраў на дзяўчыну з тоўстай касой. Яе здымак на выстаўцы, здаецца, быў самы мадэльны. А мо гэта смачная самагонка дапаўняла ў вочы новыя фарбы красы?

— Слухай, дзе сустрэў гэту кралю? — спытаў Мікола, не адводзячы вачэй ад здымка.

— Дзе?.. Чуй, у горадзе.

— На базары?

— Ага.

— Вязанкамі гандлявала?

— Чуй, а ты адкуль ведаеш?

— Дак мы ж з гэтай Машай у школе разам вучыліся. Ганарыстая!..

— Яна, чуй, даўно не такая.

— А якая?

— Адкаркаваная! — Ладзік вылупіўся на свайго госця. — Чуй, аднойчы купляў у яе шалік, вязаны стракатымі ніткамі. Чуй, пытаюся: «Сама майстравала?» Кажа: «Няўжо ж суседка». І давай прызнавацца: «Я магу і вязаць, і шыць, і ткаць, і прасці». Адказваю: «Дак я, чуй, магу цябе й украсці».

— Ну і што, пагадзілася?

— Чуй, кажа: «А за ўкрасці можаш за краты папасці».

— А ты што? — Мікола наблізіўся да Ладзіка, цяжка дыхаў. — Што з ёй утварыў?

— Чуй, саму не ўкраў, а яе нявіннасць пакамячыў.

— Брэшаш! — крыкнуў Мікола і ўхапіў Ладзіка за кашулю так, што з яе пасыпаліся ўсе гузікі.

— Чуй, супакойся!.. Чаго ўскіпеў?.. Што табе да гэтай Машы?..

— Машка — мая першая любоў, паняў?

— Чуй, дак што з таго?

— А тое, — Мікола ўчэпіста трымаўся за Ладзікаву кашулю, — я і пацяперака яе люблю. Яна нечапаная, паняў?

— Чуй, я ўсё паняў. Адпусці!.. — Ладзік адчуў моцныя рукі пячніка і засумняваўся, ці варта было раскадзіраваць сваіх залётак.

— Адпушчу, толькі прызнайся, што зрабіў з Машкай?

— Чуй, нічоганькі. Цвёрды яна арэх, не па маіх зубах…

— А здымак адкуль?

— Чуй, пайшоў у атэлье зняцца на пашпарт. А там на стэндзе, бачу, яна. З касой. Вочы вішнямі… Выкупіў тую фотку для сваёй калекцыі…

— Ну ты й Рамэа! — ажыў Мікола, адпусціў Ладзіка і не папрасіў, а загадаў. — Налівай!..

* * *

Параска так і не дачакалася сынавай жаніцьбы.

Апошні год амаль не злазіла з печы. Холад працінаў яе нават летам.

Ляжала, узіралася ў бервяно, з якога вытыркаўся зжаўцелы сучок. З гэтага вока выцякаў раўчучок смалы, як і яе слёзы. Думала-перадумвала сваю жытку, і салёная раса, як з падсечанай бярозы сок, капала на яе схудалыя шчокі.

Што бачыла на экране памяці?

Ранняе замужжа. Вайна. Пяцёра дзетак. Адно згубіла гадавалым, не выратавала ад прастуды. Зранены муж. Яго ранні адлёт на нябёсы. А пасля ў свой вырай пакіравалі Іван, Пятро, Ларыса. Адзін Ладзік застаўся ў гняздзе. І што?

Параска аніяк не магла даўмець: з каго Ладзік пераняў свае пеўневы замашкі? Што ета за грамадзянскі шлюб, які ён наладзіў з вужнашскай удавой Соняй? Ходзіць да яе, каб разам выпіць і паначаваць. А як паспяць, у розныя бакі ляцяць.

Крыўда мучыла Параску: агарод зарастае, плот дагнівае, дах працякае, печ разбураецца. А Ладзік лайдачыць. І не скажы нічога насупраць. Псіхане. Бразне дзвярыма. Пойдзе абы-куды.

Параска заплюшчвае вочы. Бярэцца драмаць. І кожным разам нагортваецца адзін і той жа сон. Нібыта яе Ігнат заходзіць у хату, пільна азірае ўсё і гаворыць: «Ну што, Праскоўя, сабралася, то пайшлі, павозка запрэжана». Так ён некалі сказаў, калі пасля сватоў прыехаў па яе.

«Божа, цяжкім галопам праляцелі гады», — уздыхае Параска і дрымота зноў апаноўвае яе. Стомлена пазірае на смалісты сучок у бервяне, як бы праглядвае кіно свайго жыцця.

Ды раптам на вочы наплывае густы туман, сэрца ліхаманіць, а пасля — сцішваецца, замірае. І Параска ляціць у цёмны, глыбокі калодзеж. На далёкім-далёкім дне ці то вада струменіць, ці то промень сонца паблісквае. Яна паспявае прастагнаць толькі адно слова:

— Ла-а-дзі-і-ік…

* * *

На стале стаіць новая пляшка самаробнага першаку. Ладзік на правах гаспадара напаўняе гранёныя шклянкі і задае тон далейшай гамонкі:

— Чуй, Мікола, болей не распытвай пра маіх дзевак. Давай лепей вып’ем за печ, якую ты падлячыў. Хай доўга грэе мае косці.

Мікола ў знак згоды працягнуў да гаспадара сваю шклянку. Моўчкі выпілі. А далей зноў развязаліся языкі.

— Алі ж, Ладзя, ты багата каму ўладзіў, — азваўся Мікола і зірнуў на фотавыстаўку дзяўчат, маладзіц.

— Чуй, каб я іх усіх вывесіў у адзін рад, то хаты не хапіла б. Мусіў бы ў сенцах прадоўжыць экспазіцыю, а то шчэ і ў хляве.

— Хвалько! — ці то ацаніў, ці то зганіў Мікола свайго субяседніка і прызнаўся. — А я — адналюб. Як Машка адмовіла мне, то хуценька знайшоў Надзьку ў Чарнейках. І сню з ёй сны трыццаць гадоў. Трое дзяцей знайшлі ў капусце. Унучок ужо бзыкае…

Мікола хацеў сказаць, што ў цябе, Чуй, толькі мухі бзыкаюць у хаце, але розуму хапіла змаўчаць. Ладзік і без таго пачаў губляць імпэт, неяк у адначассі скіс, прызнаўся:

— Чуй, адзінокі я воўк. Такіх у Вужнашы мора. Вымірае вёска. Хутка, чуй, як на дзікім востраве будзе: «А-у, людзі!.. Ці ёсць хто тут?..»

— Сам вінаваты, — асудзіў Мікола Ладзіка і пачаў збірацца ў дарогу. — Надзька зачакалася…

* * *

Мабільнікамі ў вужнашцаў служаць коміны над дахамі.

Віецца дымок — жывы гаспадар.

Дзень, два няма дымка з коміна — чакай бяды.

Праз год пасля рамонту печы над Чуевай хатай замёр комін. Суседка Варка, сяброўка Параскі, ведала, як адшчэпліваць дзверы. Увайшла і знайшла Ладзіка на астылай печы, у лахманах.

На васковым твары Ладзіка як бы асела просьба; «Чуй, дома адзін не начуй…»

## Караед

Адам Данілавіч Гарбуз сабраўся паміраць. Ляжаў у шпіталі і абдумаваў сваё доўгае жыццё на белым свеце.

Зусім не абрыдла яму ў зямным раі і не вельмі карцела ў анёльскае царства. Проста адчуў, што ногі не ідуць туды, куды падказвае галава. Вочы не бачаць усіх колераў. Вушы не чуюць цішыні. Адна тупая глуш пазатыкала іх. Пуза даўно нагадвае пераспелы гарбуз, круцізна якога пачыналася адразу пад лыжачкай, а заканчвалася ў самым нізе. Самі ведаеце дзе.

Да чаго дайшло. Родны зяць, які заўсёды любіць узяць, і той пачаў пад’ялдыкваць:

— Ты, баця, відаць, у дзяцінстве гарбузовыя семкі са смакам лушчыў? Адна з іх затрымалася і прарасла, — і ён, родны зяць, іржаў, як лашак табунны, скаліў свае жаўтлявыя зубы і нахабна гладзіў чужое пуза.

Адам Данілавіч займеў намер падпусціць пад зяцеву скуру свайго «караедзіка». Хай паціху шлакоча. Хай перашкодзіць яму доўга спаць. Хай зяцёк пачне трывожна думаць. І ён праз свайго швагра перадаў зяцьку, што яго бацька некалі ўкраў у фельчара слухаўку, загнаў яе на местачковым кірмашы за тры пачкі махоркі. А лекар абвінаваціў у крадзяжы суседа, і той бязвінна адседзеў пятнаццаць сутак у міліцэйскай каталажцы ды забухаў яшчэ штрафу на дзесяць бутэлек магазіннай гарэлкі.

Пасля такой тайнай навіны зяцёк зніякавеў, пацішэў, а, самае галоўнае, перастаў здзекавацца з пуза Адама Данілавіча. Як ён мог насміхацца з цесця, калі ягоны бацька заслугоўваў пагарды. Сын злодзея — вось хто ты, прымача. Сядзі ціха пад венікам, бо апынешся, як заяц, — пад елкай.

Адам Данілавіч ляжаў на бялюткай бальнічнай пасцелі і чамусьці шкадаваў самога сябе. Прозвішча — Гарбуз, мянушка — Караед. Чаму так не пашанцавала ў лёсе?

Хай сабе Гарбузом быў бацька, дзед, прадзед. Ці мала ад чаго пайшло прозвішча: мо ад паўнаты цела, мо ад гарбуззя, якое пляло свае вусы па ўсім агародзе, мо ад мясцовасці, дзе стаяла хата продка?

А вось чаму Караед? Як бы сам зарабіў такое званне. Ды ці па справядлівасці?

Служыў тады Адам Данілавіч у адной высокай лясной установе інспектарам. Быў нібыта фельчарам, лекарам, хуткай дапамогай для хворых дрэў. От аднойчы выклікалі яго ў адзін лес, паказваюць гонкія сосны, пад кару якіх убіліся караеды. Сосны спрабавалі самі ратавацца — залівалі караедавы хады смолкай. Але дзе ж ты справішся з імі, калі адна самка здольная парадзіць тысячы жучкоў-грызункоў.

Адам Данілавіч патупаў тады каля хворых, аслабелых дрэваў. Шапка не адзін раз злятала з чупрыны, калі пазіраў на верхавіны векавых сосен. І яго раптам наведала думка-бліскаўка. Не было б шчасця, каб няшчасце не падмагло.

«А што, — падумаў інспектар, — добра было б з гэтых пушчанскіх векавух скласці сабе маёнтачак на Вячы». Ён напісаў патрэбныя акты, пазначыў у іх не толькі караедныя сосны, але і здаровыя, якім бы яшчэ не адзін дзясятак гадоў вартаваць прыродны запаведнік, упрыгожваць яго і спяваць яму свае гімны. Так з лёгкай чыноўніцкай рукі пачалі падаць ніцма і забалелыя, і зусім здаровыя дрэвы.

Гарбуз шпарка адстукаў сабе трохпавярховую фазэнду на Вячы. Жоўценькая, з паўкруглых бярвенняў, яна золатам свяцілася сонечнымі днямі. І аднойчы кінулася ў вочы дзяржаўным кантралёрам. Яны і вывелі на чыстую ваду сапраўднага караеда.

Адам Данілавіч хацеў схавацца ад гэтых успамінаў пад коўдру. Толькі нацягнуў яе на галаву, як пачуўся звонкі голас маладой медсястры:

— Адам Данілавіч, спускайце штаны. Я ўжо гатова!..

Яна стаяла каля ложка Гарбуза з напоўненым шпрыцом, гатовая пекануць, уджаліць пацыента ў тое месца, адкуль пачынаюць расці ногі.

Адам Данілавіч бліснуў на лекарку вачыма, нібыта сфатаграфаваў яе. Моўчкі павярнуўся, падставіў «аб'ект» для экзекуцыі. Маўчаў і тады, калі медсястра шукала на яго левай руцэ вену, каб падключыць кропельніцу. І толькі застаўшыся сам-насам, Адам Данілавіч уцюрыўся вачыма ў белую столь, бытта на тым экране вось-вось павінен быў пачацца чарговы серыял успамінаў. І ён уключыўся.

Падлавіла яго тады ў крадзяжы соснаў нейкая Клава, якая з «юных гадоў аддавала роднаму лесу сваё здароўе». У яе пісьме на імя той установы, у якой працаваў інспектарам Гарбуз, усе яго прыезды ў лес апісваліся падрабязна. Былі нават пазначаны нумары сосен, якія лічыліся ў рэестры запаведніка і якія з'ехалі на Вячу. Ананімка яўна запахла не цёткай Клавай, а службістам, які прагінаўся перад высокім начальствам і якому хацелася паказытаць нервы Адама Данілавіча. З яго лёгкага языка да Гарбуза і прыляпілася мянушка Караед.

У прыродзе так не бывае, каб караед еў караеда. А калі ўлічыць, што яны шлюбуюцца два разы на год, а іх у Беларусі ажно семдзесят відаў, то можна ўявіць, якая напасць іх атуляецца ў лясной падсцілцы, якая хмара едуноў нападае на аслабелыя дрэвы.

У людзей крыху па-іншаму. Караед доўга маскіруецца ў сваім шкарлупінні. Скубе нервы, душу чалавечую па-ціхаму, інтэлігентна. Бывае, арудуе не сваім шасцізуб'ем, а з падмогай тых падкормышаў, каго спускае з ланцуга і дае каманду «фас!».

Ад такіх думак Адам Данілавіч шумна сапануў, як бы хацеў разам з паветрам выдыхнуць усю цяжботу. Але дзе ж там, новы одум агарнуў памяць, у якой назапасілася столькі вузельчыкаў, як бляшак на сасудах. Цяпер вось антыбіётык, які заганяўся ў вену, быццам адмываў мозг ад іржы і вяртаў у яву аголеныя ўспаміны.

За самавольства ў лесе Гарбуз атрымаў тады не толькі ліпучую мянушку, але службовую адстаўку і вялікі штраф. Разам з сабою ён пацягнуў у нерат і ляснога начальніка, які аказаўся Клавай, які сам даўно гандляваў караеднымі дрэвамі, а ў злачынстве ўлічыў Гарбуза. Загрымелі адразу два важныя жучкі. І гэта стаўся той шчаслівы выпадак, калі «разам з хатай згарэлі прусакі».

На бальнічным ложку, прыкмеціў Адам Данілавіч, да яго прыходзіла прасвятленне. Яно даўкай гаркавінай, кіслай печаёй адгукалася ў памяці, было неадчэпным. А мо праўда, надыходзіў час споведзі і пакаяння?

Наступіла разуменне караедства сярод людзей. Гэта такая грызня, калі таму, хто робіць паскудства, — асалодна, усцешна, утульна. А таму, каго абліваюць брыдотай, — гадка, балюча, крыўдна, нерваспусташальна. Найчасцей ён не можа ачысціцца ад памыяў і, паранены душэўна, паціху растапляецца, як васковая свечка. Тады ў грызуна-караеда наступае свята перамогі.

У Адама Данілавіча за доўгае жыццё назбіралася нямала «перамог».

Штодзённай, апетытнай грызнёй ён адолеў першую жонку Еву, і яна, сабраўшы свае транты, памахала яму ручкай. Праз месяц атрымаў ад яе прысуд: «Мой дарагі ГАД, ведай, я ашчаслівілася пасля нашай разлукі. Дзіўлюся, як я цярпела цэлых дзесяць гадоў тваё караедства. Ніхто цяпер не грызе мяне ні за дзень, ні за ноч, ні за грошы, ні за вошы (так называў ты маё вязанне). Жыві і помні, ГАД, што ты зняважыў сумленную жанчыну…»

Праз шмат часу, калі даядаў тым жа метадам другую жонку Іру, трапіўся Адаму Данілавічу на вочы ліст ад Евы. І ён па-новаму расшыфраваў яе агіднае слова ГАД. Аказваецца, гэта яго ініцыялы — Гарбуз Адам Данілавіч.

Ад горкага напаміну хворы здрыгануўся на бальнічным ложку, хацеў адвярнуцца ад акна, у якое быццам слёзнымі хмарамі пазіралі на яго жонкі Ева ды Іра. Але ж рука была прышпілена шпрыцом, а той звязаны трубачкай з кропельніцай. Два пакеты лекаў віселі на штатыве, і яны як бы ахаладзілі жвавага пацыента.

Зноў падкаціліся ўспаміны. Гадам яго празвалі і вучні местачковай школы, у якіх выкладаў некалі біялогію і геаграфію. Дзеці зненавідзелі Гарбуза не за

тое, што патрабаваў ведаў, а за тое, што па любой дробязі закладваў іх дырэктару і бацькам. Гэты вопыт надаў яму нахабства закласці раённаму начальству і самаго дырэктара школы.

Тлуміць душу школьнага кіраўніка ГАД пачаў з ананімкі ў райана: «Паважаныя начальнікі, наш дырэктар займеў у сваім агародзе маладую козачку-бландзінку. На дзвюх ножках з высокімі абцасікамі яна часцяком забягае ў ягоны кабінет. Бывае, што задасць вучням задачкі, а сама да козліка — шусь. І толькі перад званком заяўляецца ў клас…»

У якую ж шчыліну пазіраў увесь гэты час Гарбуз? Якія меў намеры, калі плявузгаў на прыстойнага сем'яніна і ветэрана педагогікі? Гэтыя пытанні найперш узніклі ў раённых кіраўнікоў. І яны лёгка вылічылі караеда, які «ўбураўся» ў спакойную школку.

Матыў ананімкі быў чыста падскурны, каб паказытаць кіраўніку вучэльні нервы, душу і расхістаць яго трывалы, прызнаны аўтарытэт. На гэта караеду не хапіла шасцізуб'я, бо ёсць яшчэ, не перавяліся ў свеце людзі з зубамі мудрасці. Яны гатовы абараняць праведнікаў. У тым паядынку ГАД вымушаны быў пакінуць настаўніцтва. Так у яго кар'еры засвяцілася раённая гаспадарка па азеляненні вуліц.

Караедства — з'ява старажытная. І на ўсю процьму ненажэрных жучкоў прырода яшчэ не назапасіла дзятлоў, попаўзняў, пішчух, для якіх караеды — далікатэсны харч. Не вылаўлены гэтыя шкоднікі і сярод людзей, бо яны не заўсёды з шасцю лапкамі, кароткімі вусікамі, у карычневым кафтанчыку, як лясныя забалоннікі, лубаеды, караеды. Шкоднікаў лясоў, садоў, паркаў да трох тысяч відаў ва ўсім свеце. От жа каб хто ўзяўся скласці энцыклапедыю такіх гнюсаў у чалавечым свеце. Ды, відаць, гэта не пад сілу нікому, бо караеды сярод людзей падобныя на хамелеонаў.

Адам Данілавіч у «Зелянгасе» перафарбаваўся ў зялёны колер. Сваю інжынерную пасаду ён пачаў з лекцыі пра важнасць хларафілу ў раслін, пра іх зялёны пігмент, які ў лучнасці з сонечнай энергіяй ажыццяўляе фотасінтэз. Далей Гарбуз давёў рабочым пра найважнейшае свята Сёмуху, якое ў народзе здаўна называлі Зелянец, Зялёныя святкі. Такім фэстам ушаноўваецца святая Тройца на пяцідзясяты дзень пасля Вялікадня.

— А нашы людзі заўсёды адзначаюць у гэты дзень сваю культавую тройцу жыцця — зялёную прыроду, шлюбаванне і ўшанаванне продкаў, — мудрагеліў Адам Данілавіч. — На Зелянец — вясне канец. А нам, зеленгасаўцам, самы разгар працы. Трэба закончыць пасадкі, дагледзець гадавальнік і навучыць людзей прыхарошваць зялянінай, кветнікамі свае двары, агародчыкі, вуліцы…

Так вось тактоўна і далікатна ўкараняўся пад кару «Зелянгаса» вопытны Караед. Ён паставіў за мэту няспешна даказаць усім, што толькі тут патрэбны яго спрыт, апетыт і генныя навыкі.

І яму гэта ўдалося.

Праз год начальніка «Зелянгаса» адправілі на пенсію, і Адам Данілавіч Гарбуз заняў яго крэсла ва ўтульным кабінеце. Усё адбылося як у прымаўцы: адзін пень гарэў, а другі спіну грэў. Мала хто ведаў, што менавіта ён заказытаў былога кіраўніка, давёў яго да «акорвання», а пасля і «высечкі дрэва», як аслабелага, хваравітага і не здольнага да росту. Гарбузоў аргумент, як ён сам верыў у гэта, быў арыгінальна-навуковым: «Расліны, таварышы, паходзяць ад слова «расці». Мы, жыльцы на зямлі, ад слова «жыць». Калі мы расцём і жывём разам — мы моцныя. Калі нехта перастае жыць, то ён не дае некаму расці…»

У паводзінах Караеда было ўсё наадварот: расці сам, каб не даваць жыць іншаму.

Неяк у «Зелянгас» завітаў супрацоўнік Міністэрства лясной гаспадаркі. Гарбуз прыняў яго як анёла з нябёсаў. Правёў з ім «філасофскую» гутарку пра дзяржаўную вагу азелянення ў стварэнні новага грамадства. Патраціўся на шыкоўны абед з чыноўнікам. На ўсялякі выпадак запісаў у свой нататнік расходы — кошт яды, выпіўкі і запіўкі. Пачак кавы «Прэзідэнт», які давялося распячатаць дзеля аднаго кубачка, аднёс таксама на рахунак госця. «Хай будзе запісана, думаў Адам Данілавіч, жыццё доўгае, ці мала што здарыцца…»

Цяпер для яго была пракладзена дарога ў сталіцу. Ён азеляніў сваім гадавальнікам дачу міністэрскага чыноўніка. Па першым яго клічы, вазіў шыкоўныя букеты кветак, якія прызначаліся то самому чыноўніку, то юбілярам, то імяніннікам, то іх каханкам. З кожным новым букетам Адам Данілавіч перадаваў сваю інфармацыю: як «Зелянгас» спрацаваў за квартал, як ухарошылі прысталічны райцэнтр, якія яго артыкулы надрукавала раённая газета і як высока цэніць яго мясцовая ўлада.

Вада камень шліфуе.

Маленькі караед дрэва валіць.

Дробныя паслугі Гарбуза высокаму начальству аднойчы закончыліся яго ўзвышэннем. Адама Данілавіча запрасілі працаваць у Міністэрства лясной гаспадаркі. Не ведаў тады вопытны караед, што гэты ўзлёт абрынецца для яго шлепаком у бездань.

Успаміны і роздум сцішылі Адама Данілавіча, і ён, відаць, прыдрамнуў пад кропельніцай. Сястрычцы ў лябёдкавым халаціку давялося гучна будзіць хворага:

— Адам Данілавіч, прачынайцеся. Я прыйшла!.. Давайце пачнём!..

Ох, гэтыя заклікі маладзіцы злёгку кружылі галаву Гарбуза, выклікалі юнацкія мроі пра першыя спатканні з залёткай Дунькай яшчэ ў дзявятым класе. Але не больш таго. Усё часцей разважаў ён пра сваю жытку, якая давяла да лякарні. Недзе чытаў, што душа вечная, яе нават удалося нейкім вучоным узважыць. І пішуць жа, што яна перадаецца з аднаго жыцця ў другое. Вось бы ўведаць, хто карыстаўся гэтай душой да яго? Каму яна дастанецца ў новым вымярэнні гадоў?

Пасля кропельніцы Адам Данілавіч сцішыўся і храпануў. Прысніўся сон. Нібыта ён на небе і архангел Міхаіл з блакітнымі крыламі стаіць каля высокай брамы. У яго левай руцэ — вагі, у правай — меч. Ён пільна ўзіраецца ў Гарбуза і загадвае: «А ну, панок, выкладвай на ручныя вагі сваё дабро і сваё зло, якія ты назапасіў на Зямлі!..»

Гарбуз убачыў, як бліснуў аголены меч у правай руцэ архангела. Той як бы прыпадняў уверх зброю і гатовы апусціць на яго шыю, калі раптам на вагах апынецца болей зла. Не дачакаўшыся прысуду, Адам Данілавіч нема закрычаў: «А-а-а!..» І ачнуўся.

Перад ім стаяла медсястра:

— Я тут, Адам Данілавіч?.. Што трэба?.. Я гатова…

— Не, нічога, мая галубка…

Гарбуз павярнуўся да акна. Тупа пазіраў у неба. Там, за чорнымі хмарамі, ведаў ён, стаіць крылаты архангел Міхаіл з мячом і вагамі. Ад яго яму цяпер не схавацца, не абараніцца.

Праз чатыры дні Адама Данілавіча выпісалі. Ён з усімі пачціва развітаўся. Сказаў добрыя словы загадчыку неўралогіі. Усміхнуўся медсястры, якая ставіла яму кропельніцы. А на выхадзе за металічныя вароты бальніцы азірнуў-

ся, выцягнуў з унутранай кішэні карычневага пінжака канверт і ўкінуў яго ў паштовую скрыню. У сваёй ананімцы ён даводзіў галоўнаму доктару:

«Паважаны Віктар Іванавіч! У вашай неўралогіі робяць адны неўралогікі. Загадчык апроч слоў «здрасце» і «пакуль», відаць, іншых не ведае. Добра, што не гаворыць хворым «бывайце». Апроч кропельніц і таблетак, іншых лекаў не ведае. А медсёстры зусім зсексіліся. Я толькі і чуў ад іх: «Хворы, здымайце штаны, я ўжо гатова». Гэта яна заляцела рабіць укол. «Хворы, кладзіцеся, будзем капацца», «Я тут, давайце рабіць…» Як вам такія прапановы ад дзябёлых маладзічак?..»

Гарбуз прасіў прыняць меры і паведаміць яму на асабістую скрыню Галоўпаштамта «ў тэрмін, вызначаны заканадаўствам па рабоце са скаргамі грамадзян».

А яшчэ праз месяц Гарбуз Адам Данілавіч, ён жа па абрэвіятуры ГАД, па мянушцы Караед, завітаў у рэдакцыю тоўстага часопіса і прапанаваў свае псіхалагічныя «творы» пад агульнай назвай «Навіны з Навінак».

Рэдактар пачытаў першы сказ і ледзь не вырваў валасінку з вусоў. Апавяданне Гарбуза пачыналася лаканічна і востра:

«Іван Сямёнавіч, мой сусед па дачы, пастаянна шукае ў жонкі псіхафізічны паралелізм. І робіць гэта па-свойму, у духу псіхасаматыкі. Нядаўна адкрыў у ёй тыповы істэрычны сімптом — пуэрылізм…»

Рэдактар адклаў рукапіс аўтара і стрымана, спакойна, каб не выдаць перад незнаёмцам сваю псіхіку, сказаў:

— Ведаеце, шаноўны, э-э…

— Адамам Данілавічам мяне завуць, — падказаў наведвальнік.

— Ага, Адам Данілавіч, ваша аповесць, па ўсім відаць, атрымалася вельмі сур’ёзная, яна, адчуваецца, напоўнена драматызмам нашага камп’ютарнага часу…

— Так, так, я імкнуўся паказаць… — хацеў патлумачыць Гарбуз, але яго, на правах кампетэнтнага гаспадара, перапыніў рэдактар:

— Я раіў бы вам, Адам Данілавіч, схадзіць у выдавецтва. Там працуюць вопытныя кансультанты, яны і раскладуць вашу аповесць па костачках. Дадуць аб’ектыўную ацэнку. Могуць выдаць ваш твор асобнай кніжкай. Глядзіш, вас і ў пісьменнікі прымуць…

— Дык я ўжо гэту аповесць на сваім сайце расклаў, — пахваліўся Гарбуз.

— Ну і добра, што размясцілі ў інтэрнэце. Хай чытаюць…

— Ага, ужо некалькі чалавек заходзілі. І вас запрашаю. Адрас просты: «Гарбуз, сабака, бай».

— Жадаю вам творчых поспехаў, — скупа ўсміхнуўся рэдактар, чакаючы, калі Караед пакіне кабінет.

Адам Данілавіч быў усцешаны размовай з рэдактарам.

Адчуў, у яго праразаюцца крылы.

І яму расхацелася паміраць.

## «Блохер»

Поўнач ахутала горад.

Чорнай навалаччу вісеў над камяніцамі шармавы парасон. Ён засланяў сабой таямнічы космас. Прыгнятаў, зазямляў усё тое, што яшчэ нагадвала жыццё на зямлі: адзінокую астылую рэкламу на дахах дамоў, гаспадароў пустых вуліц — начныя ліхтары, агнездаваныя на сівых слупах. Па асфальце

шаркалі ачмурэлыя таксі, бо толькі цяпер наступаў іх час заробаку, навару і шалёнай запатрабаванасці.

У такой змрочнай цішы пачыналася ўз'юранасць Гаўрылы Літоша. Ён уключаў камп'ютар і троліў у блакітную бездань свае думкі, якія назбірваў за дзень, сярод людзей, як той бухматы чмель, зумкаючы па квятастай лугавіне.

На адрасе «ГаўЛіт, сабака, ру» ён адкрываў блог пад нязменнай назвай «Толькі для вас» і адорваў нябачных наведвальнікаў свайго сайта свежымі ашальмоўкамі.

Пальцы бегалі па клавішах нібыта ён, музыка, іграў на баяне. У прастору вакол Зямлі, а можа, і ў атмасферныя прабоіны, ляцелі яго думкі. Іх не трэба пераводзіць на папяровы носьбіт, не трэба ўкленчваць перад рэдактарамі газет і часопісаў, каб надрукавалі. Яны, думкі Гаўрылы, несліся, як вараныя коні. Ды што коні, як касмічныя ракеты, як каметы далёкіх галактык.

Воля! Вось што мае блогер. А яшчэ — непакаранасць і няўлоўнасць. А яны і ёсць натхненне. Пішы пра што хочаш, як хочаш, і нічога табе за гэта не будзе.

Вось чаму асмялелы Гаўрыла сённяшняй поўначчу ўзяў за чуб класіка беларускай прозы Кузьму Чорнага. Ты, браток, панакручваў багата чаго пра савецкі лад, пра людзей сваёй эпохі, дык я ж цябе крыху падпраўлю. Я табе дам сваю накрутку, выведу на чысты бераг.

«Чуйце, людзі, Кузьма Чорны, ён жа Мікалай Карлавіч Раманоўскі, аднойчы сеў і напісаў апавяданне «Парфір Кіяцкі». Хадзіў спярша той Парфір як бы што згубіўшы. Начамі перастаў спаць. Хадзіў з кутка ў куток і бесперастанку курыў. Жонка ўсё дапытвалася, што з ім робіцца. І Парфір урэшце прызнаўся: «Смутак мяне заядае… Як бы месца мне няма на зямлі…» Жонка здзівілася: «Дзівак ты, ну, чаго табе трэба? Чаго табе не хапае? Вунь аднаго павідла наварыла я повен склеп. Еш ды жыві…»

Парфір, да горла якога знянацку падступіў востры смутак, уявіў, што жонка стаіць па саменькі пупік у павідле і вось-вось паплыве ў ім. Дый сама яна стала як павідла. Сцішыць буру смутку Парфіру так і не ўдалося. І ён падвёў яго да хаоса думак і дзеяў. Такое творыцца ў аповедзе Кузьмы Чорнага, — летапісца савецкай, даваеннай эпохі. А цяпер жа, таварышы, калі мы майструем новы, суверэнны лад, мусім навучыць сляпога бачыць, крывога хадзіць, глухога чуць, а ўсіх астатніх, як правільна зазначыў наш Чорны, не чарніць белы свет, а «цаніць вялікія ясноты радасці»… Трэба не ліць слёзы ў душу, а заліваць туды рэактыўнае паліва, каб яно занесла ўсіх несвядомых туды, дзе Кузьма ніколі не пасвіў авечак. І каб кожны з нас знайшоў нешта вельмі патрэбнае для яго і для ўсяго свету, каб тое нешта дало супакой і прагнала смутак…»

Гаўрыла паставіў тры кропкі, як бы даў уцяміць сваім наведвальнікам, што ў яго яшчэ цэлы рой думак, што за ім варта сачыць і ён абавязкова выведзе паслухмянцаў на чыстыя воды, на іскрыстыя росы.

Ён выключыў камп'ютар і каўтнуў проста з бутэлькі малдаўскага вінца, зірнуў у начное акно і адчуў пад лапаткамі неймаверны сверб. То левай рукой, то правай пачухаў там, дзе казытала, і жахнуўся. З-пад лапатак вытыркаліся як бы маладыя крылы. Сам сябе плячнуў далонню па лбе: «Ось так, Гаўрыла Літош, у цябе завіравала новае жыццё, прызнанне і слава аналітыка, псіхолага і ўвогуле класнага крытыка».

Пачынаючы блогер, якому зязюля налічыла ўжо больш за паўсотню гадоў, пацёр крыху спацелыя далоні, глытнуў яшчэ малдаўскага напою, пахадзіў па сцішанай кватэры, якая пахла жонкай, дзецьмі, разанскім хлебам, які ён пры-

вёз з вандроўкі. Рукі свярбелі троліць і троліць. Ахмялелыя думкі расціскалі яго аблыселы чэрап, хацелася трыбуны, вышыні, мікрафона, сцэны. І Гаўрыла зноў адкрыў свой сайт.

«Авохці!» — ледзь не застагнаў блогер. На яго першую публікацыю ўжо былі водгукі. Трэба ж, народ не спіць. Па начным космасе гуляюць лунацікі. Ага, што ж яны напісалі? «Дурань ты, Літош! Нашморгаў слоў у Кузьмы Чорнага, зняважыў класіка, захацеў паправіць яго, а сам — узвысіцца. Разлупі зенкі, набярыся цярпення, псіх, і прачытай для пачатку «Млечны шлях» пісьменніка, а пасля ўсе яго раманы, аповесці і абавязкова — два тамы апавяданняў. Яснай галавы табе, блохер!..»

Гаўрыла ацверазеў. Жыў ціха-мірна, а цяпер нейкі ананім, які назваўся Еўтухам, абняславіў яго «дурнем», «псіхам», а самае крыўднае — «блохерам». Што рабіць? Як быць? Каму пажаліцца?

Да рання было яшчэ далекавата. І ў галаву Гаўрылы палезлі думкі пра яго жыццё на грэшнай зямлі. Думкі, як і вошы, калі ўжо завяліся, зашавяліліся, то іх марна адганяць паасобку. Іх трэба перажыць.

Найперш Гаўрылу прыгадаліся трывогі маладосці, калі яму стала вядома, што Літошаў у свеце, нібыта пясчынак на ўзбярэжжы Дняпра. Як жа не згубіцца ў такім віры адзінакасці?

Прозвішча дадзена ў спадчыну ад продкаў. Яго не пераробіш. А вось імя Гаўрыла, як шматступянёвая ракета, мае мноства фіглянтаў: Гаўрыльчык, Гаўрэла, Гаўрылка, Гаўрылюк, Гаўрош, Гаўруша, Гаўрык, Гаўрусь, Гаўрук, Гаўрута…

Калі атрымліваў пашпарт, папрасіў, каб яго запісалі Гаўрылам. У гэтым імені чуўся яму мужык, калі не заморскі, то еўрапейскі дакладна. Сваю ж айчыну Гаўрыла лічыў лапцюжнай, саламянай, балотнай. Яму карцела вырвацца з гэтай багны.

Спрабаваў сябе ў якасці хіміка і фізіка. Не хапіла цярпення і хібету адолець гэтых вучоных прынцэс. Яны патрабавалі поту і муштры глуздоў. На іх не знайшоў хібету.

Гаўрыла прагнаў смагу вінцом. І разам з глыткамі чароўнага пітва паляцелі новыя думкі, як некалі і ён сам ляцеў па чыгуначных рэйках ажно ў Маскву. У вірлівым горадзе вучыўся і шукаў самога сябе, ды толькі ледзь не згубіў усё, што меў і набыў дагэтуль. На адным з кірмашоў сталіцы, дзе падрабляў у азербайджанцаў, гандляваў кішмішам, нехта падкінуў яму ў кішэнь пакецік гераіну. І той жа «нехта», відаць, падказаў пра гэта адпаведным службам, бо яму імгненна закруцілі рукі за спіну.

Блогер Гаўрыла адагнаў ад сябе ўчэпістыя ўспаміны. Урэшце, ён не абавязаны спавядацца перад нахабным Еўтухам. Гэта яго асабістая справа, як пражываў, дзе бываў, кім рабіў, які меў аклад. На сайце — ён аўтар свайго «Я», думкаскладальнік і сайтаўладальнік. Ён добра ведае, што маланка ніколі не сячэ ў кустоўе, траву, не разменьваецца на лясных хілякоў — альху, вербалозіну, шыпшыну. Пярун выбірае сабе роўных — каранасты дуб, гонкую бярозу, карабельную сасну. Так і ён, блогер, каб засвяціцца, каб прызналі і пабойваліся, павінен чапляцца да людзей вядомых, знакавых, выбітных.

Абэлтух Еўтух, ты яшчэ не ўцяміў, каго абазваў дурнем і псіхам. Можа, і пашкадуеш, калі даведаюся, з якога камп’ютара ты даслаў мне свой водгук?

Гаўрыла прылёг на канапу. У галаве адзічэла закруцілася кола думак. Вобадам у ім быў ён сам, яго камп’ютар, рабочы кабінет, віно, адпачывальня. У гэтым коле пачыналася і закруглялася яго найноўшая спецыялізацыя — блогер.

А спіцамі ў тым коле, адчуваў Літош, пачыналі служыць не проста думкі, як статак пярэстых кароў, а думкі-роздумы пра людзей вялікіх, пра падзеі знакавыя, пра кнігі вечныя.

Наступным бяссоннем для Гаўрылы стала, як ні дзіўна, казка яго дзяцінства пра сястрыцу Алёнку і браціка Іванку. Муха яе ведае, чаму тая казка прычапілася да яго, але адвадзіць яе ад сябе ён ужо не змог. Так і вылупілася, як куранё з яечка, новая старонка на сайце «ГаўЛіт, сабака, ру».

«Людзі добрыя, хіба для дзяцей гэта казка? Вы ж толькі ўдумайцеся: брацік Алёнкі становіцца козлікам, у сястры яшчэ не высахлі слёзы, а яна, чыстая дзявочая крынічка, так нечакана і адразу пагаджаецца стаць жонкай пузатага купца. Ясна, жыццёвая безвыходнасць прымусіла яе пагадзіцца на прапанову незнаёмца, які ехаў з кірмашу, убачыў сіротку, паверыў яе слязам і ўзяў да сябе ў жонкі. Паабяцаў глядзець і Алёнку, і яе брацiка-козліка. Так яно і было нейкі час, пакуль купец цешыўся маладым целам. Але ж і свінтус ён, сыты гуляка, не прыкмеціў нават, што да яго ў ложак легла іншая жанчына, сама вядзьмарка. Даводзіцца толькі охаць, якія лапухі мужыкі і якія змеевы спакусніцы бабы. І ўсё гэта ў казцы для дзяцей!..»

Гаўрыла адарваў вочы ад камп’ютара, скінуў рукі з клавішаў на калені. Зірнуў у начное акно. Сёння неба нагадвала бруснічную паляну. Зіхацелі, пераліваліся зоркі ў высокім небе. Гаўрыла адчуў сябе зоркай. Тое, што ён выдаваў у космас для сваіх невядомых чытачоў, падалося яму геніяльным, а сам ён — ледзь не пісьменнікам. Мільёны людзей прачыталі казку пра Алёнку і Іванку, але ж ніхто ніколі не адчуў яе заганы, як ён, блогер Літош. Гэта натхняла, хацелася прадаўжаць свой псіхааналіз вядомай казкі:

«Вы толькі ўявіце: купец гатоў быў зарэзаць беленькага, рахманага козліка па просьбе новай жонкі. Вось ужо гараць кастры, у катлах чыгунных кіпіць вада, точацца нажы булатныя. Усё гэта ў множным ліку: кастры, катлы, нажы. І ўсё — на маленькага, ласкавага чытырохногага брацiка Алёнкі. Купец і вядзьмарка ведаюць, што козлік — гэта хлопчык. Ён не зможа супраціўляцца, не абароніцца, але чаму для яго рыхтуюць такую экзекуцыю? Ды, урэшце, і яшчэ адна нескладуха. Козлік жа ўмее гаварыць. Ходзіць па беразе і кліча: «Алёнка, сястрыца мая!.. Выплыві на беражок…»

Выходзіць, ён ведае, што вядзьмарка ўтапіла Алёнку, а сама спіць з купцом пад адной коўдрай. Дык чаму б яму не расказаць пра ўсё гэта мужу Алёнкі? А той муж, мех з мясам, як бы нічога і не адчувае, а папраўдзе толькі прыкідваецца дабрадзеем. Такіх у нашым свеце, як камароў перад Ушэсцем…»

На гэтым блогер Літош выключыў камп’ютар, як бы закрыў блакнот з рукапісам. І яшчэ раз усцешыўся: яго засмажаныя ў галаве думкі выдадзены чытачам на талерачцы з блакітнай аблямовачкай. Цікава, хто і як адгукнецца на яго інтэрпрэтацыю казкі?

Першым вытыркнуўся Юзік з Лысай Гары:

«Ну, ты, Гаўрылка, і малаток з накавальняй. Узяўся параклёпваць народны эпас!.. Так дойдзеш хутка і да Бібліі. Пішы, ды не зарывай, як страўс, галаву ў зямлю. Блошніцу трымай у чысціні…»

Юзік не пакінуў свой адрас. Схаваўся за імем, хутчэй за ўсё прыдуманым, не сваім. Людзі — баязліўцы па сваёй прыродзе. Як тая варона, што дзяўбе костку ды азіраецца па баках, хаця і сядзіць на верхавіне каштана.

«Віртуальны аналітык! — зазірнуў на сайт ГаўЛіт незнаёмы Сяргей. — Паглядзі ў слоўніку Івана Насовіча слова «бздзюль». Ты і ёсць гэта насякомае, якое адно і робіць, што псуе паветра. Навошта калупацца і перарабляць тое, на чым выхавана не адно пакаленне дзяцей?..»

«Правільна прыкмеціў, таварыш Літош, хіба можна дзяцей абводзіць вакол пальца?..»

Падпісаўся пад гэтымі радкамі ветэран афганскай вайны, паранены і кантужаны.

Гаўрыла адчуў, што падкінуў у сеціва блыху. А народ ад яе пачынае чухацца. Не паспеў ён выдаць свой твор, ужо тры нядрэмныя інтэрнэтаўцы прачыталі яго. Хай дзяржаўныя выдаўцы пахваляцца такой аператыўнасцю!

Было, праўда, і крыўдна крыху. Не, каб хваліць Гаўрылу за арыгінальнасць і свежасць мыслення, дык давай адразу кусаць, зудзець, смайлікі маляваць. Для каго б гэта ўжо сталася шаленствам нерваў, а «блохер» Літош наступнай бяссоннай ноччу пачаў абдумваць свой чарговы землятрус розуму. На гэта раз яму захацелася трахануць вядомага паэта сучаснасці. І ён пачаў блышыць, пускаць дым у вочы:

«Нагадаю вам, мае слаўныя чытачы, што Аляксандр Сяргеевіч Пушкін пражыў усяго 38 гадкоў, Вісарыён Бялінскі — 37, Мікалай Гогаль — 43. Аляксандр Грыбаедаў — 34, Міхаіл Лермантаў — 27, а вось вядомы паэт нашай явы Язэп Смыкоўскі збіраецца святкаваць сваё дзевяностагоддзе. На мінулым з'ездзе пісьменнікаў ён выйшаў на трыбуну, падпяразаны патранташам, у вайсковай гімнасцёрцы, а на галаву ўсцягнуў зімовую партызанскую шапку з чырвонай стужкай пасярэдзіне. Яго палымяная прамова, словы якой быццам адсякаў рукамі ў паветры, была скіравана найперш мадэрністам «бум-бам-літаўцам». Язэп Сямёнавіч дапякаў іх не толькі за тое, што разленаваліся шукаць вобразную рыфму, а за абыякавасць да змагароў вайны…»

Гаўрыла перапыніў перабіраць кнопкі камп'ютара, перадыхнуў перад бурай эмоцый і рынуўся ў атаку:

«Дык ведайце, панове, ваш класік Язэп Смыкоўскі — мой сусед па дачы. І што я вам скажу па сакрэце: ён г…м называе не толькі гной, а і суседзяў. «Інжынер чалавечых душ», опусы якога часта друкуюцца, кляне ўладу на кожным кроку. Аднойчы баіў, як яны хадзілі здабываць для партызанаў самагонку, як прыцягнулі ў атрад бычка-трацячка і здзіралі з яго шкуру. Во якім мужным быў ваш лясны абаронца!..»

Да чаго Гаўрыла настырна лез, на тое і напароўся. Аматары паэзіі Смыкоўскага закідалі яго сайт, як гранатамі, сваімі рэплікамі, насмешкамі і нават праклёнамі.

«Хіба можна так зняважліва пісаць пра нашых слаўных ветэранаў?..» — абурыўся Вінцук Аблажэй з Ушачаў. — Паглядзеў бы я на цябе, блохер, каб ты хоць з тыдзень пакарміў вошай у балоце. Нябось, як кляпаў на сайт свой пасквіль, папіваў каву, сядзеў у цяпле, пазіраў у неба, і не думаў, што яно можа палыхаць ад падпаленых вёсак, ад крыку і болю параненых, ад крыві забітых…»

Гаўрыла атрымаў па поўнай за паэта-ветэрана. Але гэта толькі падліло паліва ў агонь. Ён пачаў задзірацца да мастака Светлагора, што не ўмее падбіраць фарбы для партрэтаў, да біёлага Тарфірава, што не можа абараніць ад караедаў дрэвы ў пушчы. Да архітэктара Шчупкіна, што спраектаваў Лядовы палац задам да праспекта Міру. Хапіла перцу і дэпутатуКівалёву, і раённаму вертыкальнаму Абібаку, і начальніку міліцыі Сяргееву…

З кожным выхадам у эфір Гаўрыла адчуваў сваю перавагу перад тымі, хто дрэмле. Яго «Я» выцягвалася аж да непрыстойных памераў. Часам здавалася,

што без яго свет стаў бы попельным, шэрым, нудным. І людзям зрабілася б зусім сумна з правільнымі пісакамі, каб не ён, віртуальны блогер.

Аднойчы, калі такія велічныя думкі апаноўвалі няўрымсу Гаўрылу, яму пазванілі ва ўваходныя дзверы кватэры. Гаспадар насцярожыўся, але пайшоў адчыняць.

На парозе стаяў участковы.

— Вы Літош?.. Гаўрыла?..

— Так, ён самы.

— Вам абвестка. Распішыцеся.

Гаўрыла хацеў пра нешта распытаць, але міліцыянер рэзка прапыніў яго:

— Там усё напісана.

Калі Гаўрыла застаўся адзін, пачаў вывучаць нечаканую паперку. Яго, аказваецца, выклікалі да следчага для ўдакладанення блогерскай дзейнасці.

Гаўрыла той ноччу не муштраваў сваю «блошніцу». Проста сядзеў і думаў. У галаве тусаваліся ўсе старонкі яго камп'ютарнай кнігі. Яна нагадвала разбухлую таміну класіка. А ў ёй, як яму здавалася, — сплаў мудрасці, свежасці думак, ды, што казаць, подых самой геніяльнасці.

Гаўрыла адкаркаваў новы бутэль з малдаўскім віном. З кожным новым глытком адчуваў, як яснелі вочы, як душа напаўнялася лёгкасцю і ў ёй раслі крылы.

Калі на ўсходзе пачало святлець неба, калі на зямлю надыходзіла ранне, калі пах травы, туману, ліпоўніку дурманіў шалёнай свежасцю, Гаўрыла насцеж расчыніў акно ў сваім кабінеце. Нейкая верталётная сіла ўзнесла яго на падаконне. Ён стаяў у акне, як аракул, прарок, увесь у белым.

І зусім нечакана яму захацелася паляцець да зор нябесных.



## Яўген ГАРАДНІЦКІ

### ДЗЕСЬЦІ ТАМ

Што ён такое, твой раптоўны, сярод мітульгі паўсядзённай, кліч,
паэзія, навошта ты дасылаеш вестку, якую цяжка,
а можа, і непатрэбна ўцяміць? І адказу ты не чакаеш.
Позна. Гэта слова не з твайго лексікону. Незразумелае слова.
На досвітку штосьці прамільгне ў паветры, як спалоханая,
з гнязда свайго наседжанага ўзнятая птушка. Крыламі
ўзмахваючы, вяшчуючы небяспеку, паэзія, як сіратлівая птушка,
ты клічаш у запаветную далячынь, якой няма. А можа,
даеш такім чынам знак, суцяшаеш апошнім зманам,
каб лягчэй было прымірыцца з усюдыіснасцю невідушчасці,
з разгорнутымі скрыжалямі непераўзыдзенага і невядомага?
Там, на мяжы недасяжнага і прамяністага, дзе сустрэчы
нагадваюць развітанні, а прысак зямных дарог як сведчанне,
там, адкуль далятае твой кліч, дзесьці там... Страчанае назаўсёды
становіцца там навекі здабыткам, але заслона тугі і адчаю,
роспачы і зняверы ахутвае тыя прасторы бязвідныя, дзе
дух твой несмяротны лунае, паэзія, з незразумелым клічам.

---

***Гарадніцкі Яўген Андрэевіч*** *нарадзіўся 29 ліпеня 1951 года ў вёсцы Ракаў Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў фрэзероўшчыкам на Мінскім заводзе запчастак. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) і дактарантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (2003). Працаваў у выдавецтве «Вышэйшая школа». Цяпер — вядучы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт.*

*Аўтар літаратуразнаўчых манаграфій «Думка і вобраз: праблема інтэлектуалізму ў сучаснай беларускай паэзіі» (1986), «Мастацкі свет беларускай літаратуры XX стагоддзя» (2005), «Паэтыка беларускай літаратуры XX стагоддзя» (2010) і інш., шматлікіх літаратурна-крытычных артыкулаў. Вершы публікаваліся ў калектыўным зборніку «Крыло» (1984), у перыядычным друку.*

## ЛЯСНАЯ ДАРОГА, LE DÉJÀ VU

Едзем з бацькам на возе па лясной, між ялінаў і сосен
нястрымна кудысьці бягучай, задуменнай і яснай,
як дзень гэты, дарозе. Конь трухае паціху, быццам мэта
і яму вядома, і каб да яе дабрацца ўрэшце, патрэбны
такія вось няспешныя, спакойныя, непразмерныя намаганні.
Грыбныя сямействы нас, як лясныя пасольствы, вітаюць,
сустракаючы ўзбоч дарогі, на перамовы з імі даводзіцца
саскокваць пастаянна з калёсаў, і зноўку прыцішаны тупат
капытоў па зямлі, што аддана кудысьці кліча ў свае
неспазнаныя нетры. Шолах лясны і пошум, цвіркат птушыны,
пах жывіцы, сасновага водару, што параўнальны толькі
з самім жыццёвым духам, быццам тут недзе побач
і стаілася сутнасць жыцця, увасобіўшыся ў пахі і колеры.
А дарога між тым забірае ўправа, ныраючы ў малінавы зараснік,
у яе свой наравісты характар, і з гэтым
патрэбна мірыцца, вось леснічоўка паказалася збоку,
ад яе дарога заварочвае ўлева, мы едзем па ёй,
зачараваныя гэтай няспешнай яздой, услухоўваючыся
ў навакольны свет і ў сябе. Прагаліны, прасветы
між сценамі дрэў, і восені развітальнай крыло
яшчэ не закранае іхніх вяршалін. Гэта толькі шум ветру,
толькі дарога, што нязменна вядзе за сабой,
абяцаючы штосьці за сваім паваротам.
Вось выплывае паціху хаціна між спляценняў
Бэзу, вішанніку, чымсьці знаёмая, быццам гадáмі
ты жыў тут і слухаў салаўіныя спевы ў кустоўі.
Няўжо гэта тая самая леснічоўка зноўку
з’явілася праваруч, або, магчыма, вельмі падобная
на яе? Едзем далей, дарога па-ранейшаму ўпраўна
і аддана кладзецца пад колы, усё гэтаксама ўважліва
цішыня сочыць за намі — канём і двума седакамі,
якія кудысьці ўпарта імкнуцца паміж разамрэлай лістоты.
З нябёсаў бясхмарных бачна, як яны, падарожныя,
зноў паварочваюць да той самай лясной хаціны.

* * *

Старыя фотаздымкі... Позірк, што калісьці ўпаў,
адзначыўшы прагал у часе, на паверхню рэчаў,
як выпадковы промень, ён застаўся на паперы,
ён нябачна атуляе дрэвы, стаіўшыся за іх ствaламі,
узносіцца кудысьці ў незразумелыя,
адрэтушыраваныя ім нябёсы. Там, дзе няма ўжо нас,
застаўся праныра-позірк, бяздомны, сіратліва

выглядвае адтуль — з імглы спрадвечных сненняў,
яму належыць непадзельна прасцяг, які не перайсці
і не пераехаць. І гэта воблака, што зараз наплывае
на край пажоўклы фотаздымка, яно судакраналася
з услед за ім памкнёнымі надзеямі і марамі, на ім
яшчэ і зараз можна прачытаць тых даўніх драм адбітак.

## МАКСІМУ ТАНКУ

За векавы рубеж перайшлі вы з вашай песняй, ды яна ўсё гучыць,
не змаўкае над разлогамі нашай Айчыны, над Нарачанскім краем.
Услухайся толькі — пачуеш, як сама зямля вашу песню спявае. Яна
вашы верлібры, як уласныя роздумы, прамаўляе. Вашы лісты чытае.
Вашы верлібры гучаць як песні, ім вольна пад родным небам.
Узносяцца ўгору, да зорак — вечнасці сведак, якія й тады пазіралі,
калі юнак з душою паэта і палымяным змагарным сэрцам
ад вёскі ішоў да вёскі, несучы разам з вершамі ў падарожнай кайстры
прагу волі, імкненне перайначыць долю братоў сваіх на зямлі гэтай.
Тут зямля такая, яна сама спявае. У пошуме ветру, у плёскаце хваль,
у цішыні пераднавальнічнай і ў гулкім рэху бароў чуецца гэта песня.
Голас паэта цяпер навекі зліты разам з рокатам буры і шэлестам вецця,
думкі паэта лунаюць разам з хмарамі ў клопаце аб ураджаі, аб хлебе
надзённым. А на галоўнай плошчы сталіцы ўзвышаецца гмах, на якім
ззяе сучаснікам і нашчадкам ваша імя. Прайшоўшы жыццёвыя ўніверсітэты,
вы самі сталі ўніверсітэтам. І вучыце нас заўсёды зберагаць у сабе
мудрасць і летуценнасць, вернасць ідэалам і чалавечнасць, любоў і дабрыню.

**Людміла КЕБІЧ**



# САМА, САМА, САМА, САМА, САМА...

*Аповесць*

## Замест прадмовы

Пытанне, за каго з двух прэтэндэнтаў на руку і сэрца выходзіць замуж, дачка маёй сяброўкі вырашыла імгненна. І абрала Вадзіма — мілавіднага, чарнавокага, цёмнавалосага хлопца, сумленнага, шчырага, добра выхаванага.

Валодзя быў поўнай яго супрацьлегласцю. Высокі, складны, светлавокі бландзін, ён нагадваў лонданскага дэндзі і побач з дзяўчынай — разумніцай і прыгажуняй — выглядаў вельмі гарманічна.

Калі маці асцярожна пачала размову з дачкою пра гэта, жадаючы прадухіліць жыццёвую памылку, дзяўчына адказала так, што не толькі здзівіла матулю, але вымусіла надоўга задумацца, азірнуцца на сябе і сваіх сябровак-каляжанак, на нашы сямейна-шлюбныя адносіны, наогул.

Што адказала дачка маёй сяброўцы? А вось што... Але не, не скажу. Думаю, вы здагадаецеся самі, прачытаўшы гэтую жаночую аповесць, якую я нарэшце наважылася распачаць, успомніўшы той даўні аповед сваёй сяброўкі, а таксама шмат эпізодаў і жыццёвых гісторый маіх знаёмых жанчын. Я ўвасобіла іх у гераінях гэтай аповесці. Папярэджваю, што яны, мае гераіні, не канкрэтныя асобы, а вобразы, у якіх я пастаралася адлюстраваць тыповыя рысы паводзін і абставін жыцця ўсіх жанчын, якія замужам (або былі) за мужчынамі, народжанымі пад пэўным задыякальным знакам.

---

***Кебіч (Вайтулевіч) Людміла Антонаўна*** *нарадзілася 17 ліпеня 1951 года ў гарадскім пасёлку Краснасельскі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла аддзяленне тэорыі музыкі Маладзечанскага музычнага вучылішча (1971), філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы (1981). Працавала выкладчыкам музычна-тэарэтычных дысцыплін у Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў. Цяпер — старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Па музычных законах» (1996), «Зялёная рутвіца» (2001), «На беразе белай ракі» (2003), «Ключы ад Неба» (2005), «Светач мастацтва» (2008), «Непераможны колер охры» (2008) і інш.*

## Частка І

## Алена, або Шавец без ботаў

### 1

Алена спяшалася. З хвіліны на хвіліну павінен быў вярнуцца з працы муж — трэба гатаваць вячэру. Паўгадзіны таму яна літаральна ўляцела ў хату. Пераапранулася, распытала сына Рамана пра школьныя поспехі, пра тое, што зададзена і чым ён займаўся. Ён сказаў, што ў школе ў яго ўсё добра, пайшоў у свой пакой. Добра, дык добра! Алена дастала з пакета прадукты, паклала іх на стол. Затым пачала варыць суп. Адначасова думала, што ж будзе рабіць вечарам, як з Раманавага пакоя данесліся страшэнныя крыкі. Алена так спалохалася, што лыжка, якой яна памешвала суп, патанула ў ім, а яна кінулася ў пакой сына настрымгалоў, чакаючы самага жудаснага. Ускочыла ў пакой і ўбачыла, што сын ляжыць на ложку і стогне, курчыцца ад болю. Вочы яго шырока адкрыты, вусны прыкусаны.

— А-а-а! Не магу больш!.. Калі гэта скончыцца?.. Я ж так і памерці магу!..

— Што з табой, сыночак! — залямантавала Алена, абдымаючы сына.

Раман на момант сціх і са знябожаным выразам на твары патлумачыў:

— Я нараджаю, не бачыш?! — сказаў сын, здаецца, спакойна і раптам зноў пачаў стагнаць.

Алена толькі цяпер заўважыла, што з-пад сынавай кашулькі выпірае вялізны жывот, зразумела, што Раман падсунуў туды падушку, што ён блазнуе і нібы абмякла: ну, артыст, ну, я табе...

Яна не ведала, ці накінуцца на сына з кулакамі і добра аддубасіць, ці рассмяяцца і прыняць усё за жарт. А Раман тым часам сеў на ложку і разважліва прамовіў: «Та-а-ак, цяпер я разумею, як я табе дастаўся! Вось чаму ўсе вучаць, што матуль трэба берагчы і слухацца, так, мама, так?»

Алена, ужо добра супакоіўшыся, нечакана для сябе сказала:

— Што ж, трэба, мусіць, табе брацікa або сястрычку купіць. Ты ўжо вялікі, табе дзесяць гадоў, будзеш няньчыць.

— Толькі не гэта! Ніякіх братоў і сясцёр! І не купіць, а нарадзіць, папершае, — за каго ты мяне трымаеш?! Брата, ха-ха! Цацкі ўсе мае пераламае, кніжкі парве! Не хачу ні з кім дзяліцца! Дый хіба можна дзяцей з такім бацькам, як наш, нараджаць? Надумала?! — хмыкнуў Раман.

— А чым табе бацька не дагадзіў? — здзівілася Алена.

Але тут у дзверы зазванілі, і яна падхапілася ісці адчыняць, махнуўшы Раману, каб змоўк.

На парозе з'явіўся галава сям'і Лявон Паўлавіч. Ён працаваў юрыстам на хлебазаводзе, атрымліваў невялікую зарплату, але на жыццё не скардзіўся жонцы: «Колькі даюць, столькі і атрымліваю. Мне хапае. А калі вам не хапае, вы і думайце!» Гэта значыць, што Алена з сынам павінны былі думаць, дзе і як зарабіць грошы.

І Алена думала. Атрымаўшы сваю заработную плату, яна сядала за стол і размяркоўвала грошы на ўсе хатнія патрэбы, раскладвала іх па канвертах: за кватэру, за тэлефон, на прадукты, на мыючыя сродкі і гэтак далей... Шмат грошай разыходзілася на лячэнне сына, бо хлопчык рос хваравітым і толькі за першыя два гадкі жыцця адзінаццаць разоў трапляў у бальніцу. Ён ужо звыкся са сваімі хваробамі, абмежаваннямі ў ежы, пастаяннымі ўсялякімі абвастрэннямі. Зносіў гэта часцей мужна, але часам бывалі істэрыкі. Алене шкада было

сына — ні цукерак, ні іншых прысмакаў, да якіх так ласыя ўсе дзеці, Раману ўжываць было нельга.

Магчыма, хваравітасць сына, але больш, напэўна, гераізм яго матулі Алены паспрыяў таму, што Раман рос вельмі неардынарным хлопчыкам, хоць крыху, зноў жа з-за хваравітасці, распешчаным, як кажуць, без тармазоў, без комплексаў. Яго дзіцячыя выказванні можна было б выдаваць за афарызмы. Маці называла іх «афанарызмамі». Але ў іх праяўлялася глыбокае бачанне навакольнага свету, назіранні за з'явамі і людзьмі, якім хлопчык даваў вельмі дакладную ацэнку. Калі Алена пераказвала сваім сяброўкам па працы чарговыя «перлы» Рамана, яны шчыра смяяліся і прарочылі: «Ну, Алена, чакай, вырасце ў цябе нейкі незвычайна таленавіты сын. Геній!»

— Але, таленавіты, — уздыхала Алена, — толькі невядома ў якой галіне.

* * *

Тым часам, павячэраўшы, кожны ў сям'і Громчыкаў заняўся сваімі справамі. Раман з Аленай — урокамі, бацька — газетамі і тэлевізарам.

Пасля дзесяці, калі Алена паклала спаць сына, як заўсёды з вялікім скандалам, яна прысела каля мужа, які ляжаў на канапе ў зале.

— Слухай, Лявон, трэба неяк куртку Раману купіць: вясна ідзе. Глядзі як ён за зіму вымахаў. Са старой курткі рукі, як граблі тырчаць, — ціхенька распачала яна.

— Грошай у мяне няма, — катэгарычна адсек муж.

— Але, даражэнькі, ты ж нядаўна атрымаў зарплату, — асцярожна нагадала яму Алена.

— Ну і што, я ўжо ўсё размеркаваў.

— Як гэта, а мы? Можа, хаця б на якія бананы сыну выдзеліў?

— А ты дзе свае падзела?.. Трэба ўмець эканоміць! — цвёрда і ўпэўнена прамовіў Лявон, нават не зірнуўшы на жонку.

Алена зразумела — размова скончана. Сумна ўстала і пайшла ў спальню. Запаліла святло на пісьмовым стале, дастала падручнікі, што ўзяла ўчора ў бібліятэцы, і пачала настройваць сябе на яшчэ адну справу, якую павінна была выканаць абавязкова за два вечары. Яна часта бралася пісаць кантрольныя працы. Разумела, што так нельга, але ж жыць трэба… Справа ў тым, што Алена працавала псіхолагам у тэхнічным каледжы, мела дзве вышэйшыя адукацыі — скончыла два ўніверсітэты з адзнакай. У працоўным калектыве яе вельмі шанавалі і любілі, навучэнцы ішлі да яе натоўпам са сваімі праблемамі, педагогі прыводзілі ўласных дзяцей, а дзеці — бацькоў. І ўсім яна давала слушныя парады, дапамагала, чым магла, ад душы. І душа ў Алены Мікалаеўны сапраўды была цёплая, шчырая і адкрытая. Усмешка — яскравая, ветлівая, вочы — само сонечнае ззянне. Аднойчы нехта нават вельмі ўдала пажартаваў: «На дзвярах вашага кабінета, Алена Мікалаеўна, трэба даўно змяніць шыльду і не «Псіхолаг» напісаць, а «Спавядальня». І гэта адпавядала рэчаіснасці.

Не сказаць, каб Алене падабалася пісаць кантрольныя працы на заказ, але патрэбны былі грошы, гэта быў дадатковы яе заробак. На гэты раз трапіла кантрольная па гісторыі. Тэма — неадназначная, складаная, толькі ў назву трэба ўнікаць паўгадзіны. Але Алена ведала: варта ёй толькі пачаць і невядома адкуль возьмуцца сілы, прыйдзе натхненне, пацячэ думка, за ёй — другая. А там Алена захопіцца і будзе раскрываць, і, адначасова, як след вывучаць гэтую тэму сама. Так было і сёння.

Папрацаваўшы недзе каля гадзіны, Алена адчула стомленасць, верны знак — пара адпачываць, а працяг — заўтра. Муж таксама прыйшоў у спальню і пачаў распранацца. Рабіў ён гэта павольна, спакойна, складваў адзежу роўненька: складачка да складачкі. Пазяхаючы, запытаўся:

— А дзе мае шэрыя трусы ў кропачкі?

— Яны ў пральні, — спакойна адказала Алена.

— У чым жа я пайду заўтра на працу?

— Як гэта?.. Надзень гэтыя, або гэтыя, — Алена падышла да камода і пачала перабіраць мужавы «трусачы».

— Дык яны не падыходзяць мне пад заўтрашні ўбор! Я заўтра мяркую апрануць шэры гарнітур.

— Ну, а хто тваё сподняе будзе бачыць? — падзівілася Алена.

— А пры чым тут хто? Галоўнае, каб я ведаў, што ў мяне ўсё гарманічна.

Алену распірала, але яна ж псіхолаг, яна прызвычаілася, што павінна быць стрыманай. Таму стрымалася, але ўсё ж, робячы націск на кожным слове, прамовіла: «Добра, не хвалюйся, я зараз пайду і памыю іх».

Спрачацца было дарэмна, Алена гэта ведала і не хацела псаваць сабе нервы. Проста яна даўно рэальна глядзела на сваё сямейнае жыццё. Лявона не пераробіш, не пераканаеш, дык навошта дарма губляць час. У яе мужа даўно заведзены сшытак, дзе на кожнай старонцы напісана, да якога гарнітура якую кашулю ён павінен апранаць, які гальштук завязваць. І ніколі, хай сабе хоць землятрус здарыцца, ён не надзене тыя шкарпэткі, якія не ўпісаны ў адпаведны набор рэчаў у ягоным сшытку.

* * *

Пасля ўжо, лежачы стомленая ў ложку, яна доўга не магла заснуць, адганяла крыўду, якая наплывала на душу, разважала так:

— А чаго крыўдзіцца? На каго?.. На сябе? Што не ўгадала, не распазнала? Што маладая была? А хутчэй за ўсё — гэта лёс, наканаваная мне жаночая доля...

Унутраны голас абвяргаў: «Лёс, лёс! У цябе ж быў выбар, а ты?.. Паквапілася на рангі, на дабрабыт!»

— Які там дабрабыт? Вунь, як выйшла. Усё павінна вырашаць сама, спадзявацца толькі на сябе, — аспрэчваў яе развагі таксама ўнутраны, толькі нейкі ўжо іншы голас.

Алена пасміхнулася, прыгадаўшы ўчарашні анекдот. Яна кансультавала маці адной навучэнкі, у якой з дачкой не ладзіліся адносіны. Імкнулася выявіць усе абставіны і акалічнасці. А зразумела прычыну разладу тады, калі матуля дзяўчыны, нарэшце даверліва ёй раскрыўшыся, запыталася: «А вы ведаеце, Алена Мікалаеўна, сакрэт сямейнага шчасця?» І не чакаючы адказу, гулліва прамовіла: «Сама, сама, сама, сама, сама…»

## 2

Раніца была звычайная.

«Будзік» празвінеў у самы сон. І ў шэсць гадзін Алена была на нагах. Раману патрэбна была толькі свежапрыгатаваная ежа, таму раніцай яна рыхтавала сыну яшчэ і абед. Паснедалі. Першым адправілі на працу Лявона Паўлавіча — яму было далекавата дабірацца да завода. Потым, цмокнуўшы ў

шчаку, выпхнула ў школу Рамана. Хуценька сабралася сама, з думкай «нічога не забыць» выйшла з хаты.

Веснавое сонейка яшчэ не грэла, але ўжо грала на дахах, у галінах набрынялых сокам, але пакуль голых дрэў, у халодных лужынах, дражнілася рознакаляровымі зайчыкамі. «Хораша, вяснова», — падумалася Алене, і на душы пачала ўсталёўвацца добра вядомае пачуццё самасвядомасці. Так, толькі на працы яна адчувала сябе патрэбнай, паважанай, значнай асобай. Тут цанілі яе розум, яе талент красамоўцы і ўменне ладзіць з людзьмі, яе педагагічны такт, адукаванасць і высокі прафесіяналізм. Ніхто ніколі не бачыў, каб яна выйшла з сябе, на каго-небудзь павысіла голас. Пры тым, прамовы яе захаплялі эмацыйнасцю і мелі абсалютна пераканаўчы эфект.

Чорнае мідзі-паліто, чырвоны празрысты газавы шалік, модна перакінуты цераз адно плячо, лакіраваныя боцікі на высокіх абцасах, чырвоныя пальчаткі і такога ж колеру сумачка — у каледж увайшла іншая Алена, прывабная, светлая, гарманічная маладая жанчына з вачыма і ўсмешкай Анёла.

З усіх бакоў ляцелі прывітанні, і яна адказвала на іх шчыра і ветліва. Не паспела ўвайсці ў кабінет і распрануцца, як зазваніў унутраны тэлефон і голасам дырэктара загадаў: «Алена Мікалаеўна, вы ў сябе? Зайдзіце». І пачалося...

Алена павінна была, па даручэнні дырэктара, высветліць, ці ўсе сіроты, якія вучацца ў каледжы, маюць жыллё, якое за імі замацаванае. Для гэтага трэба было стэлефанавацца з раённымі аддзеламі сацыяльнага забеспячэння, удакладніць інфармацыю і накіраваць адказ у абласны аддзел адукацыі. Алена не палохалася гэтай працы, як і ніякай іншай, таму што мела вялікі вопыт, кіравалася ўласнымі пачуццямі і лозунгам: «На працы трэба працаваць!»

На перапынку пасля першай пары да яе ў кабінет зазірнула загадчыца прыборабудаўнічага аддзялення:

— Прывітанне, Алена Мікалаеўна! Як справы? — задала тая традыцыйнае пытанне.

— Падшываюцца... Вось, на сірот кляпаю... А ў вас як, Галіна Янаўна?

Яны перакідваліся фразамі, якія нічога не значылі «пра жыццё бягом», «пра няма часу», «пра шмат працы»… І раптам Алена запыталася: «Нешта вы, Галіна Янаўна, сёння ўстрывожаная, напятая, як струнка, што вось-вось пэнкне».

— Не, нічога, — збянтэжылася Галіна Янаўна.

— Ну, не кажыце, мяне не падманеш, выкладвайце хутчэй, — жартаўліва-пагрозліва загадала Алена.

— А ну яго! Стамілася. Тут скачаш-скачаш, як секундная стрэлка на гадзінніку, таму падай, таму адкажы, таму пачытай, а ўдзячнасць — адна. Дасталі! Вось раззлавалася і пайшла ўчора пасля працы па крамах, купіла сабе дарагую парфуму, зрабіла манікюр, паблындала па горадзе крыху… І лягчэй стала, верыце? Дамоў вяртаюся, ну, думаю, завал. Аказваецца — усё ў парадку: дачка посуд вымыла, малога з садка забраў муж і сядзяць радком, і гудуць ладком.

— А я даўно вам казала, што трэба калі-нікалі дазваляць сабе браць адгул ад сямейных спраў, або пацешыць сябе, любімую, чым-небудзь прыемным. Так што вы, Галіна Янаўна, усё правільна зрабілі, — заўсміхалася Алена.

— Алена Мікалаеўна, а давайце пойдзем перакусім у наш буфет. Я дык раніцай не паспела, — прапанавала Галіна Янаўна.

— Вы ведаеце, перакусім абавязкова, толькі крышачку пазней. Давайце праз хвілін сорак пойдзем, таму што цяпер у мяне кансультацыя.

Пад дзвярыма кабінета ўжо чакала навучэнка-першакурсніца. Ёй патрэбна была дапамога. Няпоўная сям'я, з маці ніякага кантакту, сама дзяўчынка, правучыўшыся амаль год, не адаптавалася ў калектыве, а нядаўна, наогул, заявіла, што будучая спецыяльнасць электратэхніка ёй не падабаецца. Сёння ў іх была чарговая гутарка па душах. Гутарка выглядала прыблізна так: псіхолаг Алена «выцягвала» з дзяўчыны па крапельках патрэбную інфармацыю. Пры гэтым стараючыся ўзняць дзяўчыне настрой, пераканаць, што яна памыляецца, разважаючы так. Дзяўчына ж з надзьмутымі пульхнымі вуснамі, а часам і са слязьмі на па-мастацку вымаляваных вочках падтаквала ёй. Разыходзіліся з ветлівымі ўсмешкамі і такім пачуццём, што з плячэй скінута цяжкая торба з камянямі.

Пасля сняданку ў буфеце жанчыны разышліся па сваіх працоўных месцах. Алена патэлефанавала сыну, які павінен быў прыйсці дадому са школы, і той адразу ж загрузіў матулю сваімі праблемамі: нейкую Дзявятую сімфонію Шастаковіча трэба на заўтра намаляваць, на кожную частку — твар з адпаведнай характару музыкі эмоцыяй.

— Госпадзі! Гэтага мне толькі не хапала. А дзе ж узяць апісанне той сімфоніі? Слухаць жа, ясна, — не дурныя мы! — гаварыла сама з сабой Алена, здымаючы трубку тэлефона і набіраючы нумар знаёмай настаўніцы музычнай школы.

Удакладнілі, што так, сапраўды, ёсць такая сімфонія ў Шастаковіча, толькі абедзве здзівіліся, чаму 9-я, а не 7-я «Ленінградская»? І чаму ў падручніку «Музыка» — аніякага крытычнага матэрыялу? Дамовіліся, што па дарозе дамоў Алена забяжыць узяць падручнікі.

Вырашыўшы, ці так бы мовіць, развязаўшы яшчэ шэраг пытанняў, жанчына надрукавала на камп'ютары матэрыялы для стэнда «Псіхолаг раіць», збегала ў інтэрнат — дзякуй богу, што ён быў блізка — і правяла заняткі па раскладзе ў 241 «Э» групе. Пры гэтым некалькі разоў на дзень тэлефанаваў Раман — прасіўся, каб дазволіла ісці гуляць у двор, крычаў, што не знаходзіць красоўкі, карацей кажучы, тузаў матулю па абы-якіх патрэбах. Затое муж не тузаў. Не званіў ні разу. А навошта? Пытанняў ніякіх. Заданняў таксама. Чаго тады самому набівацца. Вечарам сустрэнемся, аб усім і даведаюся. Алена звыклася, хоць і разумела — дрэнная звычка. Недзе падспудна хацелася, каб муж тэлефанаваў, гаварыў ласкавыя словы, сумаваў, не мог дачакацца вечара, сустрэчы.

Не было гэтага, не было. Ніколі, нават у першыя гады замужжа.

Алена ўспомніла, як Лявон з бацькамі прыехалі да яе ў сваты. Алена жыла і працавала тады ў абласным цэнтры, таму ў яе бацькоўскі дом ехалі разам — маладыя і Лявонавы бацькі. Высыпалі з машыны. Лявон — першы. Не заўважаючы нікога, пачаў агледжваць свой гарнітур, дастаў хусцінку — працёр туфлі, здзьмуў пырынкі з пляча, паправіў гальштук, прычоску... Алена выскачыла з машыны і падбегла да мамы і таты, якія чакалі іх з хлебам-соллю на ганку, чмокнула яе і яго ў шчочку, прывіталася, пазнаёміла з гасцямі. Падчас застолля і размовы пра вяселле Алена заўважыла на матуліным твары лёгкі цень самоты. Падлавіўшы момант у сенцах, запыталася: «Мамачка, ты чаго? Вочкі твае сумнаватыя, можа, навіны якія ў радні благія?»

— Ах, дачушка, паслухай. Не вельмі падабаецца мне твой выбар. Наплачашся ты з ім!

Шчаслівая Алена хацела разважыць матулю, маўляў, яна Лявона не ведае, але з хаты паклікаў бацька: «Ну, дзе вы там прапалі? Хіба ў падполле пападалі?» І яны вярнуліся да стала.

Пазней Алена спыталася ў матулі, чаму яна так сказала тады, пры першай сустрэчы з будучым зяцем? На што мудрая матуля адказала: «А ўбачыла я і сэрцам сваім матчыным адчула, што не пара ён табе, дачушка. Ён жа нават рукі табе не падаў, каб дапамагчы з машыны выйсці. Толькі сябе прыхарошваў. Эгаіст ён, калі не сказаць грубей».

Шкада, што маладосць не мае асаблівасці вучыцца на чужых памылках і набівае сабе гузакі на лбе на сваіх уласных (хаця кажуць, дурны той, хто вучыцца на сваіх памылках).

**3**

Ужо сцямнела, калі Алена пераступіла парог сваёй кватэры. Ромусь налящеў на яе і ледзьве не збіў з ног.

— Мама, мама, я знайшоў татаў скарб! Я падазраваў, што ён нешта ад нас тоіць і знайшоў, во сёння!

— Золата, дыяменты? — іранічна пасміхнулася Алена. — Дарэчы, дваццаць пяць працэнтаў табе!

— Няма чаго смяяцца, хадзем пакажу — плакаць будзеш, — не супакойваўся малы.

З ніжняй палічкі кніжнай шафы былі вывернуты на падлогу ўсе часопісы, якія яны захоўвалі. У самым куточку за імі Раман адшукаў цэлафанавы пакет з шакаладкай, некалькімі батончыкамі халвы, цукеркамі розных марак, яблычкам, апельсінам.

— Во, бачыш, дупло сабе завёў, вавёр гэтакі! Ад каго хавае? Ад роднага сына і жонкі?! Тут у гаспадарцы морквы звычайнай няма, а ён на прысмакі грошы марнуе! — не сунімаўся сын.

Алена на момант аглухла. Стала так балюча недзе пад леваю лапаткаю. І горача. Слёзы затуманілі вочы. Цела абмякла. Яна моўчкі павярнулася і пайшла ў вітальню распранацца.

Раман, адчуўшы, што маці не на жарт расхвалявалася, перамяніў тон свайго абурэння, падбег да яе, стаў абдымаць, цалаваць яе, прыгаворваючы мякка і ласкава: «Мамачка, не хвалюйся, я пажартаваў, я ведаю, што тата так зрабіў, каб мяне не спакушаць — мне ж нельга нічога гэтага есці! Мамачка, прабач, я больш ніколі не буду лазіць па шафках і не буду нічога знаходзіць, добра?»

Алене было вельмі крыўдна і агідна, але яна — маці, да таго ж — псіхолаг, а перад ёю яе маленькі, дурненькі і самы разумны на свеце сын, з якога яна павінна выгадаваць сапраўднага мужчыну, бацьку. Ён зазіраў ёй у вочы і трэба было зараз знайсці менавіта тыя словы, каб рэабілітаваць перад сынам бацьку. І Алена знайшла іх у каторы ўжо раз. Напусціўшы на сябе маску таемнай расчараванасці, прамовіла:

— Эх ты, Ромусь, усё ты сашпэціў. Я ведала пра гэтае сховішча. Тата мне яго паказваў. Гэта ж ён для цябе пакрыху складваў туды ласункі — хацеў неспадзяванку зрабіць табе на канец навучальнага года.

Раман замёр на месцы. Справа зрабіла круты паварот, які яму вельмі падабаўся. І хлопчык паверыў святой матулінай хлусні.

— Што ж цяпер рабіць будзем? — разгублена спытаў ён.

— А давай складзём усё як было, і нічога тату не скажам, будзем чакаць канца навучальнага года. Уяўляеш, колькі яшчэ там будзе ўсялякай смакаты! Давай, сынок, гэта будзе наша таямніца? — узбуджана загаварыла Алена, і ў вачах яе загарэліся вільготныя зялёныя зорачкі.

Яны хуценька спакавалі ўсё назад, паклалі на месца часопісы і пайшлі разбірацца з сімфоніяй Шастаковіча, якую трэба было «намаляваць». Затым прыйшоў бацька — павячэралі, пра нешта гаварылі, нават смяяліся. Алена з сынам увесь вечар пераміргваліся, абменьваліся толькі ім вядомымі, што яны значаць, паглядамі. Паміж сынам і маці пасялілася тайна. Тата нічога, зразумела ж, не заўважыў.

Настрой у Алены, як ні дзіўна, быў прыўзняты. Ёй было няважна цяпер, што наперадзе цяжкая і непрыемная размова з мужам. Галоўнае — Раманава душа ўратавана.

Алена з лёгкасцю парабіла штовечаровыя свае справы, дапісала кантрольную, хацела нават патэлефанаваць заказчыцы, каб прыйшла забраць, але было ўжо даволі позна. Заўтра патэлефаную з працы, а сёння — спаць, спаць, спаць!..

* * *

З пасцелі яе падняў званок тэлефона, а не будзільніка. Тэлефанавала Аленіна новая знаёмая Мілана. Па першых нотках яе голасу Алена зразумела, што з ёй нешта зноў здарылася. Так Мілана прасіла аб сустрэчы. Ёй патрэбна была дапамога Алены як псіхолага.

— Супакойся, Міланачка, я цябе прашу. Сёння працую вечарам у інтэрнаце, а вось заўтра мы з табой увесь вечар правядзём разам. Цэлы вечар, і ўсе твае праблемы вырашым. Трымайся і супакойся. Ідзі на працу, вечарам — да мамы, і не думай ні аб чым, чуеш, ён гэтага не варты, чуеш? — цвёрда і ўпэўнена прыгаворвала Алена ў трубку, разумеючы, што зараз у Міланы псіхалагічны зрыў. Значыць, Алене зноў прыйдзецца доўга працаваць з ёю, выпрабоўваючы на ёй усе свае веды, прыёмы і трэнінгі. Але гэта будзе заўтра. А сёння яе чакаў чарговы працоўны дзень, напоўнены новымі справамі, сустрэчамі, роздумамі і адкрыццямі. Дарэчы адно з іх, адкрыццяў, Алена зрабіла даўно: яна можа ўсё. Усё, за што ні возьмецца. Нават сын Раман гэта аднойчы пацвердзіў.

Неяк вечарам яна зайшла ў сынаў пакой, каб пракантраляваць, як той рыхтуе ўрокі. А ён рачкуе па падлозе.

— Рома, што гэта азначае? — запыталася строга Алена.

Раман, скрыжаваўшы рукі і ўзняўшы да столі вочы, тэатральна зацягнуў: «Мама, вось ты псіхолаг, усё ведаеш, усяму гораду дапамагаеш — дапамажы мне знайсці сцірку!»

Так што, даражэнькая, вышэй галаву! А праблемы — і ёсць жыццё. «А хто праблем не мае — з гульні выпадае», — так, здаецца, казаў нехта з вялікіх.

## Частка II

## Мілана, або Немагчымы ніякі прагноз

### 1

Мілану, якая чакала на тралейбусным прыпынку, Алена пазнала здалёк. Танюткая, стыльная, з пышнай каштанавай стрыжкай, яна магла б сысці за топ-мадэль. Твар, а дакладней вочы, выдавалі яе ўнутраны стан, а разам і ўзрост.

«Ах, чаму б гэтым прыгожым жаночым вачам не свяціцца ад радасці, не ззяць прамяністымі зоркамі ад аднаго асэнсавання, што валадарка іх — жаданая і каханая жанчына? Чаму б гэтым вачам не разлівацца яснымі блакітнымі азёрцамі насустрач адзінаму абранніку, ці хваляваць яго зялёнай глыбінёй таямнічых абяцанняў?.. Але чаму ў іх столькі самоты, трывогі, журбы і страху, быццам цемрадзі ў ночы? Няўжо з-за іх, мужчын, яны павінны без пары патухнуць, агаліўшы на твары безліч ранніх зморшчынак?..» Прыблізна такія думкі мільгалі ў галаве Алены, пакуль яна віталася з сяброўкай, абсыпала яе кампліментамі, ухваляючы новыя боцікі і заўважаючы найдрабнейшыя змены ў яе настроі.

Мілана пасля апошняй іхняй сустрэчы схуднела, стала больш трывожнай і напятай, быццам унутры да ўпору закруцілі спружыну, і яна ніяк не можа раскруціцца, а час ідзе, а спружына не раскручваецца. Заціснула.

Жанчыны пайшлі па вечаровай вуліцы ў накірунку ляснога масіву «Пышкі». Вясна красавала, і хоць было яшчэ даволі холадна, — жанчыны нават нацягнулі пальчаткі, — дыхалася лёгка і прыемна.

— Ну, выкладвай, што здарылася? — адразу перайшла да справы Алена.

— Ён сказаў, што забярэ сына! — на вочы Міланы нагарнуліся слёзы, яе голас задрыжаў. — Бо я дрэнная маці. Ён тыдзень не начаваў дома, пазаўчора з'явіўся п'яны, пачаў чапляцца, абражаць мяне. Сашка ўсё чуў. Ледзьве супакоіла гэтага гуляку, а раніцай, калі Сашку выправіла ў школу, хацела пагаварыць з мужам пра тое, што болей так немагчыма жыць. Хацела сказаць, калі ў яго ёсць іншая жанчына, то трэба развесціся і жыць кожны сам па себе. А ён сказаў, што разводу не дасць і нікуды не пойдзе, што так і будзе жыць па сваёй праграме.

— Дык трэба было сказаць яму, што і ты тады будзеш жыць па сваёй? — уставіла Алена.

— Я і сказала, а ён нахабна засмяяўся і злосна крыкнуў: «Не, сцерва, будзеш пакутаваць, але будзе так, як хачу я!»

Муж Міланы, Рыгор, працаваў у міліцыі. Ці то прафесія паспрыяла, ці яго ранні выхад на пенсію, але зрабіўся ён грубым, нахабным і агрэсіўным. А два гады назад ён пачаў позна вяртацца дахаты і ад яго пахла спіртным. На распытванні адказваў груба, як адсякаў. З хаты выходзіў без тлумачэнняў.

— Куды ты, Рыгорка? — наўздагон крычала яму ў адчыненыя на лесвіцу дзверы Мілана.

— Туды, потым сюды, — злосна кідаў муж.

Крыўдна было, незразумела, калі яна заслужыла такое стаўленне да сябе, у чым вінаватая? А што вінаватая — гэта дакладна. За гады сумеснага жыцця прызвычаілася браць віну толькі на сябе: не тое сказала, не тады, не ў тым месцы, трэба было змаўчаць, чорт за язык пацягнуў спытацца і гэтак далей.

З часам Рыгор так распусціўся, што крыўдзіў жонку і абражаў ледзь не на кожным кроку. Плакала, насіла ў сабе крыўду, маўчала.

Прымірэннем быў ложак. Ён хацеў блізкасці, яна адмаўляла, адштурхоўвала яго ўпарта, моўчкі. Ён з такой жа ўпартасцю не здаваўся. Дужы і злы, зразумела ж, перамагаў. Гвалтаваў, а не кахаў. А калі Мілане ўсё ж удавалася пераадолець яго, то з размаху біў яе па галаве і, ляснуўшы дзвярыма, ішоў спаць у залу на канапу.

Мілана доўга плакала, а назаўтра між імі ўсталёўвалася маўчанне. Ён ніколі не прасіў у яе прабачэння. Чарговай ноччу гвалтаваў і лічыў, што яны памірыліся. Быў вясёлы, словаахвотлівы, жартаваў, як быццам нічога не здарылася. Праз некаторы час усё паўтаралася.

Шмат разоў Мілана выклікала яго на размову:

— Давай сядзем, пагаворым, нешта мы не так робім, разладзілася сям’я, трэба ж прычыну шукаць.

— А што ты можаш прапанаваць, аб чым з табой можна гаварыць, «альфа-бэта»? — з нахабнай усмешкай адмахваўся муж, нагадваючы ў каторы раз пра яе сярэдне-спецыяльную, а не вышэйшую, як у яго, адукацыю. — Лепш бы есці зварыла, вунь супу пятнаццаць год не еў!

Мілана слупянела, кроў прылівала да галавы, абраза перакрывала дыханне.

Неяк напярэдадні 8 Сакавіка Мілана прыбірала ў хаце. Настрой быў добры, перадсвяточны. Нейкі час у доме панаваў спакой. Рыгор вярнуўся з працы пазней звычайнага, але Мілана нават не спытала ў яго, чаму? «Напэўна, падарунак заходзіў у краму мне выбіраць», — недзе глыбока варухнулася спадзяванне.

«А што не так?» — спытаецеся вы.

«Не так, даражэнькія. Не было ў яе мужа паняцця дарыць падарункі жонцы. Мала якіх святаў панавыдумлялі людзі!»

А калі аднойчы, недзе яшчэ ў першыя гады іх сумеснага жыцця, Мілана, ласкавая, як кошачка, абняла мужа, прытулілася да яго і папрасіла, па-дзіцячы надзьмуўшы вусны: «Любы, падары мне на 8 Сакавіка залаты ланцужок, усе жанчыны ў нашым аддзеле ўжо маюць. А ў мяне ні завушніц, ні ланцужка, ні пярсцёнка!»

— Толькі з калючага дроту, калі хочаш? — збянтэжыў адказам муж.

І гэта быў не жарт. Ён увесь час папракаў Мілану ў тым, што яна нічога не ўмее рабіць таго, што ўмеюць іншыя жанчыны.

— Вось навучышся гэтак спяваць, — гаварыў Рыгор, разлёгшыся на канапе і гледзячы канцэрт эстрадных спевакоў па тэлевізары, — тады і буду цябе кахаць, а так — за што?..

Мілана старалася. Каб падабацца мужу, яна скончыла камп’ютарныя курсы, займела прэстыжную працу і зрабіла кар’еру — узначаліла аддзел прагназавання ў абласным метэаралагічным цэнтры. Умела шыць, вязаць, шмат чытала, а калі збіраліся госці, здзіўляла сваёй адукаванасцю, уменнем падтрымаць размову на любую тэму, адрознівалася арыгінальнымі меркаваннямі, добрым густам і пачуццём гумару.

Але муж усё больш і больш быў незадаволены ёю. І нарэшце загуляў. Жыццё скончылася. Па сутнасці Рыгор здзекаваўся з жонкі. А яшчэ ён ніколі не называў яе па імені.

— Слухай, папрасуй хутчэй белую кашулю, мне трэба сёння добра выглядаць, — загадваў муж. Затым галіўся-мыўся-душыўся, апранаўся ў самы лепшы гарнітур і, завязваючы гальштук перад люстэркам, акідваючы сябе, любімага, ласкавым позіркам, пытаўся: «Ну, як я? Дзе такога яшчэ знойдзеш?!.. Ну, пакуль!» І радасна, як малады жарэбчык, спяшаўся на спатканне. Вярнуцца мог раніцай або праз тры дні і, як быццам так і трэба было, кідаў сплаканай жонцы:

— Прывітанне, сям’я! Што тут у вас новага?

Было такое ўражанне, што Рыгор з глузду з’ехаў. Такое бывае — чытала Мілана — у мужчын сярэдняга ўзросту — крызіс такі.

— Ды які там крызіс? Распуста ён! Пінгвін у клімаксе! — заявіла сястра Міланы, даведаўшыся пра Рыгоравы лавеласаўскія паходжанні. — А наогул, ён — жлоб вышэйшай катэгорыі. Нават загуляць не змог па-чалавечы! Усю радню трэба скаламуціць, у шок увагнаць! Вунь, мне адна знаёмая расказала

пра сваю цётку. Яна толькі на пахаванні свайго мужыка даведалася, што ў яго была каханка. Глядзіць — нейкая жанчына воддаль надта горка плача. «Хто гэта?» — пытаецца. Ніхто з радні не ведае. І так яе гэта зачапіла — захацела дакапацца. Пазнаёмілася неяк з той жанчынай і высветліла, што ўсё жыццё яе «верны» бегаў да другой. Хацела было плакаць, абурацца, а позна — муж ужо на тым свеце. А гэта?.. Звер нейкі, кат!.. Па кім тут гараваць? Мянцяра пракляты!..

Розумам Мілана пагаджалася з сястрой, а сэрца, душа... Растаптаныя, размазаныя, збалелыя і стомленыя, яны яшчэ ўсё кахалі, не маглі змірыцца з тым, што адбылося. Яны спалі доўгім летаргічным сном і не хацелі абуджацца. Яны аслеплі, аглухлі, знябыліся. Яны перасталі існаваць. Ды й навошта, калі згубіўся галоўны сэнс жыцця — памерла каханне.

Доўгімі самотнымі начамі Мілана, чакаючы Рыгора, палала агнём, уяўляючы, як ён цяпер, яе адзіны на свеце мужчына (бо ніхто ніколі не датыкнуўся да яе пальцам, на лбе, мусіць, было напісана: «Не падыходзь — заб'ю!») абдымае і мілуе іншую. Яны былі злітаваны, былі адным цэлым, і яна не магла ўжо адрозніць, дзе канчаецца яна і пачынаецца ён. Яна дакладна ведала, калі яе муж займаецца каханнем з іншай, бо прачыналася ў той самы момант ад моцнага жадання.

Пакутніца! Дурная… Святая пакутніца!

## 2

Дарога прывяла жанчын да «Алібі» — невялікай утульнай кавярні на ўскрайку лесу, недалёка ад самага высокага будынка абласной клінічнай бальніцы. Не дамаўляючыся, накіраваліся да дзвярэй. На шчасце, тут быў незамоўлены столік, за які яны і прыселі. Маладзенькая і вельмі абаяльная афіцыянтачка ў карацюсенькай спаднічцы, высокіх, аж за калена, боціках з рознымі бліскучымі бляшкамі, але з гладка зачэсанымі, сабранымі ў пучок бліскучай гумкай, цёмнымі валасамі, ветліва прывіталася і падала ім меню.

— Што закажаш, Алена? — запыталася Мілана.

— Я буду сок апельсінавы, калі ёсць, або ананасавы і марожанае.

— А я хачу віна. Слухай, а давай чырвонага сухога па грамаў сто пяцьдзясят... І шакаладку, — энергічна прапанавала Мілана.

Алена не была прыхільніцай алкаголю. Лічыла, што піць віно ў радасці — добра, а ў збянтэжаным, стрэсавым стане — можна ўцягнуцца. А Мілана была менавіта ў стрэсавым душэўным стане, калі не сказаць — шокавым. І ўсё ж унутраны голас практычнага псіхолага падказаў ёй іншае, і Алена пагадзілася:

— Добра, давай.

Яны сядзелі за столікам у паўзмроку сіняга асвятлення. Вакол стаялі акварыумы з рознакаляровымі рыбкамі і зялёнымі водарасцямі, ад якіх немагчыма было адарваць позірку і якія так заспакойвалі. Лёгкая ціхая музыка не перашкаджала размове.

— Не той гэта чалавек, зразумей, Міланачка, з-за якога ты павінна сябе забіваць. Ён зайздросціць табе чорнай зайздрасцю, бо ты абагнала яго на дзве галавы. Вунь, можа, хутка журналістам станеш, — такія артыкулы пішаш! Дарэчы, абяцала мне вершы свае прынесці пачытаць, чаму не прынесла?

— А я табе тут, калі хочаш, пачытаю, у мяне ёсць нататнік з сабою, — ажывілася Мілана, — толькі давай закончым гэтую справу. Пакрычы на мяне, павучы, разваж. Мне з табой так хораша, а больш я нікому й не давяраю.

Усміхнуўшыся сваёй неверагодна прывабнай усмешкай, Алена працягвала:

— А сына ён у цябе не адбярэ, дурніца! Мала што гаворыць. Ёсць жа закон. Ды й сын вялікі — мае права выбіраць. Ты хіба сумняваешся, што дзіця тваё выбера цябе?

Мілана заматляла галавой.

— І адна ты не застанешся. Ты ўжо не адна — сын, родныя, сябры, я, а самае галоўнае: ты — адзіная на планеце, непаўторная. Гэта ж толькі ўяві сабе, што ты магла б не нарадзіцца, а Бог даў, каб з трох мільярдаў аплададтвораных клетак, з якіх застаецца жывой толькі адна, гэтай клеткай стала ты, Мілана! Ці ж гэта не шчасце? Гэта — цуд, дзіва! Дык жыві, радуйся кожнаму дню і будзь удзячна Богу і яго вялікасці Лёсу за тое, што ён даў Свету Цябе, а Цябе — Свету! — пранікнёна скончыла Алена.

— Я яго кахаю, — ціха, але не вельмі ўпэўнена, вымавіла сяброўка.

— А ён цябе?.. Не. Ты не па ім плачаш, бо ведаеш, што ён гэтага даўно не варты. Ты плачаш таму, што ён развáліў тваё жыццё, твой звыклы жыццёвы лад. Цяжка, так, пагаджуся, але не смяротна. Будзе ўсё новае. І лепшае. Не чапляйся за яго. Адпусці. Хай нап'ецца і волі, і кахання...

— А калі ён не вернецца, прывыкне да той жанчыны, і я страчу яго назаўжды? — запярэчыла Мілана.

— Калі вернецца, значыць ён — твой. А калі не — значыць ніколі тваім і не быў, — цвёрда і пераканаўча падвяла вынік Алена.

Яны замаўчалі. Віно і палымяная прамова Алены зрабілі сваю справу. Жанчыны разамлелі — настрой узняўся.

— Чытай лепш вершы, давай! — папрасіла весела Алена.

Мілана палезла ў сумачку, дастала прыгожа абгорнуты сіні нататнічак, пагартала яго, шукаючы, што б прапанаваць сяброўцы, што пасуе да сённяшняга моманту, затым, глынула з высокай шклянкі апельсінавага соку і, нарэшце, пачала:

— Але ты толькі строга не судзі. Я ж нікому, нікому, акрамя мамы, не паказвала. Ну, для мамы іншыя, вядома ж, пра прыроду там, пра сына, мужа. А табе — вось гэта, напэўна.

Яна знайшла патрэбную старонку, засяродзілася, выцерла папяровай сурвэткай, што ляжала побач, вусны і прачытала:

Ціха поўня ўзыходзіць над хатаю,
Зоркі неба пайшлі засяваць.
Надакучыла быць вінаватаю,
За вясёласцю слёзы хаваць.

Кажуць, шчасце зграбаю лапатаю.
Што ім, праўды не знаўшым, казаць?
Надакучыла быць вінаватаю,
З горыч-крыўды каралі нізаць...

Алена была ашаломлена. Сяброўка адкрывалася ёй з іншага боку. Госпадзі! Яна ж — паэтка! Вось адкуль у яе такое тонкае, балючае ўспрыманне рэчаіснасці, столькі эмоцый і пачуццяў! Не, гэта не чужое, а яе — жыццёвае, сапраўднае, глыбокае. Усё зразумела: нябёсы далі ёй гэтыя жыццёвыя іспыты, у прыватнасці, здраду мужа дзеля таго, каб у ёй мог прачнуцца творца. Надышоў час рэалізацыі яе прызначэння.

Алена адчула, як унутры яе разлілася радасць, гэтакая ціхая, ясная, светлая. Яна ведала гэтае адчуванне, гэты свой стан. Яны з'яўляліся сведкамі таго,

што яе прагнозы — правільныя, што, у дадзеным выпадку, у Міланы ўсё складзецца добра, і сяброўка выйдзе на новы віток свайго жыцця.

Праблемы не стала. Але, вядома ж, толькі для Алены. Для Міланы яна яшчэ пакуль існавала. І патрэбны быў толькі час, каб залячыць крывавыя рубцы, нанесеныя на яе жаночае сэрца грубым, абыякавым і таўстаскурым мужланам — яе мужам.

А зараз — на фоне густоўнай інструментальнай музыкі ліўся чароўны голас Міланы. На душы было спакойна і лагодна, як бывае пасля буры.

## 3

Цішыню парушылі нечакана і бесцырымонна. Два даволі маладыя мужчыны падышлі да століка, за якім мірна прыстасаваліся сяброўкі, з шумам адсунулі драўляныя крэслы і прыселі побач, паставіўшы на стол бутэльку шампанскага.

— Што ж гэта такія прыгожыя жанчыны сумуюць у адзіноце? — прамовіў адзін з іх нізкім голасам.

— Прабачце, канечне, але дазвольце прысесці каля вас? — прыгожым аксамітам дадаў другі.

— Вы, па-мойму, ужо прыселі, — паціснула плячыма, бліснуўшы на яго сваімі сплаканымі вачыма, Мілана.

— О, што я бачу! Чаму ў вашых чароўных вачах столькі суму? Што здарылася? — запытаўся ўладальнік аксамітнага голасу, але ўбачыўшы, як Мілана напружылася і хутка апусціла вочы на свае рукі на каленях, замаўчаў.

На момант за столікам усталявалася паўза. Ніхто не ведаў, што рабіць і што казаць. Жанчынам карцела проста вымацюкацца і прагнаць навязлівых кампаньёнаў. Мужчыны зразумелі, што не на тых натрапілі. Мабыць, такім чынам яны «здымалі» сабе «дзевак» на вечар. Але, звычайна такія дзяўчаты сядзелі вось так у кавярнях, як Мілана з Аленай з бутэлькай мінералкі, спадзяючыся, што да іх падсядуць якія мужчыны, напояць, накормяць і дадому праводзяць. А да чыйго дому — гэта ўжо па абставінах — чый свабодны будзе.

Алена і Мілана таксама зразумелі адразу, што іх за такіх палічылі. Стала раптам смешна. І тут нечакана адзін з мужчын, той, што сядзеў побач з Аленай, павярнуўся да яе і прамовіў:

— Слухайце, недзе я ваш голас чуў. — І прыглядаючыся скрозь мільганне сіняга святла, асцярожна спытаў: — Вы, выпадкова, не псіхолаг? А ну, пакажыцеся! Божухна, так яно і ёсць! Алена Мікалаеўна? Вы мяне памятаеце?..

Алена разгубілася, але на мужчыну зірнула. Сапраўды, твар яго падаўся знаёмым. І яна амаль ужо здагадалася, як той абняў яе сваімі мужнымі лапамі і пацалаваў у шчаку.

— Вы жыццё мне выратавалі, памятаеце? Каб не вы, я б… Я не ведаю, кім стаў бы і дзе б быў?! — моцна выгукнуў чалавек.

Наведвальнікі за суседнімі столікамі пачалі азірацца на іх.

— Ціха, ціха, я вас прашу. Я ўспомніла, Вы — Дзіма Калядзіч, так? З дваццаць першай групы, так? І ў Вас былі праблемы?.. Я вельмі рада, Дзіма, што Вы ў норме, такі вялікі, прыгожы, сталы. Сям’я, дзеці, напэўна, ёсць?

— Усё ёсць, мая дарагая Алена Мікалаеўна, усё ёсць, і ўсё дзякуючы Вам!

— Не перабольшвай, калі ласка. Тваёй заслугі тут больш. Каб не захацеў — не пагадзіўся б тады на...

Яна змоўкла, зірнуўшы на сябра, які сядзеў насупраць, побач з Міланай, і не зводзіў з іх вачэй.

— Яму можна, ён мой лепшы сябра і ўсё пра мяне ведае! — здагадаўся Дзіма. — Дарэчы, знаёмцеся — гэта Яўген, буйны прадпрымальнік, хутка едзе ў Швецыю па службовых справах, — адрапартаваў узбуджаны нечаканай сустрэчай Дзіма.

— Кінь ты, Дзімка, які буйны? Дробны я пакуль, — сціпла запярэчыў той.

— Ну, не трэба, сціпласць цяпер не ў модзе, — не здаваўся Дзіма. — Ага, якраз вас толькі сціплымі і называць, — уставіла Мілана. — Без дазволу да нас падышлі, без дазволу селі і яшчэ з бутэлькай.

— Ой, — страпянуўся Дзіма, — сапраўды, дурні мы — пра «шампунь» забыліся. Зараз мы яе, салодзенькую, адкаркуем. Ты бачыш, якое прадчуванне! Яўген кажа: «Давай возьмем віна белага», а я кажу: «Не, трэба «шампуні», — як ведаў, што тут нешта незвычайнае адбудзецца!

Разлілі «Шампанскае», выпілі за сустрэчу, крыху пасур’ёзнелі.

— І ўсё ж, дзяўчаткі, што святкуем? — пацікавіўся Дзімка.

— Вясновыя расчараванні, — сумна выдыхнула Мілана.

— Пачатак новага жыцця, — адначасова з ёю ўрачыста вымавіла Алена. Разам весела засмяяліся, пачалі хапацца за чорнае, каб загадаць жаданне і каб яно абавязкова збылося. Усе схапіліся за Мілану, таму што адна яна была ўся ў чорным, любіла гэты колер з некаторага часу.

Шампанскае скончылася. Неўзабаве жанчыны, пераміргнуўшыся, пачалі збірацца пайсці.

— Дазвольце мы вас праводзім, — на гэты раз культурна прапанавалі новыя знаёмыя, і, не дапускаючы адмовы, растлумачылі: «Лес усё ж такі навокал, а на дварэ цёмна».

— І ваўкі двухногія паўсюдна, — дадала Мілана страшным голасам.

— Во, во! Так што, спадарынькі, згаджайцеся, пакуль мы добрыя! — не сунімаўся Дзіма.

— А куды падзенешся, — сказала Алена.

На вуліцы было цёмна і вельмі холадна, нават лужыны падмерзлі. Дзьмуў непрыемны заходні вецер, хацелася хутчэй дабегчы дахаты. Мужчыны падхапілі жанчын пад рукі з двух бакоў і стараліся хоць крыху затуліць іх ад халоднага ветру.

На ростанях разышліся, наспех развітаўшыся. Алена катэгарычна адмовілася, каб яе праводзіў далей Дзіма, хоць гэта і быў яе былы навучэнец, які ледзь не загубіў калісьці сваё маладое жыццё наркотыкамі. О, колькі сілы аддала тады Алена — малады пачынаючы псіхолаг, колькі папрацавала з ім і з яго бацькамі, а яшчэ больш з выкладчыкамі, каб далі хлопцу шанец, каб не выключылі з каледжа. На лячэнне ўгаварыла. І вось цяпер — такі вынік! Супер!

Мілану ж павялі дадому абодва кавалеры. Ну, і добра — і ёй весялей. Потым трэба будзе даведацца, як там што. Стэлефануемся.

Алена хуценька перабегла па пешаходным пераходзе ад абласной бальніцы на бульвар Ленінскага камсамола і накіравалася на тралейбусны прыпынак «Фарты», спадзяючыся на які-небудзь запознены транспарт. Пачакаўшы некалькі хвілін, вырашыла не мерзнуць тут дарэмна, крутнулася на высокіх абцасіках і хутка пакрочыла да сваёй пяціпавярхоўкі па вуліцы, асветленай яркімі вітрынамі аптэкі, «Беларусбанка», крамаў «Журавінка» і «Зорка».

## 4

Дома, як заўсёды, Алену чакалі навіны. Божа літасцівы, ну, хоць бы адзін раз вярнуцца дахаты і там было ўсё ў парадку!

Лявон, як заўсёды, ляжаў на канапе перад уключаным тэлевізарам і чытаў газету. Раман падазрона ціха зачыніўся ў сваім пакоі. Сустракаць яе не выбег ні адзін з яе любых мужчын.

«Правінілася, дазволіла ж сабе на нейкі час з хаты выйсці, дзетак малых адных пакінула!» — нарастала ў душы злосць.

Хутка скінуўшы паліто і боцікі, Алена змыла ў ваннай касметыку, пераапранулася ў кароценькі махровы халацік колеру марской хвалі, з караблікамі і выратавальнымі кругамі на падоле і пайшла разбірацца, што тут здарылася: зацішша ж, вядома, не прарочыла нічога добрага.

Так яно і было. Бацька з сынам пабіліся.

Алена падышла да канапы, на якой ляжаў муж, нахілілася і пяшчотна цмокнула яго ў шчаку. Прысела побач, зазірнула ў вочы:

— Ну, як вы тут без мяне бавілі час? Чым займаліся?

— Ніяк, — злосна буркнуў Лявон. — Чым тут можна займацца, акрамя яго. — Хітнуў галавой у бок Раманавага пакоя. — Усе нервы парваў за вечар. Ні халеры не жарэ, ля камп'ютара толькі б сядзець! Ледзьве адагнаў. Кажу: «Урокі рабі». Не хоча. Сядзеў з мабільнікам ды гуляў у гульні — грошы вымотваў. Хіба ж можна ад яго чаго добрага чакаць?

— Гэта ад цябе нічога добрага не пачуеш! Мацюкі адны. Мяне ўсё рабіць прымушаеш, а сам цвіка не ўмееш забіць! — заенчыў са свайго пакоя Раман. Ён усё чуў.

— Эх, вы, адзін вечар па-сяброўску правесці не змаглі! — уздыхнула Алена, паднялася і пайшла да сына.

Той, надзьмуты, як паветраны шар, забіўся ў куточку між ложкам і шафай. Вопратка яго была раскідана па ўсім пакоі.

— А гэта што за Эрмітаж? Кожны дзень новыя карціны. Мастак толькі адзін і той жа — Раман Громчык. А што? Гучыць! — жартаўліва пачала яна. — А калі сур'ёзна, сынок, што здарылася?

— Я яго заб'ю, як вырасту! — адчайна выгукнуў хлопчык.

— Што ты такое кажаш, сынок? На тату! Падумаеш, пасварыліся. Паладзіце заўтра, і будзе ўсё добра.

— Не буду я з ім мірыцца, хай спачатку навучыцца з дзецьмі размаўляць! — усё так жа злосна адбіваўся Раман.

— Так, добра. Вылазь з гэтага кутка і давай спачатку навядзём тут парадак, а затым пагаворым. І Алена працягнула сыну руку. Хлопчык страсянуўся, рукі не ўзяў, але з кутка пачаў вылазіць.

— Ты ідзі, мама, я сам. А потым цябе паклічу, — пакрыўджана, але ўжо больш спакойна папрасіў ён.

— Вось і добра, — падтрымала Алена сына і выйшла з яго пакойчыка.

Яна ведала, што зараз Раман адыдзе, асядзе яго выбуховы імпэт, сын стане ласкавым і лагодным, тады можна будзе і пагутарыць. Але калі праз паўгадзіны Алена зазірнула ў дзіцячы пакой, дык убачыла, што сын спакойна спіць, скруціўшыся абаранкам, на неразасланым ложку. У пакоі было прыбрана: цацкі і рэчы раскладзены па сваіх месцах.

Алена дастала цёплы плед, накрыла ім сына і, усміхнуўшыся, падумала: «Што ж, выхаваўчая акцыя часова адкладаецца».

Зачыніўшы дзверы, наважылася пайсці ў залу, да мужа, пасядзець побач, паглядзець разам тэлевізар, але ўспомніла, што заўтра ёй выступаць на радыё па тэме міжасобасных узаемаадносін і трэба хоць крыху падрыхтавацца. Таму, сумна ўздыхнуўшы, накіравалася ў спальню, села за пісьмовы стол, дастала свае псіхалагічныя скарбы — стосы новых кніг і кніжачак, часопісы і ўласныя допісы і пачала перагортваць іх, шукаючы якую-небудзь фразу, выраз ці выказванне, якія павінны навесці яе на логіку пабудовы заўтрашняй гутаркі.

Калі ўсё было зроблена, пачала разбіраць пасцель. Лявон таксама прыйшоў у спальню, распрануўся, лёг. Алена, праверыўшы ці выключаны газ і святло, нырнула пад пухнатую коўдру.

«Няўжо лягла?» — паспела мільгнуць салодкая думка.

Да яе пад коўдру падсунуўся Лявон. Абняў адной рукой за шыю, другой пачаў задзіраць начную кашулю.

— Ну, дзе ты там бадзялася, га? Можа, ужо налева бегаеш? Зараз праверым, змяніўся почырк ці не? — зашаптаў ён, як яму здавалася, ласкава.

— Ты ж ведаеш — з Міланай прагуляліся. У яе праблемы з сынам, — схлусіла крыху Алена, каб не нарывацца на распытванні.

— Усё іншым дапамагаеш дзяцей выхоўваць, глядзі, каб свайго не прапусціла. Зусім ён у цябе ад рук адбіўся!

— А-а-а, — павольна, але без усялякіх эмоцый, працягнула Алена, — а ў цябе твой сын не адбіўся, значыць? У бабы была дачка і ў дзеда была дачка — так, здаецца, пачынаецца адна казка.

— Ну, хопіць, не чапляйся за словы. Я ж цябе хачу...

Пасля ўсіх падзей, кавярні і віна адмаўляць мужу не хапала сілы, дый, папраўдзе, не хацелася.

Хутка спагнаўшы жаданне, Лявон, увесь потны, стомлена пераваліўся на свой бок ложка.

— Не кахаеш ты мяне, Лявон, — горка вырвалася раптам у Алены.

— Ну, чаму?.. Кахаю па-свойму, — развражліва і абыякава адказаў Лявон.

— А я хачу па-мойму.

— Як гэта?..

— З пацалункамі... Каб ты мяне гладзіў, словы прыемныя на вушка шаптаў... Ну, карацей кажучы, каб рамантычней неяк. Мы ж яшчэ не старыя. Вунь у фільмах як, ты ж глядзіш? — сарамліва павучала яна мужа.

— Кінь ты глупствы. Пацалункі мікробы толькі разносяць… Вось, вось, я так і ведаў. Гэта ўжо твая сяброўка падзялілася ўласным вопытам. Казаў, што да дабра яны цябе не давядуць, гэтыя твае «сяброўкі-пакутніцы».

— А што ж мне ўвесь час у хаце сядзець? Адно праца і дом, так? Гэта ж тады ніякай розніцы з турмою! — пачала абурацца Алена.

— Чаму сядзець? Са мной будзеш хадзіць? — выдаў Лявон.

— Куды? — неверагодна здзівілася Алена, таму што прапанова такая прагучала з Лявонавых вуснаў упершыню.

— А вунь сёння якраз на вяселле нас запрасілі. У канцы мая бацькаў брат дачку замуж будзе аддаваць, меншую ўжо самую, Анютку! Так што рыхтуйся, маці.

Яна нічога не адказала. Муж таксама маўчаў. У хуткім часе ён павярнуўся да яе спінай і захроп. У Алены таксама змежваліся вочы, але вельмі хацелася піць. Яна ціха ўстала, пайшла на кухню і, не запальваючы святла, напілася вады проста з імбрыка. Калі ішла назад, зачапілася, на бяду, за Рама-

наў школьны заплечнік, які той кінуў у вітальні на падлозе, і ледзь не ўпала. Лявон, пачуўшы шум, прачнуўся і моцна вылаяўся: «Ну, чаго ты ўсё лазіш? Напалохала, блін!»

— Прабач, прабач, цішэй, я піць хадзіла, — зашаптала Алена, — ужо кладуся.

Яна звілася ў клубок пад сваёю коўдрай, на сваёй палове ложка і, засынаючы ўжо, падумала: «Вось табе, Аленка, і цялячыя пяшчоты!»

## Частка III

## Ірма, або Якія нашыя гады

### 1

На радыё Алена прыбегла перад самым пачаткам перадачы. Вядучая ўжо хацела пачынаць, як у студыю, запыханая, з'явілася Алена. Яны выступалі ў прамым эфіры. Праграма называлася «Выбар за кожным». Удалая назва, пад яе можна падвесці размову на разнастайныя тэмы.

Сёння гутарка ішла пра тое, як захаваць псіхічнае здароўе сучаснаму чалавеку, навучыцца жыць у гармоніі з сабою і навакольным светам. Адказваць на пытанні вядучай і слухачоў былі запрошаны псіхолаг Алена, доктар-псіхатэрапеўт і святар мясцовай царквы, айцец Павел.

Алена вельмі ўзрадавалася, калі ўбачыла сярод запрошаных сваю добрую знаёмую, якая і была тым самым доктарам-псіхатэрапеўтам, Ірму Васількову. Жанчыны ветліва абмяняліся некалькімі сказамі і дамовіліся абавязкова пагутарыць пасля перадачы.

Вядучая рассадзіла ўсіх, як лічыла патрэбным, у радыёстудыі, на шыльдзе загарэліся словы «Цішыня, прамы эфір!», і перадача пачалася.

— У чым вы бачыце задачу псіхатэрапеўта сёння? — спытала вядучая і паднесла мікрафон да вуснаў Ірмы.

— Нашы праблемы, — пачала Ірма, — маюць псіхічную прыроду, гэта значыць, нараджаюцца негатыўным станам душы. Калі чалавек не ўмее знайсці сваё месца ў стракатай мазаіцы жыцця, засяродзіўшыся толькі на негатыўных яго сколах, то ён страчвае сувязь з рэчаіснасцю. Тады ён пачынае ўсё ўскладняць, нагружаць сябе рознымі фобіямі, неўрозамі, надуманымі прэтэнзіямі. Мы называем гэта змяшчэннем унутраных верагоднасцей. Задача спецыялістаў заключаецца ва ўменні дапамагчы людзям з тонкай і высокай субстанцыяй — душой.

— Пытанне да Вас, Алена Мікалаеўна, — перапыніла Ірму вядучая. — Ці згодны Вы з тым, што канфлікт паміж грамадскімі рэаліямі і прыродай чалавека можа прывесці да псіхічнага захворвання і нават справакаваць крымінальныя паводзіны чалавека?

— Так, безумоўна, — уключылася ў размову Алена. — Вядома, што калі доўга заціскаць нармальныя чалавечыя інтарэсы і запатрабаванні — гэта абернецца разладжаннем псіхікі. Сучасная рэальнасць з усімі яе парадоксамі і грымасамі і прывяла многіх да страты сэнсу жыцця. Да таго ж мараль сёння часта носіць дэкларатыўны, слоўны характар, што ставіць пад сумненне існаванне яе як гэтакай. У выніку свядомасць многіх людзей раздвойваецца, і яны робяцца інфантыльнымі, не развіваюцца. А жыццё не дарue ні хвіліны застою. Не паспееш азірнуцца, як яно абярнулася цяжкімі няўдачамі ў асабістым,

сямейным, грамадскім, рознымі разладамі і хваробамі. А тут недалёка ўжо і да крыміналу.

— Што ж рабіць? Я звяртаюся з гэтым пытаннем, у першую чаргу, да айца Паўла, — паведаміла вядучая радыёслухачам і перадала мікрафон святару.

— «Мытарства душ» выклікае спачуванне, але горка бачыць, калі людзі кідаюцца ва ўсе цяжкія грахі. Мішура, шуміха, зласлоўе, інтрыгі становяцца звыклымі ў паўсядзённым жыцці. Не могуць быць здаровыя людзі, калі ў жыцці суцэльныя інфляцыі і дэвальвацыі; шматлікія эканамічныя эксперыменты каштуюць сучаснаму чалавеку не толькі здароўя, але і бесперспектыўнай будучыні. Людзям няма калі займацца сабой, каб паставіць усё ў жыцці на сваё месца. Калі ж ім нестае сіл, яны звяртаюцца да святара, псіхолага, а часцей, на жаль, да варажбіткі. А ўсё значна прасцей, калі прытрымлівацца дзесяці запаведзей. Але гэтаму супрацьстаіць свет зла, разбурэнняў, насілле на тэлебачанні, лёгкае чытанне, якія блакіруюць свядомасць людзей. Ад гэтага чалавек і робіцца несвядомым. Яму ж прасцей жыць бяздумна «ў чорта на кулічках», чым «у Хрыста за пазухай».

— Дык у чым жа ісціна, спадары? — падбіралася да кульмінацыі вядучая, ізноў перадаючы мікрафон Ірме — псіхатэрапеўту.

— Каб меней было псіхічна-няўстойлівых людзей, трэба ведаць тое, што людзі вельмі розняцца між сабой і кожны чалавек — унікальны. Разумеючы гэта, трэба правільна будаваць міжасобасныя зносіны. Тады ні ў адным з куточкаў душы вашай не будзе чаго рабіць чужым мазгам і рукам. Так што, як кажуць, усё ў нашых руках, — аптымістычна падвяла вынік Ірма.

— А я думаю, — падхапіла размову Алена, таму што вядучая хуценька і без папярэджвання паднесла ёй мікрафон, — калі чалавек будзе абыходзіцца з іншымі так, як хацеў бы, каб яны ставіліся да яго, то ён вельмі лёгка, без усялякіх дапамог збоку, зможа самастойна згарманіраваць свой стан. Варта толькі падзяліць сваю радасць з тым, хто побач, са сваімі роднымі і блізкімі, і адбудзецца цуд — непраглядную ноч зменіць светлая раніца. І ніякая зноў жа дадатковая псіхалогія і варажба не спатрэбяцца, калі, закладзеная прыродай, здаровая, свая псіхіка, калі душа запатрабаваная.

Мікрафон плаўна перасунуўся да айца Паўла, і ён паставіў кропку ў дыскусіі:

— А ісціна ў тым, што свой лёс, як і свой сад, кожны абавязаны апрацоўваць сам. Па думках і намаганнях пазней і плады выспеюць. Чалавекалюбству — вось чаму трэба вучыцца ўсё жыццё, таму што калі яго страцім — страцім усё.

Праграма наблізілася да заканчэння. Перад гэтым вядучая прыгадала цікавую прытчу пра тое, як адна жанчына кожны дзень хадзіла да крыніцы па ваду з двума вёдрамі. Але адно вядро было дзіравае, а другое бездакорнае. Таму жанчына прыносіла ў дом толькі паўтара вядра вады. Аднойчы дзіравае вядро звярнулася да гаспадыні і пачало прасіць прабачэння за тое, што не выконвае сваіх абавязкаў. Жанчына ўсміхнулася і адказала: «Я добра ведаю пра гэта, але наўмысна бяру цябе. Зірні, якія разнастайныя кветкі разрасліся ўздоўж сцяжыны з твайго боку, а не з боку новага вядра! Гэта ты іх паліваеш кожны дзень, пакуль мы ідзём дахаты. І я кожны раз магу любавацца іх прыгажосцю».

— Вось і мы з вамі ідзём па жыцці і не заўважаем, колькі цудоўных кветак на нашым шляху! Жанчына зрабіла свой выбар. А якія кветкі паліваеце вы, паважаныя радыёслухачы? — закончыла праграму вядучая.

Пасля перадачы яшчэ крыху пагутарылі, і пакінулі студыю. Айцец Павел прапанаваў падвезці жанчын на ўласнай машыне, але яны ветліва адмовіліся, маўляў, даўно не бачыліся, хочам прайсціся пешкі.

## 2

Як толькі жанчыны выйшлі за тэрыторыю тэлерадыёкампаніі Гродна і пайшлі па вуліцы Горкага міма паштамта і радзільнага дома ў бок цэнтра горада, Ірма схапіла Алену за рукаў і таямніча зашаптала:

— Алёнка, слухай, мне патрэбна хата!

— Якая хата? Не зразумела? У цябе ж ёсць кватэра? Ці дом хочаш купіць? — здзівілася Алена.

— Які дом, дурненькая! Хата на гадзіны дзве-тры. Мне сустрэцца з адным чалавекам трэба.

— Хворым? — не разумела пакуль яшчэ Алена.

— Сама ты хворая! А ён — супер! Здаровы, прыгожы, моцны і пяшчотны! — Ірма засмяялася шчасліва і звонка.

Алена ледзь не ўпала. Нарэшце да яе дайшло, што Ірма займела каханка. Божа мой, гэтая пурытанка?! Свет сапраўды сышоў з рэек… А можа, на колы сеў? Дакладна вядома толькі адно, што або свет, або Алена — едуць не ў той бок. І хто б мог падумаць: Ірма Васількова збіраецца здрадзіць мужу?!

— Госпадзі, ражна табе не хапае, Ірма! — паспрабавала асадзіць сяброўку Алена. — Ігар твой — мара паэта. І прыгожы, і багаты, і цябе кахае. Ды й дачушка ў вас расце!

— Што ты ведаеш пра маё жыццё? Толькі тое, што знешне бачыш: вясёлая, прыбраная. А ў душы — слёзы!.. Багаты, кажаш? А між іншым, бізнес робяць на распусце!..

Голас Ірмы задрыжаў, адчувалася яе ўзрушанасць.

— Надакучыла чакаць, калі заўважыць, калі знойдзе час для мяне. Адна адгаворка — праца, праца... Не веру я ў гэтую працу. Ды й сэрцам адчуваю, што загуляе ён хутка. Калі ўжо не...

Яны ішлі па веснавым горадзе, сярод сонечнага дня, не зважаючы на прахожых і зацікаўленыя пагляды мужчын, дзве яшчэ маладыя, разумныя, адукаваныя жанчыны, апранутыя і прычэсаныя па апошнім піску моды. І нельга было здагадацца, што на душы ў кожнай з іх балючым цяжарам ляжала спрадвечная праблема — страх, што яе не кахаюць. І кожная з жанчын павінна была па-свойму пераадолець гэты цяжар, да ўсяго, абавязкова сама. Так бы мовіць, развязаць гэтую праблему па мерках, калі хочаце, сваёй разбэшчанасці.

Як развяжа свой вузел Алена, нельга нават і прыкладна здагадацца, а наконт Ірмы меркаваць тым больш рана.

* * *

Ірма нарадзілася ў Грузіі. Яе бацька быў вайскоўцам, і сям’я пераязджала з месца на месца вельмі часта. У тыя гады не толькі Грузія, але і ўвесь СССР быў у захапленні ад маленькай грузінскай спявачкі Ірмы Сахадзэ. Пласцінкі з яе песнямі круціліся ў кожнай хаце, дзе раслі дзеці. Цяжарнасць Ірмінай матулі прайшла пад гучанне тагачаснага дзіцячага хіта «Аранжавае неба, аранжавае мора, аранжавая мама, аранжавая я». Выбар імя для дзяўчынкі быў прадвызначаны.

Цяпер, успамінаючы выпадак, які здарыўся з яе маці ў радзільным доме, Ірма ўсміхаецца. На трэці дзень, калі немаўля прынеслі на чарговае кармленне, мама Ірмы заўважыла, што скура на твары дзяўчынкі жоўтая. Яна так перапалохалася, што пачала моцна плакаць, падумаўшы, што гэта тая «аранжавая

песня» паўплывала на колер скуры яе дачкі. Прыбегла дзяжурная акушэрка і растлумачыла прычыну: у дзяўчынкі — звычайная дзіцячая жаўтуха.

У Грузіі Ірма расла да другога класа. Усё было добра, акрамя таго, што дзяўчынка не была падобна да грузіначак — светлавалосая, светлавокая і светлатварая. І прозвішча яе, Васількова, не пасавала да імя.

Пасля заканчэння другога класа, якраз падчас летніх канікул, сям'я пераехала ў Беларусь. Вайсковая часць стаяла ў невялікім пасёлку гарадскога тыпу, там Ірма і скончыла дзесяцігодку.

У Беларусі да ўсяго пасаваў яе знешні выгляд: тыповая беларусачка, і прозвішча — ад васількоў, але не пасавала імя. Аднакласнікі ніяк не маглі выгаварыць — Ірмка, і з часам «м» з яе імя выскачыла само сабой. Дзяўчынка стала сярод дзяцей Іркай Васільковай.

У юнацтве Ірма таксама мела клопаты са сваім імем. Зразумела яго незвычайнасць і, знаёмячыся з хлопцамі, называлася Ірмай. Але амаль заўсёды яе раздражнялі пытаннем: «Сахадзэ?» Тады яна злавала і абуралася, бо не ведала, што адказаць. Цяпер, калі нехта ўспомніць пра яе знакамітую грузінскую цёзку, яна адважна парыруе: «Якая Сахадзэ? Пахадзэ я! Ару-пашу вунь ад відна да відна!..»

У чацвёртым класе Ірма закахалася ў аднакласніка Кольку, а ў пятым іх пасадзілі за адну парту. Сяброўства вось-вось павінна было наладзіцца, але Колька закахаўся ў Светку — дзяўчынку, якая прыйшла да іх у клас з сельскай пачатковай школы. Светка дрэнна вучылася, была ціхай і сціплай. Аднойчы настаўніца выклікала дзяўчынку да дошкі, пачала апытваць. Света маўчала, апусціўшы галаву, або невыразна нешта пыкала-мыкала. Дзеці стараліся ёй падказаць, смяяліся, шумелі. Ірма, скарыстаўшы час, калі ўвесь клас сачыў за пакутамі Светкі, тэрмінова хацела высветліць у Колькі вельмі штосьці важнае. Але ён, не міргаючы вачыма, пазіраў на дзяўчынку, якая чырванела перад усім класам, таму незадаволена адштурхнуў Ірму: «Ціха ты, глядзі, якія ў Светы вочы сінія!..» Ірма зразумела сваім дзіцячым розумам, што Колька для яе страчаны назаўсёды.

Так яно і выйшла. Ледзьве скончыўшы школу, Колька і Света пажаніліся. Ірма паступіла ў медінстытут, здаўшы, як выдатніца, адзін экзамен — па біялогіі.

На апошнім курсе сустрэла свайго будучага мужа Ігара, які працаваў інжынерам на заводзе аўтамагнітол. Яны пажаніліся. Ігар проста «выхадзіў» Ірму. Не даў нікому з ёй загаварыць, станцаваць. «Усё роўна ты будзеш маёй» — упэўнена заяўляў ён дзяўчыне. Ірма смяялася, адпрэчвала і сур'ёзна не ўспрымала яго заляцанні, хаця таксама была закахана ў гэтага хлопца па вушы. Проста мела лёгкі характар.

Праз тры гады ў іх нарадзілася дачка, такая ж светлавокая і васільковая, як маці. Ігар не мог нарадавацца:

— Цяпер у мяне дзве лялечкі! — выцалоўваў ласкава Ірму.

Усё было добра. З часам Ігар перайшоў працаваць у фірму па продажы камп'ютараў, таму што ў краіне пачалася перабудова, завод збанкрутаваўся, заробку не стала, а сям'ю карміць трэба было.

Ірма ўладкавалася на працу ў абласны псіханеўралагічны дыспансер. У калектыве яе палюбілі, у першую чаргу за жыццярадаснасць і аптымізм.

Ішлі гады. Дачка падрастала. Ігар зрабіў кар'еру і стаў дырэктарам буйнога камп'ютарнага цэнтра.

Ірма разгарнула шырокую грамадскую дзейнасць у гарадскім аддзеле аховы здароўя, а потым перайшла туды на працу ў якасці галоўнага спе-

цыяліста. З мужам яны амаль не бачыліся, паступова станавіліся чужымі, забыліся нават, хто як пахне. А падчас кароткага летняга адпачынку ўзнавіць былыя ўзаемаадносіны не ўдавалася. Так што адпачывалі і жылі цяпер паралельна.

* * *

— Дык ты што, вырашыла яго апярэдзіць? Загуляць, каб потым не так балюча было, калі што якое і з яго боку? — аслупянела Алена. — Ой, глядзі, Ірма, а то, шукаючы пірага, і хлеб згубіш!

— Во, нарэшце, дайшло! А што, чакаць, калі ён мяне кіне, старую і аблезлую? Не, я да такога не дапушчуся! — жартаўліва-ўзбуджана разважала Ірма.

— Ага, ты, значыць, па прынцыпе: лепшы спосаб абароны — атака! А ці ведаеш ты, што здрада — гэта ж прамое пападанне ў будучае нешчаслівае жыццё твайго нашчадства, у дзяцей і ўнукаў?! Ты згубіла галаву! — Алена сутаргава шукала найбольш пераканаўчыя словы.

— Перастань, Алёнка! Я не малая і не дурная. На жаль. Бо вельмі цяжка быць разумнай у гэтым свеце. Глянеш на чалавека — і ўсё бачыш, усё пра ўсё разумееш. — І раптам, калі да яе вярнуўся добры настрой, вырашыла: «Так, хопіць, як кажуць, колькі таго жыцця». — Дык ты знойдзеш мне хату ці не? Усё роўна я буду з ім сустракацца!

Алена разгубілася, паабяцала, што падумае, хоць наперад ведала — няма ў яе такіх знаёмых, каб пусцілі каханкаў на спатканне. Але яна — псіхолаг, а псіхолаг можа ўсё. Адмаўляць толькі пакуль не навучылася.

«Цікава, а чаму ж гэта Ірма не хоча зняць кватэру за грошы? Такіх прапаноў з адрасамі ў апошнія гады ў кожнай рэкламнай газеце процьма. На гадзіны і суткі здаюць. Нешта сяброўка не дагаворвае, мусіць... А хутчэй за ўсё ні на якую здраду яна не адважыцца. Гэта сёння крыўда жаночая, назапашаная за гады сямейнага жыцця, яе вусны адамкнула, а заўтра жанчына прачнецца зусім у іншым гуморы... Ды і не зможа яна здрадзіць мужу, нікому не зможа, я ж ведаю Ірму», — адпрэчыўшы развагі, прыйшла да думкі Алена, пасля таго, як развіталася з Ірмай і, перайшоўшы на другі бок вуліцы, накіравалася да месца працы — каледжа.

## 3

Праз тыдзень з'явілася Мілана. Патэлефанавала напрыканцы працоўнага дня, калі Алена заканчвала друкаваць на камп'ютары анкеты для навучэнцаў — чарговае сацыялагічнае даследаванне на тэму «Мікраклімат у інтэрнаце».

— Дзе ты прапала? — узрадаваўшыся, што нарэшце дазванілася, спытала Мілана.

— Гэта я прапала?! — здзівілася Алена, і пажартавала: — А дзе можа згубіцца жанчына? У Бермудскім трохкутніку, хіба? Дом — праца — крама.

— Ну, і добра, што ў цябе ўсё добра, — сказала Мілана ўжо больш спакойна.

— А ў цябе што чуваць? — спытала Алена. Не была б яна псіхолагам, каб не адчувала, што ў Міланы ёсць навіны і не абы-якія. — Як вы тады дахаты дайшлі з кавярні? Хоць давялі кавалеры цябе?

— Так, усё нармальна. Больш таго, з Яўгенам мы пасябравалі. Ён даволі цікавы і сур'ёзны чалавек, дарэчы.

— Усяго толькі пасябравалі? — з лёгкай іроніяй сказала Алена.

— Ну, не зусім… Карацей, ён на мяне запаў. Звоніць на мабільнік кожны дзень па тры разы. На працу ў суботу прыходзіў. Я дзяжурыла. Кветкі прынёс. Каву пілі, размаўлялі.

— Ну, дык што? Я рада за цябе, Мілана. Можа, якраз гэта твой паратунак! — пачала сваё псіхалагічнае ўздзеянне Алена.

— Не ведаю, не магу я... Ды ён хутка, сапраўды, едзе ў Швецыю — не лгаў Дзімка.

— І ты едзь! — вырвалася ў Алены. Яна вельмі хацела дапамагчы сяброўцы вызваліцца ад свайго стрэсавага душэўнага стану як мага хутчэй.

— Куды?.. Хаця ён абяцаў, што калі-небудзь паедзем удваіх, — гаварыла ў трубку Мілана.

— Ну, вось і добра! Бачыш, калі Бог хоча адчыніць дзверы ў лепшую будучыню, ён зачыняе іх у дрэннае мінулае.

— Гэта не пра мяне, Алена. Мне наканавана пакутаваць. Я кахаю Рыгора, — села на свой любімы жаночы мінор Мілана.

— Кахай сабе! Але здароўе не губляй, дурненькая. Бо твой Рыгор-багор нікуды не дзенецца, пабегае-пабегае і вернецца. І зноў пабяжыць, таму што жонка за гэты час хворая, старая і страшная зробіцца, яго, кабяля, аплакваючы. Так што ты на правільным шляху, любая! — не хапіла цярпення ў Алены.

Крыху памаўчаўшы, Мілана ўздыхнула і мірна прамовіла:

— Добра, давай пакуль пакінем усё, як ёсць. Я падумаю, можа, усё ўсталюецца. А магчыма, той Яўген пасля замежжа і не ўспомніць пра мяне, праўда?

— Няпраўда, — каб вярнуць былы добры настрой сяброўкі, весела не пагадзілася Алена. — Шведы — народ напорысты. Ой, адчуваю, загіне ён ад тваіх чараў, як яго продкі пад Палтаваю, толькі без бітвы.

На развітанне жанчыны дамовіліся не знікаць надоўга і тэлефанаваць калі-нікалі адна адной.

* * *

Вечар гэтага дня прайшоў, як заўсёды, пад знакам Ромуся. Алена прапанавала сыну напісаць дыктоўку па беларускай мове, таму што апошнім часам хлапец прыносіў адно «пяцёркі». Хораша, тактоўна, педагагічна прапанавала. Потым, праўда, угаворвала яшчэ цэлую гадзіну — з дзевяці да дзесяці вечара. А дыктоўку сын пісаў сем хвілін. Ці ж не злосць?! Адно стрымала, каб не ляснуць па задніцы, — абсалютная пісьменнасць сына. Памылак — нуль! А ніводнага ж правіла не ведае, стварэнне!

Муж таксама «парадаваў» сюрпрызам... Пасля адзінаццаці гадзін Алена села за сямейны камп'ютар, каб дапісаць апошнюю паперку для партфоліа па сваім прадмеце. Партфоліа — гэта модная замежная назва папкі выкладчыка. Падчас атэстацыі каледжа, аглядваючы метадычныя напрацоўкі педагагічнага калектыву, старшыня сталічнай камісіі зрабіла катэгарычную заўвагу: «Што гэта за папкі-мамкі? Ад жыцця адстаяцё, паважаныя!»

Нехта з выкладчыкаў, апраўдваючыся за ўсіх, запярэчыў: маўляў, чаму мы павінны называць па-іншаземнаму, калі ў нас ёсць свая мова?

Старшынька, крутнуўшыся на адным абцасе ў бок адважнага патрыёта, разанула:

— Дык гэта ж у Расіі! На Еўропу трэба раўняцца, а не ў лапцях усё хадзіць!

Дык вось працы з той паперкай было на дзесяць хвілін не болей, але муж фанабэрыста заявіў, што ў яго — рэжым, абавязковы адбой а дваццаць другой гадзіне, што ён і так ужо яго парушыў, а калі яна хоча працаваць да пасінення, ён не супраць. Згрэб пасцельныя прылады і пайшоў начаваць да сваёй чацвераногай сяброўкі, з якой бавіў увесь вольны час, — канапы.

Алена засталася адна. Яна выпусціла з прынтара на волю тую няшчасную паперку, пагартала яшчэ крыху жаночыя часопісы, дзякуючы якім калі-нікалі ўспаміналa, што яна таксама жанчына, і выключыла святло. Ужо амаль засынала, калі з'явілася лагодная думка: «Хутчэй бы лета, адпачынак, каб ні аб чым не думаць, ні аб чым...»

## Частка IV

## Май — месяц клопатны

### 1

Май выдаўся спякотны. Гэта па надвор'і. Увогуле ж, клопатаў у гэты месяц — хоць адбаўляй… Шмат святочных мерапрыемстваў, мітынгаў, канцэртаў, на якіх трэба было абавязкова прысутнічаць... Май — гэта месяц Цяльцоў, дакладней, іх дзён нараджэння. Май — гэта канец навучальнага года. Таму Алена, Ірма і Мілана дамовіліся сустрэцца і адзначыць усе падзеі месяца (калі, вядома, перажывуць яго без наступстваў) на пачатку чэрвеня.

Першым адзначаў свой дзень нараджэння Ігар Камлюк, муж Ірмы. Ён любіў шык, атрымліваў асалоду ад таго, што яго бязмерна хвалілі. Таму на яго дзень нараджэння склікалася шмат гасцей: бацькі, сястра з мужам, сябры па працы, бацькі і сястра Ірмы. Збіраліся дома, таму што, нягледзячы на дабрабыт, Ігар не прызнаваў рэстараны.

— На гэтыя грошы, што аддасі ў рэстаране, можна тыдзень баляваць, — тлумачыў ён жонцы, калі тая спрабавала ўгаварыць яго пайсці хоць раз кудынебудзь, або, калі казала, што яна таксама хоча адпачыць разам з ім і з гасцямі, добра выглядаць, а не зашывацца на кухні напярэдадні свята. На што Ігар заўсёды адказваў адназначна:

— Ну, калі табе так цяжка, не гатуй, папрашу каго-небудзь іншага.

Ірму трэсла ад гэтага яго тону, ад раўнадушша, непаразумення. Яна зноў адчувала сябе вінаватай у тым, што адважылася прэтэндаваць на нешта, недазволенае ёй. Калі ж на вачах у жонкі з'ўляліся слёзы, Ігар натуральна здзіўляўся:

— А што ты наогул робіш, што так стамілася? Цэлы ж год адпачываць будзеш!

Карацей кажучы, — сцяна. І колькі аб яе не біся — галавой, нагамі, кулакамі, нервамі — не праб'еш. Дабрынёй? Спрабавала таксама.

— А чаго гэта ты такая добранькая зрабілася, лізуха? Напэўна, нешта ўжо задумала супраць мяне?

Ігар быў вельмі баязлівы, усюды яму мроіліся жулікі, злодзеі, хуліганы, забойцы. Яму здавалася, што тэлефонныя размовы праслухоўваюцца, і калі

яму трэба было патэлефанаваць, ішоў на пошту. Там жа кабінкі. «І чаго ён гэтак баіцца, — здзіўлялася Ірма, — парася не ўкраў, а ў вушах пішчыць». Сяброў Ігар не меў, а тыя, што сядзелі за сталом — супрацоўнікі-падхалімы, якія ўмелі па-майстэрску ўслаўляць у тостах свайго начальніка.

Ад падазронасці мужа Ірма спачатку засмяялася, затым пакрыўдзілася, і ўрэшце, як урач-псіхіятар паставіла яму дыягназ — параноік! Змірылася і супакоілася, а супакоіўшыся, разарала шырокае поле для дзейнасці, на якім цяпер так радасна і натхнёна шчыруе. А мужыкі?

«Хіба ж я не варта лепшай долі? Надакучыла ж быць вечна вінаватай і нікчэмнай!» — напаўжурботна разважае яна ў думках.

«Муж — не радня! Нават у юрыспрудэнцыі гэта адзначана!» — суцяшае сябе, смеючыся.

Стол усё ж такі рыхтуе, і стол ад пітва і прысмакаў у гэты дзень ломіцца.

**2**

У Міланінай сям'і дзень нараджэння мужа адзначаўся ў цёплых сяброўскіх абставінах. Рамантычная і ўзнёслая Мілана разам з сынам рыхтавалі Рыгору ўсялякія сюрпрызікі. На выдумкі былі здатныя абое.

За некалькі дзён да свята маці з сынам перашэптваліся, таемна пераглядаліся, а Рыгор рабіў выгляд, што не здагадваецца пра тое, што дзеецца за яго плячыма. Ноччу Мілана ціхенька развешвала каляровыя балонікі з малюнкамі сына і пажаданнямі, напісанымі на маленькіх паперках і засунутымі ў сярэдзіну балоніка. Прыладжвала на ўваходзе ў кухню плакат з віншаваннямі, а на тумбачку каля Рыгоравага ложка клала падарунак, у які акрамя традыцыйнага джэнтэльменскага набору — «дэзік», гель для галення, шампунь фірмы «Адзідас» — уваходзіла тое, пра што Рыгор асабліва марыў. Зразумела ж, у памерах грашовых магчымасцей сям'і.

Вечарам збіраліся за святочным сталом, не заўсёды багатым, але годным, з самаробным «Напалеонам», добрым вінам. Ад душы, шчыра і цёпла віншавалі імянінніка, і было хораша, утульна і светла на душы яшчэ доўгі час. Месяц ці два. Свята забывалася — адносіны паміж Міланай і Рыгорам вярталіся ў звыклую каляіну. Так было, пакуль яе любы Рыгор, як кажуць, не сарваўся з ланцуга, хоць яго на тым ланцугу ніхто і не трымаў, і ён заўсёды хадзіў, ездзіў, куды хацеў. Аднойчы сказаў, што паедзе да бацькоў у вёску, і пакінуў яе адну з толькі што народжаным хлопчыкам, а ў яе быў страшэнны мастыт і высокая тэмпература. Патэлефанаваў, праўда, раніцай:

— Прывітанне, я ў Маскве!

— А як жа Дуброўка? — перасохлым ад крыўды голасам, ціха спытала знямелая Мілана. — Ты ж гаварыў, што да бацькоў паедзеш?..

— А што я табе за кожны крок павінен адчытвацца? — адказаў муж.

Яна тады не плакала — стогнам стагнала.

І вось ужо тры гады не ведаюць Мілана і яе сын, як рыхтавацца да дня нараджэння мужа і бацькі. І ці трэба рыхтавацца наогул, прыйдзе ён дахаты ў гэты дзень ці не — пытанне адкрытае.

У гэты майскі дзень Рыгор усё ж такі вярнуўся са сваіх «палётаў» дадому вечарам. Мілана адчувала сэрцам, што муж прыйдзе, таму старанна падрыхтавалася і нават упершыню купіла яму сем чырвоных гваздзікоў. Пакуль Рыгор вяртаў сабе належны выгляд у ваннай, накрыла стол у зале. Адкаркавалі бутэльку іх любімага ружовага «Мускату», разлілі па крышталёвых фужэрах.

— Ну што, кажы тост! — холадна прапанаваў Рыгор.

Мілана падняла свой фужэр з віном, і, прыжмурыўшы адно вока, паглядзела праз светла-ружовую вадкасць, напоўненую маленькімі бліскучымі бурбалачкамі, на святло.

— Ну, што ж, — пачала яна. — Некалі сорак шэсць гадоў таму назад, у такую ж прыгожую, цёплую вясновую нядзельку твая матуля нарадзіла цябе, свайго першага сыночка. За акном у садзе шчабяталі птушачкі, а сад быў абліты малаком — цвілі вішні. «Ён будзе спеваком, або мастаком, — сказала бабка-павітуха, якая прымала роды, — бачыш, сярод якой прыгажосці нарадзіўся». І сапраўды, ты — самы прыгожы, таленавіты, мы заўсёды табой ганарыліся і будзем ганарыцца. Я хачу, каб ты гэта ведаў. Я віншую цябе з днём нараджэння і хачу, каб ты быў шчаслівы і здаровы. Заўсёды. Нягледзячы ні на што».

На апошніх словах яе голас крыху задрыжаў, але Мілана хуценька авалодала сабой, весела ўсміхнулася і чокнулася з мужам.

— О, за такія словы... Дай буську!.. — на вачах Рыгора бліснулі слёзы. Ён нахіліўся і пацалаваў жонку ў шчаку. Выпілі, пачалі вячэраць. Размаўлялі ні аб чым. Мілана была падкрэслена ветлівай і жыццярадаснай, старалася дагадзіць мужу, апярэдзіць усе яго пажаданні. Рыгор трымаўся спакойна і разгублена: не чакаў такога павароту ў паводзінах жонкі. Гэты вечар нагадваў былыя сямейныя вечары. Так, цяпер іх жыццё дзялілася на дзве паловы: да здрады і пасля яе. І ўсё, што было раней, пакуль яшчэ здавалася найдаражэйшым у свеце. І Мілана кожнаю клетачкай сваёй кахаючай душы імкнулася захаваць, уратаваць, вярнуць, вымаліць былое. Хоць і вядома, што калі Усявышні доўга не рэагуе на твае малітвы, значыць Ён прыгатаваў табе больш годны аазіс суцяшэння. Мілана гэтага проста яшчэ не ведала.

## 3

Дня народзін Лявона Бурчыка найбольш чакаў яго сын Раманчык. Нарэшце бацька адкрые свой скарб, высыпле на святочны стол назапашаныя цукеркі і ён, Ромусь, наесца іх уволю. Сёння ўжо матуля яму не забароніць!

Алена таксама спадзявалася, што так і адбудзецца. Яна ўсё ж такі пагаварыла з мужам пра яго сховішча і параіла выйсце з непрыемнай сітуацыі, якая склалася ў іх сям'і. Лявон злаваў, абураўся, абражаў яе і Рамана рознымі крыўднымі словамі, ды Алена на тое і псіхолаг, каб мужна трываць усе цяжкасці сямейнага існавання. Таму не проста выстаяла, але змагла пераканаць мужа ў правільнасці і неабходнасці такога рашэння.

— Гэта будзе твой геройскі ўчынак, і ты вырасцеш у вачах сына на дзве галавы! — даказвала яна мужу.

— А на халеру мне расці? — упарціўся Лявон. — Я не збіраюся ні перад кім прыніжацца! Мне да аднаго месца, як я выглядаю ў вашых вачах! Мне і так добра!

— Ну, як хочаш. Глядзі, каб потым не шкадаваў! — здалася Алена.

А напярэдадні дня нараджэння, калі Лявон быў у прыўзнята-дабрадушным настроі, усё ж такі шапнула мужу:

— Я думаю, любы, заўтра ты зробіш усё так, як трэба, ты ж у мяне самы мудры.

— Падумаю, — міралюбіва пагадзіўся Лявон.

Раніцай у суботу Алена з Раманчыкам, у начных строях, з падарункамі, прасунулі галовы ў дзверы залы, дзе на канапе яшчэ песціўся Лявон.

— Спіш? — шэптам спыталі дуэтам.

Лявон усміхнуўся ў адказ, і гэта быў знак, што ўвайсці дазваляецца. Алена павіншавала мужа з днём нараджэння, пацалавала ў шчочкі, нос, лоб і скамандавала:

— А ну, Ромка, цягай тату за вушы!

О, гэта была найвялікшая асалода і, напэўна, адзіная каманда матулі, якую сын выконваў без супраціву. Ромка накінуўся на бацьку і пачаў цягаць яго за вушы, камячыць іх з усёй сваёй дзіцячай сілы.

— Ты што, звар'яцеў?! — заенчыў Лявон, адштурхнуўшы сына, і, мабыць, даў бы плескача яму, каб не ўмяшалася Алена. Са сваёй чароўнай усмешкай на твары яна прамовіла пяшчотным голасам:

— Ну, хопіць, мужыкі, — я запрашаю вас на святочны сняданак.

Лявон быў у добрым настроі. Па-першае, сёння — субота. А ў суботу мы не ходзім на працу, як вядома. А па-другое, сёння яго дзень народзін, і ён вольны рабіць усё, што захоча. І хоць ён заўсёды рабіў так, як хацеў, але менавіта сёння гэтая думка прыйшла яму ў галаву, і па душы разлілася цёплая хваля задавальнення.

На стале было шмат далікатэсаў, якія Алена набыла раней, вялікі пірог з тварагом, доўгая шакаладка з амарэта.

Селі, пад'елі, яшчэ раз павіншаваўшы бацьку і нажадаўшы яму сорак бочак арыштантаў, гэта значыць, усяго добрага. Перайшлі да дэсерту.

— Каму кавы, каму гарбаты? — звярнулася Алена да сваіх мужчын.

— Мне кавы! Мне кавы! Ужо хоць сёння можна? — закрычаў Раманчык.

— Ты не будзеш яе піць. Гэты напой не для дзяцей, — забараніла Алена.

— Буду, буду, буду, буду! Я, як тата, вось і ўсё! — пакрыўджана дамагаўся свайго сын.

— Добра, добра, толькі ціха! — пагадзілася Алена і разліла па кубачках каву. — Частуйцеся піражком, мае любыя, шакаладкаю, — прыгаворвала яна.

Раптам Лявон падняўся з крэсла і пайшоў у спальню. Алена, шматзначна зірнуўшы на сына і прыклаўшы палец да яго вуснаў, шапнула: «Маўчы! Зараз сюрпрыз будзе табе ад таты, я ж казала!» Раманчык зразумеў і заёрзаў па крэсле. Лявон вярнуўся з даволі ёмістым пакетам ласункаў, якія хаваў у сваім схроне ад жонкі і сына.

— Дай талерку, — звярнуўся ён да Алены і высыпаў на прыгожую каляровую вазачку, якую яна падала, свой смачны скарб. Уздыхнуўшы, прамовіў: — А гэта мой вам падарунак. Так што частуйцеся, і памятайце пра маю дабрыню!

— Ого! Пантова, тата! — адзначыў сын.

Пасля Алена занялася хатнімі справамі. Раманчык адпрасіўся на вуліцу — пакатацца на веласіпедзе. А Лявон, патэлефанаваўшы аднаму свайму знаёмаму — Васілю, падаўся да таго. Вярнуўся апоўначы, п'яны і смешны. Зваліўся на ложак у спальні і захроп так, што закалаціліся сцены.

І, вядома ж, Алена, якая мела магчымасць выспацца толькі ў гэтую ноч, з суботы на нядзелю, не звяла вачэй. Яна была занятая тым, што тузала мужа і прасіла яго павярнуцца на бок, або заціскала яму нос, каб перакрыць на момант дыханне. Тады ён, мармычучы, паварочваўся і на некалькі хвілін сціхаў.

«Скачаш-скачаш, на цвырлах ходзіш! — злавалася Алена сама на сябе. — Вось і атрымлівай цяпер асалоду ад сваёй дабрачыннасці дома, адна, у суботу вечарам».

Як ні круці, а першы шлюбны закон адпавядае праўдзе: у ложку замужняй жанчыны заўсёды прысутнічае іншы чалавек, які з ёю абсалютна несумяшчальны.

## Частка V

## Вера Іванаўна, або З песні слова не выкінеш

### 1

Апошні майскі тыдзень Алена круцілася, нібы балерына на пуантах і амаль фізічна адчувала тую нябачную нябесную руку, якая яе раскручвае ў неверагодна хуткім тэмпе — presto-prestissimo.

І пачалося ўсё з панядзелка, з планёркі ў дырэктара каледжа. Туды яе тэрмінова выклікалі, таму што ў інтэрнаце за выхадные дні здарылася НЗ (надзвычайнае здарэнне): пазней дазволенага вярнуліся, ды яшчэ ў нецвярозым стане два чацвёртакурснікі і шумелі ў інтэрнаце ўсю ноч. Хлопцаў укладваў спаць увесь інтэрнат. Вінаватымі, як заўсёды, аказаліся намеснік дырэктара па выхаваўчай працы і псіхолаг. І як ні старалася Алена ў каторы раз давесці начальству простую ісціну, што кожны на сваім месцы павінен добра выконваць сваю справу, а ў інтэрнаце, у першую чаргу, гэта — выхавацелі, яе ніхто не хацеў слухаць. Нарэшце, паабяцаўшы, што разбярэцца з вінаватымі і правядзе з імі пэўную працу, Алена дагадзіла членам адміністрацыі, і яны супакоіліся. Ведалі — так і будзе. Гара з іх плеч перакінута на Аленіны кволыя плечкі, якія (а гэта ўжо праверана на справе) вынесуць усё, што на іх узваляць.

А яшчэ гэта быў тыдзень залікаў і выніковых кантрольных урокаў. Аленіны вучні здавалі ёй рэфераты на псіхалагічныя тэмы, і ёй трэба было прачытаць гэтую бязглуздзіцу, якую яна сама на сваю ж галаву ім і прыдумала, каб выставіць больш-менш добрыя адзнакі.

Да ўсяго, яна дала безліч кансультацый для тых, хто баяўся надыходзячай экзаменацыйнай сесіі. А баяліся ўсе!

Акрамя таго, у сераду ў школах горада прайшлі ўрачыстыя лінейкі і «апошнія званкі» — скончыўся навучальны год. Сын Раман перайшоў у шосты клас. Яна злётала-такі на ягоную лінейку, таму што Лявон, бацька, адмовіўся наадрэз туды ісці — маўляў, яшчэ чаго, слухаць усялякую лухту на гэтых даўно састарэлых прасавецкіх мерапрыемствах! А тое, што ён павінен ахвяраваць сабой дзеля сына, у разлік не бралася. Затое вось Алена ахвяравалася. І карона з яе галавы не зляцела.

Лявона ўвесь тыдзень турбавалі іншыя задачы і клопаты, — у суботу ім ехаць на вяселле. І ён акуратна рыхтаваўся. Ужо ў чацвер на бачным месцы ў зале віселі, з іголачкі, гарнітур, кашуля і гальштук, а пад імі паблісквалі новенькія чорныя туфлі. І тут толькі Алену працяло:

— А я ў чым пайду? Я ж не маю святочных туфлікаў! І наогул ужо не маю ніякіх больш-менш прыстойных!..

Калі яна паведаміла пра гэта мужу, папрасіўшы ў яго пазыку, таму што свае грошы яна аддала за пуцёўку ў санаторый-прафілакторый для сына, Лявон без аніякіх эмоцый адмовіў:

— Дзе я табе вазьму грошай? Дарыць жа маладым трэба. Ну, а ты, як заўсёды, — разява. Чаму я ўсё маю?

— Тады я нікуды не пайду. Пойдзеш адзін, — не стрывала Алена.

— Як сабе хочаш. Можа, і лепш, меншы расход будзе, — абыякава, без ценю шкадавання прамовіў муж.

Але Алена ўсё ж спадзявалася, што Лявон передумае і пазычыць ёй грошай на туфлі. Таму ў пятніцу пасля працы збегала ў цырульню — падстрыглася і пафарбавала валасы. Раманчыка завяла да хроснай маці на ўсе выхадныя.

Дарэмна! У суботу муж шыкоўна апрануўся, і напарфуміўся так, што разанула па вачах, заказытала. Ён адначасова зрабіў ёй «адзью» і «гуд бай»! — і ўрачыста панёс сябе на ўсенародную папойку, якую ў народзе называюць вяселлем. А на Аленіна ўражлівае сэрца лягла яшчэ адна крыўда — балючая засечка-метачка. Яна не ведала, за што ўзяцца, хадзіла з кута ў кут па кватэры, адганяючы назойныя думкі-змейкі, што адна за другой выпаўзалі з глыбіні пражытых разам з Лявонам гадоў. Здавалася, звіваліся ў клубок, здавалася, вось-вось абрынуцца на яе, задушаць, аглушаць... А лепш, каб заглушылі гэты боль, што так выпякае нутро, каб не чуць гэтага нясцерпнага звону...

Зваліў тэлефон. Алена нетаропка зняла трубку.

— Алёначка, ты дома? Як добра, што я цябе заспела! — узрадавана загуло ў трубцы.

Тэлефанавала Ірма.

— Слухай, мы тут на фазэнду збіраемся. Міланіна знаёмая масажыстка нас запрасіла да сябе. Жанчына — супер! Насмяёмся!.. Паедзеш?

Да Алены дайшоў, нарэшце, сэнс сказанага Ірмай. Настрой, які мяняўся ў яе, як фазы месяца, пасвятлеў, і ў наступнае імгненне жанчына зразумела, што сам Творца падсцілае ёй саломку. Яна амаль не выкрыкнула:

— Еду, еду, без размоў!

## 2

Зялёненькі ўтульненькі мікрааўтобус з крэсламі, абабітымі велюрам пясочнага колеру, плаўна ад’ехаў ад пад’езда Міланінага дома ў накірунку Ляснога возера, вакол якога разросся адзін з самых прыгожых дачных пасёлкаў гарадзенцаў.

Вясёлы настрой сяброўак і прадчуванне добрага дня імгненна перадаліся Алене, і яна забылася на ўсе свае крыўды.

У салоне машыны, застаўленым шматлікімі пакетамі і торбачкамі, смачна пахла хатнімі стравамі, пастуквалі-пазвоньвалі бутэлькі. Верхаводзіла незнаёмая Алене жанчына, гадоў пяцідзесяці, хударлявая, з кароткай кучаравай стрыжкай, яснымі вачыма і спрацаванымі мужчынскімі рукамі, апранутая паспартыўнаму. Гэта і была знаёмая Міланіна масажыстка Вера Іванаўна, сын якой згадзіўся завезці жанчын на яе лецішча на ўласным мікрааўтобусіку.

— Сашка, едзь крыху цішэй, ты ж растрасеш нам усё, — камандавала Вера Іванаўна.

— Дзяўчаты, прытрымлівайце пакеты на паваротах, нагаворыцеся яшчэ — дзень наперадзе! — раіла яна жанчынам.

— А вы, Алена, здаецца мне, легкавата апрануліся. Глядзіце, каб не прастудзіліся, — звярнулася яна да Алены, як быццам ведала яе шмат гадоў.

— Не, я куртку ўзяла і світарок цёплы, — адказала Алена, адзначыўшы сабе, што ў гэтай жанчыны неблагія лідарскія здольнасці і поўная адсутнасць комплексаў.

Праз хвілін сорак машына звярнула з шашы на палявую дарогу, а яшчэ праз некалькі хвілін спынілася перад высокім плотам з дошак, пафарбаваных у зялёны колер. Вера Іванаўна закамандавала выгружацца і пайшла адчыняць вароты, за якімі высіўся вялікі, моцна збудаваны драўляны дом, на высокім каменным падмурку, са склепам і мансардай.

— Ведаеце што, дзяўчаты, пабалдзець мы яшчэ паспеем, кідайце ў сенях торбы і пайшлі на агледзіны майго лецішча, — прапанавала Вера Іванаўна.

Тутэйшыя мясціны ўражвалі сваёй прыгажосцю. Пасярэдзіне сасновага лесу, нібы скінутае з неба люстэрка, ляжала даволі вялікае возера з такімі

роўнымі берагамі, што, здавалася, быццам яго выкапалі штучна. Вада ў ім мяняла колер у залежнасці ад таго, што адбывалася на небе, а ўвогуле, яна была цьмяна-зялёнай — ад соснаў, якія акружалі возера.

У азерца ўпадала вузенькая вяртлявая рэчачка з цікавай назвай — Мройка. Уздоўж яе ад кожнага дачнага доміка ўніз вялі прыступкі, былі пароблены пляцоўкі і масткі, на якіх адпачывалі, загаралі або вудзілі рыбу гараджане.

Каб не парушыць цішыні, ішлі моўчкі, ціха перамаўляючыся, перакідваючыся калі-нікалі слоўцамі захаплення. Спусціліся да вады, абмачылі рукі, працёрлі твары, пастаялі, гледзячы на няхуткую плынь.

— Я б тут і засталася, — уздыхнула Алена.

— І я так бы і сядзела тут да вечара, вада адцягвае ўсё напружанне. Нездарма кажуць: «Як вадой змывае», — падхапіла Мілана.

— Вы, летуценніцы-мройкі, вунь рэчка і так з берагоў выходзіць, патоп пачнецца, калі вы яшчэ накапаеце, наплачаце тут! — узбударажыла спакой вечна безжурботная Ірма.

— А і праўда, будзем вяртацца, — час полудзень гатаваць, — сказала Вера Іванаўна, і першая палезла па прыступках угару, на стромы бераг Мройкі.

Пераапрануўшыся ў больш лёгкае адзенне, жанчыны пачалі распакоўваць рэчы, даставаць прысмакі, якія захапілі з сабой — рыхтаваць пір. Расклалі мангал. Шашлыкі ўзялася даглядаць Ірма. Было цёпла. Майскае сонейка быццам адчувала стомленасць жанчын. Яно грэла-свяціла ўсімі сваімі маладымі праменьчыкамі, здавалася, старалася сагрэць іх неспакойныя жаночыя сэрцы, якія пачыналі пакрывацца халоднай шэранню і пакрысе адвыкаць ад цеплыні.

Стол вырашылі накрыць у садзе пад вінаграднікам. О, што гэта быў за стол! У лепшых палацах Парыжа так не накрываюць. Звычайнай ежы, практычна, не было — адно далікатэсы! Не тое што ў мужчын: віно, гарэлка, піва, квас, шматочак сала, цыбуліна і два-тры салёныя агурочкі. Затое — на свежай газеце!

Паселі, налілі ў чарачкі іх любімага сухога чырвонага.

— Ну, жанчынкі, за што перш вып'ем? — падымаючы сваю чарку, звярнулася да жанчын Вера Іванаўна.

— Не за што, а за каго, — удакладніла Ірма. — Я прапаную — за нас, прыгожых, і за шчасце тых, каму мы дасталіся!

— Або яшчэ дастанёмся, — уставіла Алена, гледзячы на Мілану.

— А калі мы непрыгожыя, дык мужыкі зажэрліся! — выпаліла Мілана.

— О, гэта дакладна! — пацвердзіла Вера Іванаўна. — Але давайце не будзем псаваць сабе настрой, сёння пра мужыкоў — ні слова, дамовіліся?

Перакулілі чаркі, пагаджаючыся з Верай Іванаўнай, пачалі частавацца. Кожная жанчына запрашала пакаштаваць прыгатаваную ёю страву, нахвальвала яе, адначасова раскрываючы сакрэты прыгатавання.

— А я дык найболей грыбы люблю, — прызналася Мілана, накладаючы марынаваныя баравічкі на талерачкі сяброўак.

— А я іх баюся, — схамянулася Алена.

— Чаго ты, дурненькая, — засмяялася Ірма, — усе грыбы прыдатныя да яды, толькі некаторыя з іх адзін раз у жыцці!

— Паплюй тры разы! Пастукай па дрэве! — замахалі рукамі жанчыны, дружным рогатам рэагуючы на Ірмін жарт.

Налілі яшчэ раз, потым яшчэ... Перайшлі да рыбы, якую Вера Іванаўна па-майстэрску запякла ў фользе.

— Я ж толькі на дыету села, хацела да купальнага сезона пахудзець, а з вамі хіба ўтрываеш? — сказала Мілана, зрабіўшы выгляд, быццам яна незадаволеная.

— А я табе дам найлепшы рэцэпт: калі хочаш пахудзець, еш усё, але нічога не глытай! — з наўмысна сур'ёзным выглядам прамовіла Ірма. — Так што сёння глытай, а заўтра Вера Іванаўна зробіць табе масаж і ўсё будзе добра.

— Ага, якраз, — падхапіла інтанацыю гумару Вера Іванаўна. — Масаж — лепшы сродак для пахудзення, асабліва для масажысткі.

Жанчынам пахарашэла. Яны расчырванеліся, павесялелі. Хуткая, няўтомная Ірма сваімі жартамі даводзіла сябровак да слёз.

Вера Іванаўна, як галоўны камандзір, закамандавала зрабіць перапынак і размяць крыху ногі. Дасталі бадмінтон, Алена і Мілана пачалі перакідвацца валанчыкам. Ірма і Вера Іванаўна заняліся шашлыкамі.

— Вера Іванаўна, а ў Вас муж ёсць? — раптам пацікавілася Ірма.

— Ды ёсць, каб ён, калі быў маленькі, у плоце задушыўся! — уздыхнула жанчына.

— А што, такі дрэнны?

— Ды не, быццам. Не п'е, не курыць. Але без нажа зарэжа. Разумееш, не магу дагадзіць, што б ні рабіла... Бубніць і плявузгае... На старасці сквапны зрабіўся, унукі яго раздражняюць, нікому ў хату не зайсці. Пакуль дзяцей гадавалі, працавалі, няма калі было задумвацца. А як дзеці выраслі, сышлі, дык высветлілася, што не ўмеем мы жыць удваіх, спачатку трэба вучыцца, а сілы ўжо няма, адна стома. Канечне, хацелася б прытуліцца да моцнага мужчынскага пляча, адчуць падтрымку, якая асабліва патрэбна ў мае, бурштынавыя, гады. Але, на жаль, няма яе, той падтрымкі, як няма ні пяшчоты, ні любасці.

— А як жа вы тады жывяцё? Так пакутаваць немагчыма! — узрушана прамовіла Ірма.

— А-а, — махнула рукой Вера Іванаўна, — прызвычаілася. Нічога не чакаю і не хачу. Жывём кожны сам па сабе. З мяне сяброўкі смяюцца, калі я запрашаю іх да сябе на каву і кажу, што сёння ў мяне шчасце №1, гэта значыць, мужа няма дома. А папраўдзе, так яно і ёсць, хоць і прыкра гэта прызнаць. Часам нават думаю: «Можа й добра, што мы так аддаліліся пад старасць? Памрэ — дык хоць меней плакаць буду».

«Госпадзі, — падумала Ірма, — а я па сваім ужо не плачу». А ўголас спыталася:

— А ваш муж, выпадкова, не Цялец?

— Так, а чаму ты пытаеш?

— Дык і мой пад гэтым знакам задыяка нарадзіўся! — усклікнула Ірма. — Я-такі думаю: шмат рысаў падобных праглядаецца.

Ірма задуменна замаўчала, пачала пераварочваць шампуры, і толькі вопытная Вера Іванаўна магла заўважыць, як па яе яшчэ даволі маладым і прыгожым твары прабягалі ледзь заўважныя сутаргі нейкага глыбіннага адкрыцця.

— Дык што, выходзіць, не атрымліваецца жыць па запаведзях Божых?! — раптам сур'ёзна і засяроджана не то спытала, не то ўсклікнула Ірма.

— Выходзіць, што так, я сама пра гэта не раз думала, — не паварочваючы галавы ў бок Ірмы, расчаравана прызналася Вера Іванаўна і, раптам страпянуўшыся і бліснуўшы на маладую жанчыну працінаючым позіркам, дадала: — Але старацца трэба. Вельмі. Каб не страціць апошняй людскасці…

* * *

Пасля шашлыкоў перайшлі да дэсерту і садавіны. Цяпер ужо пілі белае віно, пад яго апельсіны, бананы і вінаград здаваліся вяршыняй задавальнення. Тым больш у маі, калі сады і агароды яшчэ толькі пачыналі абыходзіцьзавязвацца.

— І навошта той Поўдзень? У нас, у Беларусі, найлепш: летам, калі прыпячэ сонца, на такім возеры, між соснаў, чым не адпачынак? Тыя ж бананы, мандарыны — круглы год! — разважала Вера Іванаўна. — І грошай меней страціш, і паветра сваё роднае, і клімат звыклы.

— А я б хацела куды-небудзь з'ехаць на лета, — задумліва падзялілася сваім Мілана.

— У Швецыю, на Поўнач паедзеш, — шматзначна падміргнула Алена. І тут зайграў Міланін мабільнік. Яна хуценька вылезла з-за стала і адышла ўбок.

— Ну, можна не пытацца, хто тэлефанаваў, і так зразумела — Рыгор! — абвясціла здагадлівая Ірма, калі Мілана, паружавелая і рамантычная, вярнулася да стала.

— А вось і не адгадалі. Гэта — Яўген, — сціпла, з ціхай радасцю ўдакладніла Мілана. — Ён вярнуўся са Швецыі і зараз будзе тут.

— Во накаркалі! Пра цыгана гамана, а ён і тут! — казалі ўзрушаныя нечаканай навіной жанчыны.

— Я за цябе так рада, Міланачка, — не стрымалася Алена. — Я ж табе казала, што так і будзе, ты годна лепшай долі, не прапусці яе, дарагая!

Мілана, асалавелая ад віна, закускі з'едзенай без меры і гэтай радасці, якая нечакана звалілася на яе, разгублена мітусілася. Яна збірала свае рэчы, прычэсвала валасы, пераапраналася ў джынсавы касцюмчык і адначасова адказвала на роспыты сяброўак пра іх з Яўгенам адносіны. Яна была шчаслівая, але пакуль яшчэ толькі напалову. Рыгор вострым джалам засеў у грудзях і рэзаў, і пёк пры кожным напаміне.

Маладая, вельмі ўстрывожаная Мілана яшчэ не ведала, што вырваць гэтае джала і назаўсёды затупіць яго — толькі справа часу. А выканаўцу гэтай працэдуры час ужо ёй паслаў.

**3**

Мілану правялі з абдымкамі і пацалункамі, прасілі не прападаць, тэлефанаваць. Яўгену раілі берагчы і не крыўдзіць іх любімую сяброўку, на што ён ускідваў руку да скроні і, як салдат, адказваў: «Ёсць!»

Жанчыны вярнуліся да стала, пасядзелі яшчэ крыху за кавай з цукеркамі. Прытаміліся, прыціхлі, і размова пацякла спакайней і павольней. Пра працу, пра дзяцей, якіх трэба недзе ўладкоўваць на летнія канікулы, пра тое, як чыё дзіця скончыла навучальны год.

— Мой Раманчык адмачыў, дык адмачыў у апошні школьны дзень, — успомніла Алена. — Прыйшоў са школы і кажа: «Мама, ці ёсць у нас «Вайна і мір» Льва Талстога?» Навошта табе, — пытаюся, — хіба ж у шостым класе «Вайну і мір» праходзяць?» А ён мне: «А я што, дурны, у дзясятым лета марнаваць? Там ужо пра іншае думаць буду. Так што лепш цяпер адпакутую!» Гэта ўжо ён ад суседскага Лёшкі навучыўся, той у дзясяты перайшоў.

— Ты глядзі, які хлопчык цікавы. Во радасць — дзеці, а то ўсё пра мужыкоў ды мужыкоў! — страпянулася Вера Іванаўна.

— Дарэчы, Алёнка, я тут нечакана высветліла, што ва ўсіх нас мужыкі — Цяльцы, разумееш? — таямніча паведаміла Ірма.

— А мы, значыць, — Цялушкі? — усміхнулася Алена.

— Правільна, — працягвала сваю думку Ірма.— Дык вось у мяне — ідэя. Давайце створым хаўрус Цяльчых, ну, ці Цялушак, аб'яднаем жанчын, якія за Цяльцамі замужам.

— І будзем змагацца за свабоду, — падкрэслена здзекавалася Алена.

— А што, і будзем. А то мой мяне нікуды не адпускае. Да нагі! — і ўсё тут.

— Божа мой! У людзей нейкія жарсці, жыццё бурліць, галёкае. А мой... Здаецца, часам, хай бы хоць налева схадзіў, можа б, хоць якія-небудзь эмоцыі на твары адбіліся, а то замест твару — шыльда мармуровая! — уздыхнула Алена.

— Паплюй! Бачыш, як Мілана пакутуе! — у адзін голас закрычалі на яе жанчыны.

— Дык жа ёсць з-за каго пакутаваць! Ён хоць у пасцелі — мужык! — узарвалася Алена.

— А такі, як твой, і здрадзіць па-людску не зможа — начаўпе чаўпаты адно, — рэзюміравала Вера Іванаўна.

— А навошта тады такі шлюб? — працягвала Алена, — калі кожны сам па сабе, а дакладней насупраць адзін аднаго? VIZAVI — па-французску. «Мы спім у розных пакоях, мы вячэраем у розны час, мы бавім свой адпачынак паасобку, — словам, мы робім усё, каб захаваць наш шлюб», — прадэкламавала натхнёна Алена адно з выказванняў, што заўсёды роем таўхліся ў яе разумнай галоўцы.

— Пахаваць, а не захаваць! — канстатавала Вера Іванаўна. — Не бярыце да галавы, а беражыце здароўе. І ведаеце, дзяўчаткі, лепшае выратаванне ад бруду і расчараванняў, ад гэтай нашай абрыдлай сучаснасці — у творчасці. Творчасць — калі ўжо прывабіць, дык прывабіць. Мілана выратуецца, бо яна — паэтка. Яна жыве і заўсёды будзе жыць ва ўласным свеце, які для сябе стварыла, і ніколі нікога не пусціць у гэты свой свет, каб той нешта ў ім змяніў без яе дазволу. Драмы, іспыты яе сілкуюць. І паэзія для яе — своеасаблівае душасховішча, скрынка болю.

— А ты, Ірма, — звярнулася яна да ўжо крыху супакоенай маладзіцы, — ты павінна знайсці сябе ў працы, таму што твае «псіхі» — далёка не зведаная галіна псіхіятрыі, вось тваё поле творчай дзейнасці. Так што твары, любая, але не перастарайся.

Алена глядзела на Веру Іванаўну, слухала яе шчырую прамову і дзівілася: вось хто псіхолаг, мудрэц і дарадчык — гэтая, на выгляд праставатая, а насамрэч з такой вялікай, глыбокай, светлай і добрай душой, жанчына. І ёй хочацца верыць у тое, што ўсё, пра што яна гаворыць, — збудзецца. Алена, здавалася, адчувала гэта скураю.

— З вышыні сваіх пражытых гадоў што параіце мне, Вера Іванаўна? — нясмела задала пытанне Алена.

Вера Іванаўна крыху памаўчала, а потым, зірнуўшы на зеленавокую, танюткую, як дзяўчо, Алену, адважылася:

— Скажу і табе, толькі не крыўдуй. Па-першае, ты хоць і псіхолаг, але не зможаш развязаць свае сямейныя праблемы, пакуль не прызнаеш, што яны ў цябе ёсць. А па-другое, я заўважыла, што ты ўсё псіхалагізуеш, а гэта значыць — усё даруеш. І ўсім, але не сабе. Ты вінаваціш толькі сябе, таму на табе ўсе і едуць. Ты іх проста рас-пус-ціла.

— Згодна абсалютна, — хітала галавой Алена, здзіўляючыся, як Вера Іванаўна дакладна і ясна выказала ёй услых яе ж уласныя думкі. Вось вам і масажыстка! Відаць, адукацыя, сапраўды, не дае розуму, а толькі веды па спецыяльнасці.

— І што ж рабіць? — задала класічнае, але банальнае пытанне Алена.

— Жыць і цешыцца! Любіць сябе, людзей, родных і блізкіх! Рэалізавацца ў працы, у творчасці, як жанчына, як маці, як чалавек, нарэшце!.. А на астатняе, што замінае, — пляваць з дваццатай вышкі без перадышкі!

— Карацей кажучы, уперад і з песняю! — з вясёлым настроем сказала Ірма.

— А і праўда, бабачкі, давайце паспяваем! — прапанавала Вера Іванаўна.

Вечарэла. Сонца перакацілася на заходні край неба і цяпер, здаецца, падглядвала праз вузкія шчыліны ў зялёным плоце за тым, што дзеецца на падворку. Па зямлі папаўзлі цені ад дрэў, пачалі доўжыцца і зліваецца ў адну вялікую цьмяную пляму. Па вершалінах соснаў праляцеў вецер, як быццам правёў доўгую нябачную лінію-межку паміж днём і ноччу. А можа, між вясною і летам, што павінна наступіць заўтра? І не толькі ў прыродзе, але і ў лёсах жанчын, у іх душах?

А пакуль над садам, над лесам, над сцішаным Лясным возерам і рэчкаю Мройкаю плыла, набіраючы моц, прыгожая песня. І была яна праўдзівай, таму што складалася вельмі даўно таленавітым аўтарам — народам, і перадавалася з вуснаў у вусны ад жанчыны да жанчыны праз стагоддзі. Таму яе ведалі ўсе. Гэта была адна з тых старадаўніх песень, якая ўвабрала ў сябе энергетыку болю многіх пакаленняў жанчын. Песня, якая, нягледзячы на яе сталы век, поўнасцю адпавядала сучаснай рэчаіснасці.

А ў нядзельку рана,
яшчэ сонца ўсходзіць,
мая мамачка, мая родная
ды па садзіку ходзіць.

Па садзіку ходзіць,
усё слядочкаў шукае,
а ўсе дочанькі едуць у госцейкі,
а мая не думае.

Сустракай мяне, мама,
сустракай з пірагамі,
а я ж цябе, мая мамачка,
горкімі слязамі.

Каб я гэта знала,
замужняе гора,
то й сядзела б я, то й гуляла б я
яшчэ гадоў сорак.

Каб я гэта знала,
замужняе ліха,
то й сядзела б я ў свайго татачкі
ў сваёй хатачцы ціха.

Каб я гэту знала,
замужню раскошу,
то й сядзела б я, дый часала б я
сваю русу косу.

Ой, донька, ты донька,
хіба ж гэта гора?
Да жаночай да сваёй долечкі
прывыкнеш ты скора — а-а-а...

За зялёным плотам засігналіла машына. Гэта сын Веры Іванаўны прыехаў. Канчаўся weekend і вельмі хацелася верыць, што стане ён пачаткам happy. Для кожнай жанчыны.

Маргарыта ПРОХАР

# РЭАЛІЗАЦЫЯ ЭСХАТАЛАГІЧНАГА МАТЫВУ Ў ВОБРАЗАХ ЖЫВОЙ ПРЫРОДЫ Ў ТВОРАХ БЕЛАРУСКІХ І ЎКРАІНСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ПРА ЧАРНОБЫЛЬ

У аповесці В. Карамазава «Краем Белага шляху» вялікую ролю ў яркім, незабыўным адлюстраванні выконваюць не толькі па-новаму — у святле чарнобыльскіх падзей — раскрытыя пісьменнікам маштабныя мастацкія вобразы, што падкрэсліваюць эсхаталагічныя матывы, але і канкрэтныя, па-аўтарску сімвалічныя, чыста «карамазаўскія». Напрыклад, чорны жучок Шнэйдара, які рухаецца без галавы. «… чорны, як вугаль, жучок. Шнэйдар торкаў у яго тоўстым ногцем, і жучок стрыг доўгімі, як у коніка, ножкамі, спрабаваў паўзці, але сморгаўся то ў адзін бок, то ў другі, нібы п'яны.

— Бачыш? Без галавы, а нештачка вырабляе, — загаварыў Шнэйдар» (1, с. 28).

Гэты чорны жучок Шнэйдара — нібы сімвал усяго хварэючага ад радыяцыі жывога. І таму ў словах Шнэйдара аб ім адчуваецца горыч і балючае разуменне жудаснага перастварэння свету. Як пісала І. Шаўлякова, «беларускай паэзіі (і літаратуры наогул) няма патрэбы пакутаваць у пошуках метабал, неакрэсленых і шматслоўных. У нас ужо ёсць — сапраўды экзістэнцыянальная — метафара Зоны. Які ў яе патэнцыял, як з ёю абыходзіцца, як вылічыць радыус (і наступствы) яе ўздзеяння — ах, як няшмат мы ведаем пра ўсё гэта (1, с. 28 ).

Сімвалічным выступае ў аповесці і сам мастацкі вобраз чарнобыльскага ваўка. Валетаў сустракае яго ў вымерлай вёсцы. «Перад ім стаяў нямоглы воўк. Страшэнна хударлявы, знясілены худобай ці голадам, з абвіслай па баках поўсцю, зляжала-рудой, закарэлай на чэраве і грудзях, з вострым гарбатым хібам, на падагнутых, як перабітых, задніх лапах. На чалавека воўк не звяртаў увагі. Пастаяў і пайшоў у варотцы, цягнучы зад. Хвост вісеў, бытта галень. Чалавека воўк, вядома, чуў і бачыў, але ўсё роўна як страціў не толькі сваю драпежнасць — адчуванне асцярогі, страху смерці» (1, с. 109). Увядзенне ў твор такога сімвалічнага мастацкага вобраза як «чарнобыльскі воўк» — прыклад адлюстравання новай ментальнасці, калі смерць побач, да яе прывыклі, яе не баяцца. Нездарма галоўны герой аповесці доктар Валетаў, гледзячы на ваўка, думае: «У канаючай істоце ўбачыў сябе, сваю дарогу і свой канец. Ды не толькі свой. Канец свету» (1, с. 109). І гэта — выразны эсхаталагічны матыў.

Адзін з яркіх мастацкіх вобразаў — белы бусел. Героі твора «…глядзяць з-пад Сажа на дуб і вачам не вераць: аж белы ад буслоў. Налічылі пятнаццаць птахаў на адным дрэве. Што з імі, чаму збіліся ў кучу? Жахліва зрабілася. Няўжо і птушкі ў бядзе? Белы ад буслоў дуб, можа, быў самы моцны сігнал бяды. Першы раз адчуў, што ёсць бяда з усіх бед — смерць усяго жывога: вады, травіны, птушкі, чалавека, зямлі. Усяго — адразу. Калі ўсё жывое ў адной яміне» (1, с. 32). Белы бусел — светлы вобраз, сімвал нашай зямлі. Таму аўтар праз сполах белых буслоў сімвалічна зашыфроўвае эсхаталагічны матыў — трывогу і бяду, якую прынёс Чарнобыль.

Мастацкаму вобразу «белы бусел» проціпастаўлены па кантрасце народнай міфалогіі мастацкі вобраз «вараннё». Вараннё — традыцыйны пераносны эсхаталагічны вобраз бяды. «Вараннё чорнай хмараю ўзнялося з зялёнага поля і шуганула цераз дарогу на бліщчаста-чорнае. Доўгія і стракатыя цені слізганулі

перад коламі машыны, і з-за зялёнае выспы насустрач пакацілася шэрая хаціна» (1, с. 39). Гэты мастацкі вобраз пададзены праз спецыфічныя ацэначныя колеравыя выяўленчыя сродкі. «У вачах усё зацягнулася змрокам — курганкі, крыжы, дрэвы, хмызняк. Галава напоўнілася шумам-гамам. Узняў галаву, глянуў угару: над бярозамі аж цёмна ад варання. Вялізныя чорныя птушкі кружылі ў небе, садзіліся на дрэвы і ўзляталі, хлябалі ў голлі бяроз чорнымі анучамі крылаў. …Учора, пачуўшы і ўбачыўшы гэты чорны гвалт, зямлю пад яго ценем, сябе адчуў ценем, зямлёю, душу як бы хто загарнуў у чорныя анучы, а цяпер нечакана абрадаваўся крыкліваму варанню» (1, с. 110).

У аповесці В. Казько «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» узмацняецца роля сімвалізму ў адлюстраванні жывёльнага свету. І гэта не звычайны, спрадвечна міфалагічны, абумоўлены фальклорам сімвалізм, што мае трывалую сувязь з чалавекам і дапамагае яму, а сапраўды чарнобыльскі — мутантны, эсхаталагічны. Напрыклад, вобразы «чарнобыльскіх» ваўкоў: «пакінутыя чалавекам, здзічэлыя і параднёныя з ваўкамі чарнобыльскія сабакі з зоны. Страшныя ў сваёй неўтаймаванай мутантнай лютасці» (2, с. 27). Людзі вераць, што з’явіліся чарнобыльскія ваўкі і палююць на іх дзяцей. Гэта сімвал таго, што людзі дайшлі да такога адчаю, у якім гатовы верыць у самае неверагоднае: чарнобыльскіх пачвар-ваўкоў, НЛА і іншае. Такі мастацкі вобраз добра перадае эсхаталагічны матыў — мяжу адчаю. В. Казько сведчыць пра герояў свайго твора: «Яны ўжо звыкліся са сваёй асуджанасцю, дайшлі да краю жыцця, калі галоўнае — пражыць бы толькі сёння» (2, с. 25).

Паколькі анімістычныя ўяўленні аказалі «вялікі ўплыў на традыцыйную духоўную культуру беларусаў» (3, с. 654), літаратура скарыстоўвае міфапаэтычны кантэкст як «стымулюючы фактар для творчай фантазіі» (4, с. 3) і для адметнага рэагавання на грамадскія з’явы, пісьменнікі ствараюць адметныя вобразы для паказу сацыяльнага і культурнага стану жыцця чалавека, аднак «міфапаэтычная сімволіка творча пераасэнсоўваецца аўтарам». (5, с. 216). Сфарміраваліся, напрыклад, устойлівыя вобразы непрывабнай сутнасці рэчаіснасці: сцяны, пацука (прусака). У гэтай сувязі варта згадаць раман Ю. Станкевіча «Любіць ноч — права пацукоў».

У рамане В. Казько «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» таксама не абыходзіцца без папераджальнікаў эсхаталагічнага матыву — вобразаў разбурэння і дэградацыі. Іх ролю выконваюць павук-крыжавік і вароны. Адметная функцыя ў гэтым плане павука-крыжавіка, якога падабраў Аўгуст Серада, дзіўнаваты старшыня калгаса «Верны шлях», які верыць у прылёт іншапланецян, хоча пагаварыць з імі, высветліць будучыню. У гэтай адчайнай вар’яцкай ідэі разумнага чалавека — канчатковая страта надзеі на рэальныя магчымасці. Аўгуст Серада не можа змірыцца і звыкнуцца з думкай пра Чарнобыль, таму хоча ўнікнуць яго, не бачыць, жыве іншасветам і чаканнем праўды з іншасвету.

Аднойчы ён заўважае дзівосных памераў павука-крыжавіка, які залез у шклянку. «Першым памкненнем Аўгуста быў намер забіць і выкінуць таго павука-крыжавіка. Ён яшчэ з дзяцінства ведаў, што таму, хто заб’е павука, даруецца сорак грахоў. А грахоў тых на яго сумленні мелася куды больш. Ва ўсёй акрузе не хопіць павукоў. І нейкі час наглядаючы, як павук ёрзае па гладкім і коўзкім шкле шклянкі сустаўным сваім шматножжам, як лупіць сферычнае вока скрозь гэтае шкло, што павялічвала яго, вырашыў: хай жыве. Чым не прыхадзень, чым не іншапланецянін. Было, было ў павуку нешта незямное, што адначасова палохала і прыцягвала. Хай жыве ў шклянай бясплоднасці. Папраўдзе прышэлец — вылезе, не сканае, вылезе, незямной сваёй сілай успора шклянку, бластарам-лазерам разрэжа яе ці развесіць павуціну і на тонкай нітачцы падымецца, выйдзе навонку і захаваецца. А не — далоў сорак грахоў» (2, с. 62). Да яго прыходзіць разуменне «мізэрнасці чалавека і яго жыцця ў параўнанні з сусветам і вечнасцю» (6, с. 74).

Аднак ён не здаецца: Аўгуст Серада не забівае павука, як зрабіў бы раней у сугуччы з міфапаэтычнымі, генетычна перададзенымі яму законамі сваіх продкаў. Усё перамяшалася, змянілася ў паслячарнобыльскім свеце, і страчваецца тое, што, здавалася, ніколі не страціцца. І наўздзіў Аўгусту павук выжывае. Выжывае

істота, якую заклікалі забіваць яго продкі, лічылі пачварай, а высыхаюць крыніцы, чэзнуць дрэвы, хварэе чалавек. І гэта прымушае Аўгуста прыглядзецца больш уважліва да павука. Цяпер ён здаецца нейкім эсхаталагічным сімвалам усяго, што адбылося на яго зямлі, прышэльцам, пасланцом. І аўтар апісвае яго незвычайным, знаходзіць сімвалічныя канатацыі — колеры-эпітэты і параўнанні: «Павук зрабіўся надзвычай прыгожым. Залаціста-чорны, а крыж белы, нібыта кужаль на ржышчы. А больш за ўсё і здзівіла, і ўразіла Аўгуста — не было ў празрыстай цямніцы ніякіх адыходаў паднявольнага жыцця павука… І Аўгуст палюбіў павука, адчуў, што ён яму блізкі і дарагі. Гэта ж трэба, нідзе ні павуцінкі, ні нават маленькага намёку на павуціну. Нібыта не павук сядзеў у шклянцы, а жыхар неба нейкі» (2, с. 63).

Такім чынам, мяркуючы па апісанні, адбываецца своеасаблівая фальклорная эсхаталагічная мутацыя ў адносінах да адмоўнага персанажа, і гэта сігнал змен у душы чалавека паслячарнобыльскага часу, яскрава пададзены аўтарам праз вобразна-выяўленчую сістэму твора. Пісьменнік працягвае ствараць вобразы сімвалічных мутанціраваных жывёл, згадаем вобраз «чарнобыльскія вароны», які ярка апісаны ў творы. В. Казько адразу адцяняе яго асаблівымі эпітэтамі-акцэнтамі: «абгрызеныя, з’едзеныя ветрам вароны». Гэта яшчэ адзін эсхаталагічны сімвал трывогі — вароны і груганы злятаюцца на вынікі смерці, на нежывое, і ад гэтага з’яўляецца адчуванне «страчанасці, поўнага бяссілля, амаль фізічнага болю» (7, с. 15).

Увядзенне гэтага мастацкага вобраза — яшчэ адзін яскравы прыклад адлюстравання драматычнай барацьбы жыцця і смерці. І аўтар зноў скарыстоўвае для гэтай мастацкай карціны адпаведныя эпітэты, метафары і параўнанні проціпастаўлення: «Яны стаялі ў траве ў зарасніках і пад дубамі, панура горбячыся, уцягваючы ў тулава шыі, нібы старыя ў дождж пад дубам, не мружачы вачэй пазіралі на яго і не адляталі. І ён зразумеў, што гэта не каменная крошка ляціць з неба. То вецер выдзімае яго раллю. Ляціць зерне з поля, жыта, жыццё. Груганнё чакае гэтага жыта, калі вецер паднясе яго… Манна нябесная сыпалася ім зверху. Высушанае радыеактыўнымі вятрамі поле, сінюшнае неба разраджаліся жытным дажджом.

У варон не было патрэбы хадзіць па полі і да сёмага поту здабываць хлеб свой надзённы, вышукваць і кляваць па зярнятку. Манна нябесная сыпалася ім з неба, паспявай толькі рот разяўляць і глытаць. Няхай жыве Чарнобыль!» (2, с. 72) — горка заканчвае пісьменнік.

У гэтым эпізодзе — яшчэ адно сцвярджэнне эсхаталагічнага матыву: Чарнобыль выклікае да жыцця істоты, якіх баяўся чалавек, што сімвалізавалі нядобрае ў жыцці і прыродзе, а гіне тое, што ўвасабляла жыццё і росквіт. Аўгуст Серада бачыць гэта, бачыць, як памірае жыццё і сыцяцца хлебам не тыя, для каго ён рос і хто яго вырошчваў, назірае небывалую карціну паслячарнобыльскай эсхаталагічнай рэальнасці: вароны «з разяўленымі дзюбамі бадзяліся па дубняку, абцяжарана валюхаліся сярод травы і клявалі жыта, што засела, захрасла ў той траве, адцяснялі і біліся са сваімі таваркамі, што ўжо насыціліся» (2, с. 73). І Аўгуст адчувае, што павінен нешта зрабіць, каб парушыць гэты кашмар, гэтае насланнё. Ён хапае палку і пачынае гнаць варон з поля. «Але вароны не вельмі яго палохаліся, хаця і ўзняліся ў неба, замглілі сонца, раць незлічоная — з усяго свету, пэўна, вароны. Узняліся і завіслі над яго галавой, не вельмі ўсерджана нават галосячы, хутчэй прыязна дакараючы: ну чаго табе, чалавеча, маўляў, трэба, хочаш есці, разяўляй рот, лаві ды не лянуйся глытаць» (2, с. 73). І перад гэтай навалай чорных варон — чорных, як усё, што сімвалізуе Чарнобыль, Аўгуст бездапаможны. Такім чынам, праз увесь твор праз падобныя мастацкія вобразы адбываецца «вяртанне раз за разам да матыву смерці», эсхаталагічнаму матыву (8, с. 11).

Мастацкі вобраз бусла ў творы найбольш выразна пазначае размежаванне да- і паслячарнобыльскага свету. Бусел — адвечная птушка беларускай вёскі і дадатны персанаж айчыннага фальклору. Бусел у легендах прыносіць дзяцей, а значыць, жыццё; яго не маюць права забіваць, бо той, хто заб’е бусла, накліча

няшчасце сабе і сваёй сям'і; калі паселіцца на падвор'і бусел, то гэты дом ахоўваецца нябеснымі сіламі; бусел прадказвае надвор'е, паказвае, калі можна сеяць, а хлеб, ураджай — самае галоўнае для вяскоўца. Так белы бусел — прыгожая моцная птушка — спакон веку ацэньваўся ў нашых продкаў.

«Буслы на сенажаці пад лагодным на захадзе ружовым сонцам — гэта і ёсць само Палессе.

Мацвей пачынаў разумець тое, што раней лічыў бабскімі забабонамі: чаму не толькі сяляне паважанага веку, але і маладыя дзеўкі, што просяцца ўжо замуж, так чакаюць вясной буслоў. Ведае бусел, здольны ён прадказаць, напрарочыць дзеўцы яе лёс. Убачыла яна яго адразу, як толькі вярнуўся ён з цёплых краін, на буслянцы — і ёй яшчэ ў бацькавай буслянцы год сядзець, а калі прыгледзела, што ляціць антон — паляцела неўзабаве і яна з роднага кубла: згуляюць яе вяселле сёлета», — так пазначае В. Казько яшчэ ў сваім дачарнобыльскім рамане «Неруш» (9, с. 27). Мастацкі вобраз бусла — гэта своеасаблівая алегарычная паралель, «рэальнасць, якая неразрыўна звязана з памяццю старога Палесся. Гэта — памяць краю» (10, с. 204).

Сімвалічнай з'яўляецца і афарбоўка бусла: белы, чорны, чырвоны. Міфалагічна звязвалі бусла з «нябесным агнём», «богам Грамаўнікам» (11, с. 40).

У рамане «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» гэтая птушка — галоўны сімвалічны мастацкі вобраз. Аднак бусел тут чорны, а гэта эсхаталагічны колер, неўласцівы яго ўспрыманню ў жыцці і па міфах-легендах. І апісвае яго В. Казько своеасаблівай палітрай эпітэтаў-проціпастаўленняў: «Чорны бусел — птушка неразгаданая, незразуметая чалавекам. Нейчы цень, што прыбіўся і заблукаў на зямлі, мо з іншай нават планеты трапіў у палескае балота. Ёсць у ім *высокае, нябеснае* — крылы і здольнасць лятаць, лунаць. Ёсць і *зямное ганебна-нізкае, змяіна-паўзучае*. Вытыркне з зямлі чорную, як галавешка, галаву — гад паўзучы, і табе пекануць цікуе. Кожная сустрэча з ім знак і перасцярога нейкая чалавеку, і нечаканасць чалавеку» (2, с. 42) (выдзелена мной. — **М. П.**).

Здаецца, да многіх праяў Чарнобыля прывыклі героі рамана В. Казько, бо ішла ўжо аж чацвёртая чарнобыльская вясна. Аднак, аказалася, калі са стратай і перастварэннем чагосьці матэрыяльнага можна прымірацца, вышукваць новыя спосабы жыцця і адаптацыі ў ім, то ёсць святое, вырачыся і страціць якое страшней за ўсё, бо гэта як «нябачная рыса, ступіўшы за якую ты ўжо не чалавек, не звер нават, а нішто» (12, с. 30).

Чорны бусел і сустрэча з ім так напалохалі Лазара, які пайшоў у лес высечы сабе вясельца для лодкі, што ён ад нечаканасці выпусціў з рук сякеру і адсёк сабе палец. А чорныя бусляняты — гэта зусім дзіва, і Лазар, думаючы пра іх, нібыта хоча перавесці да будзённых, знаёмых рэчаў, параўноўваючы іх з нечым блізкім для сябе. Таму бусляняты — «дзве чорныя вугалінкі з гарачымі жывымі вачыма… два агаркі, што толькі ўдзьмухалі ў сябе жыццё і цікаўнасць да яго, маладыя і брыдкія, як старасць» (2, с. 43). У гэтых апісаннях назіраецца вялікая ўвага аўтара да кожнай мастацкай дэталі, кожнага напісанага ім слова.

Выяўленчыя сродкі выконваюць адметную ролю канцэнтравання драматызму, настраёвасці твора, эсхаталагічнага матыву. Сярод такіх — вобразы скалечанай, знявечанай прыроды. Як пацвярджэнне — апісанне далейшага разгортвання дынамікі дзеяння і думак героя твора. Ад сустрэчы з чорным буслом Лазару неспакойна. Ён аглядаецца, але ні ў чым не знаходзіць падтрымкі: усё вакол — трывожнае, іншае. «Каля яго з-пад лап трохгаловага бацькі-ясеня срэбрам тачылася крынічка. Крыху далей, па сцёку ўжо вады, тое срэбра ператваралася ў жалеза і кроў, трохлістая кісліца па абодва бакі ручая вохрава-крывавая, перасцярожлівая. І цішыня, цішыня навокал, як затоенасць прымружанага, засяроджанага па нечым сваім вока, таксама здавалася перасцерагальнай» (2, с. 43). З дапамогай адметных драматычных эпітэтаў і параўнанняў пры апісанні заўсёды звонкай і чыстай у ранейшы час крынічкі, аўтар ізноў нагадвае: бяда побач. І Лазар, які ішоў у лес,

як у дачарнобыльскі час, мірна выразаць сабе з ясеня начынне для лодкі, пачынае ўсведамляць: не, колькі сябе ні падманвай, што ўсё ёсць як было, — на самай справе гэта не так, бо яны ўсюды — эсхаталагічныя знакі бяды.

Адзіная жывая істота, якая сустрэлася гераіням рамана І. Шамякіна «Злая зорка» Вользе Андрэеўне і Ірыне, калі яны ішлі да Глеба на станцыю, — маленькі сабака, які таксама ўзрадаваўся ім, пачаў лашчыцца, «поўз да іх, лісліва і радасна скуголячы і матляючы куцым хвастом» (13, с. 156), але якога нельга было гладзіць — ён быў чарнобыльскі, і яго поўсць хапіла радыяцыі. Зрэшты, як і калодзеж, з якога нельга было піць ваду і які зусім, здавалася б, па-мірнаму, апісвае пісьменнік: «на вочапе старога калодзежнага жураўля разгойдвалася новенькае дубовае вядро, не пачарнелае яшчэ, клёпка ажно свяцілася, мабыць, добрая душа старога палескага бондара зрабіла да свята людзям падарунак» (13, с. 157). Падарунак, якім зараз нельга пакарыстацца. Усё страчвала сваё прызначэнне, і ў гэтых мастацкіх напамінаннях аўтара прасочваецца выразны эсхаталагічны матыў.

Уладзімір Яварыўскі ў рамане «Марыя з палыном у канцы стагоддзя» не толькі апісальна, але прама акрэслівае матыў Чарнобыля: трывога, цень бяды: «адчуваецца татальная трывога, цень бяды — у горадзе здарылася нешта непапраўнае» (14, с. 108); «Боль! … Боль і апусташэнне…» (14, с. 127). Гэтым эсхаталагічным прадчуваннем прасякнуты і людзі, і жывёла. Яскравы прыклад — сабачка Марыі Міровіч Пушок: «Быццам уцякае ад нечага, шукае абароны ў гаспадароў. Марыя ўбачыла яго ў сенях, дастала з халадзільніка кавалачак каўбасы, кінула яму, але ён і на гэты раз толькі панюхаў і замалаціў хвосцікам, аддана гледзячы ў вочы, нібы просіць: не праганяйце мяне» (14, с. 109).

Поўнасцю на анімалістычным прыёме паказу чарнобыльскай рэчаіснасці будуе сваё апавяданне «Львы» Іван Пташнікаў. Гэта пісьменнік своеасаблівага светабачання, светаадлюстравання, адзін з прадстаўнікоў аналітычнай плыні ў нашай сучаснай беларускай літаратуры, яго адзначаюць як «аднаго з найбольш цікавых, самабытных празаікаў» (15, с. 29). Ён быў і застаецца прыхільнікам пераважна вясковай тэмы, і яна з'яўляецца творчым крэда пісьменніка. З гэтага вызначэння зыходзяць і яго адметныя, абвостраныя адносіны да праблемы «чалавек-прырода», яе мастацкае адлюстраванне. Таму страшнай недарэчнасцю, вялікай трагедыяй паўстаў для пісьменніка Чарнобыль і яго наступствы. І. Пташнікаў не мог абысці гэтую тэму, паколькі гіне чалавек, прырода, знішчаюцца адвечныя каштоўнасці. «Змяніўся характар грамадскага жыцця — яно ўсё больш набывае размах, які далучае да трывог свету як асобнага чалавека, так і ўсё чалавецтва» (16, с. 37—38), і літаратура не застаецца ўбаку ад такіх вострых праблем.

Іван Пташнікаў піша апавяданне «Львы» з выразным эсхаталагічным матывам. І ўсе тыя адметныя сродкі паэтыкі, якія так яскрава характарызуюць яго прозу і на дэталёвым раскрыцці якіх была раней засяроджана ўвага, вельмі трапна, сімвалічна і ярка паказваюць чарнобыльскую трагедыю, яе эсхаталагічны сэнс праз лёс сабакі Джукі з вёскі, атручанай радыяцыяй.

Апавяданне адкрываецца мастацкай дэталлю-падрабязнасцю, паколькі менавіта мастацкая дэталь-падрабязнасць «нечым вельмі істотным дапаўняе цэлае, дапамагае глыбей зразумець яго сутнасць» (17, с. 334):

«Джукі блажыла.

Яму выварочвала нутро і язык, — язык рабіўся доўгі, выцягваўся з рота, чырванеў, як агонь, слаўся на траву і на жоўтыя ў цвеце кунатыя адуванчыкі, і з яго цякла зялёная сліна — пенай. Калі блага адпускала, яго адразу хапаў кашаль — сухі, дзяркаты, глыбокі, ад яго падцінала духі, спірала ў вузкіх, маладых яшчэ грудзях — Джукі не было яшчэ і двух гадоў, — і ён тады задыхаўся ад сухой гарачкі, якая паліла ў горле і востра пахла растаптаным палыном і ёдам» (18, с. 269). Гэтая падрабязная дэталізацыя — апісанне благога стану сабакі Джукі — выводзіць чытача на вострае адчуванне новай паслячарнобыльскай рэальнасці.

І далей: «Язык цямнеў, рабіўся ліловы, не лез назад у рот, ляжаў на купіне, выцягнуты і здранцвелы, не хацеў нават злізваць расу. Па языку адразу ж пачалі

поўзаць мурашкі. Маленькія, худзенькія, рудыя і жоўта-выцвілыя, яны абсыпалі яго і пяклі, што крапівай ці чорт ведае чым…» (18, с. 269).

Прар мастацкія падрабязнасці паўстае поўная карціна гаротнага стану сабакі, вынікі радыяцыі. У «Алімпіядзе» гэтую ролю выконвае вобраз спружынкі ў вачах, яе мігценне перадае стан галоўнай гераіні, і таму «ва ўсім — у прамым сэнсе гэтых слоў — бачыцца нейкая асабістая непасрэдная аўтарава далучанасць да ўсяго, пра што піша, нават перажытасць» (19, с. 316). Падобны прыём у апавяданні «Львы», толькі замест спружыны — чорны круг у вачах сабакі Джукі як сімвалічны эсхаталагічны мастацкі вобраз Чарнобыля: «Ён кружыў усё хутчэй і хутчэй, аж у вачах пайшлі кругі. Чорныя кругі, як дома дзверы ў будцы, тады кругі з беленькай тасьмы, якія, здавалася, цягнуць у ваду на дно. Круг з беленькай тасьмы раптам сашмыкнуўся ў яго з галавы, і ён, маленькі яшчэ, толькі ўбачыў свет сваімі падслепаватымі вачамі, выплыў наверх, на ваду. Па вадзе ішлі кругі, і ён ніяк не мог тады вырвацца з іх, каб даплыць да берага ў мячэўнік…» (18, с. 282). Чорныя і белыя кругі — нібы падзел у памяці Джукі пра яго нараджэнне і пачатак смерці, сімвалічнае ўжыванне колеравых канатацый для падзелу на да- (белы) і паслячарнобыльскі свет (чорны).

Да апісання далучана мноства іншых яркіх выяўленчых сродкаў, што пазначаюць бяду. І. Пташнікаў піша: «як скінуць балючымі вачыма»; «вісела нейкая ўтрапёная, гарачая чалавечая трывога, якую Джукі ўлавіў ўжо тыдні два назад. …Нарэшце яна вылілася ў адну кроплю, чыстую і празрыстую, як раса на ніжыперніцы: ён больш ніколі не ўбачыць свайго маладога гаспадара з маленькімі дзецьмі на руках»; «галодныя свінні верашчалі так, што здавалася, поўсць стане дыбам».

Калі ў В. Казько і В. Карамазава Чарнобыль і яго вынікі пададзены праз погляд і адчуванні чалавека, то ў апавяданні «Львы» І. Пташнікаў паказвае трагедыю вачыма сабакі. Гэты арыгінальны падыход дазваляе аўтару абвастрыць успрыняцце трагедыі, бо жывёла ўвогуле бездапаможная перад такімі тэхнагеннымі наступствамі.

Людзі з белымі шапачкамі — сімвалічны вобраз новых для Джукі людзей, што неслі трывогу, бяду. Гэтак жа, як і густое бурае воблака. Яго апісанне рэфрэнам праходзіць праз увесь твор.

Паколькі пісьменнік вырашыў паказаць наступствы бяды праз успрыманне сабакі Джукі — галоўнага героя твора, — то значную ролю адыгрываюць азначэнні-апісанні пахаў, бо менавіта па іх сабака вызначае настрой і прадчувае бяду. Іх адлюстраванне носіць трывожны чарнобыльскі характар: «пахла пылам і палыном» (гэта пах Чарнобыля), «пахла нейкай працiўнай мазутай, перагарам, паленай гумай, бензінам, гнілой ворванню, ад якой выварочвала нутро, і… ёдам». Ёд — пах дэзінфекцыі, гэта таксама новы для вёскі пах ва ўспрыняцці Джукі, і ён таксама асацыіруецца ў яго свядомасці з бядой, значыць, — з Чарнобылем: «пахла ёдам — аж зрывала нос».

Развіццё дзеяння адбываецца праз успрыняцце Джукі наступлення Чарнобыля на яго родную вёску, дзе жылі яго гаспадары, і таксама праходзіць праз подступ паху: «Пасля і палын пачаў смярдзець бензінам, гнілой ворванню і ёдам… Ні ля калгаснай студні, ні на ўзмежках, ні на дзядзінцы ля фермы не было ратунку…» (18, с. 270).

Па паху Джукі імкнецца знайсці гаспадара: «Джукі адразу сунуўся ў грамаду — пад ногі: яму раптам здалося, што ён пачуў знаёмы пах гаспадара — пах свіней на свінакомплексе, саляркі, варанай бульбы і яшчэ нечага рэзкага — так пахлі двое маленькіх дзяцей, калі гаспадар трымаў іх на руках» (18, с. 273—274). І тут яркі кантраст да- і паслячарнобыльскага апісання паху для сабакі, а значыць, да- і паслячарнобыльскага свету.

Пах паслячарнобыльскі: Джукі «нюхам пачуў учарашні горкі пах і працiўны пах кіслай псіны — львінага клубка з логу…» і «несла кіслай псінай». Такі ж пах мае і машына смерці, дзе везлі мёртвых, адстраляных чарнобыльскіх сабак: «У кабіне пахла гарам, бензінам, бядой і, здавалася, маладым гаспадаром» (18, с. 284).

Кульмінацыя апісанняў у апавяданні І. Пташнікава «Львы» — лысыя сабакі. Смерць ад кулі — іншая справа, чым лысыя сабакі. Гэта для іх ганьба, якая

страшней за смерць і, такім чынам, гэты трапны мастацкі вобраз — адметны і непаўторны сродак паказу наступстваў Чарнобыля. «І ў гэтую кароценькую долю імгнення, калі Мірон вісеў угары, Джукі згледзеў, што той аблез… Быў увесь шэры, нібы ўкачаны ў попел. Доўгая чорная кудлатая поўсць у яго асталася толькі на шыі і на канцы хваста, як у льва» (18, с. 277). «І зноў Джукі разанула па вачах — усе яны аблезлі: і Брынза, і Малекула, і два Бімы… Хто знізу з жывата, хто зверху са спіны. Жоўтая Брынза была ўся голая…» (18, с. 277).

Жыццё сабак аўтар апісвае падрабязна, нібы перад развітаннем з імі назаўсёды. Так і здарылася — іх адстралялі, бо яны неслі ў сабе Чарнобыль. Сабакі ўбачылі, што Джукі не лысы, як яны, і яны кінуліся на яго. Трагедыя, бяда — усё гэта спараджае адмоўныя звярыныя інстынкты ў хатніх сабак, якія раней сябравалі ў вёсцы, ведалі адзін аднаго, а цяпер ад ганьбы, адчаю і прадчування смерці кінуліся на такога ж, як яны — Джукі. У апісанні бойкі сабак І. Пташнікаў звяртаецца да анімалістычнай мастацкай дэталізацыі: «жоўта-гола-шэрая беспародная гайня, сплёўшыся яшчэ ўгары над ім у раз’юшаны, разяўлены клубок, сапучы гарачынёй, яхкаючы і рычачы, упала на яго зверху» (18, с. 277). І яшчэ: «Гарачы, раз’юшаны клыкасты клубок у гарачцы забыўся на яго і пакаціўся, гыркаючы, форскаючы і якочучы, сівым пясчаным логам, падымаючы з зямлі пыл, поўсць, камякі торфу, траву і жоўтыя адуванчыкі» (18, с. 278). Звярынае абудзілася ў мірных хатніх сабак — і гэта яшчэ адзін вынік Чарнобыля, як, зрэшты, і іх смерць: «У кузаве ляжалі львы. Голыя, з доўгімі грывамі ля шыі. Ён іх добра бачыў» (18, с. 284).

Апавяданне заканчваецца гэтым страшным эсхаталагічным падкрэсленнем вынікаў чарнобыльскай трагедыі — іранічнай і балючай гіпербалай: «У кузаве ляжалі львы» (18, с. 284).

Джукі ўдалося вырвацца, бо ён яшчэ не аблысеў, як усе сабакі, яшчэ не стаў львом, і шафёр злітаваўся над ім: «Жыві, дарагі мой… Калі ты ўжо з такой кругаверці ад міліцыі вырваўся, то жыві — і… Тут ужо я сам не дам цябе застрэліць. Гэта ж падумаць… Ён да мяне ў кабіну. Ратавацца. І правільна зрабіў: жысь твая на валаску вісела. Правільна, брат, зрабіў… Жыві!» (18, с. 283). Чалавек адчувае віну за Чарнобыль, і адзінае, чым яе можа выкупіць — ратаваць яшчэ не аблезлага, адзінага неаблезлага сабаку з зоны — Джукі. У гэтым выяўляецца пакінутае аўтарам «спадзяванне на лепшую долю і ўпэўненасць у заўтрашнім дні Беларусі» (20, с. 47).

Такім чынам, І. Пташнікаў у сваім апавяданні «Львы» выкарыстаў многія асноўныя для яго творчасці мастацкія вобразы прыроды і вынайшаў новыя — яркія, непаўторныя, сімвалічныя (сад у апошнім цвіценні як смерць прыроды, лысыя сабакі, людзі ў белых шапачках і інш.), прычым узмацніў іх уздзеянне на чытача праз адметныя кантрасныя эпітэты, метафары, параўнанні, дэталі-падрабязнасці. Гэта і дапамагло стаць твору эмацыянальна насычанай, выразнай, ярка-драматычнай і незабыўнай памяткай чалавеку пра Чарнобыль, балючым, з глыбіні сэрца пісьменніка, заклікам шанаваць спрадвечнае наша багацце — родную зямлю, якую так шчыра адлюстраваў І. Пташнікаў у сваіх дачарнобыльскіх творах: раманах «Мсціжы», «Алімпіяда», «Чакай у далёкіх Грынях», аповесцях і апавяданнях.

## Літаратура:

1. Карамазаў В. Краем Белага шляху // Карамазаў В. Аброчны крыж. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 382 с.

2. Казько В. «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел». — Мн.: Маст. літ., 1993. — 319 с.

3. Беларускі фальклор: Энцыклапедыя. — Мн.: Беларуская энцыклапедыя, 2005. У 2-х т. Т.1.

4. Друк Г. М. Фальклорна-міфалагічныя матывы ў творчасці Віктара Казько: Дыс на атрым. ступ.канд. філал. навук // Друк Галіна Мацвееўна. — Мінск, 2003.

5. Друк Г. Канцэпцыя і структура мастацкай прасторы ў рамане В. Казько «Хроніка дзетдомаўскага саду» // Філалагічныя навукі: маладыя вучоныя ў пошуку. — Мн.: ВТАА «Права і эканоміка», 2001. — 317 с.

6. Карпаў Ул. На шляху сталасці. — Мн.: Маст. літ., 1982. — 231 с.

7. Козько В., Грибовская Г. Не судьи — ответчики... // Литературное обозрение. 1989. №2. С. 15—19.

8. Станкевіч Ю. Хроніка паміранняў. Крыніца. 1997. № 12. С. 9—11.

9. Казько В. Выбраныя творы. У 2 т. Т.1. Неруш: Раман. Апавяданні. — Мн.: Маст. літ., 1990. — 479 с.

10. Локун В. Да новых вышынь: Літ.-крытыч.арт. — Мн.: Маст. літ., 1991. — 224 с.

11. Шамякіна Т. Міфалогія Беларусі (Нарысы). — Мн.: Маст. літ, 2000. — 400 с.

12. Казько В. «За ўсё на зямлі ёсць суд...» — Беларусь. — 1982. — № 3. — С. 28—31. с. 30.

13. Шамякін І. Злая зорка // І. Шамякін. Збор твораў. Т.6. Мн.: Маст. літ, 2005. — 446 с.

14. Яварыўскі Ул. Марыя з палыном у канцы стагоддзя // Мн.: Маст. літ., 1991. — 315 с.

15. Марціновіч А. З Мсціжаў бачны свет. — Роднае слова. 1992. № 10. С. 29—36. С. 29.

16. Белая Г. Философско-эстетическая проблематика современной прозы // Гуманистический пафос советской литературы. — М., 1982.

17. Шкраба Р. Моваю вобразаў. — Мн., Маст. літ., 1989. — 351 с.

18. Пташнікаў І. Львы // Пташнікаў І. Тартак. — Мн.: Маст. літ., 2000. — 462 с.

19. Андраюк С. А жыццё — вышэй за ўсё: Выбранае: Літаратурна-крытычныя артыкулы; Нарыс творчасці. — Мн.: Маст. літ., 1992. — С. 316.

20. Дамброўская С. Роля прыроды ў раскрыцці ідэйнага зместу апавядання Івана Пташнікава «Львы». — Роднае слова. — 2001. — № 2. С. 46—47. С. 47.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 17 чэрвеня 2013 года.

**Маргарыта ПРОХАР**

## Рэалізацыя эсхаталагічнага матыву ў вобразах жывой прыроды ў творах беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў пра Чарнобыль

### Рэзюмэ

Гэты артыкул прысвечаны аналізу вобразаў прыроды ў творах пра Чарнобыль. Яны — асаблівыя ў кожнага аўтара і адлюстроўваюць яго погляд на трагедыю. Для параўнання ўзяты творы беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў.

**Marharyta PROKHAR**

## Eschatological Motives' Realization in the Images of Wildlife in the Belarusian and Ukrainian Writers' Works about Charnobyl

### Summary

The images of nature found in the literary works dedicated to the Charnobyl disaster are analyzed in the article. These images vary from author to author reflecting their view of the tragedy. The works by Belarusian and Ukrainian writers are compared.

Ігар ШАЛАДОНАЎ

# У ЗАСЕНІ ШЧЫРАГА СЛОВА

*(агляд беларускай аповесці за 2012 год)*

Ва ўсе часы на бягучы літаратурны працэс, на з'явы, якія ў ім адбываюцца, існавалі розныя погляды. Вось і сёння адны прытрымліваюцца думкі, што сучасная літаратура страціла свой ранейшы высокі мастацка-сацыяльны патэнцыял і статус. Іншыя, наадварот, заяўляюць аб паспяховым і паўнакроўным яе развіцці.

Таму паспрабуем аб'ектыўна прааналізаваць аповесці, апублікаваныя летась, імкнучыся як мага глыбей і больш панарамна раскрыць кантэкст твораў, вызначыць іх сэнсава-сімвалічныя і маральна-эстэтычныя вартасці. А ўжо сам чытач хай паспрабуе скласці сваё ўражанне пра тое, у якім стане знаходзіцца развіццё нашай прозы, пра жанравыя разнавіднасці сучаснай аповесці.

Літаратура ва ўсе часы была спагадлівай дарадчыцай і павучальніцай чалавека ў варунках хуткаплыннага часу, заўсёды імкнулася ўхапіць, закрануць, высвеціць нешта пакуль слаба выяўнае, няўлоўнае ў жыцці, але ўжо жывое і пульсуючае, якое настойліва жадае вылузацца з вітальнай матрыцы няспынных, бягучых хваль паўсядзённасці.

Душа любога сапраўднага майстра слова і яго сціло заўсёды былі намагнічаны адзінай цягай-зудам «спыніць імгненне» жыцця, (на памяць прыходзіць знакамітае гётаўскае выслоўе: «Спыніся, імгненне, ты цудоўнае»), распазнаць таямніцу кантынуумнага патоку Прасторы і Часу.

Думаецца, не дарэмна на пачатку ХХ стагоддзя геніяльны рускі паэт А. Блок выказаў слушнае меркаванне: «Калі не жыць сучаснасцю — то і нельга пісаць». Важнейшая заслуга літаратуры і заключаецца ў тым, што яна кожнаму зацікаўленаму чалавеку імкнецца так ці інакш дапамагчы ўдакладніць асаблівасці часу яго існавання, спазнаць ягонае месца ў імклівым руху падзей і абставін.

Сучасная беларуская аповесць, на наш погляд, з'яўляецца той жанравай празаічнай формай, якая па традыцыі прадаўжае ўтрымліваць першынство ў засваенні сэнсаватворных прынцыпаў развіцця сённяшняй складанай рэчаіснасці. Так ужо склалася гістарычна і эстэтычна, што гэты жанр у беларускім прыгожым пісьменстве набыў найбольш адэкватную для нашай ментальнасці форму перадачы і ўспрымання паэтыкі, этыкі і эстэтыкі вербальнага засваення навакольнага свету.

Аповесць паўстае не як недаразвітая форма раманнага мыслення і не як разбухлае апавяданне, а найчасцей выступае найбольш адэкватнай паэтычнай формай нацыянальнага мыслення, якая як мага дакладней імкнецца перадаць саму сутнасць стану народнай псіхафізіялагічнай гатоўнасці да ўспрыняцця і засваення прыроднай, сацыяльна-культурнай і псіхалагічнай акаляючай прасторы свету.

На нашу думку, вядомая мастацка-эстэтычная задума-задача Кузьмы Чорнага стварыць цыкл са ста раманаў дзеля раскрыцця гістарычнага шляху развіцця беларускай нацыі не знайшла свайго практычнага вырашэння не толькі з-за неспрыяльных сацыяльна-палітычных умоў драматычнай сітуацыі 20—40-х гадоў ХХ стагоддзя, але найперш па той прычыне, што сутыкнулася з прынцыповым бар'ерам жанравай адпаведнасці формы рамана беларускай псіхасацыяльнай ментальнасці.

Прыгадаем да гэтага яшчэ тыя велізарныя творча-псіхалагічныя і стылістыка-паэтычныя цяжкасці, з якімі сутыкнуліся М. Лынькоў пры напісанні рамана «Векапомныя дні», а І. Мележ, працуючы над раманам «Мінскі напрамак». Найбольш поўна затым раманны тып мыслення І. Мележ змог увасобіць у «Палескай хроніцы» з яе відавочным дыфузным ядром, якое магло рэалізавацца толькі праз расцягнуты раманны цыкл. Яркім прыкладам беларускай класічнай творча-мастацкай рэалізацыі нацыянальна-ментальнага характару стала творчасць В. Быкава з яго цэлай галерэяй аповесцей у паказе і раскрыцці ваеннай тэматыкі. Узяўшы за аснову жанравую форму аповесці, ён змог ва ўсёй паўнаце данесці рытміку жыццёвага імпульсу ва ўспрыняцці беларусам трагедыйнай панарамы ваеннай рэчаіснасці.

Сённяшняя беларуская аповесць праз творчасць цэлай плеяды таленавітых пісьменнікаў А. Жука, І. Пташнікава, В. Казько, В. Карамазава, Г. Марчука, А. Савіцкага, У. Ліпскага, А. Федарэнкі, А. Казлова, А. Наварыча, Ю. Станкевіча, У. Арлова, А. Брава, В. Кадзетавай і інш. актыўна праяўляе сябе ў шматстайных тэматычных і відавых формах самарэалізацыі. Гэта і дакументальная, і фантастычная аповесць, і аповесць-наратыў, і творы філасофскага характару, і на бытавую тэматыку, і аповесць пра каханне. Аднак ёсць тое асноўнае, што аб’ядноўвае іх відавую, стылістычна-фармальную і тэматычную разнароднасць — іх амаль усіх лучыць адна быццам непрыкметная ідэя-мара — паўнавартасна ўхапіць, засвоіць і перадаць жывы імпульс сучаснага складанага, шмат у чым алагічнага рытму і сэнсу жыцця і быцця.

«Вечнасць, — адзначыў аднойчы В. Быкаў, — як ні круці, цалкам складаецца з мімалётных момантаў, крута замешаных на вартых пагарды бруднай палітыцы, грэху, пакутах і болю. Заўважана, што няма сучаснасці, ёсць толькі мінулае з будучыняй. На іх тоненькім стыку і размяшчаецца ўяўная сучаснасць, на якой мы і існуём, хто жыве сёння».

Менавіта мастацкаму слову, як ніякаму іншаму, у нашым чалавечым існаванні нададзена магчымасць «прыцягваць», «уздымаць» «мімалётнасць момантаў» да вышыні вечнасці, бо паўнавартаснаму, анталагічнаму, мастацкаму слову Богам наканавана не толькі пераносіць значэнне і сэнс прадметаў і з’яў свету, але і адкрыта магчымасць захоўваць і таіць гэты сэнс у сабе.

Толькі пры такой задачы стаўлення да слова, дзе яно становіцца мэтай перадачы ісціны, а не толькі сродкам камунікацыі, аўтар можа па-сапраўднаму, адэкватна выклікаць да жыцця тую аб’ектыўную рэальнасць, якая за ёй і можа стаяць. Менавіта рэальнасць, створаная сапраўдным «эстэтычным словам», дзе існуе і пацвярджаецца прастора яе стваральнай здольнасці служыць праўдзе і ісціне, на самай справе і можа лічыцца адзіным крытэрыем мастацкасці твора.

Узброіўшыся такім стаўленнем для разумення сутнасці і вартасці мастацкіх тэкстаў, паспрабуем разгледзець калейдаскоп аповесцей, якія сталі набыткам 2012 года.

Найбольшы рэзананс і розгалас у літаратурна-мастацкім асяроддзі сярод празаічных твораў, калі ўлічваць колькасць публікацый у рэспубліканскім друку, набыла аповесць А. Федарэнкі «Дзікі Луг». Аўтар зноў вяртаецца да раскрыцця тэмы жыцця і быцця беларускай вёскі, якая так ці інакш закраналася ім у аповесцях «Гісторыя хваробы» (1990), «Вёска» (1995), «Салдат» (1996), «Нічые» (2001), «Повесць» (2006), рамане «Рэвізія» (2004).

Андрэй Федарэнка як творца ў беларускай літаратуры найбольш выразна рэалізуе і пазіцыяніруе сябе пісьменнікам так званай плыні пострэалізму. Яго творчая манера ўсё больш арганічна сінтэзуе і пераплаўляе ў сваёй творчай практыцы шматлікія стылёвыя і паэтычныя сродкі і прыёмы іншых мастацкіх плыняў, захоўваючы пры гэтым адну прынцыповую адметнасць — імкненне да таго, каб за мастацкім словам і тэкстам хавалася рэальнасць як мага больш адпаведная праўдзе часу і духу эпохі.

Мастак з павышанай суб'ектыўна-псіхалагічнай оптыкай бачання свету, А. Федарэнка крок за крокам імкнецца рассунуць гуньку над імклівымі і пакуль мала ўсвядомленымі разбуральнымі працэсамі сённяшняй нашай рэчаіснасці. Яго, інтэлігента ў першым пакаленні, сына і выхаванца «вясковай стыхіі жыцця», не можа не непакоіць факт знікнення вясковага, патрыярхальна-сялянскага мацерыка, якое пачалося на пачатку XX стагоддзя, а пры яго жыцці стала набываць незваротны катастрафічны характар.

Імклівае, амаль гвалтоўнае самаруйнаванне вёскі не можа атрымаць логіку «здаровага сэнсу» ў псіхіцы індывіда сялянскай цывілізацыі — беларуса, бо разумнаму рацыянальнаму характару апраўдання дадзеным працэсам супраціўляецца сама жывая, але шмат у чым пасіўна-разарваная ўжо канвульсіўная матэрыя яго душы, якая не мае пакуль магчымасці знайсці сабе адэкватную лона-нішу ў гарадскім цывілізавана-давільным працэсе ўладкавання.

Класічны жывы свет рэальнасці, дзе чалавек па-большасці жыў Божым выхаванцам у лоне-купелі прыроды, сам па сабе нечакана рассыпаўся пад навуковым прагрэсам і пазнаваўчай практычнай актыўнасцю розуму чалавека.

У XX і пачатаку XXI стагоддзя мы дрыготка адчуваем пошукі мастакоў слова адэкватна адказаць на адкрыцці матэматыкаў, фізікаў, біёлагаў у пазнанні імі новай, нябачнай намі рэальнасці, якая ўсё актыўней урываецца ў будзённае жыццё звычайнага чалавека, робячы яго хоць і больш камфортным, утульным, але разам з тым і незнаёмым, слабаўспрымальным і адчужаным, бо чалавек шмат у чым ужо не можа знайсці тыя кропкі апоры, каб паспрабаваць своечасова і адэкватна адказаць на выклікі акаляючай рэчаіснасці.

Каб пазнаць гэту новую рэальнасць, чалавек павінен стварыць і новую форму (у тым ліку і мастацкую) дзеля апісання свету. Зрабіць гэта ранейшымі стылявымі і сімвалічнымі спосабамі класічнага мастацтва XIX стагоддзя вельмі складана, бо новая рэчаіснасць патрабуе больш скрупулёзнага, філіграннага выяўлення нябачнага, нячутнага слыхам, амаль неўспрымальнага, а таму быццам і неіснуючага рэальнага свету, які сёння нават больш рэальны, чым бачны і адчувальны намі ранейшы свет звыклых рэчаў.

Аднак мы фармулюем і тлумачым сабе і адзін аднаму паняцці, выкарыстоўваючы звычайную, натуральную, родную мову. Без гэтага мову навукі могуць зразумець толькі машыны, а не людзі. Родная мова, у адрозненне ад мовы навукі, суразмерна чалавеку. Гэта тая мера, да якой мы падыходзім для разумення быцця, будучы перакананымі ў тым, што і быццю яна таксама суразмерна, адэкватна.

У Бібліі напісана: «На пачатку было Слова і Слова стала Богам». Па-сутнасці, Святое Пісанне таксама надзяляе слова абсалютным інварыянтам выяўлення Боскай моцы, якая ўтрымлівае ў сабе і галоўны сэнс свету, і іскру фаворскага агню, а таксама імкнецца выявіць сапраўдную рэальнасць быцця. Гэты спрадвечны, спароджаны Боскім словам абсалютна-ідэальны сэнс-кантэкст прынцыпова неіманентны іншым кантэкстам, яму непатрэбны іншыя звенні камунікацыйнай перадачы, таму што ён нараджае менавіта першапачатковы, галоўны сэнс, на якім раз за разам запісваецца вязь іманентных кантэкстаў, з якіх вырастае скарб роднай мовы, гісторыі, быцця народа. Скарб гэты — першасны тэкст — і ёсць галоўны змест, абсалютны інварыянт, сапраўдная рэальнасць у адлюстраванні прыроды, чалавека і народа ў прасторы Сусвету. Літара і слова, пясчынкі гэтага фаліянту, шмат у чым і вызначаюць сутнасць мастацкага слова як адну з форм Боскай прадвызначанасці, асноўнай якасцю якой з'яўляецца магчымасць убіраць і захоўваць у сабе сэнс і ісціну адлюстраванай рэальнасці.

Такі шырокі экскурс у сутнасць мастацкага слова нам спатрэбіўся, каб паспрабаваць знайсці найбольш дакладны інструментарый пранікнення ў прастору мастацкага тэксту апошняй аповесці **А. Федарэнкі** *«Дзікі Луг»,* напісанай пад тым магнетызмам пошуку майстроў слова XX і XXI стагоддзяў у адчуванні і спазнанні

*новай рэальнасці*, што ўварвалася ў сучаснае наша жыццё і якую мы пакуль не можам адэкватна ацаніць і ўсвядоміць.

Вялікае сімвалічнае значэнне для раскрыцця ідэйнай задумы твора адыгрывае зачын. Пісьменнік вельмі эмацыйна, ярка і маляўніча, з падрабязнай дакладнасцю ў дэталях апісвае працэс падрыхтоўкі і выезду вяскоўцаў на сенакос ва ўрочышча Дзікі Луг, што за дваццаць кіламетраў ад вёскі, за Нароўляй, на другім беразе Прыпяці.

Сенакос — спрадвечны занятак сялянскага ўкладу жыцця. Колькі разоў ён станавіўся прадметам апісання для айчыннай прозы. Аўтар як бы хоча настроіць нас на класічную вербальную перадачу гармоніі чалавечага жыцця, якая існавала ў спрадвечным патрыярхальным сялянскім побыце, падключаючы ўвесь спектр мастацкага дэжавю. Асаблівая пераклічка бачыцца з творчасцю І. Мележа. Усё ў гэтым побыце як заўсёды, як некалькі стагоддзяў назад.

«Рыхталіся да паездкі грунтоўна… Мужчыны кляпалі косы, устаўлялі зубы ў граблі, выразалі з сырых асін мянташкі, запасаліся новенькімі зярністымі брускамі. У кожнага мелася адмысловае паленца з убітай бабкай, каб там, на месцы, пакляпаць. Жанкі пакавалі ў клункі закуску, рыхтавалі флягі, бідоны, біклажкі — пад ваду… Малыя рабілі вуды, плавілі ў лыжках волава для грузілаў, вучыліся на выгане закідваць донкі, збіралі пад калодамі тоўстых чарвякоў-выпаўзкаў…»

Усё ў гэтым паляшуцка-вясковым свеце звыкла і гарманізавана, тут кожны меў свой строга вызначаны клопат і абавязак. Асаблівая ж цікавасць да Дзікага Лугу была ў дзяцей, якім ён здаваўся раем зямным. Той жа думкі трымаліся і дарослыя, якія запрыпяцкі луг атаясамлівалі з той зямной прасторай, дзе чалавек і прырода знаходзяць адчуванне сваёй непарыўнай лучнасці і ўзаемазвязанасці ў свеце.

«Гэта было поўнае ўладарства дзікай прыроды, аддадзенай самой сабе, панаванне амаль не кранутай чалавекам першабытнасці, чароўнае запусценне, глушэча, непралазная нізінная дзіч. Толькі рака звязвала *з цывілізацыяй,* (курсіў наш. — *І. Ш.*) і адзіны спосаб сувязі, калі не дай Бог, што здарыцца — было крычаць, гукаць цераз раку, каб прыслалі з таго берага паром ці лодку».

У гэтым апісанні Дзікага Лугу пісьменнік упершыню адкрыта супрацьпастаўляе прыродны спрадвечны лад жыцця палешукоў з працэсамі цывілізацыі, якія ўсё больш маштабна і напорыста пачыналі ўрывацца ў іх звыклы працэс жыццеўладкавання. З глыбокім унутраным спачуваннем і сумам адуваем і бачым, наколькі безабароннымі яны станавіліся перад тым, што няўмольна несла з сабой «*сацыяльна-палітычная рака-плынь*» ХХ стагоддзя.

Палешукі, вякамі жывучы ў сваіх лясах і балотах, былі наіўнымі дзецьмі прыроды, якія карэннямі ўраслі ў сваю зямную глебу і прастору, выпрацавалі свой адметны ціхмяны, сціплы, непрыкметны для акаляючых душэўны склад і характар. «Не, то не ў нас… У нас не водзіцца, у нас бедненько…» Яны нават палохаюцца хуткай плыні Прыпяці, якая тысячагоддзямі звязвала іх з цывілізаваным светам. Ім лягчэй было паверыць у тое, што ў Дальніх Ставах жыве нешта, што вогненным шарам гарыць і пужае, што іх сусед з асаблівасцямі жыццёвых паводзін сапраўдны вядзьмак, чым бачыць, як кажа аўтар «сапраўдныя рэальныя рэчы, тое, што пад носам».

Крыху пазней пісьменнік ужо з большай шчырасцю, жалем і сумам зазначыць, што амаль усе ягоныя галоўныя героі — Кулініч, Кветка, Мірон — сталі апошнім пакаленнем людзей, звязаных з зямлёй такой непарыўнай пупавінна-роднаснай сувяззю, характэрнай усёй ранейшай шматтысячагадовай сялянскай цывілізацыі.

«Ужо тады (у 70-я гады ХХ стагоддзя) абазначыўся крах вёскі — задоўга да Чарнобыля і перабудовы, пачыналіся першыя яе перадсмяротныя сутаргі, пакалення Пятра, было апошнім пакаленнем, звязаным з зямлёй; яны ведалі, што апошнія, што на іх усё скончыцца, дзеці іхнія ўжо не выберуць іхняй долі, ды ніхто і не хацеў, каб яны яе такую выбіралі».

Нутром зразумеўшы сваю безабароннасць перад «чорнай матэрыяй» небыцця, якая нябачна ўрываецца ў іх жыццёвую прастору, душой і сэрцам адчуўшы сваю *апошнасць*, героі пачынаюць канвульсіўна імкнуцца паасобку вырвацца з гэтага *вядзьмяцкага зачараванага* кола жыцця. Не дарэмна ж падчас агульнай пасядзелкі каля начнога вогнішча ў Дзікім Лузе вяскоўцы, падвіпіўшы, так шмат увагі надаюць містычнаму, нявытлумачанаму, таму, што *пужае.*

«— Не, Бог не Бог, а нешта ёсць…

А што, хіба няма таго, што *пужае*?»

Яны нават збіраюцца ўбіць у магілу Ігната-ведзьмака асінавы кол, таму што найперш бачаць прычыну ў сваіх незразумелых бедах менавіта ў ім, «бо не паспеў ён памерці, як пачаліся адна за адной сухія навальніцы; без дажджу, без хмар, сярод яснага дня маланкі лупілі ў што папала…»

Вось гэтае *нешта*, вельмі варожае паляшуцкаму калектыўнаму ладу жыцця, пачынае з катастрафічнай хуткасцю разрываць жывую матэрыю іх быційнага і жыццёвага існавання, якому яны нічога не могуць паставіць у супраціў, не маючы магчымасці яго дакладна распазнаць і ўсвядоміць. На містычна-сімвалічным узроўні пісьменнік стварае выразную карціну наіўнага змагання самага сталага героя аповесці — сямідзесяцігадовага чыгуначніка-касца Мікалая Мірона, — які распавядае наступную гісторыю:

«— Нейк вяду веласіпед уночы… Коціцца *клубок вогненны*! Жарам гарыць! *Пужае*! Я падскочыў, як урэзаў насцаком! Клубок як запішчыць, як кінецца ўцякаць!.. Я цябе навучу!.. Я табе *папужаю*!..»

Вобраз *вогненнага шара* атрымлівае ў мастацкай тканіне твора вельмі шырокую інтэрпрэтацыйную сімволіку. У рацыяналістычным плане гэтым шарам можа быць шаравая маланка, якая вельмі небяспечная і змагацца з ёй шляхам удару насцаком вельмі небяспечна, амаль самазабойна. З іншага боку, у вобразе-сімвале вогненнага клубка, які коціцца, можа выступаць вогненнае кола гістарычнага прагрэсу, асноўнага рухавіка і рэвалюцыянера сучаснага навуковага і сацыяльнага развіцця.

Менавіта навізна і навацыя, амаль некіруемы рух пазнання новага, нязведанага стала асноўным стымулам-дэвізам існавання цывілізаванай сучаснасці, якая ў многім і садзейнічала выбуху Чарнобыльскага атамнага рэактара, што сваім вогненна-радыяцыйным шарам абпаліў амаль палову Беларусі. І менавіта гэты смяртэльна-радыяцыйны шар-выпраменьванне першыя яго ўтаймавальнікі, пажарнікі бліжэйшых навакольных ваенізаваных каманд, вымушаны былі амаль ці не насцаком яго ўціхамірваць.

Той першародны экзістэнцыяльны страх за сваё і сваіх дзяцей існаванне, які пасяліўся ў душах *апошніх дзяцей зямлі* паляшуцкай, шмат у чым паралізуе іх волю і пазбаўляе магчымасці супрацьстаяць выкліку часу. Больш за тое, працэс людскога самаразбурэння, расчалавечвання, паніжэння, вымірання пачынае набываць у сюжэтнай канве аповесці паскорана імклівы ход.

Цікавым сімвалам у паказе асуджанасці вяскоўцаў на паразу ў змаганні з сацыяльна-эканамічнымі глабалісцкімі працэсамі, іх немагчымасці гарманічна ўпісацца ў парадыгму новага жыцця паўстае вобраз *новага касцюма*, што хоча купіць сабе Кветка, адзін з герояў твора. Касцюм робіцца кволым, мройным жаданнем чалавека, які співаецца, хоць якім-небудзь чынам патрапіць у адпаведнасць з больш духоўна-эстэтычнай формай свайго прызначэння ў жыцці. Але касцюм гэты ён так і не захоча апрануць і будзе з ім хадзіць па хатах, каб каму-небудзь прадаць.

Яму будуць наліваць, але ніхто не захоча гэты касцюм выкупіць, у чым і прыхавана, здаецца, горкая, песімістычная праўда дадзенага сімвала. Касцюм як увасабленне адпаведнасці чалавека новым павевам жыцця вяскоўцам непатрэбы, бо яны не могуць упісацца ў яго *меркавую* сутнасць. Мабыць, таму так самотна і беспрасветна гучыць аўтарскае разважанне, што палешукі ведалі: «на іх усё скончыцца, дзеці іхнія ўжо не выберуць іхняй долі, ды ніхто і не хацеў, каб яны яе такую выбіралі».

Прайшло шэсць год. У галоўнага героя твора лесніка Куленіча і яго жонкі Махновачкі падрос сынок Васілёк. Бацькі не маглі не нарадавацца са свайго адзінага гадаванца, таму песцілі яго, рыхтуючы яму на будучае бязбеднае, як ім здавалася, жыццё. Але вёска, як думаецца, правільна зазначае аўтар, вякамі выпрацоўвала свой стыль і манеру паводзін у выхаванні дзяцей, які патрабаваў ад іх больш адказнага і трывала-спартанскага падыходу да жыццёвых абставін і выпрабаванняў.

Жаданне Кулінічаў адгарадзіцца, замкнуцца ад вяскоўцаў па выстройванні асабістага шчасця праз дабрабыт і дастатак, хоць і шляхам самаахвярнай індывідуальнай працы, не магло не прайсці міма зайздроснага вока аднавяскоўцаў. Такі ўжо спрадвечны закон жыцця вёскі: схаваць штосьці ад якой было вельмі складана, тым больш вылучыцца з яе за кошт іншых.

Чорная энергія зайздрасці, незадаволенасці, злобы, якая так ці інакш копіцца ў чалавеку і людзях, асабліва ў крызісныя перыяды, неадвольна патрабуе свайго выхаду. Спрацавала «подлае, бязлітаснае, жорсткае да агіды правіла — не забывайся, хто ты ў гэтым свеце, не любі моцна, не прывязвайся да каго б ні было, не прывыкай, будзь заўсёды напагатове». Трагічна гіне, ашпараны кіпнем, сямігадовы Васілёк, «*васільковымі вачыма*» якога Кулінічы хацелі б глядзець на свет і радавацца яму. Паміраe ад п’янства прыгажун Кветка, «дабрашчы» чалавек, які так і не змог прыстасавацца да новых абставін. Пражыўшы век з нелюбімай жанчынай, ён, будучы натурай слабай і бязвольнай, так і правёў жыццё ў палоне спіртам падахвочаных мар-спадзяванняў на тое, каб быць машыністам і пабачыць далёкія далі.

Будучы ад нараджэння дабрадушным чалавекам, Кветка заканчвае сваё жыццё спітай знявечанай бязносай істотай, з рота якой пасля смяротнай дозы спіртнога паказаўся «*сіні агеньчык*, як з газавай камфары». Ці не іскры і водбліск гэта таго самага *вогненнага шара*, пра які расказваў раней, на пачатку аповесці, Мікалай Мірон.

Поўная дэградацыя вёскі становіцца відавочнай з’явай у мастацкай прасторы твора. Адзіны чалавек, які пачувае сябе больш ці менш нармальна і ўтульна, Грыгор, які ўжо два разы пабываў у турме і двойчы паспеў ажаніцца. Жыве ў бацькавай старой замшэлай халупе з земляной падлогай і нічога не хоча мяняць у сваім жыцці. Яго вітальна-жывёльная самазадаволенасць і прымітывісцкая самаўпэўненасць у праваце сваіх спрошчаных законаў выжывання пацвярджаюць толькі тое, што вёска паступова ператвараецца ў сапраўдны «*дзікі луг*», дзе адбываецца паскораны працэс на паніжэнне духоўнай прыроды чалавека.

Сама ж мастацкая будова аповесці высвечвае закальцаванасць гэтага працэсу самаразбурэння спрадвечнага сялянскага Сусвету, а разам з ім і хуткасную дэвальвацыю народна-этычнай матрыцы людскіх узаемаадносін. Калі на пачатку твора падчас касьбы на «Дзікім Лузе» Куленіч выкрыквае словы «Ніжай! ніжай! ніжай!», каб падахвоціць касцоў да працы, падняць іх дух, то яго апошнія трызненні-словы «Ніжай, ніжай, ніжай…» набываюць ужо іншую метафарычную маральна-духоўную афарбаванасць і значэнне.

Пісьменнік у фінале аповесці дазваляе нам паразважаць над сутнасцю трызнення свайго героя, ставячы ў апошнім варыянце слоўных паўтораў заміж ранейшых клічнікаў толькі коскі, ствараючы тым самым сваю візуальную форму-сімвал паніжэння маральна-этычнай прасторы сучаснай вёскі, якая стала своеасаблівай калапсіруючай зоркай, што трапіла ў магнітнае поле *духоўнай чорнай дзіркі* цывілізацыі, з прасторы якой ужо амаль не зыходзіць святло.

Паступовае апусканне на дно сялянскага Сусвету заўважана мастакамі слова даўно. Нагадаем хоць бы знакамітага «мілага і смешнага дуралея-жарабя» С. Ясеніна, які выразна, акцэнтавана, з вялікім душэўным болем зазначаў, што «жывых коней перамагла стальная конніца».

Яшчэ ў 1930-я гады класік беларускай літаратуры Я. Купала, перажываючы за лёс вёскі, мог з горыччу, але пакуль яшчэ не трагедыйным настроем усклікнуць:

«Сыходзіш, вёска, з яснай явы». Сучасная ж рэчаіснасць дае ўсе падставы гаварыць аб тым, што патрыярхальная вёска з яе спрадвечным укладам жыцця амаль знікла, затоплена акіянічнымі хвалямі цывілізацыйнага цунамі, утварыўшы тым самым велізарную новую прастору «*дзікага лугу*» са сваімі правіламі і законамі сацыяльна-людскіх узаемадачыненняў, праблем, канфліктаў, звязаных з працэсамі развіцця сельскай гаспадаркі, экалогіі, урбанізацыі, светаўладкавання.

Андрэй Федарэнка не ставіць на мэце праблему скрупулёзнага раскрыцця матывацыі і псіхалогіі паводзін герояў, не жадае паглыбляцца і ў логіку гістарычных працэсаў, якія абумовілі такі парадак жыцця. Ён разумее, што над гэтымі праблемамі і пытаннямі ўжо даўно пашчыравала не толькі літаратура, але і публіцыстыка, дый уся інтэлектуальная эліта грамадства.

Дадаць да гэтага што-небудзь арыгінальна-доказнае цяжка. Толькі сапраўдны пісьменнік — гэта заўсёды па-дзіцячы тонкая натура аголенага адчування болю, а таму і крыку душы. Наглядаць за тым, як тоне з людзьмі любая лодка, карабель, а тым больш цэлы мацярык, справа не для слабанервовых.

Праблема сучаснай вёскі, роднага кута пад своеасаблівым пунктам гледжання раскрываецца ў рамантычнай аповесці **Уладзіміра Гаўрыловіча** *«Анёлак мой, анёлак»* («Полымя», № 4). Асноўны канфлікт твора ўтрымлівае ў сабе ўзаемаадносіны двух закаханых былых аднакласнікаў Аляксея Савіча і Галіны Русіч.

Знакаміты навуковец, член некалькіх творчых саюзаў і навуковых саветаў Савіч нечакана вырашыў паляцець на радзіму, на сустрэчу з аднакласнікамі, у далёкую ад Піцера палескую вёску Вятчын, дзе правёў сваё маленства і юнацтва і ў якой не быў ужо дваццаць пяць год. З таго злашчаснага моманту, які адбыўся пасля выпускнога вечара паміж ім і Анёлкам, каханай дзяўчынай Галяй.

Аўтар паперамення раскрывае жыццёвыя лёсы асноўных герояў, паступова ведучы іх да новай сустрэчы, каб развязаць асноўную інтрыгу нечаканых паводзін пасля прыкрага здарэння, якое амаль назаўсёды разлучыла каханых і прымусіла вёску разносіць розныя слухі пра характар іх узаемаадносін. Абаіх герояў, мабыць, не так хвалюе сустрэча з аднакласнікамі, як ім карціць вырваць, як стрэмку з цела, душэўную рану маладосці, якую яны атрымалі, апёкшыся на полымі першага кахання.

Стаўшы ўжо дарослымі, набыўшы жыццёвы вопыт і мудрасць, яны прадаўжаюць жывіцца амаль няўлоўнай энергіяй сардэчнай узаемасувязі, якая нябачна нітуе і звязвае іх увесь гэты час. Важнейшыя ўчынкі яны робяць як бы зверaючы іх з вышыні сваіх былых высокіх і чыстых узаемаадносін. Цеплыня ранейшага пачуцця дазваляе ім ісці па жыцці, высока трымаючы планку ідэалаў сваёй маладосці. Таму, напэўна, іх жыццё так шчодра напоўнена і творчым, крэатыўным парывам і высокай мараллю адказнасці за акружаючых іх людзей. Разам з тым той спапяляючы напал душэўных пачуццяў першага кахання не мог не прыўнесці ў лёс герояў і матыў амаль нясцерпнага болю, самоты і перажывання, ад якога амаль не магчыма пазбавіцца нават з гадамі. Абодва не знайшлі шчасця ў сямейным жыцці, бо іх анёлы бога Гіменея спапялілі свае крылы пры першым дотыку да гарачага полымя кахання. Боль, гаркоту і памяць сэрца па няспраўджаным каханні героі аповесці змаглі пераплавіць праз духоўны горан адчування і перажывання душы да болю іншых.

Так, у развагах Аляксея раз-пораз праглядаюцца самотныя ноткі роздуму аб тым, якой ён бачыць зараз сваю родную вёску, якую так некалі паспешліва пакінуў:

«Аляксей не пазнаў сваю вёску. Яна захавалася, яшчэ жыла сяк-так трохі ў цэнтры, хоць і тут было нямала пустых, скасабочаных, у667рослых у зямлю хат, але паміралa наводшыбе. …Ён не мог паверыць сваім вачам. Іх хаты, шостай ад краю, не было зусім. Зарослы, здзічэлы сад, які некалі пасадзіў дзед, рэшткі падмурка нагадвалі, што раней тут было чалавечае жытло, знікла, сцерлася з зямлі і яшчэ некалькі хат, што некалі стаялі па суседстве. Пакінутая зямля пуставала. Густа

ўтравелыя сцяжынкі сведчылі, што па іх даўно ніхто не хадзіў: ні жывёла, ні чалавек. Усё выдавала здзічэлым, а то і амярцвелым».

Пісьменнік не дазваляе Савічу дайсці да стану самабічавання. Толькі той выразна разумее і сваю, магчыма, не такую ўжо і выразную, але ўсё ж падспудную вінаватасць. Адчутая Аляксеем няўтульнасць каля месца былой дзедаўскай хаты — гэта вечны несплачаны доўг і абавязак перад роднай зямлёй і самім сабой. У рэалістычную мастацкую прастору аповесці ўводзіцца рамантычная легенда пра назву роднай вёскі нашых герояў Вятчын, якую расказвае землякам маладая загадчыца мясцовага клуба падчас урачыстага пасяджэння аднакласнікаў і вясцоўцаў.

Даўным-даўно на тым месцы, дзе зараз знаходзіцца вёска, жыла сям'я рыбака, ў якой расла вельмі прыгожая дзяўчына Улада. Аднойчы міма іх хаты праязджаў на брычцы прыгожы мужчына ў багатым адзенні з Варшавы. Чужаземцу спадабалася Улада і ён прапанаваў ёй: «Паедзеш са мной? Я цябе, крый божа, не пакрыўджу. Вер мне!» Праз дваццаць год нейкі багаты чалавек выкупіў за вялікія грошы гэтую зямлю, якая дасягала самога возера Князь, і вырашыў пабудаваць тут велічны палац. А яшчэ праз нейкі час прыехаў і сам таемны гаспадар гэтай зямлі. З ім была «прыгожая, быццам каралева, жанчына», у якой людзі пазналі Уладу, а побач з ёй стаяў высокі юнак, яе сын. Праз дзесяцігоддзі зямельнае ўладанне пані Улады перайшло сыну, а ад яго — ягоным унукам і праўнукам. Маёнтак захоўваў сваю назву Вотчына. Але з цягам часу яна змянялася, «кожны перапісчык уносіў свае змены ў дзелавыя паперы, і неўзабаве стала Вотчына, Вітчына, Вятчына, затым Вятчын, якая і захавалася да нашага часу…»

Асноўны пафас легенды скіраваны перш за ўсё на эмацыйна-пачуццёвы імператыў любові ў душы чалавека. Менавіта чужаземец, закахаўшыся ў простую дзяўчыну, не здрадзіў свайму пачуццю і слову, якое даў ёй. Разам з тым, Улада атрымаўшы высокі сацыяльны статус у жыцці, не забыла пра родны край, захавала да яго любоў і адданасць. Больш за тое, гэтыя пачуцці яна змагла прывіць і сваім нашчадкам.

Галоўная ідэя твора, думаецца, і прыхавана аўтарам у тым, што легенда імкнецца данесці тую вызначальную гуманістычую думку, якую чалавек павінен у сабе вечна сублiміраваць, пераплаўляць духоўную сілу свайго Эраса на вызначальныя каштоўнасныя ідэалы, вызначальныя з якіх любоў да Радзімы, да каханай дзяўчыны, добразычлівасць да блізкіх і родных табе людзей. Толькі са скіраванасцю да такой парадыгмы гарманічнага судакранання з гэтымі вечнымі каштоўнаснымі імператывамі, магчыма яго, чалавека, сапраўднае апраўданне ў свеце.

Яшчэ адну арыгінальную міфалагему сучаснай ужо гарадской рэчаіснасці стварыў пісьменнік **Юры Станкевіч** у аповесці *«Шал»* («Маладосць», № 11). Галоўны герой андрэй валовіч — «чалавек, які меў гадоў далёка за трыццаць, і быў даволі моцнага целаскладу». У эканамічна крызісны час яму давялося стаць «выканаўцам», згодным брацца амаль за любую працу, каб пракарміць сваю сям'ю — жонку і дзесяцігадовую дачку.

Імя і прозвішча героя твора напісаны з малой літары, аўтар ад прапановы рэдакцыі часопіса вярнуць у аповесць прапісныя літары прынцыпова адмовіўся. Гэтым сваім прынцыповым настойваннем Ю. Станкевіч, нам думаецца, прыхавана імкнецца выразіць ідэйную задуму і галоўную тэму аповесці. Тая мастацкая прастора, якую пісьменнік атаясамлівае з рэальнасцю, па яго меркаванні, катэгарычна не ўтрымлівае ў сабе фактар сапраўднай намінатыўнасці, выразнасці праяўлення, каб выяўляць яе праз вялікую літару. Пісьменнік стварае ў мастацкім полі твора своеасаблівую квазіпрастору разбурэння, паталогіі, ***бес***апатаміі, якая параджае разгул стыхійных сіл, хаосу, ***шал****енства*, сатанізму.

Дваццаць год актыўнага ўмяшання ў народную псіхіку тэхналогій кіравання і мадэліравання сацыяльнай свядомасцю, а разам з ёй і падсвядомасцю, і звышсвядомасцю, шмат у чым рэаніміравала свет магіі, чарадзейства, варажбы — усяго таго, што, магчыма, ніколі па-сапраўднаму і не пакідала чалавека ў жыцці, але

цяпер набыло новы больш татальны і злавесны характар у адносінах да вянца Тварэння.

Творчасць Ю. Станкевіча адметная тым, што ён, як ніхто іншы ў нашай сучаснай літаратуры, перадае тую сутнасць мастацкага слова, якое павінна несці не толькі функцыю адлюстравання рэчаіснасці, але і патрабуе, каб слова ўтрымлівала ў сабе таксама энергетыку выбуху, дзеля таго каб высвечваць гэтую падманную, ірацыянальную рэчаіснасць, бо рацыянальны спосаб свядомаснага ўспрыняцця свету па-большасці ўжо не з'яўляецца адэкватам у адлюстраванні сённяшняй рэчаіснасці. Менавіта такі метадалагічны і стылістычны падыход дазваляе найбольш паспяхова знаходзіць мастацка-тэарэтычны інструментарый у раскрыцці заган бягучай псеўдарэальнасці.

Сама назва твора «Шал» утрымлівае ў сабе найбольшую канцэнтрацыю праяснення ідэйна-тэматычнага плана аповесці. *Шал* — гэта тэрыторыя, дзе правіць баль Сатана, а чалавек толькі элемент, вінцік яго маніпуляцый. Так і адбылося з героем аповесці валовічам, які, стаўшы «*выканаўцам»* любой працы, дзеля выжывання і дастатку, імкнецца па волі закону самазахавання адшукаць матывацыю самаапраўдання сваім учынкам і дзеянням.

Ужо ў пачатку твора аўтар зазначае пра галоўнага персанажа тое, што ён становіцца *выканаўцам*, не толькі дзякуючы крызіснаму, няспрыяльнаму стану сацыяльнага жыцця, а найперш гэта прафесіянальная функцыя «гняздзілася, напухала гноем глыбей», у галаве самаго героя. Ён дайшоў да такога стану існавання таму, што «як ніхто іншы, ненавідзеў свой родны горад, і за рэдкім выключэннем, амаль усё, што ў ім існавала, рухалася і жыло». Больш затое, ён меркаваў, што «мае на тое своеасаблівую рацыю і права».

І вось калі яму прапаноўваюць адну вельмі незвычайную, але высокааплачваемую справу, наш герой, крыху паразважаўшы, згаджаецца выканаць яе. А зрабіць трэба было наступную далікатную рэч: завесці ў Карэлічы да святара-экзарсіста айца Віталя, з якім валовіч быў знаёмы, хворую на шаленства дзяўчыну Канстанцыю Віж.

Прасілі пра гэта валовіча бацькі дзяўчыны, якія ведалі, што да айца вялікая чарга хворых, а валовіч добра знаёмы з ім. Падчас знаёмства з дзяўчынай валовіч адчуў у ёй магутную энергетыку прывабнасці і свавольства. Усе яе паводзіны былі накіраваны на тое, каб унесці разлад у любы стан рэчаў, з якім яна сутыкалася.

Да ўсяго, дзяўчына валодала вялікім запасам ведаў, каб маніпуліраваць любой сітуацыяй. Нават пасля таго, як айцец Віталь правёў з ёй сеанс выгнання д'яблаў, яна змагла захаваць сваю сатанінскую моц. Таму лоўка правяла валовіча, падрабіўшы так, што ён сам трапіў у псіхушку.

Усе жахі, якія ён перажыў, пабыўшы ў псіхлячэбніцы, прыводзяць андруша да той высновы, што «але ж і ў рабстве можна быць свабодным. варта толькі не зазіраць у сябе. бо менавіта там — пекла, а яно засмоктвае. хіба канстанцыю віж не прымусілі. бесперапынна зазіраць у сябе? але, ці менавіта д'ябал увайшоў у яе. у працэсе гэтага самасузірання». Далей пісьменнік прыводзіць гісторыі са Святога Пісання, дзе гаворыцца пра тое, як д'яблы выгнаныя з апантанага, папрасіліся пасяліцца ў свінняў, але тыя копам кінуліся ў мора, каб не быць залежнымі ад іх.

Толькі чалавек, на думку валовіча, можа ўтрымліваць ў сабе д'яблаў, бо яго псіхіка, здольная абстрагавацца, яна «трымціць і хістаецца, і не вытрымлівае націску сіл жыцця».

З іншага боку, Ю. Станкевіч вядзе на старонках аповесці даволі складаную гульню са сваім галоўным героем дый з чытачом, сутыкаючы розныя пункты погляду на працэс шаленства ў людзей. Так, вуснамі лекара, які выпісвае андруша з псіхлякарні з умовай, каб ён праз нейкі час вярнуўся ў яе на сталую працу старэйшым санітарам, пісьменнік выражае навукова-медыцынскі ракурс на псіхічную хваробу.

«… што экзарцызм, … своеасаблівыя прымхі, а калі ёсць у гэтым які эфект, то хуткаплынны, і нязначны, урэшце, вы самі, упэўніліся, калі вазілі сваю падапечную да святара, хіба не так? многія вераць у тое, што ў чалавеку можа пасяліцца д'ябал. І сеансы выгнання шырока практыкуюцца, наносячы вялікую шкоду людзям, у якіх ужо і без гэтага расхістаная псіхіка. у старажытны час вашую падапечную аб'явілі б ведзьмай. і спалілі б на вогнішчы. а, між тым, карані псіхапатыі — у нас саміх, фізічныя недахопы, складанасці ў сям'і, гвалт». Так, навука пра чалавека ў сваім развіцці дасягнула такіх маштабаў пазнання, што яе ўмяшанне ў працэс яго далейшага існавання можа мець каласальныя наступствы, як пазітыўнага, так і негатыўнага характару. Недарэмна ж валовіч у канцы твора ўспамінае выказванне айца Віталя, які адпаведна Святому Пісанню апакаліптычна зазначае, «што надыдзе час, калі ўсе ператворацца ў вар'ятаў, і таго адзінага, які не звар'яцеў, тыя вар'яты і аб'явяць шаленцам».

Выратаванне чалавецтва ад апакаліпсісу Ю. Станкевічу бачыцца ў гуманістычным плане, праз веру ў самога чалавека. Усё залежыць ад таго, ці хопіць моцы духу валовічу, вярнуўшыся з Карэлічаў, адразу кінуць у балота камень, які ўвабраў у сябе шаленскую энергетыку. Менавіта пра гэта думае ён, вяртаючыся дамоў. Гэты імпульс-пасыл да героя і дае аўтару хоць пакуль кволую, але адзіную надзею на выпраўленне апакіптычнай рэчаіснасці.

Між іншым, вобраз-сімвал каменя можна разглядаць таксама праз шырокае кола сімвалічных асацыяцый. Камень сам па сабе не нясе ў сабе ні зла ні дабра, толькі ва ўзаемазвязанасці з чалавекам ці іншым прадметам ён здатны ствараць канструкцыю, якая можа стаць ці падмуркам для прыгожага палаца ці зброяй для забойства. Менавіта чалавеку, які стала паверыць у сябе, у сваю магчымасць да ўзвышэння, да самаўдасканалення і развіцця, па сіле стаць сапраўдным Пятром-Каменем у стварэнні новай высокай выжывальнай веры-парадыгмы для сваіх нашчадкаў. На гэта і накіравана мара і спадзяванне, як нам здаецца, аўтара аповесці «Шал». Толькі знайсці такога чалавека ў сённяшніх рэаліях жыцця, на думку Ю. Станкевіча, амаль не магчыма, а таму валовіч выступае толькі намёкам на будучага «*выканаўцу*» сваёй сапраўднай місіі ў свеце.

Своеасаблівую мастацкую панараму сучаснасці як міфалагемы стварыла **Алена Брава** ў сваёй аповесці *«Рай даўно перанаселены*» («Маладосць», № 1). А. Брава ўжо трывала замацавала за сабой імідж пісьменніцы з паглыбленым оптыка-псіхалагічным метадам пранікнення ў душу сваіх гераінь. У яе творчасці дамінуе менавіта раскрыццё *жаночай* анамнестычнай рэфлексіі ў поглядзе на жыццё, пры яго (жыцця) праламленні праз тонка-празрыстае шкло суб'ектыўна-рафініраванай філасафічнай сублематыўнасці.

Яе ранейшая проза, асабліва творы з кнігі «Каменданцкі час для ластавак» пранізаны пасіянарным жаданнем аўтаркі пранікнуць у глыбіню чалавечай псіхікі, імкненнем разгледзець тую яго сакральную прастору, дзе не дрэмле яго душа, дзе каштоўнасны цэнтр яго веры. Аповесць «Рай даўно перанаселены» — не выключэнне.

На пачатку пісьменніца ўводзіць у яго сюжэтную канву сімвалічны вобраз шклянога адпаліраванага яйка-падманкі, праз якое маленькая дзяўчынка, яна ж сама аўтарка, жадае паглядзець на сонца. Ёй вельмі хочацца, каб «залатое яйка ажыло, і з яго выйшла маленькае цёплае курынае дзіцятка». Але з гэтага нічога не атрымліваецца.

«Я хукаю на яйка, прыціскаю да шчакі, ліжу языком. Але яно ўсё такое ж — прыгожае, мёртвае». Гэта антытэза жывога і мёртвага, сапраўднага і прафаннага, боскага і сатанінскага прыяўлення ў жыцці, у людзях будзе пранізваць усю падзейна-фабульную прастору аповесці. У персанальна-вобразным раскладзе яна найбольш выяўна раскрываецца на супрацьпастаўленні жыццеапісання дзвюх родных жанчын галоўнай гераіні — бабулі па бацькоўскай лініі Веры і роднай маці, імя якой гераіня так ні разу і не назаве.

Бабуля Вера для аўтаркі — амаль адзіны светлы ўспамін у жыцці. Яна прысвяціла сябе працы на карысць акружаючых яе людзей, сям'і, родных і блізкіх. Удзячная ўнучка разважае пра яе: «Так не было роўных маёй бабулі Веры ва ўменні клапаціцца ратаваць. Ніхто не быў ёй за гэта ўдзячны. А чым яшчэ займацца ёй, непрацуючай?» Можна было б суцешыцца прыгожым словам «пакліканне». Але хіба ў яе калі-небудзь быў выбар? Выбару ў яе не было з той самай хвіліны, калі яна з'явілася на свет. Тады пра якое ж пакліканне я кажу? Яе роля была жорстка зададзена, і яна вымушана ёй адпавядала. Але для таго, каб адпавядаць гэтай ролі, трэба было мець у сабе спагаду і любоў — тое, чаго напоўніцу была пазбаўлена яе нявестка…

Калі б маёй бабулі прывесці цытату з рамана пра *невыносную лёгкасць*, дзе журналістка-феміністка кажа гераіні: «Нават калі вы ўсяго толькі фатаграфуеце кактусы — гэта ваша жыццё, калі жывяце дзеля мужа — не ваша жыццё», Вера не зразумела б, пра што гаворка. Не было ў яе «гендэрнай свядомасці», як не было і ўласнага жыцця; гэтае яе адасобленае ад нас жыццё немагчыма нават уявіць, — галоўнае, яна сама не ведала б, што з ім рабіць, абрынься раптам такое жыццё ёй на галаву».

Толькі дзякуючы жыццёваму прыкладу бабулі Веры маленькая дзяўчынка магла зразумець і ўнесці ў сваю душу тую сапраўдную існасць любові, што «любоў — гэта не за штосьці, а проста так, без усякіх умоў». Гэта намаганнямі бязмернай любові, непасільнай працы, вымотваючага штодзённага клопату за сваіх блізкіх бабуля змагла вылучыць у свядомасці для сваёй унучкі разуменне паняцця сапраўднага роднага дому, зямнога раю. Нават стаць ыратавальніцай яе падчас цяжкай хваробы на апендыцыт.

Толькі бабуля змагла запаліць у душы маленькай роднай істоты агеньчык веры ў тое, што гэты свет не да канца падуладны акружаючаму амаль татальнаму злу. І калі: «На мой электронны адрас прыйшло «магічнае» пасланне: штосьці пра Адзінарога. Ад мяне патрабавалася пераслаць гэтае трызненне пяці маім знаёмым, узамен мне абяцалі *выкананне ўсіх жаданняў*. Пісьмо я адправіла ў сметніцу…» Месцам, дзе магчыма выкананне ўсіх жаданняў і можа лічыцца біблейскі, эдэмскі Рай, але ці не залішне шмат людзей, амаль на халяву імкнуцца туды патрапіць, і ці не выслана ліслівымі абяцанннямі дарога ў адваротны бок — у пекла.

Гэткім пеклам можа стаць віртуальная рэальнасць, якая стварае ілюзію магчымасці выканання ўсіх чалавечых мар, мрояў і жаданняў. Магія псіхалагічнай залежнасці ад камп'ютарнага, віртуальнага свету, тэхналагічныя спробы замбіравання чалавечай свядомасці, стала пагрозлівай небяспекай для захавання чалавекам сябе, як вянца-прыроды. Чалавек надзелены вялікім патэнцыялам энергетыкі пошуку сябе ў гэтым свеце, часта трапляе у так званыя «пасткі» прыроды і тэхнікі, якія жадаюць спіхнуць яго ў прорву небыцця, пустога месца.

Алена Брава надае шмат увагі задачы высвечвання гэтых пастак. Асабліва ёй удаецца прагледзець жаночыя варыянты правальвання гераінь у прорву быційнай пустаты. Як добрая знаўца жаночай псіхалогіі, пісьменніца стварае ў мастацкім полі твора цэлую галерэю вобразаў жанчын сатанінскай прасторы — маці, дворнічыха Танька, Капа, Калаўротка і інш. Найперш празаік-аўтар, ад імя якога вядзецца аповед, паглыблена імкнецца раскрыць і спазнаць вобраз сваёй маці, жанчыны-актывісткі 60—80 гадоў XX стагоддзя.

«На заводзе, дзе працавала маці, у яе з'явіліся сяброўкі: гэта былі няшчыры альянс амбітных асоб, апантаных мэтай запісацца ў хадавы тавар эпохі ды заняць месца на палічцы, абазначанай біркай «актывістка»… У асноўным таварышкамі маці былі адзінокія або разведзеныя кабеты таго ўзросту, у якім чалавек звычайна набывае зубы мудрасці, але мудрасці не нажывае; траплялія, зрэшты, і сямейныя, якія закінулі сем'і за больш важнымі — «дзяржаўнымі» — справамі. Заўсёды істэрычна ўзбуджаныя, поўныя нейкай сатанінскай энергіі, якая з самага ранку гнала іх прэч ад хатняга цяпла, з-за чаго іх блізкія звыкла зараблялі сабе гастры-

ты і язвы, кватэры зараслі брудам, а яны імчаліся наперад са свістам: «Часссс выбраўнасссс!».

Даволі ўдала выпісана псіхалогія і жыццёвае крэда жанчыны-прыстасаванкі, якая ва ўсе часы імкнулася быць у «коле важных персон». Спачатку яна тлумачыць навакольным, што Капіталінай яе назвалі ў гонар «Капітала» К. Маркса, але калі час змяніўся, стала іншай і інтэрпрэтацыя імя.

«Пасля трэцяй чаркі наступіла чарга даведацца пра палітычныя ідэалы Капы: «Я вам што — з глуздоў з'ехала чытаць той «Капітал»?! І ваабшчэ: гэта я вам *тут* — названая ў гонар «Капітала». А жыла б *там* — насіла б імя ў гонар Капітолія, ёсць такі пагорак, на ім Рым пабудаваны, чулі? Эх, дзеўкі, хто б мяне толькі вывез у тыя Капітоліі! А зрэшты, яно і тут няблага — трэба толькі ўмець уладкоўвацца».

Далей чытаем: «*Уменне ўладкоўвацца* лічылася сімвалам веры гэтага прысутнага жаночага згуртавання». Аднак вечная гульня-мільганне ў масці настолькі трывала ўцягвае чалавека ў колазварот д'ябальскіх сіл, што паступова заношаная маска-трафарэт і застаецца прыліплай назаўсёды да твару персанажа, і ў пэўны час яна выкідваецца «колам важнай персоны», як зношаная і непатрэбная рэч.

Вельмі натуралізавана намалявана карціна гэтага трагікамічнага відовішча. «… на сярэдзіну пакоя… выйшла Капа. Яна была па-ранейшаму з атрутна-зялёнымі павекамі ды гуллівым начосам, які, мяркуючы па падазроным бляску, таксама, як і ў эпоху дэфіцыту, аздабляла фарбай-серабранкай, прызначанай для надання жорсткага глянцу батарэям ацяплення («Дзёшава і сярдзіта!»), — выйшла, падобная да маскі смерці з Эдгара По.

Суправаджаў яе моцна п'яны блазен з бубнам. На мачалісты начос клаўнесы быў нацягнуты каўпак з фольгі, павялічаныя памадай губы няшчыра лыбіліся. Блазен выціскаў са свайго інструмента брынклівыя гукі, а яго партнёрша, задзіраючы голыя ногі, спявала карпаратыўныя куплецікі. На старых нагах набухалі бурыя вены.

І не тое, каб ёй таго хацелася, не. Але яна, панізіўшыся ў статусе да паўідыёткі, пачала б не толькі задзіраць ногі вышэй за галаву, — яна пачала б выдурняцца па поўнай праграме, абы толькі адцягнуць тое, што старажытныя філосафы лічылі найвялікшым шчасцем у жыцці кожнага чалавека: *момант сустрэчы з сабой.* (курсіў наш. — *І. Ш.*). Бо для таго, хто пусты ўнутры, як футбольны мяч, і не мае ў сабе ні любові, ні мудрасці, няма нічога страшней, чым быць адхіленым ад прывідных «грамадскіх спраў».

Апавядальніца справядліва тлумачыць, што такія экзэмпляры, як Капа, ашалеўшы ад страху смерці, бо страшна паміраць таму, хто *не жыў не быў,* з падвоенай сілай пачынаюць атручваць жыццё акаляючым людзям. Яны імкнуцца сваю няздатнасць тварыць дабро кампенсаваць прывідам не сапраўднай, падманлівай псеўдадзейнасці.

Гэта яны заўсёды ўсіх «асуджаюць, распінаюць, выкрываюць, патрабуюць увагі, пляткараць, вышчараюцца, ахвотна падпісваюцца, гнеўна далучаюцца», — карацей, адымаюць жыццё ў іншых. І як нячысцікі адчайна спрабуюць ухапіцца працягнутымі з балотнай жыжы рукамі, за жывых людзей, каб не адным сыходзіць у пекла.

Менавіта на гэту слізкую дарогу жыцця так ахвоча большая частка тых, каго заўважае і бачыць вакол сябе гераіня-апавядальніца, зараз дарослая ўжо паэтка, якая гадуе сваю дачку.

Галоўная гераіня А. Брава, як і асноўныя героі Ю. Станкевіча, схільная лічыць, што сучасны наш свет — гэта вынік стомленасці, неспрыяльныя наступствы эпахальных катаклізмаў XX стагоддзя на землях ад Байкала да Буга, якія паслужылі адбору той нікчэмнай пароды людзей, якая расквітнела і дала надзвычайны прыплод. Пісьменніца не шкадуе чорных фарбаў у раскрыцці іх пачварнай сутнасці.

«Вакол іх нязменна яркае электрычнае святло, накрыты стол, гучная музыка. Яны заўсёды ў добрым настроі і, жартуючы, нібы патураючы тваёй нязначнасці, тыцкаюць у цябе жоўтым пазногцем указальнага пальца, нібыта дваровую лічылку паўтараюць… Яны ўпэўнены ў сваім праве спажываць і карыстацца, самі ж нічога не даюць жыццю… Інстынкт прымушае іх праглытваць усё, што не ёсць яны самі, а тое, што немагчыма зжэрці, — знішчаць. Яны агрэсіўна ўнушаюць усім навокал саміх сябе, і людзі паддаюцца гіпнозу…»

Толькі ці не змешвае тут А. Брава ў адзін брутальны кактэйль дух розных эпох XX стагоддзя, псіхалагічную неаднароднасць паводзін людзей розных ідэйна-метафізічных схільнасцей, калі падспудна жадае, на нашу думку, выключыць з чалавечай быційнай трансцэндэнцыі паняцці гераізму, подзвігу, разам з актыўнасцю іх носьбітаў у змаганні са злом самапажыральнай рэчаіснасці, якую яна нам так яскрава малюе ў мастацкім паказе рэалій жыцця.

Ці ёсць месца подзвігу, адказнаму ўчынку залежыць ад сітуацый, але калі ў жыцці наогул адмоўлена месца подзвігу, адказнаму ўчынку, то ці такое жыццё магчыма назваць чалавечым.

Галоўны канфлікт дабра і зла ў творы, які найбольш востра праглядваецца ва ўзаемаадносінах паміж маці і бабуляй галоўнай гераіні, пісьменніца імкнецца ўзняць да вяршыннага напружання. Гераіня, паступова сталеючы, пачынае разумець, што яе маці, называючы сваю свякроў дармаедкай, мокрай курыцай, заўсёды прыхавана і злосна зайздросціла ёй у тым, што яна, калі выйшла шчаслівая замуж за паважанага чалавека, начальніка, атрымала, па яе разуменні, права на той шанс-білет да бязбеднага і бесклапотнага жыцця, на які яна ўвесь час разлічвала і за які вымушана змагацца.

Выходзячы замуж за сына бабулі Веры, якога яна ніколі па-сапраўднаму не любіла, гэтая жанчына хутка зразумела і была страшэнна расчаравана ў тым, што жаданага білета ў камфортнае, райскае жыццё ў начальніцкай сям’і ёй не будзе забяспечана. Адарваўшы сабе толькі аднапакаёвую кватэру, мінімум на які яна разлічвала, злосная і расчараваная ў жыцці маці-адзіночка імкнецца спагнаць сваю крыўду і злосць на свет праз непрыязныя адносіны да дзвюх сваіх дачок, якія, на яе думку, выкралі і з’елі, як *шакалад*, яе жыццё.

Вобраз-сімвал *шакаладу* ў творы выяўна характарызуе жыццёвае крэда маці, якая ўвесь час змагалася толькі за тое, каб ухапіць, адарваць ад іншых лепшы кавалак жыцця, жыць камфортна і бесклапотна, па-сур’ёзнаму не задумваючыся і не клапоцячыся пра сродкі, якімі гэтага можна дасягнуць, хапаючыся за прывідныя, падманлівыя спосабы знайсці сваё месца ў жыцці, каб рэалізаваць сябе.

Але жыццё, дзе няма месца сапраўднай напружанай стваральнай працы, дзе адсутнічае пачуццё любові і спагады да блізкіх заўсёды церпіць быційнае фіяска, таму што яно не сапраўднае, яно Богам пакінутае. Ды свет шмат у чым злы і пачварны, таму ёсць магчымая спакуса яго адмаўлення.

Гэтым пытаннем задаецца і гераіня твора. Яна імкнецца пранікнуць у сутнасць паводзін сваёй бабулі, паразважаць над тым, ці не з’яўляецца яе жыццё своеасаблівым варыянтам бюргерска-пратэстанцкай схімы. Дзе праца ёсць толькі пакутлівая, вымарачная дзейнасць, сізіфава праца, якая з’яўляецца адзіным апраўданнем і схованкай ад смяротнага жаху перад смерцю і хаосам. Такая праца паўстае нейкім зеллем-гіпнозам перад смяротнай хваробай, якую спараджае ўнутрана-трапяткое пачуццё стомленасці, Богам пакінутасці чалавека на зямлі.

У доўгіх філасофска-паэтычных развагах аб прызначэнні жыцця аўтарка прыходзіць да ўсведамлення таго, што бабуля жыла, паводле Пастэрнака, «Лицом повернутая к Богу». Пра падзвіжніцтва бабулі Веры, яе рыцарскія адносіны да працы і людзей выразна сведчыць той факт, што свет не ёсць у сваёй аснове татальная, усеахопная цемра і прадонне без святла. І што святло ў гэтым свеце, пакуль ён існуе, знішчыць немагчыма, бо толькі яно і ўтрымлівае яго сваім стваральным, цеплааносным імпульсам.

«Хрысціянскі Бог: Ён таму такі шматцерпны, што разумее, якое гэта вялікае спакушэнне і які боль: нарадзіцца на Зямлі чалавекам. І гэта спагада Яго да нас не дазваляе наступіць пакаранню адразу ж пасля здзяйснення намі ўсіх нашых гнюснасцей…» Гэта ўсеахопная любоў Бога і ёсць вызначальны гарант яе невычарпальнасці, але і вялікі заклік да яе трансляцыі ў чалавечую прастору існавання. Нездарма ж яна сваю любімую дый галоўную гераіню твора назвала імем Вера, якая і сімвалізуе тую асноўную духоўную апору і каштоўнасна-маральны падмурак для рыцарска-чалавечай экзістэнцыянальнай прагі да Боскага, справядлівага жыцця.

У фінале аповесці пісьменніца прыходзіць да парадаксальнай думкі пра тое, што на Зямлі так мала пакліканых Богам людзей, і таму даводзіць такую думку, што ў Эдэме на сённяшні дзень існуе перанаселенасць людзей дабра, любові і спагады. І, магчыма, таму, паводле ўжо нашай думкі, Боскі Рай зараз перанаселены, і ўзнікае звышзадача для самага чалавека ў тым, каб зрабіць звышвысілкі для пабудовы Новага Эдэма на Зямлі, безумоўна, на Боскіх вечных прынцыпах жыцця.

Заслугоўваюць увагі думкі і разважанні А. Брава пра паэтаў, (калі глядзець шырэй, то тут маецца на ўвазе ўся творчая інтэлігенцыя) якія, па словах аўтаркі, маюць здольнасць «глядзець на сонца — і бачыць Прыгажосць».

Менавіта паэтаў, па версіі празаіка, з асаблівай жывёльнай лютасцю ненавідзяць сучасныя носьбіты флюідаў цемрашальства і пустаты. Пісьменніцы па светаўспрыманні добра вядома суперажыванне жыццю творчай душы. Але тут прыхавана аўтарам, як мы лічым, яшчэ больш глыбокая праява сацыяльна-духоўнага і палітычнага канфлікту нашай сучаснасці.

У перабудовачны час уладная наменклатура СССР смяртэльна баялася таго, што інтэлігенцыя перахопіць у яе ініцыятыву ў правядзенні глыбокіх перамен у краіне для ажыццяўлення постіндустрыяльнага рыўка, таму яна так хуценька на большай частцы былой супердзяржавы пайшла на хаўрус з крымінальным светам, каб любым коштам захаваць уладу, здрадзіўшы пры гэтым усім сваім ранейшым ідэалам, згадзіўшыся шмат у чым нават на змяненне народнага духоўнага ядра.

Так, інтэлігенцыя таксама апынулася не на вышыні свайго часавага прызначэння, каб прадуктыўна зразумець і пераплавіць свае асабістыя інтарэсы, праз прызму волі Гісторыі. Але тое, што інтэлігенцыя заўсёды патэнцыяльна мае магчымасць як сацыяльны суб'ект перахапіць руль кіравання, будзе заўсёды палітычным, нават метафізічным свербам унутранага страху для тых, хто не жадае справядлівага і гуманнага светаўладкавання.

У малых і сярэдніх мастацкіх празаічных формах дамінуе метамітычны прынцып светамадэлявання, які падразумявае тое, што канкрэтны прадметна-бытавы план твора, «кавалак жыцця» падаецца пісьменнікам як частка вялікага свету. У малым фокусе мастацкай прасторы твора павінен плавіцца аўтэнтычны рэальнасці «метафізічны дух эпохі», яе каштоўнасная дамінанта, якая і ўтрымлівае асноўную пафасную сутнасць ідэйна-кампазіцыйнай праблематыкі тэксту.

З пункту гледжання гэтага ракурсу, зварот кожнага з празаікаў да такой значнай і эпахальнай для беларусаў тэмы, як паказ падзей Вялікай Айчыннай вайны, накладвае на пісьменніка, які рызыкнуў на такі крок, асаблівую павышаную духоўна-маральную адказнасць перад праўдай Гісторыі.

***Працяг у наступным нумары.***

Вячаслаў РАГОЙША

# КІТАЙ МАКСІМА ТАНКА

У адным са сваіх «падарожных вершаў» Максім Танк пісаў:

Відаць, я пад сонцам цыганскім радзіўся.
Ці мо' акрапілі бягучыя воды,
Што ўсе адпачынкі, свабодныя дні ўсе
Я размяняў на вандроўкі, паходы.

У самым канцы верасня 1957 года, а дакладна — 30 верасня, лёс распарадзіўся так, што беларускі паэт у складзе савецкай дэлегацыі ВОКС (Усесаюзнае таварыства культурных сувязей з замежнымі краінамі) упершыню з трапа самалёта ступіў на кітайскую зямлю. Яшчэ за пяць дзён да той падзеі ён занатаваў у сваім дзённіку: «25.IX. Толькі што вярнуўся з Украіны, і зноў трэба збірацца ў дарогу. З дэлегацыяй ВОКСа лячу ў Кітай». А познім вечарам (ноччу?) 30 верасня 1957 года ў тым жа дзённіку з'явіўся новы запіс: «Вось і Пекін. Кітайскія сябры сустрэлі нас з кветкамі, адвезлі ў сваю новую гасцініцу «Пекін», а вечарам былі на прыёме ў тав. Чжоу Энь-лая» (тагачасны старшыня кітайскага ўрада. — **В. Р.**).

Той памятны візіт у Кітай доўжыўся роўна месяц. Дзякуючы дзённікавым запісам Максіма Танка, якія змешчаны ў 9-м томе яго Збору твораў у 13-і тамах, што ўбачыў свет у 2009 годзе, мы можам прасачыць літаральна кожны дзень яго насычанай сустрэчамі і падзеямі кітайскай пабыўкі (далей у дужках пасля цытат з дзённіка паказваюцца старонкі дадзенага выдання). Пабыўка тая цікавая ўжо сама па сабе, паколькі звязана з жыццём такой неардынарнай асобы, як народны паэт Беларусі Максім Танк. Разам з тым яго шматлікія сустрэчы з вядомымі кітайскімі грамадскімі дзеячамі, пісьменнікамі, артыстамі, знаёмства з помнікамі гісторыі і культуры Кітая паслужылі асновай для шматлікіх вершаў так званага кітайскага цыкла паэта. Гэты цыкл спачатку друкаваўся ў беларускай перыёдыцы («Полымя», 1958, № 4, 6), паралельна ў перакладзе Якава Хелемскага склаў выдадзеную ў Маскве асобную кніжку «Восток зарей пылает» (1959), затым увайшоў у знакамітую кнігу «Мой хлеб надзённы» (1962), уганараваную Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы.

На наступны дзень пасля прыезду ў Пекін, 1 кастрычніка, кітайцы святкавалі Дзень утварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі. Савецкую дэлегацыю запрасілі на ўрадавую трыбуну на плошчы Цяньаньмынь. Вось што бачыў, што адчуваў Максім Танк, назіраючы ваенны парад і дэманстрацыю працоўных Пекіна: «Гарачыня. Грыміць салют. Уся плошча гарыць вогнішчам рознакалёрных кветак. Парад адкрывае маршал Пын Дэ-хуэй. Салдаты, матросы, лётчыкі, следам — калоны дэманстрантаў… Калоны рабочых, сялян, будыстаў у зялёных халатах. Дзівосныя іерогліфы на ўсіх мовах нацыянальнасцей Кітая… Ідуць карэянкі з веерамі, са збанамі на галовах, з парасонікамі. Ідуць пісьменнікі, мастакі, артысты… Плошчу запаўняюць бясконцыя калоны фізкультурнікаў. І мора сцягоў. Несціханы гром аркестра. Уздоўж урадавай трыбуны праходзіць, развітваючыся

з усімі, Мао Цзэ-дун… І ўсё гэта ў твой гонар, Свабода! Прыгажуня уйгурка кружыцца ў сваім натхнёным народным танцы. Не знаю, ці сёння была ноч, бо ўсход ужо новай палае зарой» (с. 492—493).

Усе наступныя дні камандзіроўкі таксама былі дарэшты запоўнены падзеямі, паездкамі па розных гарадах і вёсках Кітая, сустрэчамі са знакамітымі людзьмі і славутасцямі кітайскай культуры. Вось некаторыя з іх, тыя, што найперш знайшлі ўвасабленне ў вершах Максіма Танка:

«**2.X.** Палац імператара. Кераміка, розныя музычныя інструменты, якім 3—4 тысячы год. Чаны, ванны, золата, серабро, інкрустацыя. Габелены, на якіх вышыты дрэвы, нейкія фантастычныя птушкі. Карціны з часоў сунскай дынастыі. Не пералічыць усіх дзівос. Захавалася нават дрэва, на якім павесіўся імператар, і альтанка «Вечная вясна» (с. 493). «**4.X.** Таварыства кітайска-савецкай дружбы. Інстытут нацыянальных культур, у якім вывучаецца 18 моў народнасцей Кітая. У парку — акацыя «Драконавы лапы» (с. 494). «**5.X.** Наведалі Храм неба, у якім такая акустыка, што нат на адлегласці 300 метраў можна чуць шэпт… Музей Лу Сіня, домік яго, садзік. У музеі партрэт маткі, рабочы столік» (с. 494). «**8.X.** Даліна Іха. Рудыя лесавыя горы, рака Лолэ. Вароты Дракона. «Я паўдня вас чакаў» (2 тысячы год). Пячоры Дын-Хуа» (с. 494). «**13.X.** Адкрыццё новага моста праз Янцзы… Праезд праз мост у першым цягніку. Вячэрні салют» (с. 494). «**17.X.** Кантон. Сустрэча з пісьменнікамі Юй Дзінам, Хан Баем, са старэйшым членам партыі Ду Госянам, які шмат год правёў у чанкайшысцкіх турмах, паэтам і мэрам горада Хуан-чжоу Чжу Гуанам» (с. 494—495). «**19. X.** Ляцім у Ханчжоу над краем рэк і азёр, над лабірынтамі каналаў, горных хрыбтоў, атарамі аблокаў… Кааператыў, дзе вырошчваюць чай. Старшыня кааператыва расказаў, што збор чайных лістоў працягваецца некалькі месяцаў, некалькі раз іх трэба сушыць, праграваць. Страшэнна працаёмкая культура. Чайныя плантацыі цягнуцца амаль да самых вяршынь гор» (с. 495). «**21.X.** Цягніком прыехалі ў Шанхай. Размясцілі нас у былой французскай гасцініцы. Музей Лу Сіня. Помнік Пушкіну… Лу Сінь толькі раз спазніўся ў школу. «Усё сваё жыццё аддаю радзіме». Кабінет паэта. Жалезны ложак, на якім шмат папер, крэсла. Каляндар, старонку якога, з датай 19.X, ужо не змог пералістаць. Тут сустрэлі нас Джан Шэн, Ай Мін-чжы, Шэн Цяо-ін — перакладчык коласаўскай «Дрыгвы», Кун Ло-сунь» (с. 495). «**22.X.** Дом-музей Сун Ят-сена… Сустрэча з Ба Цзінам — старшынёй Шанхайскага аддзялення СП Кітая… На вечары былі Гэ Баоцюань, Чао Цзін-хуа, Эмі Сяо. Артыстка чытала мае вершы. Мітынг у Палацы спорту» (с. 496). «**26.X.** Раніцой ляцім у Пекін. Яшчэ адна сустрэча ў Саюзе пісьменнікаў» (с. 496). «**30.X.** Вечарам былі ў Маскве. Берлінскім цягніком вяртаюся ў Мінск. У запісной кніжцы некалькі кітайскіх слоў: сесе — дзякую, бывайце — зай цзян, я — во, ты — ні, хопіць — гоу ляо, таварыш — чун чжы, цудоўна — хао, дружба — юхго, люблю — ай, Савецкі Саюз — Су Лен, Кітай — Джун го… За час сваёй камандзіроўкі запомніў пару сот кітайскіх слоў. Малавата. Трэба будзе купіць кітайска-рускі ці руска-кітайскі слоўнік, які можа спатрэбіцца, калі буду працаваць над вершамі, навеянымі гэтым фантастычным падарожжам па Кітаі» (с. 497).

Сапраўды, фантастычным было тое падарожжа. І па колькасці сустрэч (прозвішчаў адных кітайскіх пісьменнікаў, з якімі сустракаўся беларускі паэт, налічваецца амаль тры дзясяткі), і па нечаканасці пачутага і ўбачанага. Ураженні перапаўнялі сэрца паэта. Хацелася як хутчэй гарачую лаву гэтых ураженняў пераліць у вершаваныя радкі. Ужо **21.XI.1957** г. у сваім дзённіку Максім Танк запісаў: «Працую над цыклам вершаў пра Кітай» (с. 497). А літаральна праз некалькі дзён са шкадаваннем паведаміў: «**26.XI.** Едзем з Любашай у Варшаву. Каб не прэмія, не паехаў бы, а сядзеў бы і пісаў бы свае кітайскія вершы» (с. 497).

Максіма Танка за пераклады польскай паэзіі ўзнагародзілі літаратурнай прэміяй Таварыства польска-савецкай дружбы. Трэба было неадкладна ехаць у

Польшчу атрымліваць прэмію. Затым былі і іншыя паездкі (у Маскву, па Беларусі), клопаты, звязаныя з выбарамі ў Вярхоўны Савет БССР, сямейныя турботы (вяселле сястры Людмілы і Язэпа Семяжона, хвароба дзядзькі Фадзея і інш.), але праца над «кітайскімі вершамі» зусім не спынялася.

Пра што сведчаць і іншыя дзённікавыя запісы, у прыватнасці — за 1958 год: «**6.III.** Далей працую над кітайскім цыклам сваіх вершаў» (с. 499): «**15.III.** Заўтра выбары ў Вярхоўны Савет СССР. Паслаў пісьмо і некалькі падрадкоўнікаў сваіх вершаў Гэ Баоцюаню, які збіраецца іх даць у сваім часопісе «Дружба» (с. 499). Побач з напісаннем вершаў нярэдка згадвалася ўбачанае і пачутае ў Кітаі. Вось паказальны ў гэтым сэнсе дзённікавы запіс ад **28 мая 1958** г.: «Ехаў з Пількаўшчыны. Спыніўся ля партызанскага абеліска, каб паглядзець, як разбушавалася Нарач. Шмат дзе хвалі даходзілі да самай дарогі. Вось як гэта хараство замкнуць у вобраз? Не дарма Канфуцый лічыў — гэта я чуў ад кітайскіх сяброў, — што адзін вобраз варты тысячы слоў» (с. 500).

Пасланыя вядомаму кітайскаму перакладчыку і мастаку Гэ Баоцюаню падрадкоўнікі вершаў кітайскага цыкла, разам з некаторымі іншымі, неўзабаве набылі кітайскае гучанне. Вось як пра гэта піша даследчыца кітайска-беларускіх літаратурных узаемасувязей Вераніка Карлюкевіч у артыкуле «Творчы мост паміж народамі»: «У 1957 годзе ў кітайскай перыёдыцы ўпершыню з'яўляюцца творы Максіма Танка ў перакладах Гэ Баоцюаня (1913—2000) і У Ланьханя. А праз год у выдавецтве «Жэньмінь вэньсюэ чубаньшэ» выходзіць зборнік «Выбраныя вершы» Максіма Танка (пер. Гэ Баоцюань і У Ланьхань). Перакладчык Гэ Баоцюань, дарэчы, добра вядомы ў Савецкім Саюзе знаўца рускай культуры, даследчык гісторыі літаратурных зносін Кітая і замежжа, а таксама ўплывовы грамадска-палітычны дзеяч другой паловы XX стагоддзя, у сваім артыкуле пісаў: «За апошнія гады нямала паэтаў з брацкіх краін наведалі нашу дзяржаву. У сваіх вершах яны апелі новы Кітай… Максім Танк — гэта паэт з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Ён нарадзіўся ў 1912 годзе ў Заходняй Беларусі ў сялянскай сям'і, яшчэ школьнікам удзельнічаў у рэвалюцыйным руху. Пачынаючы з 1931 года стаў друкавацца ў падпольных выданнях; у 1936 годзе выйшаў яго першы вершаваны зборнік. І да аб'яднання заходніх абласцей з Савецкай Беларуссю ў 1939 годзе яго талент дасягнуў поўнага раскрыцця… У верасні — кастрычніку 1957 года Максім Танк у складзе савецкай дэлегацыі знаходзіўся з візітам у Кітаі. Ён прысутнічаў на ўрачыстасцях, прысвечаных 8-й гадавіне ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі, на плошчы Цяньаньмынь у Пекіне, прымаў удзел у цырымоніі адкрыцця руху па мосце праз раку Янцзы ў горадзе Ухань і іншых мерапрыемствах па ўшанаванні падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі» («Беларуская думка». — 2011. — № 9. — С. 54).

Для нас, беларусаў, усе прыведзеныя Гэ Баоцюанем факты біяграфіі Максіма Танка, несумненна, добра вядомыя. Але для кітайцаў яны агучваліся ўпершыню, асобныя з іх былі асабліва блізкія і зразумелыя (напрыклад, падпольная рэвалюцыйная дзейнасць беларускага паэта), гучалі як своеасаблівае адкрыццё нязнанай краіны — БССР. Усё гэта выклікала вялікую цікавасць кітайскіх чытачоў і да змешчаных у кнізе вершаў датуль невядомага ім паэта з такім «грозным» псеўданімам — Максім Танк.

Што да арыгіналаў «кітайскіх» вершаў, то яны, як ужо сказана, былі надрукаваны ў часопісе «Полымя», а ў перакладзе на рускую мову Якава Хелемскага — двума цыкламі пад аднолькавай назвай «Восток зарей пылает» у часопісах «Знамя» (1958, № 10) і «Новый мир» (1959, № 10). Пасля ж, як мы ведаем, пад той самай назвай выйшлі і асобным выданнем.

У цыкле з 26 вершаў створаны поўны захаплення, запамінальны вобраз старажытнага і ні з чым не параўнанага Кітая. Па сутнасці, перад намі паэтычны аповед пра ўсё, што захапіла паэта ў яго падарожжы па Кітаі і што часткова знайшло адлюстраванне ў яго «Дзённіку».

Нібы дракон, што заблудзіў між гэтых
Паднебных круч,
вяршынь,
цяснін без дна,
Ўстае, апаясаўшы паўпланеты,
Вялікая кітайская сцяна.

То ўздыбіцца яна ў блакіт зубцамі,
Загарадзіўшы горны перавал,
То скурчыцца каменнымі вузламі,
То згубіцца ў хаосе дзікіх скал.

Ці не відно ў гэтым вершы «Вялікая кітайская сцяна» захаплення працавітасцю і мудрасцю кітайцаў? Безумоўна! Здаецца, дастаткова і гэтага — захапіцца незвычайным творам працоўных рук і пераказаць сваё захапленне землякам. Як, зрэшты, і зрабілі ў сваіх вершах дзясяткі кітайскіх і замежных паэтаў пра гэты адзін з найбольшых цудаў свету. Але Максім Танк не быў бы Максімам Танкам, каб пры гэтым не ўбачыў у той сцяне таксама «*вякоў трагічны помнік Над тымі, што магілы тут знайшлі*». У прыватнасці, паэт чуе, як «*горка плача Мэн Цзян-нюй*»:

Яна галосіць, што пустуе ніва,
Ад голаду і сцюжы стыне кроў,
Што глуха ў яе фанзе сіратлівай,
Што не вярнуўся муж яе дамоў.

Яго тут імператар за уцёкі
Замураваць загад даў вартавым.
І Мэн Цзян-нюй пытае ў сцен высокіх:
— Дзе Ван Сі-лян, што здарылася з ім?

І мне шкада, што за вялікім горам
Не бачыць, безуцешная, яна,
Што над сцяной гараць другія зоры,
Шчаслівай яе стала старана.

Як гэта шчыра па-чалавечы, сапраўды па-танкаўску!

Зразумела, Максіма Танка, які ў свой час актыўна змагаўся за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне народа былой Заходняй Беларусі, цікавілі факты такога ж змагання кітайцаў, не мог ён не радавацца парасткам новага свабоднага і шчаслівага жыцця («Міска для рысу», «За бяседным сталом», «Засуха ў правінцыі Хэнань», «У будынку былых курсаў сялянскага руху» і інш.). Аднак цэнтральнае месца ў кітайскім вершаваным цыкле занялі ўсё ж творы пра гістарычныя і культурныя помнікі Кітая, яго прыроду, пра надзвычай таленавітых людзей, вынікі іх настойлівай працы. Пра гэта красамоўна гавораць ужо самі назвы вершаў, што перагукваюцца з дзённікавымі запісамі: «Ці Бай-шы», «Лунмынскія пячоры», «Мост Вечнага Спакою», «Мост дружбы», «Янцзы», «У майстэрні кветак, якія не вянуць», «Альтанка Чжычуньцін» і інш. Шэраг паэтычных твораў прысвечаны прыгажосці кітайскіх жанчын, высакароднаму пачуццю кахання («Хустка», «Бронзавае люстэрка», «Я паўдня вас чакаў…»). Нельга не верыць паэту, калі, згадаўшы танец прыгожай дзяўчыны з роду Мяо, у якім яна імітавала вышыванне хусцінкі, а пасля, «*як вышыла — з усмешкай нітку адкусіла І мне як госцю гэту хустку падарыла*», ён і ў Беларусі доўга помніў той танец:

Заплюшчу вочы — бачу, задумаюся — чую:
Дзяўчына з роду Мяо спявае і танцуе.

Відавочна, «фантастычнае падарожжа ў Кітай» стала знакавай падзеяй у жыцці Максіма Танка, паколькі яно неаднойчы адгукалася ў яго творчасці на

працягу наступных ледзь не пяці дзесяцігоддзяў. І адгукалася не толькі асобнымі ўспамінамі, выказваннямі (накшталт упамінання Канфуцыя ці некаторых іншых кітайскіх пісьменнікаў і вучоных), а і некаторымі творамі. Скажам, за некалькі год да смерці, у 1990 годзе, уяву паэта наведала дзіўнае падабенства лясных беларускіх мурашоў да… кітайскіх іерогліфаў, прымусіўшы ў верша «Над кітайскімі іерогліфамі» згадаць нават прозвішчы славутых кітайскіх жывапісцаў:

Гляджу, як па сцежках лясных
Мітусяцца-снуюць мурашы.
Яны чамусьці здаюцца мне
Жывымі іерогліфамі
Славутых Су Шы,
Санг Шу-фана,
Ці Сун Бао-лінга,
Ад якіх не магу адарвацца,
Таямніцу якіх
Не магу разгадаць.

У тым жа годзе кітайскае слова «Ай», занатаванае калісьці ў «Дзённіку» далёкага 1957 года, «справакавала» яшчэ адзін верш, на гэты раз інтымны, «Ай! — люблю»:

Пры сустрэчах з сябрамі,
Вывучаю іх мову.
Пачынаю са слоў
Неабходных, жыццёвых.
Але дзе ты ўзяла
«Ай!» — кітайскае слова,
Не знаеш?
А заўсёды ў абдымках маіх
Паўтараеш.

Несумненна, кітайскі «ўсход зарой палаў» у сэрцы беларускага паэта да самай яго смерці.

**Серафім АНДРАЮК**

# ЯНКА СІПАКОЎ І ЯГО «МАЯ БІБЛІЯТЭКА»*

Змест большасці эсэ пра вялікіх творцаў, якія падаюцца ў «Маёй бібліятэцы», гэтаму доказ. Можа ўзнікнуць пытанне, чаму Янка Сіпакоў у сваіх апавяданнях, аповесцях светлы, жыццесцвярджальны, у гэтай кнізе аддае перавагу гісторыям моцнага драматычнага, а то і трагічнага зместу. Ці то спроба прывабіць чытача, такі пісьменніцкі ход? Ці то патрэба душы, памяці неяк пазбыцца таго рэальнага жыццёвага драматызму, які застаўся з незабыўных гадоў юнацтва і дзяцінства? Мне думаецца, што найперш другое.

І яшчэ пра адно эсэ (гэта маё ўмоўнае азначэнне) рэальна гістарычнага, выключна драматычнага зместу, багата прадстаўленае кнігамі ў бібліятэцы, хочацца пагаварыць. Вынікае яно з эсэ папярэдняга, дакладней, з размовы пра кнігу Анатолія Вінаградава, набытую за макулатуру. Апрача рамана пра Паганіні, там была аповесць пра братоў Тургеневых. Адзін з іх, Мікалай Іванавіч, быў сакратаром Дзяржаўнага савета пры цары Аляксандры І. Адначасова ён удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання дзекабрыстаў. Вось гэты момант і дае магчымасць Сіпакову пагаварыць пра дзекабрыстаў, іх паўстанне, іх далейшы лёс так, як ён гэта бачыў сам, разумеў, перажываў. Пагаварыць страсна, абапіраючыся на мноства кніг на гэту тэму са сваёй бібліятэкі. Гэта пра іх двухтомнік «Пісьменнікі-дзекабрысты ва ўспамінах сучаснікаў» у «Серыі літаратурных мемуараў», кнігі серыі «ЖЗЛ», тамы і двухтомнікі твораў К. Рылеева, А. Адоеўскага, В. Кюхельбекера, А. Бястужава-Марлінскага, У. Раеўскага. Матэрыял багаты, жывы. Сіпакоў на гэтай аснове піша свой партрэт дзекабрыстаў, выяўляе сутнасць самой падзеі, раскрывае яе сацыяльны і чалавечы змест, прасочвае вынікі, імкнецца выявіць, экзістэнцыянальны сэнс, паказвае трагічнае пакаранне яе ўдзельнікаў. «Ахвяр было многа. Іх везлі з Масквы, Кіева, Кішынёва, Тыфліса, Бярдзічава, з Белай Царквы і нават з нашага Бабруйска…» Згадваецца ў гэтай сувязі кніга Сямёна Букчына «К мечам рванулись наши руки…» Зазначаецца, што «ўсяго да следства было далучана 579 чалавек».

І яшчэ: «Сярод дзекабрыстаў — тры генералы, восем палкоўнікаў, чатыры падпалкоўнікі. Пятнаццаць чалавек адносіліся да вышэйшага афіцэрства! Трое мелі княскія тытулы. Удзельнічалі ў паўстанні і бароны. Дваране многія былі блізкія да царскага двара. І ўсе мелі багацці: адны — велізарныя, іншыя — крыху меншыя. Але ж мелі!»

Аўтар згадвае некаторыя драматычныя сямейныя лёсы.

Так, бацька дзекабрыста Н. В. Шарамецьева адмаўляецца ад сына. Маці Сяргея Валконскага жыве ў царскім палацы і абедае за адным сталом з царом. Брат Песцеля атрымлівае ў гэты час павышэнне па службе.

Асаблівым болем, спачуваннем, захапленнем напоўнены старонкі, дзе апавядаецца пра жонак дзекабрыстаў, тых, што, кінуўшы ўсё, едуць у Сібір за сваімі каханымі — у турмы, у астрогі. Гаворачы пра ўсю гэтую трагічную гісто-

* Заканчэнне. Пачатак у № 8, 2013 г.

рыю дзекабрыстаў, асэнсоўваючы, перажываючы яе, Сіпакоў не можа стрымаць пачуццяў.

«Дыба, чацвертаванне, калесаванне, адсячэнне галавы, вісельня, расстрэл, электрычны стул, атручэнне. Раздзіранне ахвяры, прывязанай да дзвюх сагнутых і адпушчаных раптам бярозак. Навязванне да двух коней, якіх паганялі потым у розныя бакі… Кайданы. Катарга. Атамная бомба.

Божа мой, колькі ж ты, чалавеча, напрыдумляў сам — на самога сябе! — рознага жуду і страхоцця!

Ты вар'ят, чалавеча!»

Крык болю, адчаю, неўразумення. Тут ён невыпадковы. Ён арганічна вынікае са зместу кніг пра дзекабрыстаў, як ён пададзены ў «Маёй бібліятэцы». Гэта адзін з самых яркіх эпізодаў у гэтым творы, дзе аўтар з'яўляецца не проста аглядальнікам кніг сваёй бібліятэкі. Зусім не. Ён тут галоўная дзейная асоба, якая праз кнігі, з кнігамі спасцігае гісторыю, даследуе свой час, раскрывае свой унутраны свет — багаты, чулы да жыццёвых змен, светлы. І разглядаючы творы, гаворачы пра жыццёвы і творчы лёс іх аўтараў, успрымаючы і аналізуючы ў пэўны час і ў пэўных умовах, Сіпакоў перш за ўсё бачыць чалавека — працаўніка, змагара, пакутніка, творцу. Любіць яго, сцвярджае.

Як бачна, першая паліца «Маёй бібліятэкі», па сутнасці, — гэта паліца класічнай літаратуры, твораў і творцаў. Якія ў бібліятэках займаюць сталае ганаровае месца. Уражвае, здзіўляе веданне аўтарам саміх кніг, лёсу іх аўтараў, іх суаднесенасці з жыццём і часам, іх перажатасць пісьменніцкая. Сапраўды, Сіпакоў меў усе падставы сцвярджаць — мая бібліятэка.

Другую паліцу бібліятэкі складаюць творы беларускай літаратуры. Творы тых пісьменнікаў, сучаснікам якіх ён быў.

«Амаль уся беларуская літаратура ў маёй бібліятэцы з аўтографамі.

Калі ўлічыць, што я ніколі ў жыцці не займаў (дарэчы, і ніколі да гэтага не імкнуўся) вельмі высокіх пасад і ніхто ад мяне ніколі асабліва не залежаў, то шчырыя, цёплыя, зычлівыя, сардэчныя надпісы на кнігах, прызнанні і пажаданні ішлі, я веру, ад чыстага сэрца: чалавек як думаў, што думаў, тое і пісаў».

Янка Сіпакоў як чалавек (зразумела, і як пісьменнік) быў душэўна шчыры, адкрыты, сумленны і даверлівы. Такім ён прадстае і ў сваіх аўтографах, якія ён пакінуў на кнігах, падораных у прыватнасці мне. Хочацца працытаваць адзін з апошніх яго аўтографаў на падараванай мне кнізе «Зялёны лісток на планеце Зямля»:

«Вельмі шаноўнаму Серафіму Антонавічу Андраюку шчыра прэзентую сваю, ці не самую лепшую, кнігу пра родную Беларусь, якую мы з Табою, дружа, так самааддана і захоплена любім. Па-сяброўску, з дабратою, сардэчна.

Твой —
Янка Сіпакоў.
2 лістапада 2006 г.».

Сіпакоў верыў у шчырасць, праўдзівасць аўтографаў на падараваных яму кнігах. Бо сам ён быў у жыцці, і ў літаратуры шчырым, праўдзівым, адкрытым. Думаецца, што кнігі з аўтографамі для яго патрэбны былі ў гэтым творы, каб адчуць, зразумець, пераканацца, напрыканцы свайго творчага шляху, што шлях гэты быў пройдзены годна, жыццё пражыта з карысцю. І не толькі. Узнавіць атмасферу тых гадоў, атмасферу літаратурнага жыцця. Тое пісьменніку ўдалося. Ды гэта і зразумела. Перажыўшы такое ў дзіцячыя і юнацкія гады, пабачыўшы гора вайны, страціўшы бацькоў, пазней пасляваеннае жыццё, асабліва студэнцкае, потым творчае ўяўлялася светлым, жыццярадасным.

Аўтографаў многа. Жыццё літаратурнае было па-грамадску актыўнае, не тусовачнае, як сёння. Кантакты паміж літаратарамі былі мнагастайныя, частыя. Сіпакоў як чалавек быў па натуры добразычлівы, кантактны, адкрыты. Актыўна ўдзельнічаў у літаратурна-грамадскім жыцці. Усе свае творчыя гады ён дзе-

небудзь працаваў. Працаваў у часопісах «Вожык», «Маладосць», «Беларусь», у апошнія гады ў часопісе «Гаспадыня». Многія гады ўзначальваў камісію па рабоце з маладымі пры Саюзе пісьменнікаў. Шмат перакладаў, у тым ліку і паэтаў-сучаснікаў, з многімі з іх наладжваліся па-сапраўднаму сяброўскія ўзаемаадносіны. Але галоўнае, зразумела ж, яго творчасць. Паэзія яго, проза, нарысы, эсэ, пераклады не маглі не зацікавіць пісьменнікаў старэйшага пакалення, не ўзрушыць тых, з кім разам прыйшоў у літаратуру, не хваляваць маладзейшых. Янка Сіпакоў — адзін з тых рэдкіх у творчым асяроддзі людзей, чыя творчасць найбольш поўна, адэкватна ўвасобіла яго чалавечыя высокія якасці. І якраз у большасці эпіграфаў гэтыя моманты вылучаны.

Зразумела, спецыфіка матэрыялу, сам падыход у яго падачы ў гэтым раздзеле «Маёй біяграфіі» іншыя, чым тое было ў раздзеле першым. Тут амаль няма разгорнутых эсэ, якія аб'ядноўвалі аўтараў кнігі сувязямі сюжэтнымі, унутранымі. За выключэннем, відаць, эсэ, у цэнтры якога асоба вядомага даследчыка творчасці А. Буніна, нашага земляка А. К. Бабарэкі. Менш разгорнутых разглядаў, ацэнак твораў і творчасці асобных пісьменнікаў.

У другім раздзеле бачыцца больш разгляд тэматычны, звязаны з літаратурным жыццём аўтара, а таксама літаратурным жыццём народа. Калі ў першым раздзеле на першы план вылучаліся кнігі і іх аўтары, то тут, на другой паліцы, на першы план вылучаецца сам Сіпакоў — хоча ён гэтага ці не. Эмацыянальна больш ацэньваецца ён іншымі: іншых многа, а ён — адзін. Але і ён, нягледзячы на, скажам так, мастацкую нязручнасць свайго становішча ў творы, імкнецца ўсё ж дзесьці даць свае ацэнкі творчасці ці творам асобнага пісьменніка. Выказаць сваё меркаванне адносна пэўнай літаратурнай сітуацыі ці з'явы.

З асаблівай цеплынёй, шчырасцю і ўдзячнасцю Янка Сіпакоў бярэ з паліцы кнігі з аўтографамі пісьменнікаў старэйшых: П. Панчанкі, В. Віткі, І. Мележа, І. Шамякіна… У іх высокая ацэнка таленту пісьменніка — на розных этапах творчага шляху.

Дзесьці ў самым пачатку другога раздзела «Маёй бібліятэкі» Янка Сіпакоў звяртаецца да чытача:

«Прабач мне, шаноўны мой чытач. Даруй мне, што я пішу пра гэта, агучваю такія інтымныя для мяне словы. Можа, гэта і сапраўды нясціпла, можа, гэта і праўда няёмка, але ж які пісьменнік адмовіцца ад такой ацэнкі таго, чаму ты прысвяціў усё сваё жыццё». Прызнанне вельмі шчырае. Зроблена пасля чытання дзённікаў П. Панчанкі, дзе той піша: «З асалодаю чытаю кнігу Я. Сіпакова “Крыло цішыні”. Якая наглядальнасць, праўда, розум. Цудоўная мова. Выдатны талент». Далей узгадваецца гаворка слыннага паэта з Алесем Адамовічам у цягніку, у якім ехалі яны ў Маскву. Пра тое, хто застанецца ў літаратуры, «Пімен Емяльянавіч са свайго пакалення назваў А. Куляшова, І. Мележа, В. Быкава. Сярод майго — Майстра назваў маё прозвішча».

Да гэтага згадваліся аўтографы П. Панчанкі на кнігах, падораных маладзейшаму таварышу. Адзін з іх: «Дарагому Янку Сіпакову, талент якога я люблю. З надзеяй, што ён дасягне сапраўдных вышынь і ў паэзіі, і ў прозе. Асобныя вяршыні ўжо добра відны. Ад усяго сэрца — Пімен Панчанка. 8.IX.80 г.». Гэты аўтограф, як і іншыя, як і дзённікавыя запісы, яны датычацца творчасці, таленту.

Трохі іншага характару дарчыя надпісы на кнігах Васіля Віткі, узаемаадносіны з ім. Тут была сапраўдная чалавечая дружба. Сіпакоў піша: «Мы дружылі шчыра, спакойна, з агульнай дабратою, хоць між намі, прызнаюся, і муляла крыху адна невялічкая дробязная стрэмка. Якая часам міжволі, сама сабою нагадвала пра сябе». Стрэмка тая — у 1961 г. у час прыёму ў члены СП на Прэзідыуме Вітка быў адным з трох, хто галасаваў супраць. І мабыць, была яна для Сіпакова не такая ўжо «невялічкая дробязная», бо так выразна, поўна яна не запомнілася б. Прызнаецца: «А перада мною, буду шчыры, не-не ды і ўзнікала ягоная рука, не высока, але ўсё ж упэўнена паднятая ўгору. І беленькі, чысценькі манжэцік,

што вытыркнуўся з-пад крыху апушчанага рукава». То было напачатку. Пазней жа, ужо калі Сіпакоў працаваў у «Маладосці», а Вітка галоўным рэдактарам часопіса «Вясёлка» (а гэтыя часопісы знаходзіліся ў адным будынку), паміж імі, нягледзячы на розніцу ў гадах, узнікла сапраўдная дружба. У аўтографах (а іх шмат) старэйшага аўтара, выдатнейшага дзіцячага пісьменніка заўсёды прысутнічае момант чыста чалавечы. Вось аўтограф на двухтомніку сваіх твораў: «Івану Данілавічу Сіпакову — сябру па працы, з якім заўсёды радасна і пагаварыць, і пасядзець, і памаўчаць. Васіль Вітка. 15 кастрычніка 1973 г.». Яны высока цанілі адзін аднаго і як творцы. Гэта асноўнае. Сіпакоў шмат цытуе старэйшага сябра, захапляецца яго дзіцячымі творамі. Ужо ў новых стасунках зазначае: «Колькі часу прайшло, а яго паэзія жывая. Васіль Вітка, здаецца, і цяпер найлепшы наш пісьменнік сярод тых, хто пісаў і піша для дзяцей».

«Я вельмі даражу аўтографамі Янкі Брыля, Івана Мележа, Івана Шамякіна», — піша Сіпакоў. У аўтографах гэтых пісьменнікаў зноў жа адчуваецца павага да яго чалавечых і творчых якасцей. Поўна гэта найбольш відаць у аўтографе Івана Шамякіна, ужо на самым пачатку новага стагоддзя: «Янку Сіпакову, добраму чалавеку, шчыраму сябру, выбітнаму пісьменніку, — з пажаданнем новых творчых адкрыццяў, здароўя, дабрабыту, многіх радасцей. Іван Шамякін. 15 лютага 2000 г.». У сувязі з гэтым Сіпакоў робіць некалькі выказванняў пра гэтую кнігу («Роздум на апошнім перагоне (дзённікі 1980—1995 гадоў)»), адзначаючы, як нялёгка было народнаму пісьменніку ў гэтых умовах: «Перабудова, вэрхал, анархія. У думках і справах. Непрыманне, неразуменне, нязгода. Пошук ісціны, сэнсу, справядлівасці» — заставацца самім сабою. Выказвае свае адносіны да ўсяго, што дзеецца навокал. Спрабуе ацаніць свой шлях у літаратуру і ў літаратурным жыцці.

Асабліва багата падаюцца аўтографы прадстаўнікоў аўтаравага пакалення — філалагічнага. Назваўшы некалькі прозвішчаў трохі старэйшых пісьменнікаў, найбольш паэтаў, тых, хто ўжо выдаў свае першыя кніжкі (У. Караткевіч, А. Лойка, С. Гаўрусёў, Н. Гілевіч і інш.), Сіпакоў піша: «Мы радаваліся іхнім поспехам. Верылі, што разам — усе ж мы дзеці вайны! — пакаленне, якое прыйдзе на змену франтавікам і якое потым назавуць філалагічным, павінны сказаць менавіта сваё слова і пра вайну, і пра жыццё ўвогуле». І яны сказалі — усе разам і кожны паасобку. Сёння гэта можна сцвярджаць пэўна. Праверана часам.

Пра сваё пакаленне аўтар «Маёй бібліятэкі» гаворыць шчыра, добразычліва, сардэчна, дзесьці з захапленнем. Адчуваецца той час. Але ж якімі моцнымі, яркімі павінны былі быць тагачасныя ўражанні, адчуванні, перажыванні, каб даць зарад, па сутнасці, на ўсё наступнае жыццё і застацца праз гады такімі ж моцнымі, яркімі.

Размова пра пакаленне ўзнікае неаднойчы. Часта, калі разглядаюцца аўтографы блізкіх Сіпакову па жыцці і па творчасці аўтараў.

«Барыс Сачанка быў маім самым дарагім сябрам. З тых сяброў, якія нікім не замяняюцца». Напэўна, усе яго кнігі з аўтографамі былі ў «Маёй бібліятэцы». Цытуецца шмат Сачанкавых аўтографаў, вельмі сардэчных, шчырых. Ну, вось хаця б гэтыя.

На другой кнізе аповесці «Апошнія і першыя»: «Майму Гальфстрыму — Івану Сіпакову, з якім так многа ўсяго перагаворана, передумана, перажыта, — з радасцю, што лёс памог нам сустрэцца некалі, яшчэ на Нямізе. Заўсёды твой — Барыс Сачанка. 24.VI.68 г.».

Надпіс на Зборы твораў у двух тамах. Гэта ўжо значна пазней: «Любаму Івану Сіпакову, лепшаму майму сябру, з якім добра і хораша ідзецца па жыцці. З удзячнасцю — Барыс Сачанка. 24.23.81 г.».

Як з гэтых, так і з усіх іншых Сачанкавых аўтографаў-надпісаў на кнігах, прэзентаваных Сіпакову, з невялікіх заўваг-каментараў апошняга выразна бачыцца сапраўдная чалавечая і творчая дружба, шчырасць і высокая адданасць літаратур-

най справе. І што істотна: і ў гэтым невялікім эсэ, прысвечаным узаемаадносінам з Б. Сачанкам, і ў іншых мясцінах, падаючы самыя станоўчыя, пахвальныя аўтографы, Сіпакоў ніколькі не імкнецца сябе неяк вылучыць. Ён усюды і заўсёды адчувае, усведамляе сябе як прадстаўніка свайго пакалення, пакалення дзяцей вайны. Называе яго «магутнае пакаленне». Называе дзесьці прозвішчаў трыццаць, пачынаючы з Ніла Гілевіча, Івана Пташнікава, Рыгора Барадуліна, Анатоля Вярцінскага…

«Усё гэта — асобы. Усё гэта — маё пакаленне.

Я вельмі даражу сваім таленавітым пакаленнем. Лічу, што яно зрабіла цуд: стварыла сапраўдную літаратуру, якая не памірае, бо яна вечная. Як вечнае і слова, сказанае сумленна і навырост.

І я ганаруся, што належу да гэтага пакалення».

Разгорнута, са сваімі заўвагамі, ацэнкамі, цытуючы аўтараў, піша Я. Сіпакоў пра аўтографы Н. Гілевіча, У. Караткевіча, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, В. Зуёнка, А. Лойкі, А. Наўроцкага… Цытуе іх творы, выдатна падабраныя і годна ўключаныя ў кантэкст размовы.

Ды не толькі іх. Згадвае вельмі цёпла дачасна памерлага, сёння дзесьці паўзабытага Сымона Блатуна: «Сымон, здаецца, быў найшчырэйшы сярод нас — і ў жыцці, і ў паэзіі, і ў сяброўстве». І яшчэ: «Добрая была ў яго душа, шчодрае сэрца.

З ім заўсёды было проста. Ён любіў усіх і нікога не ненавідзеў. Ён усім дараваў і ўсіх апраўдваў».

Цытуе радкі яго вершаў, называючы іх «пярлінкамі».

Я па зрэбным бягу палатне,
Што бяліць разаслала маці…

У нас не дораць кветкі, іх стагуюць…

Жураўля я не спаймаў у небе,
А сініцу выпусціў з рукі.

На другой паліцы Сіпаковай бібліятэкі кнігі з аўтографамі. Здавалася б, што ў падачы гэтых кніг асоба ўладальніка бібліятэкі павінна быць галоўнай, ледзь не адзінай. Урэшце так яно і ёсць. Але калі ўзяць той эмацыянальны пазітыўны зарад, які сыходзіць ад аўтографаў, і той, які аўтар аддае тым, хто стварыў аўтографы, то эмацыянальна-духоўнае поле аўтографа будзе больш шчыльнае і шырокае і ў адносінах да кожнага з тых, хто пакінуў аўтографы, і наогул. Тут большая разнастайнасць, багацце.

Надпісы на падораных кнігах дазваляюць Сіпакову і выказаць свае адносіны да іх аўтараў, іх творчасці, да іх кніг, падаць нейкія факты з іх жыцця.

Пра таго ж С. Блатуна:

«Ён памёр у 33 гады. Загадкавай, незразумелай смерцю.

Нялёгкім, складаным было ягонае жыццё — у маладую сям'ю нечакана ўварвалася навала, страшэнная бяда — наркотыкі. Але Сымон загінуў не ад іх.

Добрая была ў яго душа, шчодрае сэрца».

Склалася так, што на першым месцы сярод кніг з аўтографамі, размешчаных на другой паліцы бібліятэкі Сіпакова, аказаліся зборнікі паэзіі. Зразумела: паэты і ў жыцці, і ў літаратуры больш рухомыя, больш кантактныя, імпульсіўныя, больш шчырыя і адкрытыя ў творчасці, ў жыццёвых стасунках. Але і тут, на гэтай паліцы, нямала месца займаюць кнігі прозы. Найперш тых, з кім аўтар адначасова прыйшоў у літаратуру, з кім пазней сумленна і доўга працаваў на літаратурнай ніве, чые творы сталі набыткам нацыянальнай літаратуры.

«Івану Данілавічу Сіпакову — аўтару кнігі “Крыло цішыні”. Каб тваё Ціхае Крыло цябе да класікі вяло! З павагай Іван Пташнікаў. 15 красавіка 76 г.». Такі дарчы надпіс быў зроблены на аповесці «Найдорф».

Згадваюцца раннія вершы пра каханне і І. Пташнікава, і І. Чыгрынава. Заўважаецца: «Лірычныя, сарамлівыя ў паэзіі. Якія ж яны іншыя ў прозе! Магутныя і глыбінныя. Ашчадныя і ёмкія ў слове, у выразе, у думках» згадваюцца некалькі аўтографаў І. Пташнікава, вершаванае віншаванне з днём нараджэння. Выказваецца шкадаванне, што ў чатырохтомнік празаіка не ўключана яшчэ студэнцкая аповесць «Чачык», якая ў свой час выклікала была значны рэзананс. Даецца агульная ацэнка творчасці слыннага празаіка:

«Іван Пташнікаў — наймагутнейшы талент. Так густа, як ён, прозу ў беларускай літаратуры ніхто не пісаў. Я нават параўнаў яго з вялікім амерыканскім пісьменнікам Уільямам Фолкнерам. Па адносінах да зямлі, да чалавека, па заземленасці і выпукласці ён і праўда своеасаблівы беларускі Фолкнер». Мне асабіста вельмі прыемна: у свой час у манаграфіі «Чалавек на зямлі» я таксама параўноўваў творчасць нашага празаіка з творчасцю выдатнейшага прадстаўніка амерыканскай прозы.

Ужо зазначалася, што па сваім службовым становішчы — і як старшыня па рабоце з маладымі на працягу многіх гадоў, і як супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Маладосць» — Янка Сіпакоў увесь час сустракаўся, супрацоўнічаў, таварышаваў з рознымі пакаленнямі тых, што прыходзілі ў літаратуру. Адбываліся розныя семінары, сустрэчы, пасяджэнні з іх удзелам. Яны вельмі чула рэагавалі на ўсё, на шчырасць адказвалі шчырасцю, на ўвагу — увагай. На дабрыню — дабрынёй. Іх кнігі, асабліва першыя кнігі паэтаў, з дарчымі надпісамі займаюць належнае месца на другой паліцы «Маёй бібліятэкі». Каб толькі пералічыць аўтараў і назвы гэтых кніг, не кажучы ўжо пра аўтографы, патрэбна было б нямала старонак. Кнігі і аўтары называюцца, прыгадваюцца некаторыя суполкі, да якіх яны ў свой час належалі («Тутэйшыя», «Бум-Бам-Літ»), цытуюцца дарчыя надпісы-аўтографы. У асобных выпадках даецца каментарый, узнікаюць нейкія заўвагі ці тлумачэнні, часам вынікаюць пэўныя ацэнкі.

Шчырыя словы захаплення талентам, якіясьці штрыхі пра складанасці жыццёвага і творчага шляху, цытуючы іх аўтографы, гаворыць Сіпакоў пра Яўгенію Янішчыц, Алеся Разанава, Міколу Мятліцкага, Анатоля Сыса, Алеся Пісьмянкова, Уладзіміра Саламаху і многіх іншых. Шчырыя, душэўныя словы Сіпакова, сказаныя ўжо сёння, сардэчныя і іх пажаданні, зробленыя дзясяткі гадоў таму.

Асобна на бібліятэчнай паліцы знаходзіцца, ва ўсякім разе так яны падаюцца, кнігі тых, з кім многія гады Янку Сіпакову давялося разам працаваць, сябраваць, таварышаваць. Ён згадвае: «У “Маладосці” я працаваў 20 гадоў, а ў “Вожыку” — трынаццаць. І пераходзячы з “Вожыка”, я, ці паверыце, плакаў. Там быў дружалюбны, шчыры, зычлівы калектыў. Да мяне, маладога, і пісьменнікі, і мастакі, — усе адносіліся з увагаю, усе імкнуліся дапамагчы».

Пісьменнік сам прызнаецца, што найбольш кніг з дарчымі надпісамі з тых гадоў, калі працаваў у «Маладосці». Падаючы надпісы на ўласных кнігах маладосцеўцаў М. Аўрамчыка, У. Дамашэвіча, Ж. Янішчыц, Г. Далідовіча, Л. Дайнекі і іншых, Сіпакоў абавязкова імкнецца нешта добрае сказаць пра кожнага — пра творчасць, жыццёвы лёс, працу.

Згадвае Міколу Аўрамчыка, які ў часопісе загадваў аддзелам паэзіі, на жыццёвым шляху якога былі найдраматычнейшыя выпрабаванні — палон, праца ў шахтах Рура. «Ён выхаваў не адно пакаленне маладых беларускіх паэтаў. Праз яго, як кажуць, рукі і сэрца прайшла амаль уся тагачасная маладая паэзія». Ён з непадробнай зацікаўленасцю «сустракаў кожнага маладога паэта, пачаткоўца, чамусьці верачы, што менавіта ён ужо прынёс ці яшчэ неўзабаве прынясе нейкі шэдэўр».

Цёпла згадваецца У. Дамашэвіч, іх даўняя дружба. Зноў жа зазначаецца: «Ён — гэта цэлая эпоха літаратурнай вучобы шматлікіх маладых празаікаў напрыканцы старога, другога тысячагоддзя».

Вельмі цёплыя, сардэчныя ўспаміны пры чытанні аўтографаў узнікаюць у аўтара «Маёй бібліятэкі» і пра тых, з кім працаваў у часопісе «Вожык». Характэрна, што ўсюды — і пры ацэнцы твора ці творчасці, і стаўленні да таго ці іншага аўтара або супрацоўніка — Сіпакоў заўсёды выказвае свае асабістыя адносіны, сваю адметную ацэнку. Прычым ацэнка тая грунтуецца на тых даўніх уражаннях, эмацыянальна-лагічных высновах. Тут аўтару можна толькі пазайздросціць, як ён жыва помніць і агульныя свае адносіны, і дэталі, падрабязнасці. Выявілася гэта дастаткова пры ацэнцы асобы і творчасці, напрыклад, Максіма Горкага, Уладзіміра Маякоўскага ў папярэднім раздзеле «Маёй бібліятэкі».

Ва ўспамінах пра сваю працу ў «Вожыку» такое стаўленне бачыцца ў адносінах да Якава Герцовіча, Паўла Кавалёва, Валянціна Зуба. Аўтографы Уладзіміра Корбана і Аскольда Чуркіна, каларытных фігур «Вожыка», даюць магчымасць расказаць якіясьці падзеі, сітуацыі камічнага плана.

«Але, несумненна, у тагачасным “Вожыку” вылучаўся сярод усіх. Быў фігураю ва ўсіх адносінах Сяргей Дзяргай.

Мы глядзелі на яго ва ўсе вочы, слухалі ва ўсе вушы. Думалі ўслед за ім.

Гэта быў незвычайны чалавек. Ён быў і ява, і легенда. Яго, здаецца, сам Бог паслаў у помач маладой беларускай літаратуры.

Да яго дадому можна было зайсці і ўдзень і ўночы. З радасцю і з бядою».

Называецца цэлы шэраг прозвішчаў тады маладых, а пазней славутых, вядомых паэтаў, якія часта наведваліся да гэтага выдатнейшага паэта і чалавека. Цытуюцца яго вершы. Дае ўрывак з успамінаў Яўгена Міклашэўскага, паэта і празаіка, якому Сяргей Дзяргай шмат памог у жыцці і творчасці. Цытуе такое яго прызнанне: «Ён (Дзяргай. — **С. А.**) браў пад крыло ўсіх, хто спрабаваў пісаць. Так ён прытуліў студэнтаў, вясковых хлопцаў Барадуліна, Сіпакова, Сачанку, а потым і мяне. Мяне — у вельмі цяжкую хвіліну майго жыцця».

Сіпакоў гаворыць, што Дзяргай падпісаў яму ўсе свае кнігі. Дае толькі адзін надпіс на кнізе паэта «Святы ў будзень»: «Дарагому Івану Сіпакову, на якога я спадзяюся больш як на каго з маладых. 11/X.65». Але ў дадзеным выпадку і гэты невялікі надпіс выклікае такія светлыя пачуцці дабрыні, удзячнасці, захаплення чалавечнасцю і таленавітасцю.

Добрыя словы захаплення талентам і чалавечымі якасцямі сказаны і пра супрацоўнікаў часопіса «Гаспадыня»: Зіновія Прыгодзіча, Валянціну Паліканіну, Алу Жур. Цытуюцца таксама іх шчырыя аўтографы.

Пэўнае месца на другой паліцы займаюць кнігі навукоўцаў, літаратурных крытыкаў. Іх аўтары ў сваіх надпісах шчыра выказваюцца пра талент і высокія чалавечыя якасці пісьменніка. Тут ёсць кнігі з аўтографамі Ф. Янкоўскага, М. Ермаловіча, А. Адамовіча, В. Каваленкі, В. Рагойшы і інш. Тут выяўляецца ўнутраная далучанасць Сіпакова да гісторыі роднага краю, асабліва характэрная для яго творчасці апошніх гадоў, а таксама высокая чуласць да жывога беларускага слова, найперш дыялектнага (аўтографы Г. Юрчанкі).

І вось тут, у гэтай творчай суполцы, аўтографы аднаго аўтара, а хутчэй напэўна кнігі з гэтымі аўтографамі, аказваюцца асабліва дарагімі для Янкі Сіпакова, творча натхняльнымі. Аўтар гэты Аляксандр Кузьміч Бабарэка, траюрадны пляменнік славутага беларускага крытыка 20—30 гадоў ХХ стагоддзя Адама Бабарэкі. Ён даследчык І. А. Буніна. Пазнаёміліся ў час адпачынку ў Кактэбелі. Сіпакоў расказвае, што яны з Бабарэкам звычайна адпачывалі там у другой палове жніўня — пачатку верасня. «Папярэдне спісваліся і потым прасілі ў Літфондзе пуцёўкі менавіта на гэты час — каб зноў і зноў сустрэцца. З чалавекам, з якім было не нагаварыцца… пасля размоў адбывалася ліставанне. У мяне цэлая папка ягоных найцікавешых пісем…» Гэта як успамін пра ранейшыя часы. А гэта ўжо ў сучасны перыяд: «Дружбаю ж з гэтым, здавалася б, вельмі неэмацыянальным, нават сухаватым, але такім найцікавейшым чалавекам і суразмоўцам, я ганаруся і сёння».

І гэта відаць. Матэрыял пра Бабарэку і ўсё, што звязана з ім найперш як даследчыкам, самы вялікі ў «Маёй бібліятэцы». Галоўная навуковая праца А. К. Бабарэкі — даследаванне жыцця і творчасці І. А. Буніна «І. А. Бунін. Матэрыялы для біяграфіі». Піша аўтар: «Заўважце, не манаграфія, не даследаванне, а ўсяго толькі “матэрыялы для біяграфіі”. А ў кнізе — проста лавіна новых адкрыццяў, невядомых фактаў, цікавых дэталей, нечаканых думак, смелых паваротаў у жыцці — і ў звычайным, і ў творчым, — што нават забываешся, што чытаеш навуковае даследаванне — чытаецца як раман, як мастацкі твор даследчыка».

Аўтограф да гэтай кнігі, зроблены ў 1983 годзе, кароткі але шчыры: «Дорогому Ивану Даниловичу Сипакову, которого я неизменно чту и люблю. А. Бабареко». Сардэчныя, але не шматслоўныя і іншыя яго аўтографы. Яны цытуюцца. Увесь гэты матэрыял пра Бабарэку ў творы ўспрымаецца як твор самастойны, самы вялікі, што звязаны з адной асобай. Гэта выдатнае эсэ. Напісанае эмацыянальна глыбока, змястоўна густа. Яго можна друкаваць і самастойна. Яно і сюжэтна зроблена вынаходліва. Яно шматслойнае, шматступенчатае, пабудаванае па прынцыпе матрошкі. Сам Сіпакоў выбраў аб’ектам Бабарэку, у таго мэта ўсяго жыцця І. А. Бунін. А ў аповедзе пра Буніна галоўная ўвага скіравана на творы пра Л. М. Талстога і А. П. Чэхава — «Вызваленне Талстога», «Пра Чэхава». Зноў жа ў размовах пра гэтыя творы падключаны мемуары «Жизнь Бунина», «Беседы с памятью» Веры Мікалаеўны Мурамцавай-Бунінай і «Граскі дзённік» Галіны Мікалаеўны Кузняцовай, аповесць-успамін «А. П. Чэхаў у маім жыцці» з кнігі «Рассказы и воспоминания» Лідзіі Аляксееўны Авілавай. Сіпакову ў гэтым эсэ, багата насычаным дзейнымі асобамі, проста выдатна ўдалося спалучыць дзве сюжэтныя лініі. З аднаго боку праца-барацьба А. К. Бабарэкі за І. А. Буніна ў савецкія часы: і пры напісанні і выданні ўласных даследаванняў, прысвечаных славутаму пісьменніку, і пры выданні яго збору твораў у 9 тамах, асабліва 9-га тома, таксама пры падрыхтоўцы і выданні 84 тома ў 2-х кнігах «Литературного наследия», цалкам прысвечанага Буніну. З другога боку, гэта гісторыі звязаныя з жанчынамі ў лёсе Л. Талстога, А. Чэхава, І. Буніна. Паказваючы ўзаемаадносіны творцаў, іх жонак і жанчын (каханых і закаханых), Сіпакову выдатна ўдалося захаваць тон не асуджэння, не выкрыцця, а разумення сілы пачуцця.

Усе падзеі, сюжэтныя лініі, спляценне лёсаў у гэтым эсэ асновай сваёй маюць кнігі з «Маёй бібліятэкі». Іх шмат. Усе яны датычныя лёсу і творчасці І. А. Буніна, але арганізаваны і пададзены дзякуючы працам і кнігам А. К. Бабарэкі.

Выдатны паэт і празаік, выдатны нарысіст і эсэіст. Такім сёння бачыцца творчае аблічча Янкі Сіпакова. Але не толькі. А як жа перакладчыцкая дзялянка творчасці майстра? Без яе яго творчасць нельга ўявіць сабе. І на гэтай творчай дзялянцы працаваў ён не менш сумленна, апантана і таленавіта. Працаваў у розных ролях: і як перакладчык, і як рэдактар, і як аўтар, паэт, празаік, чые творы перакладаюць іншыя.

І тут, на кнігах гэтай дзялянкі, мноства аўтографаў, дарчых надпісаў.

Мой пераклад рэдагаваў  
Ты так старанна, бы сапфір  
Для царскай шапкі шліфаваў  
Найлепшы ў свеце ювелір.

А потым быццам паладзін —  
Свайго манарха на вайне,  
Ты ад мячоў і пік адзін  
Бясстрашна бараніў мяне.

*Дзякуй табе за гэта!*  
*Уладзімір СКАРЫНКІН.*  
*03.03.98 г.*

Гэта аўтограф на кнізе Дантэ Аліг’еры «Боская камедыя», што выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» Пераклад У. Скарынкіна. Рэдагаваў пераклад і напісаў прадмову да выдання Янка Сіпакоў. Працаваў старанна, сумленна. Бо ён усё так рабіў, за што ні браўся. Але не толькі. Тут ён адчуў, убачыў, што «ў беларускім перакладзе яна набыла якуюсьці зямную, рэальную аснову», загучала нязмушана, свабодна. Пасля выхаду кнігі змагаўся за належную яе ацэнку. Некалькі пазней пераклад гэты ўсё ж быў годна ацэнены і ў нас, і на радзіме Дантэ. «Акрылены поспехам, Скарынкін пераклаў томік паэзіі (паэмы «Дон Жуан» і «Прароцтва Дантэ») Байрана, а таксама лірыку Петраркі».

Характэрны аўтограф да кнігі перакладаў Байрана:

Дарагі зямляк, шаноўны Іван Данілавіч!  
Вы сцвердзіцца мне ў свеце  
памаглі.  
За што паклон Вам нізкі —  
да зямлі.

*Уладзімір СКАРЫНКІН.*  
*25.10.04 г.*

Багата даецца аўтографаў у «Маёй бібліятэцы» пісьменнікаў іншых краін. Яны шчырыя, сардэчныя самі па сабе. Вось прыклады:

Георгій Вылчаў (пісаў пра балгарска-беларускія сувязі) на сваёй кнізе «Приобщения. Літаратурныя кантакты і аналогіі»:

«Сипакову Янке! Светлое воспоминание о искренней большой дружбе! 1972 г.».

Альбінас Жукаўскас на сваёй кніжцы на літоўскай мове: «Дарагому Сіпаку з павагай дзядзька Альбінас. 09.II.66. Вільнюс».

Ян Гушча, польскі паэт з Лодзі, на сваёй польскамоўнай кнізе: «Пану Янцы Сіпакову з падзякаваннем за “Веча балад” і за памяць — з найлепшымі (хоць і крыху спазнёнымі) зычэннямі навагоднімі — узрушаны яго вершамі. Ян Гушча. Лодзь. 3.I.1977 г.».

Уладзімір Каламіец, вядомы ўкраінскі паэт. Яго шмат кніг у бібліятэцы Сіпакова. Усе з аўтографамі. Але, напэўна, варта працытаваць словы з эсэ «Аванян і Янка Сіпакоў» (у кнізе «Раса і попел». 2006 г.): «А з Янкам Сіпаковым пазнаёміўся я праз узаемаабмен матэрыяламі майго часопіса «Дніпро» з беларускім часопісам «Маладосць». Дзіўна шчыры вродліва-сціплы гэты цудоўны паэт — Я. С., праз душу якога можна зазірнуць і ў душу ўсяго беларускага народа».

Яшчэ адзін надпіс-аўтограф: «Янке Сипакову, талантливому поэту и прозаику, — с чувством давней симпатии и лучшими пожеланиями — Леонид Решетников. 4.07.81».

Аўтографаў шмат. Значнасць іх, каштоўнасць бачыцца не так у кнігах, на якіх яны занатаваны, можа, не так у характарыстыцы іх аўтараў, хоць, па сутнасці, кожны аўтограф дае падставу Сіпакову сказаць нешта сваё пра кожнага з іх, колькі ў перадачы духоўнай атмасферы тых гадоў плённасці працэсу ўзаемадачыненняў розных літаратур, іх узаемаўзбагачэння. І несумненна, яны паглыбляюць, узбуйняюць сам вобраз галоўнага героя твора — зберагальніка і ўладальніка бібліятэкі.

У канцы «Маёй бібліятэкі», у канцы «другой паліцы» — паліцы кніг з аўтографамі іх аўтараў, Янка Сіпакоў вяртаецца, як і наогул у творчасці, у свае родныя Зубрэвічы. Тут аўтографы самі па сабе не надта звяртаюць яго (ды і нашую) увагу. Галоўнае — змест кніг, дзе малая радзіма бачыцца ў гістарычным кантэксце ўсёй Беларусі. Гэта кнігі В. П. Грыцкевіча «От Немана к берегам Тихого океана», яго ж таксама «Путешествия наших земляков», кніга «Друцк старажытны», кнігі С. Асіноўскага «Орша: залатыя стрэлы на блакітным полі», Г. Сагановіча «Невядомая вайна», І. Яршова «Вежы над Дняпром», І. Яршова і В. Сідняковай «Вёр-

сты пройдзеных дарог», двухтомнік «Памяць. Орша і Аршанскі раён», кнігі краязнаўцаў А. М. Карлюкевіча «І векавечны толькі край», М. Калінковіча «Палескія дні Аляксандра Блока».

На гэтым «Мая бібліятэка» абрываецца. Адчуванне: засталося напісаць проста некалькі старонак — падвесці як бы вынікі. Бо, здаецца, мяркуючы па раздзелах, групах кніг, пра ўсё напісана. Сапраўды, як піша ў сваім «Слове на заканчэнне» Зіновій Прыгодзіч: «Незвычайнае, дзівоснае падарожжа. Ад кнігі да кнігі. Ад лёсу да лёсу. Ад краіны да краіны…»

Падобнай кнігі ў нашай літаратуры няма. Ды і ў іншых не згадваецца нешта блізкае ёй. Янка Сіпакоў не мог не напісаць гэтую кнігу. Ён любіў кнігу, проста абагаўляў яе. Ён жыў з кнігай, яна жыла ў ім. Адчуваў, прадчуваў развітанне з ёю. Не мог зразумець сённяшняе стаўленне да кнігі.

«Кніга. Сапраўдная кніга… Кніга, якая нясе ў сябе дабрыню і справядлівасць, сумленнасць і павагу. Якая вучыць чалавека быць чалавекам. Лёс яе на сёння зусім не зайздросны: тыя, хто б купіў яе, не маюць грошай, а тыя, у каго грошы ёсць, кніг, на вялікі жаль, не чытаюць», — пісаў у канцы стагоддзя ў дзённіку настрою «Наталенне смагі».

А кнігі ў яго бібліятэцы — і на першай паліцы, і на другой — кнігі сапраўдныя, кнігі сапраўднай літаратуры. Менавіта такімі ён іх паказаў. І іх аўтараў. Выявіўшы тут выдатнае, тонкае адчуванне мастацкага слова наогул, а таксама яго адметнасць, па сутнасці, у кожнага аўтара. А іх — мноства. І пададзены яны не адасоблена, не вырваны са свайго часу. У гэтым сэнсе добра ўзноўлена атмасфера другой паловы XX стагоддзя, выдатна выяўлена адметнасць літаратурнага жыцця, літаратурны клімат. Глыбока паказана літаратурнае пакаленне дзяцей вайны — багацце яго жыццёвага вопыту. Яго сумленнае служэнне літаратуры, мастацкаму слову, вернасць беларушчыне.

На заканчэнне зноў жа словы самога Янкі Сіпакова, якія ён сказаў у 2-й кнізе дзённіка настрою «Шукаючы спакой у мітусні»:

«Я шчаслівы, што заспеў час, калі Слова было найвялікшаю каштоўнасцю.

Я шчаслівы, што прафесійна займацца літаратурай мог тады, калі Слова збірала стадыёны, а нашы кватэры будаваліся з улікам таго, каб перакрыцці вытрымалі цяжкі груз — нашы вялікія хатнія бібліятэкі.

Ніяк не магу зразумець, як гэта чалавек зможа жыць, не чытаючы кніг?»

Вось гэтым настроем тагачаснага шчасця, радасці і сённяшняга роздуму, ахутанага наміткаю глыбокага суму, напоўнена гэтая ўнікальная кніга — «Мая бібліятэка».

# ДА ЎСЯГО — КЛОПАТНАЕ СТАЎЛЕННЕ



*25 верасня 2013 г. — 100 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Сяргея Грахоўскага. Быў ён найперш паэт, але плённа і паспяхова працаваў літаральна ва ўсіх літаратурных жанрах і пакінуў вялікую спадчыну — 60 выдадзеных кніг паэзіі, прозы, перакладаў, дзіцячых твораў, успамінаў, публіцыстыкі. У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваецца яго асабісты архіў — гэта накіды, рукапісы незавершаных і нявыдадзеных твораў, дзясяткі радыё- і тэлесцэнарыяў, публіцыстыка, артыкулы, успаміны, эсэ, лісты па самых розных справах — грамадскіх, літаратурных, сяброўскіх, юрыдычных і іншых. Але яго лістоў не так і шмат. Іх ён не захоўваў, пісаў многія дзесяцігоддзі ад рукі, без чарнавікоў і лічыў, што друкаваць лісты на машынцы — неэтычна; выключэннем былі толькі афіцыйныя, у высокія інстанцыі. Яны так і засталіся (а хутчэй — загінулі) у адрасатаў. А вось лістоў да яго захавалася шмат, іх ён збіраў. Але з тых копій яго лістоў я адабрала пару дзясяткаў, якія сведчаць аб шчырай і глыбокай грамадзянскай пазіцыі пісьменніка, аб яго стаўленні да людзей, развагі аб літаратуры, аб адказнасці творцы за сваю працу. Лісты вельмі цікавыя, змястоўныя і так шчыра расказваюць пра нядаўняе мінулае. Спадзяюся, што вам, паважаныя чытачы, будзе цікава пазнаёміцца з імі, тым больш, што эпісталярны жанр фактычна застаўся ў ХХ стагоддзі.*

Председателю Президиума Верховного Совета БССР
члена Союза писателей СССР Граховского Сергея Ивановича

ПРОСЬБА.

Вынужден обратиться к Вам с этой просьбой только из гуманных побуждений. Я глубоко обеспокоен судьбой двух детей. Старшему из них три с половиной года, младшему — пять месяцев. В равной мере меня волнует отчаянное положенне их семидесятилетней бабушки Анастасии Викторовны Блохиной, матери прославленного первостроителя Полоцкого нефтегиганта, бригадира, секретаря комсомольского комитета Нефтестроя Петра Блохина. Он скоропостижно скончался в 1962 году. Его именем нефтестроевцы назвали новую улицу Новополоцка. Теперь в городе нефтяников вместе с дочерью живет полуслепая семидесятилетняя мать Блохина.

Осенью 1963 года Полоцкий городской суд дочь Анастасии Никифоровны Блохиной — Надежду Щебетун по статьям 91 ч. 3 и 166 ч. 2 Уголовного кодекса БССР приговорил к 6 годам лишения свободы. Но, в связи с беременностью осужденной, исполнение приговора отсрочено на год.

Я не знаю подробностей сути дела, по которому обвинялась Надежда Щебетун, но хорошо знаю положение, в котором очутится её мать с двумя маленькими внуками на руках, когда осужденная будет изъята из семьи. Изоляция Надежды Щебетун превратится в более тяжёлое наказание для её матери и беспомощных детей. Шесть лет они не будут знать свою мать и никому не смогут сказать самое дорогое слово — мама.

Вряд ли у Анастасии Никифоровны хватит физических сил вырастить внучат и дождаться из заключения дочь.

Я отнюдь не ратую за всепрощение преступлений или злоупотреблений На-дежды Щебетун, и не столько ходатайствую о смягчении её участи, сколько прошу позаботиться о будущем её детей и престарелой матери.

Убедительно прошу проявить максимальную гуманность к детям и матери Надежды Щебетун, избрав такую меру наказания, которая бы позволила ей вырастить детей и досмотреть мать, которая нуждается в посторонней помощи и опеке.

Почему именно я обращаюсь с этой просьбой в Президиум Верховного Совета? Литературной работой я с 1958 года связан с Нефтестроем и строителями города на Двине. Близко знаю многих рабочих и их семьи, хорошо знал Петра Блохина, много писал о нём, часто встречаюсь с его матерью. Теперь её положение ужасно.

Смягчение меры наказания Надежде Щебетун спасёт её детей и престарелую мать.

Надеюсь на добрые гуманные чувства всех, кто будет решать их судьбу.

8.06.64 г. Сергей Граховский

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 2, спр. 469, л. 1,2)*

Старшыні выканкома
Мінскага гарадскога савета дэпутатаў працоўных
таварышу КАВАЛЁВУ М. В.

Глыбокапаважаны Міхаіл Васільевіч!

Са мною на адной пляцоўцы вось ужо 17 гадоў жыве ў пакойчыку, плошчаю 13 кв. метраў, з сям'ёю з 5 чалавек, цудоўны рабочы завода «Ударнік», камуніст, Дэпутат Савецкага райсавета, студэнт вячэрняга факультэта Дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна — Іосіф Жыдовіч.

Уяўляеце, як яму цяжка жыць, вучыцца і працаваць, выхоўваць дзяцей у такіх умовах.

У нашым доме па Краснай вул. № 22 знаходзіцца кафэ, для якога некалькі гадоў назад у нашым пад'ездзе вызвалена кватэра № 117, ператвораная ў склад тары, рознай непатрэбшчыны, а часам выкарыстоўваецца як майстэрня розных рэклам. Дзверы кватэры-склада побач з ліфтам. Насустрач жыхарам па вузкай лесвіцы сунуцца скрыні, мяхі, падрамнікі, і густыя мацюкі грузчыкаў. Меркавалася за кошт кватэры пашырыць кафэ, разламаць сцяну на ўзроўні другога паверха. А ці патрэбна гэта? Калі б было патрэбна, тры гады кватэра б не пуставала.

Калі б яе ў свой час перадалі сціпламу і працавітаму Іосіфу Жыдовічу, колькі б ён паспеў зрабіць на заводзе, у вучобе і грамадскай рабоце, а ён, яго дзеці і ўся сям'я адчулі б радасць нармальнага чалавечага жыцця. А ён так і туліцца ў сваім катушку агульнай кватэры № 132.

Пішу гэта Вам не па яго просьбе (на гэта ён не адважыцца), а па загаду ўласнага сумлення і спадзяюся, што зацікавіцеся такім несправядлівым выкарыстаннем жыллёвай плошчы, дапаможаце, нарэшце, добраму чалавеку, а жыхароў нашага пад'езда вызваліце ад склада ў жылым доме.

З прывітаннем і вялікімі спадзяваннямі

8—19.06.1964 г. Сяргей Грахоўскі

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 2, спр. 46, л. 3)*

Дорогой Николай Николаевич!*

Вчера авиапочтой отправил Вам два экземпляра рукописи. Почему два? После некоторых поправок, чтобы не утруждать Вас, решил всё перепечатать. Пытался не столько исправить переводы, сколько улучшить оригинал. Этим вызваны сокращения нескольких необязательных строф. Очень хочу, чтобы Вы сначала прочли перепечатанный экземпляр. К таким стихотворениям, как «Лосиный след», «Живая память», «Обруч», «Гончар», «На катке», «Вишни», «Твой голос», «Молодое вино», «Декабрь», «Хмель» я почти не прикасался. В «Гончаре» смутила «полива». Боюсь, что русские не поймут. И, как смог, уточнил эту строфу. Пытался освободить кое-какие строки от слов с архаическим оттенком, «отныне», «желанная синь», «благословенно», «обитель земляники», «одноликий день» и других.

Все стихотворения переведены довольно точно, но кое-где построчная близость к оригиналу повлекла за собой скованность, неестественность звучания и интонаций. Там, где особенно откровенно выглядывал перевод, пытался сказать проще и естественнее. Убирал инверсии, вводные предложения, видимо не всегда предлагая лучшие варианты (лимит времени!)

Отправил рукопись и вспомнил, что в последней строке земляничного сока остались «дубравные выси» — натяжка очевидная. Может быть лучше: «Тебя найду в тиши полян, аукая в зелёных высях», а последние строки предыдущей строфы записать бы так: «Я не пущу одну тебя в глухие дебри земляники» или найдите другое определение, ибо дебри сами по себе глухи.

Посмотрите ещё раз всю рукопись свежим и опытным оком и я уверен, что улучшите ещё не одну строку.

Ради бога, не обижайтесь за такое вторжение. Оно продиктовано единственным желанием, чтобы книжка была лучше, естественнее, и меньше чувствовалось, что она переводная.

Мои неудачные предложения (ведь они делались в очень сжатые сроки) пересмотрите и, пожалуйста, улучшите. ОТК (отдел технического контроля) пришлось согласовать в роде. Сумленне (совесть), а не сомнение, тоже исправил.

Большое Вам спасибо за огромную, добросовестную и хорошо выполненную работу. А улучшать можно без конца. Предела нет. Пишите, что и как и только не ругайте за откровенность и, может быть, чрезмерное вторжение в вашу работу. Но книжка уже наша, и мы в равной мере ответственны за неё.

Будьте счастливы. Желаю Вам и Вашей семье здоровья, благополучия и подлинного вдохновения. Все мои кланяются Вам. Крепко жму руку.

[1964 г] С. Граховский

* Николай Николаевич — Сидоренко, писатель, переводчик с бел. на русский язык.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 2, спр. 409, л. 1)*

Загадчыку ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ
тав. КУЗЬМІНУ А. Т.

Паважаны Аляксандр Трыфанавіч!

Я толькі што зноў наведаў гарадскі пасёлак Акцябрскі Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці, зноў сустракаўся і гутарыў з былымі партызанамі Грамадзянскай і Айчыннай войнаў.

Вядома, усіх жыхароў пасёлка і навакольных вёсак, у першую чаргу, хвалюе пытанне пра аднаўленне раёна. За любою даведкаю з Акцябра да Светлагорска трэба ехаць за 112 кіламетраў, а з вёскі Чырвоная Слабада — 152 км. У веснавую і асеннюю бездараж у раённы цэнтр вымушаны дабірацца праз Бабруйск і Жлобін.

У пасёлку Акцябрскі, з насельніцтвам 4,5 тысячы чалавек, няма ніякага клуба. Моладзі вечарамі няма куды дзецца, няма дзе разгарнуць і паказаць свае

здольнасці, раскрыць свае таленты. Таму юнакі і дзяўчаты пакідаюць родныя мясціны і выязджаюць у гарады або ў суседнія раёны.

Вельмі дрэнна пастаўлена работа спажывецкай кааперацыі: пякарня прытулілася ў звычайнай вясковай хаце, дзе нельга забяспечыць элементарныя санітарныя ўмовы; не можа яна задаволіць патрэбы насельніцтва ў хлебе.

У пасёлку працуе сталовая і чайная. Ні ў адной з іх няма халадзільнікаў і халадзільных установак, прадукты псуюцца і асартымент іх крайне абмежаваны. Затое ў сталовай і чайнай пануе страшэнны бруд і антысанітарыя, кухні падобны на курныя кузні.

У пасёлку адкрыты гаспадарчы магазін. Гэта ўзрадавала жыхароў, якія ўсё яшчэ будуюцца і аднаўляюць свае вёскі. Але ў магазіне няма патрэбных цвікоў, толі, масленай фарбы, не арганізаваны продаж бензіна для ўладальнікаў матацыклаў. А іх тут многа. Таму матацыклісты вымушны «даставаць» гаручае ў заезджых шафёраў. У пасёлку вялікі попыт на пральныя машыны, але з райспажыўсаюза ў Акцябрскі не прыслалі ні аднае. Летась з Светлагорска прывезлі ў акцябрскі гаспадарчы магазін 2400 шкляных слоікаў для кансервавання фруктаў і гародніны, паклапаціліся прыслаць і адпаведную колькасць брашур аб тэхналогіі кансерваванння. А крышкі для слоікаў рэалізавалі ў Светлагорску. Гэта людзі расказваюць, як сумны анекдот, як факт няўвагі і непавагі.

Адным словам, на забеспячэнне прадуктамі і таварамі першай неабходнасці, якіх больш чам дастаткова ў гарадах і раёнах, у пас. Акцябрскі вельмі шмат справядлівых нараканняў.

У пасёлку працуе маслазавод. За дэкаду ён выпускае 16 тон масла. Але як ён яшчэ працуе, дзіву даешся. Хата, у якой ён размешчаны, трымаецца на падпорках, стан яе крайне аварыйны.

Неаднаразова складаліся праекты будаўніцтва новага памяшкання, на іх затрачана 15,5 тысячы рублёў, а будаўніцтва так і не распачыналася. Сродкі, заплочаныя праектным арганізацыям, выкінуты на вецер. Каб разабрацца ва ўсіх гэтых пытаннях, аўтарытэтнай камісіі неабходна неадкладна выехаць у пас. Акцябрскі.

Цяпер некалькі слоў аб ушанаванні памяці партызан і мірнага насельніцтва, якое загінула ў гады Грамадзянскай і Айчыннай войнаў.

К 50-годдзю Савецкай улады неабходна адшукаць і прывесці ў парадак магілы партызан Грамадзянскай вайны: Максіма Уса, Макавецкага, Майсея Раговіча, Васіля Званковіча, Віктара Вотчыча, Рыгора Пальцава, Рыгора і Сцяпана Падутаў, Кузьмы Кавалевіча і іншых. За гэта можа ўзяцца камсамол і старэйшыя вучні. У пасёлку Акцябрскі ў 1942 годзе ў клубе было спалена гітлераўцамі 648 чалавек жанчын, дзяцей і старых. На тым месцы пастаўлены невялічкі помнік, а напісана на ім, што «тут пахаваны салдаты, сяржанты, афіцэры і партызаны». Народ абураецца, бо ў гэтай брацкай магіле няма ніводнага ваеннаслужачага. Праўду трэба аднавіць для сучаснікаў і патомкаў.

Неабходна ўвекавечыць памяць 800 жыхароў вёскі Рудня, спаленых фашыстамі. Месца іх гібелі заарана і засеяна.

Хоць і адзначана абеліскам памяць 720 спаленых жыхароў у в. Кавалі, але да кургана, які стаіць у полі, нават няма сцежкі. Магіла зарасла крапівою і палыном.

Па сцежках славы былога Акцябрскага раёна кожны дзень праходзяць сотні школьнікаў-турыстаў. Яны вядуць дзённікі, робяць здымкі, але ніхто не падумаў прывесці ў парадак забытыя магілы, хоць бы апалоць іх. Гэта справа моладзі, камсамольцаў, настаўнікаў і вучняў, але не ў парадку нядзельніка «па праполцы», а з вялікім выхаваўчым сэнсам.

Неабходна паскорыць прысваенне імя Аляксандра Салаўя Акцябрскай сярэдняй школе, а ўчастковай бальніцы трэба прысвоіць імя славутага партызанскага доктара, спаленага фашыстамі, Адама Антонавіча Чарнецкага.

Мясцовыя арганізацыі некалі звярталіся з такою прапановаю ў Міністэрства аховы здароўя, але ім нават нічога не адказалі. Мінскай і Гомельскай студыям тэлебачання варта было б арганізаваць перадачы з удзелам партызан Грамадзянскай і Айчыннай вайны на Рудабельшчыне, а студыі хранікальна-дакументальных фільмаў распачаць работу над стварэннем карціны пра гэты легендарны край.

І яшчэ: трэба, каб у пасёлак Акцябрскі выехаў адказны работнік абласнога аддзела сацыяльнага забеспячэння і высветліў усе прэтэнзіі і пытанні з вызначэннем пенсій былым партызанам і воінам. Там такіх пытанняў шмат.

Памятаючы, што Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі лічыць неабходным маральна і матэрыяльна падтрымаць былы Акцябрскі раён, прашу, як мага хутчэй, пачаць тую высакародную і вартую вялікай увагі справу. Калі патрэбен будзе які-небудзь мой удзел у гэтай рабоце, заўсёды гатоў яго прыняць.

Буду ўдзячны, калі паведаміце мне пра вынікі ранейшых і гэтых маіх просьб і прапаноў.

З прывітаннем і глыбокай павагай

27.06.1966 г. Сяргей Грахоўскі.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 1, спр. 45, л. 1,2,3,4.)*

Дарагія сябры!

Шчыра дзякую за ваша запрашэнне прыехаць на ўрачыстасць прысваення школе імя Аляксандра Салаўя. Упэўнены, што нашчадкі выдатнага камуніста будуць вартыя насіць гэтае слаўнае імя.

Пастараюся абавязкова прыехаць да Вас.

Было б вельмі пажадана і добра, каб на гэтым урачыстым акце прысутнічаў адзін з баявых паплечнікаў Салаўя — Сцяпан Іванавіч Герасімовіч. Ён прайшоў у батальёне Салаўя гераічны шлях ад Смаленска да Варшавы і пахаваў свайго камандзіра каля мястэчка Кольна. Жыве Сцяпан Іванавіч Герасімовіч у Бабруйску, на Рабочай вуліцы, у доме № 26. Шкада, што наўрад ці зможа прыехаць сястра А. Р. Салаўя — Марыя Раманаўна Андрэева. Яна пісала яшчэ раней, што сур'ёзна хварэе. Але запрасіць яе неабходна.

Шчыра віншую Вас, дарагія сябры, з надыходзячым святам Вялікага КАСТРЫЧНІКА!

Дзякую за запрашэнне. Жадаю ўсім вам поспехаў і шчасця!

/1967 г. С. Грахоўскі/

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 1, спр. 47, л. 3)*

Дарагія Марыя Раманаўна і Нікіфар Мікалаевіч!*

Вялікае вам дзякуй за навагоднія віншаванні. Мяне абрадавала, што вы напісалі мне. Шчыра кажучы, я вельмі быў занепакоены вашым доўгім маўчаннем. Паслаў часопіс з пачаткам «Рудабельскай рэспублікі», не атрымаў адказу і не адважыўся пасылаць працяг. Вельмі шкада, што Вы не змаглі прыехаць у Акцябр на святкаванне Кастрычніка і не былі на ўрачыстым вечары, калі было прысвоена сярэдняй школе імя Аляксандра Салаўя. Было вельмі хараша і ўрачыста. На сцэне стаяў вялікі партрэт вашага брата, піянеры каля яго ўвесь час змяняліся ў ганаровай варце, старыя партызаны расказвалі, які гэта быў выдатны чалавек і бальшавік, успаміналі вас, бацьку, братоў.

Абрадаваў мяне Вася, калі сказаў, што Вы папраўляецеся і хутка будзеце дома. Цяпер, можа, зможаце дачытаць маю аповесць. Хутка яна павінна выйсці асобнаю кнігаю.

Напішыце, як цяпер ваша здароўе, у чым маеце патрэбу, чым неабходна дапамагчы: ці ёсць дровы, сена, хлеб і ўсё неабходнае для нармальнага жыцця. Напішыце пра ўсё, не саромеючыся. Чым змагу, дапамагу. Пішыце абавязкова

і падрабязна. Прывітанне Вашым дзецям і ўнукам. Жадаю вам усяго найлепшага!

Ваш Сяргей Грахоўскі. 4/I — 1968 г.

*ліст да сястры Салаўя — М. Р. Андрэевай.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 2, спр. 401, л. 1)*

Намесніку міністра сацыяльнага забеспячэння БССР
Таварыш У. Ф. КРЫШТАЛЕВІЧ

Паважаная Ульяна Феакцістаўна!

Са мною падзялілася сваёю бядою інвалід першай групы, дваццаці-васьмігадовая Наталля Пятроўна Манакова. Жыве яна ў Цэнтральным раёне г. Мінска, па вул. Гая, д. № 13, кв. 5, тэл. 37-59-87.

У 1960 годзе, у трынаццацігадовым узросце, Наташа захварэла энцэфаламіэлітам, але ў дзяўчынкі хапіла настойлівай мужнасці паспяхова закончыць сярэднюю школу. Разам з тым, яе юнацтва і маладосць да гэтага часу прыкуты да чатырох сцен аднапакаёвай кватэры, у якой жыве яшчэ сям'я сястры з маленькім дзіцём.

Наталля Манакова займалася надомнаю працаю, і цяпер атрымлівае невялікую пенсію.

За ўвесь час сваёй неадольнай хваробы Манакова толькі адзін раз, у 1971 годзе, карысталася санаторным лячэннем. А стан яе здароўя патрабуе сістэматычнага лячэння і падтрымкі. На просьбы Манаковай выдзяліць ёй пуцёўку ў санаторый, Райсабес Цэнтральнага раёна спасылаецца на адсутнасць магчымасці паслаць яе на адпаведнае лячэнне. А маладосць праходзіць. Хвароба інтэнсіўней падточвае слабую істоту.

Прабачце, шаноўная Ульяна Феакцістаўна, што адрываю Вас ад вашых спраў, але ведаючы Вашу чуласць і ўвагу да людзей, спадзяюся, што дапаможаце Наталлі Манаковай падтрымаць яе здароўе.

З надзеяю і глыбокаю павагаю

02.09.1974 г. Сяргей Грахоўскі

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 2,спр. 476 ,л. 1)*

Заведующему социального обеспечения
исполнительного комитета
Минского областного совета депутатов трудящихся
тов. ЮРГЕНСОНУ А. П.

Многоуважаемый Альфред Павлович!

В деревне Михалово, Раковского сельсовета, Воложинского района, Минской области мне повстречался инвалид Вячеслав Игнатьевич Михневич, 1928 г. р. и рассказал о своей горькой судьбе.

В I942 году он, в то время четырнадцатилетний мальчик, подорвался на вражеской мине и лишился правой ноги. С тех пор он живёт на иждивении старшего брата, рабочего совхоза, Антона Игнатьевича Михневича, 1912 г. р.

Вячеславу Михневичу установлена пенсия в размере 8 руб. 50 к. Опекавший его брат Антон Михневич, теперь сам является пенсионером, и, естественно, не в состоянии полностью обеспечить прожиточный минимум брата, ставшего жертвой войны.

Убедительно прошу пересмотреть пенсионное дело тов. Михневича Вячеслава Игнатьевича и найти возможность увеличить ему пенсию.

С глубоким уважением

11.09.1974 г. Сергей Граховский

Член Союза писателей СССР.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 2, спр. 476, л. 2)*

Многоуважаемый Александр Алексеевич!*

Очень сожалею, что так поздно узнал Ваш адрес и не смог, работая над книгой о В. З. Корже, обратиться к вам за помощью, консультацией и советом.

Книга моя «Сеятель добра и гнева» издана в прошлом году Издательством политической литературы в серии «Герои Советской Родины».

Собирая материалы, мне удалось познакомиться с незавершённой рукописью Василия Захаровича. На страницах 308—312 я прочёл подробное описание перехода 10-го казачьего полка на сторону партизан, к подготовке которого вы, уважаемый Александр Алексеевич, имели непосредственное отношение.

Василий Захарович об этом записал следующее: «В январе 1943 года в Лунинец прибыл 10 казачий полк, состоявший из военнопленных. Дивизион расквартировали в д. Дятловичи. Там старостой был партизанский разведчик Александр Бушило. Он свободно говорил по-немецки, и фашисты его считали верным слугой. Бушило пришёл на связь с комиссаром отряда «За Родину» Александром Алексеевичем Свитцовым и предложил ему встретиться с командиром дивизиона Чернышковым, бывшим майором Красной Армии.

Далее излагаются подробности, как вам и начальнику штаба т. Каштанову удалось склонить казаков к переходу в партизанскую зону. Об этом я рассказал на стр.106—107 книги.

А совсем недавно политиздат переслал мне письмо майора запаса тов. Балахонова, адресованное в «Литературную газету». Автор письма, оказывается, обнаружил в моей книге «досадный огрех». Он утверждает, что переход казачьего дивизиона относится к декабрю 1942 года, а не к январю 1943 г. Корж называет точную дату — 16 января 1943 г. Далее тов. Балахонов, ссылаясь на личную беседу с Вами в 1963 г., утверждает, что А. А. Свитцов в декабре 1942 г. был не комиссаром отряда «За Родину», а разведчиком отряда им. Кирова. Далее тов. Балахонов уточняет, что «есаул Чернышков был командиром сотни, а не части, а Орлов являлся хорунжим».

Вот те огрехи, которыми я погрешил против истины и которые так возмутили С. Н. Балахонова. Он даже взял под сомнение мою авторскую совесть, как будто я из каких-то личных побуждений передвинул во времени события и самовольно разведчика Свитцова произвёл в командиры, а есаула Чернышкова в майоры.

Не думаю, что обработка казачьего полка ограничилась одним днём или даже неделей. Очевидно, более длительное время, чтобы склонить полк на сторону партизан. Нужны были осмотрительность и такт.

Видимо, не столь важно, как к тому времени именовалась должность тов. Свитцова и т. Каштанова, выполнивших столь важное задание. Тов. Балахонов эти огрехи считает страшным криминалом, пишет в «Литературную газету», редакция переслала его письмо Политиздату, а издательство — мне.

Прежде, чем ответить, убедительно прошу вкратце осветить переход казаков на сторону партизан, восстановить даты, вашу должность в то время, звание Чернышкова и наименование его подразделения.

Учитывая нетерпеливость автора письма, прошу ускорить ответ мне. Ваши замечания и уточнения учту при переиздании книги и буду премного Вам благодарен за внимание. С глубоким уважением.

16/XI — 76 г. С. Граховский

*А. А. Свитцов — партизан из отряда В. З. Коржа.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 2, спр. 407, л. 1,2)*

Загадчыку аддзела культуры ЦК КПБ
Таварышу ПЕТРАШКЕВІЧУ А. Л.

Паважаны Аляксандр Лявонцьевіч!

Прабачце, што другі раз турбую Вас па адной і той жа справе. 19.VII.1977 года я звяртаўся да Вас з просьбаю ўмяшацца ў выратаванне манументальнага будынка былога касцёла ў м. Свір Мядзельскага раёна.

Копія гэтага пісьма ў мяне захавалася, і каб Вам не шукаць арыгінал, прыкладаю яе.

Работнік аддзела культуры (прозвішча яго па тэлефоне не расслухаў) падзякаваў мне за сігнал і паведаміў, што Мядзельскім РК КПБ і Міністэрствам культуры БССР прыняты захады па захаванню, прыдатнага дзеля любой установы культуры, будынка былога касцёла.

Я пацікавіўся, як гэтыя захады ажыццяўляюцца на месцы. Ліст са Свіры мяне вельмі засмуціў. Да гэтага часу мясцовыя ўлады нічога не зрабілі, каб спыніць разгром і рабаўніцтва будынка (ліст тав. Дзешука ад 12.10. гг. прыкладаю).

Няма патрэбы даводзіць, якую каштоўнасць для нашай гісторыі і культуры маюць узоры старажытнага дойлідства, нарэшце, як разумна іх можна скарыстаць для развіцця сацыялістычнай культуры.

Вельмі прашу Вас зацікавіцца лёсам будынка былога свірскага касцёла і зрабіць усё магчымае дзеля яго выратавання.

З глыбокай павагаю

Сяргей Грахоўскі І9/Х—77 г.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 2, спр. 478, л. 3)*

Уважаемый Григорий Самойлович!*

Получил Ваше запальчиво-категоричное письмо, напоминающее скорее дипломатическую ноту, и удивился и тону, и безапелляционности суждений, а запальчивость — плохой союзник в любом деле.

На титульном листе значится: «авторизованный перевод». Но Вы то прекрасно знаете, что никакой авторизации не было. С переводами я ознакомился, когда рукопись уже была сдана в производство. А мы же условливались, что будете мне присылать переводы на авторизацию по мере их завершения. Фактически я был отстранён от авторизации. То ли Вы считали меня беспомощным что-то дельное посоветовать, то ли свои переводы — безупречными.

Вы как хотели, так и перекраивали состав рукописи, заявив издательству, что уже «отравились» ею. Хорошенькая аттестация автору! И уже не говорю о сокращении объема.

Из опыта знаю, как уважительно и тщательно работают переводчики с авторами. Всегда со вниманием принимали мои замечания Хелемский, Шкляревский, Сидоренко, Пагирев, Комиссарова, Рывина и др. А Вы почему-то свои переводы канонизировали с первого варианта. Мои самые осторожные правки считаете компрометирующими переводчика, забывая, что автор всегда стремится и в праве приблизить перевод к своему стилю и своей манере. Напомню Вам слова Вольтера: «Когда хотят переводить, надо выбрать автора, как выбирают друга, чтобы его вкус соответствовал вашему».

Чтобы убедить Вас в правомерности моих незначительных уточнений (а я их только предлагаю), потребуется целый трактат. Да вряд ли и он убедит всегда убеждённого в своей безупречности. Но согласитесь — «Вольность» и «солнце» не рифмуются даже у Вознесенского. Стихотворение «Мы выросли на хлебе и мякине» в переводе Я. Хелемского напечатано в четырёхтомной антологии «60 лет советской поэзии» и я, естественно, его никому не предлагал.

Поверьте, Ваш чрезмерно эмоциональный запал вреден для здоровья, для дела и, особенно, для отношений людей, стремящихся к одному — любую работу сделать лучше.

Если «мохнатые шмели» хуже «важных», «набухшие сады» слабее «сонных», а «истощенный пятачок» устраивает более «подзолистой земли» (выходит не земля была истощена, а только пятачок), позвоните в «Огонёк» и «Литгазету» и наложите вето.

Уверен: выйдет книга, и Вам захочется еще что-то поправить.

Согласитесь из-за таких мелочей портить отношения не следовало бы. Но Вам виднее. С почтением!

С. Граховский 3/IV—78 г.

*Г. С. Куренёв — московский переводчик с бел. В его переводах вышел сб. «Зазимок» — 1978 г.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 2, спр. 404, л. 1)*

Уважаемый Василий Евменович!

Софья Захаровна Лынькова передала мне два ваших стихотворения, просила ознакомиться и высказать своё мнение о них. Вы довольно бойко рифмуете, чувствуете ритм, есть свои наблюдения. Но этого мало для поэзии. Подлинная поэзия бывает без рифм и без размеров, но это высокое искусство (Неруда, Хикмет, Межелайтис, Танк), та «добыча радия», о которой говорил Маяковский. О фашисте и бабке-белоруске — своеобразный злободневный раешник, теперь уже не представляющий ни исторического, ни литературного интереса. «Мацеста» — рифмованная реклама Сочинских минеральных источников, ничего общего с поэзией не имеющая. Конечно, по двум пробам пера судить о ваших возможностях трудно. Чувствуются значительные пробелы в общей литературной да и в элементарной культуре и грамотности. Так как миллионы людей увлекаются и преуспевают в художественной самодеятельности, не претендуя быть солистами Большого театра, так и увлекающиеся литературой могут успешно выступать в стенной и многотиражной печати. Прежде всего, Вам следует серьёзно читать лучшие образцы классической и современной поэзии. Уметь читать и чувствовать поэзию — огромная радость и искусство. Желаю Вам успехов.

С приветом С. Граховский. /1977—1984/

*(БДАМЛМ,фонд 201, воп. 3,спр. 222, л. 2)*

Старшыні Вярхоўнага Савета БССР
Таварышу ШАМЯКІНУ ІВАНУ ПЯТРОВІЧУ
Грахоўскага Сяргея Іванавіча
(Мінск, 5. Вул. Чырвоная, д. 22 кв. 133)

Заява.

У Магілёве жыве ўдава пасмяротна рэабілітаванага паэта Юркі Лявоннага — Яўгенія Абрамаўна Гольберг.

Да 1937 года па стане здароўя яна не магла працаваць па спецыяльнасці ў тэатры. Пасля рэабілітацыі ў пасляваенныя гады была рахункаводам на швейнай фабрыцы і выйшла на пенсію без адпаведнага стажу і належнага акладу.

Цяпер яна, зусім адзінокая жанчына, амаль страціўшая зрок, атрымлівае пенсію 50 рублёў на месяц і не можа забяспечыць нават пражытачны мінімум. Прасіць дапамогу сама яна саромеецца.

Даведаўшыся пра яе выключна цяжкае матэрыяльнае становішча, вельмі прашу аказаць грашовую дапамогу ўдаве майго былога таварыша, Яўгеніі Абрамаўне Гольберг (212009, Могилёв, 9, ул. Строителей, № 28-а, кв. 64). Загадзя ўдзячны С. Грахоўскі 28.III.80 г.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 4,спр. 252, л. 1)*

Уважаемый товарищ Плешавеня!

С первых строк статьи «Белорусский Сусанин» стало ясно, что Вы хорошо знакомы с моей книжкой «Сеятель добра и гнева» (Политиздат, 1975 г.) или с её белорусским вариантом «Суровая дабрата» и пользовались ими, работая над статьёй.

Каково же было недоумение, когда Вы изобразили меня одним из «жителей деревни Хоростово», который «поведал такую быль». Кажется, мы с Вами лет 20 не встречались и на хоростовской завалинке не беседовали. Теперь мои

знакомые по дому творчества расспрашивают, не был ли я участником операции в Забродье.

Почему Вы постеснялись сослаться на книжку или хотя бы на её автора, а сочинили мнимого односельчанина Коржа?

Думаю, что это не в лучших традициях и правилах советской журналистики. Чем объясняете Вы такую неуважительность к автору единственной книги о Корже?

Если сочтёте нужным, напишите мне до 25/V: Латвия, Дубулты, дом творчества писателей,

После — Минск, 5, Красная, № 22 кв. 133 Сергею Ивановичу Граховскому.

З найлепшымі пажаданнямі Сяргей Грахоўскі 13/V 82 г. Дубулты

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 3, спр. 218, л. 1)*

Дорогой Владислав! (И всё же неудобно без отчества)*

Вы только не очень удивляйтесь и возмущайтесь, увидев мои правки, замечания и предложения. Посмотрите и убедитесь, что я вовсе не старался испортить переводы.

Смутила меня некоторая торопливость и приблизительность переводов, неуклюжесть отдельных строк и ленивые рифмы (сон — лицо, великий — ошибки, невесомо — сёла), ритмические «клинья» вроде «братка». Потому решил не ограничиваться «птичками» и замечаниями на полях, а предложить свои варианты, посоветовать не искушаться совпадением строчек и рифм, а более свободно и естественно переводить суть настроения так, чтобы в переводе не чувствовался перевод. Вот и уехал в Ислочь и, в силу своих возможностей, пытался что-то улучшить.

Удивил меня и Ваш подбор стихотворений для перевода. Я передал издательству шесть лет тому назад две книги «Асеннія гнёзды» і «Кругі надзеі», Вам — поэму «Балючая памяць» и стихи периода гласности, предоставив право выбора. Вы же почему-то пристрастились к «Заупокойной лирике» прошлых лет памяти Кулешова, Пысина и Пальчевского, «Голоса незабвенных поэтов», «Первый и последний», «Финал загадки», «Сила земли». Всё это писалось в разные годы по разным поводам, особенно сильно было элегическое настроение после моих многих инфарктов. Вместе собранные эти стихи удручают.

Стержнем книжки должны быть поэмы «Ростань на світанні» и «Балючая памяць» (примерно 650 строк), и стихи последних лет.

Надеюсь, Вы меня правильно поняли и не обиделись за попытку улучшить переводы. Всё перепечатать не хватило сил и времени.

Желаю Вам успехов, больше свободы и требовательности. Считаю такое сотрудничество нормальным и жду новых текстов..

Благополучия Вам и счастья!

22/IV—88 г.

*Письмо Владиславу Артёмову — переводчику.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 4, спр. 150, л. 1)*

Уважаемый Владислав Владимирович!

Кажется, в меру своих возможностей, выровнял строфы и строки в первооснове и в переводе, кое - что уточнил. То, где много правок перепечатал и вычитал, оставив себе копии в надежде где-нибудь напечатать до выхода книги.

Дом, который покинул в 1936 не родной, а случайная квартира. Леся с Сергеем были только на «Вы». Ну, и прочие мелочи. Вы не обижайтесь за моё вмешательство в перевод, — хочется, чтобы каждая строка звучала свободно и естественно, ведь я не враг себе и вам, старался, чтобы не было стыдно нам обоим.

Открывать книжку, видимо, следует «19 октября», а «В оцеплении» отнести в раздел «Поэмы», туда же включить и «Нару».

Таковы мои предложения и пожелания. Что скажет редактор? Кажется, поработали мы честно. На публикацию в газете поэмы «В оцеплении» получил множество благодарственных отзывов.

Желаю Вам всяческих успехов, благополучия и счастья.

Ваш Сергей Граховский. 5/Х—88 г. Ислочь

*Письмо адресовано В. В. Артёмову — переводчику с белорусского на русский язык.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 4, спр. 150, л. 2)*

Паважаная Антаніна Сяргееўна!*

Няхай Вас не здзівіць маё пісьмо: усе людзі не вечныя на зямлі, асабліва, калі іх узрост набліжаецца і набліжаецца да пэўнай рысы, а здароўе мала абнадзейвае. Гэта не песімізм, а рэалістычны погляд на рэчы.

У мяне сабралася больш за 500 назваў кніг з аўтографамі такіх аўтараў, як І. Сяльвінскі, М. Дудзін, Я. Смелякоў, Р. Гамзатаў, Я. Ісаеў, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, І. Мележ, і многіх-многіх празаікаў і паэтаў Расіі, Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Балгарыі, Польшчы.

Не хочацца, каб пасля мяне гэтыя кнігі і многія іншыя выданні пайшлі ўраспыл, сталі прадметамі продажу. Таму лічу мэтазгодным завяшчаць Глускай раённай бібліятэцы ўсе мае кнігі з аўтографамі і частку сваёй бібліятэкі ў якасці спецыяльнага фонду.

Сяргей Грахоўскі

[1980-я]

*У Глускую раённую бібліятэку.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 3, спр. 223, л. 1)*

Дарагія сябры, Галя і Мікалай Аляксандравіч!*

Простите, что пишу на машинке, чтобы не утруждать Вас своим деформирующимся почерком.

Часто думаю в Вас и говорю с Бирутой, довольно долго был неразлучен, пока писал очерк о Вас для газеты «Голас Радзімы», готовил его к печати, собирал фотографии. И вот он напечатан в двух номерах газеты с пятью снимками. 22-го газеты послал Вам заказным письмом. Боюсь, дойдёт ли оно. Что творится в нашем почтовом ведомстве, уму непостижимо. К большому прискорбию Ваш прекрасный отзыв о моей «Споведзі» так и не дошёл до комитета. Благо, есть у меня копия, которую я передам.

Писал я очерк после длительных бесед с Бирутой взволнованно и искренне. Заместительница редактора призналась, что даже смахнула слезинки. Ведь судьба нашего поколения — сплошной трагизм и слёзы. Да и теперь у нас всё очень сложно и непредсказуемо. Всё это уже было лет семьдесят назад. Всё возвращается на круги своя, как говорил Толстой.

Здесь в отпуске был наш хороший поэт и мой добрый приятель — представитель Беларуси в ООН, Геннадий Николаевич Буравкин. Я ему кое-что рассказал о Вас, просил позвонить Вам. Обещал. Но не знаю, выполнит ли обещание. Он тоже сетовал, что часто не доходит почта по официальным каналам.

Бирута теперь чаще бывает на даче у своей подруги Гали Владомирской, часто перезваниваемся. Она у Вас оптимистка и прекрасно выглядит, о каждой весточке от Вас сразу же сообщает. Последний раз виделись на похоронах моего ближайшего друга писателя Яна Скрыгана. Для меня это невосполнимая потеря.

Я ещё держусь и креплюсь. Много работаю, часто печатаюсь, выступаю по радио и телевидению, в производстве — новая книжка стихов и двухтомник, но на выход их надежды слабые: на всё цены астрономические, а гонорары копеечные. Но как-то живём. Одна мечта — перезимовать. Куда нас привели партократы, известно всему миру, а нам особенно, куда заведут «демократы» и Всевышний не

знает. «Что день грядущий мне готовит? Его мой взор напрасно ловит», — сказал Пушкин, а нам остаётся повторить.

Но будем оптимистами с верой в будущее. Я о себе уже не думаю. Выдержать бы детям и внукам эксперименты правительственных лаборантов над многомиллионным народом.

Вот беда! Снова залез в политику. Не дай Бог, прежде Вас прочтёт кто-то эти строки и Вы их не увидите. Вот такой я безумец. Если получите «Голас Радзімы», буду рад получить самый объективный и строгий отзыв. Если допустил какие-то неточности, разделю вину с Бирутой, она мой консультант и советчик, рассказчик, чего я не знал.

Желаю Вам, дорогие, самого главного — доброго здоровья, сил, бодрости, вдохновения, счастья Вашим детям, их семьям, всем близким и друзьям. Знайте, что далеко за ревущим океаном Вас помнят, любят и думают о Вас…

Дружески обнимаю. Сергей.

IX—92 г.

*Галя Докальская и Николай Александрович Пашкевич — художники, приятели С. Граховского с 30-х годов. После Отечественной войны жили в Америке. Бирута Докальская — сестра Галины, актриса театра им. Я. Купалы.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 4, спр. 151, л. 1)*

Паважаная Лідзія Іосіфаўна!

Перш за ўсё, віншую Вас і Вашых блізкіх з надышоўшым Новым годам! Жадаю дабра, здароўя, поспехаў ва ўсіх Вашых клопатах і магчымага ў наш час шчасця! Прабачце за затрымку з адказам: хварэў і кансультаваўся з вопытным юрыстам. Каб атрымаць грашовую кампенсацыю за ўсе гады зняволення, Вы павінны звярнуцца заяваю і далучыць копію даведкі аб рэабілітацыі ў аблсабес, дзе былі рэпрэсіраваны.

Маеце права на кампенсацыю кошту канфіскаванай бацькавай гаспадаркі ў тым раёне, дзе жылі. Трэба пералічыць усё забранае, калі не знойдзецца акта аб канфіскацыі, назавіце сведак /калі яны там ёсць/. Дакладна назавіце месца, дзе жылі і ўсе дадзеныя бацькі (прозвішча, імя, імя па бацьку, год нар.).

Па існуючым законе Беларусі, рэабілітаваныя маюць права на льготы пры атрыманні жылля або кааператыўнай забудовы.

Учора я раіўся з Сакратаром камісіі па справах рэабілітаваных Мінскага гарсавета і ён згодзен пазнаёміцца з Вашымі клопатамі і ў межах магчымага дапамагчы Вам. Кароткую заяву з просьбай аб пераездзе напішыце на імя Старшыні Вярхоўнага Савета і інфармацыяй, якія кампенсацыі атрымалі і павінны атрымаць, і прышліце на адрас:

РБ, 220050, Минск, пр. Скарыны, Исполком Минского Горсовета, Секретарю Комиссии по делам репрессированных (комн.108) Владимиру Степановичу Сташкевичу. Ён Вам дасць падрабязную параду, да Вашай заявы Вярхоўнаму Савету я далучу сваю просьбу і будзем спрабаваць неяк вам дапамагчы. Жадаю Вам поспехаў і шчасця.

З глыбокай павагай. С. Грахоўскі

23.12.93 г.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 3, спр. 222, л. 6)*

С. Северное, Новосибирской обл.
Библиотека, ГРАМАТИНОЙ В. Г.

Уважаемая Валентина Георгиевна!

Немного удивило Ваше неожиданное письмо и в какой-то мере порадовало, что почти через сорок лет ещё помнят меня в бывшем моём «узилище» Северного района. Удивила Ваша осведомлённость о количестве изданных мною книг. Вот

только что вышел мой третий по счёту двухтомник на белорусском языке — том поэзии и том прозы. В нём повести «Зона молчания» и «Такие синие снега» о моём биазинско-северном прозябании с 1949 по 1956 год.

Повезло, что в самую «перестройку» успела выскочить в «Советском писателе» уже на скверной бумаге и урезанным тиражом моя «Зона молчания». В прежние годы в издательствах Москвы и Ленинграда у меня вышло более десяти книг поэзии и прозы.

Основные факты автобиографии в моих повестях. Посылаю Вам последние экземпляры из множества в своё время закупленных, раздаренных и разосланных любителям автографов. «Синие снега» — почти документальная вещь. Изменено только несколько фамилий с негативными оттенками.

Среди ссыльных в Северном жены Артёма Весёлого не было, но был сын знаменитого Саввы Морозова, дочь Христиана Раковского — Елена Христиановна, была она вдовой в своё время популярного поэта Иосифа Уткина, была племянница Мартова — Виктория Сергеевна Кранихфельд, множество прекрасных, честных, умных и образованных людей. Фамилии многих встретите в моей книге.

Почти все свои книги на русском языке посылал биазинской библиотеке. Не знаю, сохранились ли они.

Не взирая на почтенный возраст и целый «том» болезней, я ещё активно работаю в литературе. Из опыта знаю, что северяне не очень любят эпистолярное творчество, но надеюсь, что Вы-то напишите.

В Северном и Биазе я был в последний раз летом 1972 года, возвращаясь после шумных Дней литературы на Алтае. В деревне Весёлое (возле Биазы) похоронен отец моей жены. Так что эта земля дорога нам.

С удовольствием вспоминаю прекрасную сибирскую природу и многих-многих биазинцев, которые очень скоро поняли, что из себя представляют «враги народа» и стали нашими искренними друзьями. Меня тронуло до слёз, когда в феврале 1956 года провожать меня пришла почти вся школа.

Желаю Вам, северянам и биазинцам добра, благополучия и счастья в Новом году и на многие-многие годы.

С глубоким уважением. 16/12/94 г.

Беларусь, 220005, Минск, 5, Красная, 22, кв. 133, С. И. Граховскому

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 4, спр. 150, л. 50)*

Старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
па забеспячэнні правоў ахвяраў палітычных рэпрэсій 20—50 гадоў,
народнаму дэпутату РБ В. А. ПІСКАРОВУ.

Паважаны Віктар Аляксеевіч!

З Вярхоўнага Савета мне пераслалі ліст грамадзяніна з г. Вілейка Рысіка Мікалая Андрэевіча, памылкова звернуты да мяне, з просьбаю паскорыць у Ваеннай пракуратуры рэспублікі разгляд яго хадайніцтва аб рэабілітацыі, як беспадстаўна пакаранага несудовымі органамі ў 1937 годзе.

Скарга яго і просьба аб рэабілітацыі з 1992 года перададзена для разгляду Мінскай абласной пракуратурай у Ваенную.

Да гэтага часу М. А. Рысік на ўсе звароты не атрымаў ніводнага адказу. За два гады справа не зрушылася.

Вельмі прашу Вас пасадзейнічаць у хутчэйшым разглядзе хадайніцтва старога былога вязня і адказаць яму аб выніках прынятых захадаў на адрас: г. Вілейка, Мінскай вобл., вул Чапаева, № 74, кв. 69 Рысіку Мікалаю Андрэевічу і, па магчымасці, інфармаваць мяне аб прынятых заходах.

Са спадзяваннем і глыбокай пашанай.

Сяргей Грахоўскі, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. 31.I.94 г.

*(БДАМЛМ, фонд 201, воп. 4, спр. 255, л. 1)*

Дорогие и милые Пашкевичи — Докальские, славные Галина и Николай!

Эпитеты можно множить и множить до конца страницы. Прежде всего великодушно простите за машинописный текст, ибо не смею утруждать Ваши добрые и усталые глаза своими каракулями.

На днях получил Вашу бандероль, согретую щедрыми сердцами. Тронут и благодарен за внимание и заботу, особенно Маша рада подарку. Но смею и пожурить за лишние хлопоты и траты; только почтовые расходы по нашим меркам умопомрачительны. Так что, пожалуйста, не разоряйтесь впредь. Конечно, приятно чувствовать внимание дорогих друзей в таком далеке, но удручает бессилие отблагодарить достойным подарком.

Немного раньше одну за другой получил бандероли для Бируты и сразу же вручил ёй. Она и теперь изредка звонит, справляется, нет ли вестей от Вас. Ужасно переживает за все катаклизмы в Калифорнии. Но меня радует и утешает её оптимизм, общительность, весёлость и множество добрых друзей. Она никогда ни на что не жалуется — типичный страстотерпец в нашем умопомрачительном бедламе…

Я — пессимист от рождения: мой бутерброд всегда падает маслом на пол, а масло — предмет роскоши. Моя Валентина в сентябре перенесла неглубокий инсульт. Выкорабкивается, но ещё хромает, удручена и раздражительна, ибо по моей безалаберности хватает бытовых невзгод. Положение для большинства честных людей трудное, сложное и скудное. Но как-то живём. Радуют солнце, небо, дождь и ветер в нашу бесснежную зиму. Вся зима была гнилая осень, а теперь по-весеннему тепло.

В этом году вышел из печати мой очередной двухтомник (стихи и проза). Даже при невероятно диком пренебрежении к родному языку элиты, тираж почти разошёлся. Приятно, что люди читают, приглашают на встречи. Радио и телевидение теперь приглашает только аллилуйщиков, а я к ним не принадлежу. И ранее самого «радиоактивного», слава Богу, почти не беспокоят.

В двух издательствах запланированы мои три небольшие книжечки — лирика, стихи для детей и «Зона молчания». Увижу ли их, не знаю; сердце и нервы сдают соответственно «благосостоянию».

Вот болтаю, чтобы не сразу ошарашить, но вынужден опечалить. 18 февраля не стало Заира Азгура. В последнее время он тяжело болел и, к сожалению, покинул этот бренный мир. Похороны были многолюдные и «многоцветные». На панихиде (гражданской) пришлось что-то говорить и мне. Была Бирута, несла венок, утирала слёзы. Так прежние добрые друзья уходят и уходят. Чувствую себя совсем одиноким. У молодых свои дела и заботы и старики их не интересуют.

Вот видите, какое печальное получилось письмо. Виноват, что не придерживаюсь есенинского завета: «В бурю, в грозы, в житейскую стынь, при тяжёлых утратах, и когда тебе грустно, казаться улыбчивым и простым — самое высшее в мире искусство». А я не умею. Таков всю долгую и наитруднейшую жизнь.

Ну хватит утомлять Вас суесловием. Хотелось бы знать, как устроились Вы на новом месте, довольны ли, обзавелись ли друзьями. Как милейшая Алия и её очаровательный доктор? Низкий поклон им и пожелание добра, успехов, счастья. Все мои шлют Вам благодарность и самые сердечные пожелания — здоровья, добра, сил и полного благополучия.

Да бережёт Вас Бог ото всех стихий, напастей и бед!

Март, 1995 г.

220005, Минск, 5, Красная, 22, кв. 133.

(*БДАМЛМ, фонд 201, воп. 4, спр. 151, л. 2)*

Шаноўная Тамара Аляксандраўна!

Заўсёды рады дапамагчы ў Вашай пачэснай працы. Вы пытаецеся пра культурнае жыццё ў Глуску ў 20-я гады. Далёкі ад гарадоў палескі Глуск на маёй памяці ў той час быў прыкметным культурным асяродкам. Я мог бы расказаць шмат цікавага пра той час, але гэта не для сур'ёзнай гісторыі.

Славуты і ўсімі паважаны фельчар, сівабароды Нохім (прозвішча не памятаю). Жыў ён побач з цяперашняй аптэкай, узначальваў добраахвотную пажарную дружыну, часта наладжваў «парады» (дзве помпы, чатыры бочкі і адна блішчастая каска). Кожны год у Нардоме, дзе цяпер парк, арганізоўваў найцікавейшыя балі-маскарады, з танцамі і прызамі.

У тую пару нават усе вёскі захапляліся тэатральнай самадзейнасцю. У Глуску студэнты ў часе канікул, а пасля вучні-падросткі разам з настаўнікамі (З. С. Карчан, Р. І. Курбыка) ставілі цікавыя спектаклі. Асаблівай папулярнасцю карысталася п'еса Васіля Гарбацэвіча «Чырвоныя кветкі Беларусі» пра дукорскіх партызан.

Таленавітым і нястомным арганізатарам і выканаўцам быў Уладзімір Піліпавіч Караткевіч (імя яго бацькі носіць адна з глускіх вуліц). У 1928 годзе Глуск здзівіў сваімі спектаклямі вандроўны тэатр Галубка. Уладзіслаў Іосіфавіч заўважыў Валодзю Караткевіча і ўзяў у сваю трупу. Пасля вайны Караткевіч стаў палкоўнікам і працаваў у Маскоўскім Доме афіцэраў.

З сям'і майго дзядзькі, каваля 1вана Бобрыка выйшаў паэт Янка, славуты хірург Мікалай і ўрач Марыя. Усе яны былі актыўнейшымі «артыстамі» ў глускай самадзейнасці. Марыя пасля медінстытута ўсё жыццё прапрацавала доктарам у Старобіне, у часе вайны была ўрачом у партызанскім злучэнні В. З. Каржа. Мела шмат узнагарод і званняў.

У галодныя 20-я гады ў Глуск прыехала шмат з розных гарадоў высокаадукаванай інтэлігенцыі: выдатны мастак Лебедзеў, лацініст У. М. Лукашэвіч, Срэценскі, Аляксандр Восіпавіч Белы, жанаты на глушчанцы Марфе Феафілаўне Грудзінскай (цётцы, напэўна Вам знаёмага, Міхаіла Войткі). Прыкладна ў 1928 годзе ў Глуску ў іх нарадзілася дачка Зоя. Белы выкладаў у нас спевы і арганізаваў выдатны хор. Калі палепшала жыццё, яны выехалі ў Маскву. Белы быў салістам у хоры Свешнікава, Зоя вучылася вакалу і стала вядучай выканаўцай, заслужанай артысткай РСФСР Маскоўскага тэатра аперэты. Два гады таму яе не стала ад інфаркту. Некалькі разоў цэнтральнае тэлебачанне паказвала фільмы пра яе артыстычную дзейнасць з удзелам Шмыгі, Хрэннікава і іншых вядомых артыстаў. Сын яе Саша — артыст Малога тэатра ў Маскве.

Ну, а цяпер колькі слоў пра незабыўную Фроню Брэус. У сям'і нястомнага працаўніка на зямлі Грышы Брэуса было чатыры дачкі — Таня,Фроня, Ніна і А… Усе яны сталі ўрачамі з дапамогаю родзіча, вядомага ўрача Данілы Бандарэнкі.

З Фроняй мы вучыліся з першага класса. Яна захаплялася тэатрам, паэзіяй, роднай мовай, амаль усе паэмы Купалы ведала на памяць, але стала выдатным урачом. З першых дзён яна апынулася ў Франтавой медыцынскай службе. Разам з ёю служыў яе муж Федзя (прозвішча выскачыла). Яны дайшлі да Берліна, і Фроня на сцяне рэйхстага распісалася: «Доктар з Глуска. Брэус». У Кёнігсбергу ў канцы вайны раптоўна памёр яе муж. Яна дамаглася перавезці прах самалётам у Мінск і пахаваць на роднай зямлі. Да канца дзён яна заставалася адна. Узначаліла псіханеўралагічны дыспансер, з вялікімі намаганнямі пабудавала сапраўдную клініку на вул. Бехцерава і была яе галоўным урачом.

Член многіх грамадскіх і ветэранскіх арганізацый прадстаўляла Беларусь амаль ва ўсіх краінах свету. Памерла яна 5 снежня 1983 года. Бязлітасны лёс адну за адною забраў чатырох сясцёр Брэусаў назаўсёды.

Я знайшоў пляменніцу Ефрасінні Рыгораўны, дачку доктара Данілы Бандарэнкі, які мае права быць адзначаны ў «Памяці». Яго дачка, пляменніца Фроні, асноўныя матэрыялы і ўзнагароды Е. Р. перадала Музею Айчыннай вайны, але

фатаграфіі і іншыя матэрыялы абяцала Вам прысладць. У часопісе «Работніца і сялянка» быў вялікі нарыс пра Е. Р. Брэус, я яго адшукаў і прышлю Вам.

Пра Мікалая Іванавіча Бобрыка ўсё патрэбнае даведаецеся з некралога, копію якога пасылаю. Яго дачка абяцала даць здымак. Казала, што гадоў 10 таму па просьбе з Глуска адправіла матэрыялы пра бацьку для музея. Ці не аселі яны ў Ю. Ф. Былінскага?

Памяці Фроні Брэус я прысвяціў верш. Для «Памяці» ён, відаць, не спатрэбіцца, а вам пасылаю. Ён надрукаваны ў маёй кніжцы «Верую» і ў I томе апошняга выдання, стар. 162.

А цяпер — некаторыя патрэбныя Вам адрасы: (…)

Вось, бадай, і ўсё, што змог зрабіць. Поспехаў Вам і ўдач.

З глыбокай пашанаю Сяргей Грахоўскі [1995 г.]

Шаноўная Таццяна Анатольеўна!

Рады, што ў вашай асобе ёсць руплівец пра аднаўленне Рудабельскага музея. Даведаўшыся, што распачалося аднаўленне экспазіцыі ў новым памяшканні, я звярнуўся 5-га мая да Старшыні Акцябрскага выканкома з парадаю, дзе можна атрымаць копіі матэрыялаў па аповесці «Рудабельская рэспубліка», фатаграфіі ўдзельнікаў вызвалення Рудабелкі, перапіску з многімі з іх, мае звароты ў ЦК КПБ і іншыя арганізацыі аб аднаўленні раёна, забеспячэнні яго ўсім неабходным, аднаўленні бальніцы і пякарні, будаўніцтве пасёлка і музея. Усё гэта захоўваецца ў Архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі (вул. Кірылы і Мяфодзія № 4, насупроць Сабора), у маіх фондах № 201, вопісы 1 і 2,

Думаю, Вам будзе не лішнім ведаць, калі і як я далучыўся да Рудабелкі. У ліпені 1935 года ўрачыста адзначалася ў рэспубліцы 15 гадавіна вызвалення Беларусі ад белапалякаў. Я тады працаваў на Беларускім радыё і вёў перадачу з Рудабелкі (гэта быў сельсавет Глускага раёна).

Праз 30 гадоў, у I965 годзе, радыё папрасіла мяне расказаць пра сённяшні дзень славутага партызанскага краю — Рудабелку, ужо Светлагорскага раёна. Я туды прыляцеў разам з журналісткай Алесяй Шлег (на вялікі жаль, ужо нябожчыцай). Уразіла мяне запусценне і закінутасць пасёлка. Старшыня сельсавета Вольга Яраш толькі разводзіла рукамі. Адзіная мара ўсіх рудабельцаў было аднаўленне зліквідаванага Акцябрскага раёна. Гэта стала і маім галоўным клопатам. Пры падтрымцы сакратароў ЦК Пілатовіча і Прытыцкага раён быў адноўлены. Глядзіце пісьмы : фонд 201, вопіс 1, № 48, у Белкаапсаюз № 56. Пасля аднаўлення раёна былы сакратар ЦК А.Т. Кузьмін разам са мною наведаў Акцябрскі, запісаў усё, што трэба зрабіць дзеля яго аднаўлення.

Я распачаў збор матэрыялаў у архівах, шукаў удзельнікаў і сведак, адшукаў у Бярэзінскім раёне пас. Чырвоная Зорка сястру Салаўя Марыю і здымкі яе славутага брата (раней іх нідзе не было). Пачаў работу над аповесцю «Рудабельская рэспубліка». Яна тройчы выдавалася ў Беларусі, у Маскоўскіх выдавецтвах «Советский писатель» і «Воениздат» тыражом 130 тысяч.

У тэатры імя Купалы тры гады ішоў спектакль «Рудабельская рэспубліка», і спектакль у Гомельскім абласным тэатры. Кінафільм рэжысёра Калініна выйшаў на саюзны экран і ўсесаюзнае тэлебачанне, ішла радыёпастаноўка «Рудабельская рэспубліка». Тут не столькі мая заслуга, колькі значнасць гістарычнага матэрыялу. Не палічыце гэта пахвальбой, а дапамогай у асвятленні вытокаў з’яўлення «Рудабельскай рэспублікі».

5-га мая гг. я напісаў ліст старшыні райвыканкома з парадаю звярнуцца ў Музей-архіў хоць бы па здымкі ўдзельнікаў і паслаў дзве плёнкі са здымкамі Салаўя асобна і ў групе. 13/VI атрымаў ліст Г. М. Дзегцярова з падзякай за ўвагу. У канцы чэрвеня мне пазваніў А. І. Маханька і паведаміў, што 2-га ліпеня будзе ў Мінску і ўручыць мне пасведчанне «Ганаровага грамадзяніна Акцябрскага». Я падзякаваў, сказаў, што ўжо маю такое пасведчанне Глускага райвыканкома,

а 2-го ліпеня я з ім сустрэцца не змагу, бо кладуся ў клініку. На гэтым наша сувязь спынілася.

Цікавіўся ў работнікаў архіва і прасіў дапамагчы рудабельскім работнікам музея, але мне адказалі, што да іх ніхто не звяртаўся.

Што магу Вам параіць? Усё ж звязацца з архівам-музеем. У фондзе 201, вопіс 1 за 1974 год за нумарамі 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 знойдзеце рукапіс аповесці, архіўныя матэрыялы да яе № 10, 11, 12, лісты ўдзельнікаў Рудабелкі. За № 59 і 60 — успаміны Караля і М. Драпезы. За № 50, 51, 52, 53, 54 — цікавыя лісты Равінскай, Серабракова і інш, за № 494 — здымкі герояў аповесці. Шкада, што на мае прапановы не адказалі ні Дзегцяроў, ні Маханько. Не ведаю, ці атрымалі яны фотаплёнкі.

На вялікі жаль, у мяне засталіся кнігі толькі па аднаму экзэмпляру і пакуль што аддаць іх не магу. Захавалася першая публікацыя пачатку аповесці ў часопісе «Маладосць» № 10 з партрэтамі герояў твора, карэктура верша «Галасы на Палессі», змешчанага ў другім томе маіх твораў за 1983 год. Калі зацікавіць мой здымак тае пары, змагу прыслаць. У Глуску я бываў кожны год і сёлета ў верасні быў на дажынках блізка ад Акцябрскага.

Жадаю Вам удач, поспехаў і шчасця. З Новым годам Вас!

7/XII—97 С. Грахоўскі.

Паважаны Старшыня Акцябрскага выканаўчага камітэта!

Даруйце, што звяртаюся так афіцыйна, бо не ведаю вашага прозвішча, імя і імя па бацьку.

Наважыўся вас патурбаваць аўтар аповесці «Рудабельская рэспубліка», па якой быў пастаўлены мастацкі кінафільм, спектаклі ў Акадэмічным імя Я. Купалы і Гомельскім абласным тэатрах. Кніга вытрымала больш за дзесяць публікацый у перыёдыцы, кнігамі на беларускай і рускай мовах у маскоўскіх выдавецтвах. У 1935 годзе я вёў радыёперадачу з Рудабелкі, прысвечаную вызваленню Беларусі ад белапалякаў.

У 1965 годзе наведаў развалены Акцябрскі сельсавет Светлагорскага раёна. Адзіным клопатам насельніцтва было аднаўленне раёна. Маімі намаганнямі Урадам раён быў адноўлены і звернута ўвага на паляпшэнне матэрыяльнага і маральнага дабрабыту насельніцтва.

Пры рабоце над кнігаю мною выяўлена мноства матэрыялаў, дакументаў, успамінаў і фатаграфій удзельнікаў і арганізатараў барацьбы з акупантамі ў 1917—1920 гадах, у Бярэзінскім раёне знойдзена сястра Салаўя — Марыя Андрэева. З маім удзелам стварыўся ў Рудабелцы музей. З вялікім жалем даведаўся, што музей згарэў, а днямі даведаўся ад былой партызанкі М. Марціновіч, што ў раёне мяркуецца аднаўленне музея. Пры рабоце над кнігаю я сабраў вялізны матэрыял пра станаўленне савецкай улады на Рудабельшчыне — дакументы, фатаграфіі, успаміны, пісьмы. Копіі іх і рукапіс кнігі экспанаваліся ў музеі. Арыгіналы я здаў у Архіў-музей літаратуры і мастацтва, усяго 61 справу. Гэта сотні старонак. Калі яны вас зацікавяць, звярніцеся да дырэктара музея Ганны Вячаславаўны Запартыка па адрасе: 220030, Мінск, вул. Кірыла і Мефодзія, № 4. Фонд 201, вопіс № 1, 1918, 1961, 1972 г. У мяне захавалася першая публікацыя ў часопісе «Маладосць» № 10 — 1976 г. і фотаплёнка групавога здымка, на якім ёсць А. Салавей.

З пажаданнем вялікіх поспехаў ва ўсім.

5 мая 1997 г. Сяргей Грахоўскі

***Уступ і публікацыя дачкі пісьменніка***
***Таццяны ГРАХОЎСКАЙ.***

**Аляксандр МАРОЗАЎ**

# АДРАСАВАНА СТУДЭНТАМ І НЕ ТОЛЬКІ...

***В. П. РАГОЙША, М. П. КЕНЬКА, Т. А. МАРОЗАВА. Уводзіны ў літаратуразнаўства. Пад рэдакцыяй В. П. Рагойшы.*** *— У 2-х частках. Серыя «Класічнае ўніверсітэцкае выданне» Мн., БДУ, 2010, 2012.*

Прадмет «Уводзіны ў літаратуразнаўства» з'яўляецца абавязковым пры падрыхтоўцы студэнтаў-філолагаў на першым курсе ўніверсітэтаў у адпаведнасці з зацверджанымі Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь «Адукацыйнымі стандартамі». Забеспячэнне дысцыпліны неабходнымі вучэбнымі дапаможнікамі, якія б адпавядалі патрабаванням сучаснай навукі, — важнейшая задача выкладчыка-прадметніка. Зразумела, падрыхтоўка новага дапаможніка — праца складаная і адказная, і таму выхад у свет кожнага новага падручніка з'яўляецца сапраўднай падзеяй.

Патрэба ў новым дапаможніку па «Уводзінах у літаратуразнаўства» наспявала даўно. Студэнты-першакурснікі дагэтуль карысталіся дапаможнікам на беларускай мове М. Лазарука і А. Ленсу, які атрымаў некалькі выданняў і, зразумела, патрабаваў крытычнага стаўлення да многіх тэм (другое і апошняе выданне было здзейснена ў 1982 г.). Выкладчыкі вымушаны былі звяртацца да вучэбных дапаможнікаў па ўводзінах у літаратуразнаўства нашых суседзяў, найперш расійскіх і ўкраінскіх вучоных, чые тэарэтычныя напрацоўкі заклалі трывалы падмурак сучаснага разумення многіх літаратуразнаўчых паняццяў.

Перад аўтарамі «Уводзінаў у літаратуразнаўства» стаяла складаная задача: змясціць у межах дзвюх адносна невялікіх па аб'ёме кнігах неабходны літаратуразнаўчы матэрыял, аздобіць яго прыкладамі з розных літаратур свету і пры гэтым з вялізнага пласта інфармацыі вылучыць самае вартаснае. Гэта ім паспяхова ўдалося: нездарма кнігі выйшлі ў ганаровай серыі «Класічнае ўніверсітэцкае выданне», прысвечанай 90-годдзю БДУ.

Новы вучэбны дапаможнік валодае шэрагам вартасцей. Найперш звяртае ўвагу прадстаўлены матэрыял. Ён выкладзены даступнай мовай; складаныя пытанні раскладзены «па паліцах», што сведчыць пра ўдумлівае іх пераасэнсаванне аўтарамі выдання; азначэнні пададзены коратка, а гэта робіць іх разуменне і запамінанне больш простым.

Усё скіравана на тое, каб студэнты маглі, абапіраючыся на раней засвоены матэрыял, удакладніць і пераасэнсаваць асобныя літаратуразнаўчыя палажэнні і катэгорыі. Пры гэтым некаторыя паняцці падаюцца ў новай інтэпрэтацыі ў адпаведнасці з дасягненнямі сучаснай навукі пра мастацкую літаратуру. Напрыклад, дыфузія жанраў; байка як від ліра-драма-эпасу, а не ліра-эпасу, як гэта было пазначана раней; ідэйнасць, народнасць — паняцці, што атрымалі новае гучанне, а не сышлі з карыстання пасля скасавання дамінуючай ролі марксісцкага і сацрэалістычнага метадаў у літаратуры.

Змешчаны звесткі пра ўвесь спектр галоўных і дапаможных літаратуразнаўчых дысцыплін (гісторыю літаратуры, тэорыю літаратуры, літаратурную крытыку; тэксталогію, гістарыяграфію, архівазнаўства і інш.). Зразумела, акцэнт зроблены найперш на галіну тэорыі літаратуры як найбольш цесна звязаную з мастацкім творам і яго аналізам. Аднак і дапаможныя, і астатнія галоўныя галіны пададзены хоць і сцісла, але дакладна, зразумела і вычарпальна.

У дапаможніку ёсць неабходныя тыпавыя палажэнні па дысцыпліне, аднак ён не імкнецца набыць жорсткі імператыўны характар: агульнавядома, што некаторыя літаратуразнаўчыя тэрміны не толькі змяняюцца з часам (напрыклад, мадрыгал у антычнай літаратуры і ў XIX ст.), але і валодаюць адметнай неадназначнасцю ў розных навуковых школах. У сувязі з гэтым аўтары спрабуюць даць усебаковае ўяўленне аб той або іншай праблеме, паказаць розныя пункты гледжання на аб’ект разгляду.

Выданне найперш арыентавана на авалоданне студэнтамі асноўнымі прынцыпамі аналізу літаратурнага твора, што спатрэбіцца ім як на працягу ўсяго навучання на філалагічным факультэце (пры падрыхтоўцы курсавых і дыпломных работ), так і ў далейшай педагагічнай, навуковай, рэдактарскай і літаратурнакрытычнай дзейнасці. У гэтым плане вылучаюцца раздзелы, якія непасрэдна звязаны з аналізам літаратурна-мастацкага твора (раздзелы 3.3. часткі 1 «Літаратурны твор як мастацкае цэлае. Змест і форма» і 1.1—1.6 часткі 2 «Змест твора і яго кампаненты», «Вобразны свет твора», «Спосабы характарыстыкі і сродкі стварэння тыповага вобраза-персанажа», «Форма мастацкага твора і яе кампаненты», «Асновы вершазнаўства», «Стыль мастацкага твора»), у якіх змешчаны не толькі тэарэтычныя палажэнні, але і рэкамендацыі па тым, на што неабходна звяртаць увагу пры выяўленні ў творы той або іншай літаратуразнаўчай катэгорыі.

Звяртае на сябе ўвагу раздзел пра мастацкі пераклад. У большай ступені ён мае азнаямляльны характар: тут пададзены звесткі пра гісторыю перакладчыцкай справы, раскрыта сутнасць і асаблівасці працы перакладчыка. Аднак само з’яўленне ў дапаможніку такой структурнай часткі лагічна завяршае раздзел па тэорыі літаратурнага працэсу. Дагэтуль у падручніках па літаратуразнаўстве такі раздзел не прысутнічаў, што прымушала студэнтаў шукаць неабходную інфармацыю ў даведачных выданнях.

Вытрымліваючы статус выдання, дапаможнік уключае такі структурны кампанент, як пытанні і заданні для самаправеркі, значэнне якога зразумелае. І тым не менш, пры больш уважлівым прачытанні, можна заўважыць, што аўтары паклапаціліся аб тым, каб пазбегнуць фармальнасці пры праверцы ведаў студэнтаў, а накіраваць іх на самастойны пошук, на творчае пераасэнсаванне засвоенага. На нашу думку, такі падыход можа быць выкарыстаны ў якасці ўзору і пры падрыхтоўцы пытанняў для самаправеркі па іншых дысцыплінах.

Што датычыць заўваг, то яны маюць хутчэй канстатацыйны, чым прынцыповы характар. Так, у ч. 1 дапаможніка раздзелы 1.2 «З гісторыі літаратуразнаўства» і 1.3 «Метадалагічныя праблемы літаратуразнаўства» месцамі распавядаюць аб адным і тым жа, хоць і не дубліруюць матэрыял слова ў слова. У ч. 2 раздзел 1.5 «Асновы вершазнаўства» займае амаль той жа аб’ём, як і ўвесь раздзел 1.4. «Форма мастацкага твора і яе кампаненты». Гэта можна б было вытлумачыць прысутнасцю ілюстрацынага матэрыялу — мастацкіх твораў, аднак працэнт іх прысутнасці тут невялікі (каля 20—30 працэнтаў). Праўда, нагадаем, раздзел у гэтым плане спецыфічны, арыентаваны якраз на прыклады. І, нарэшце, агульная заўвага для абедзвюх частак — адносна невялікая колькасць прыкладаў з мастацкіх твораў для ілюстрацыі выкарыстання мастакамі слова тых або іншых прыёмаў. У абсалютнай большасці выпадкаў падаюцца толькі аўтары і назвы іх твораў. Зразумела, што віной таму адносна невялікі аб’ём саміх кніг, як мы казалі напачатку. Тым не менш для студэнтаў гэты момант вельмі важны для якаснага засваення матэрыялу.

Названыя заўвагі ні ў якім разе не зніжаюць важнасці і значнасці вучэбнага дапаможніка «Уводзіны ў літаратуразнаўства». Мяркую, што на сённяшні дзень ён з’яўляецца ўзорным па аднайменнай дысцыпліне. Патрэба ў такім дапаможніку наспявала даўно, і тым больш знамянальна, што падрыхтаваны ён на кафедры тэорыі літаратуры — адзінай у нашай краіне, у Беларускім дзяржаўным універсітэце — флагмане айчынных ВНУ. Несумненна, што гэты дапаможнік высока ацэняць студэнты і выкладчыкі, а таксама тыя, каго цікавяць набыткі сучаснага айчыннага літаратуразнаўства.

Ігар СУРМАЧЭЎСКІ

# БЕЛАРУСКІЯ СВЯТЫНІ

## Полацкая Адзігітрыя

У мяне было дзве бабулі — Юзэфа і Таццяна — царства ім Нябеснае. Адна жыла ў Фаніпалі, другая — у Барысаве. Адна была каталічкай, другая — праваслаўнай. У адной красаваўся ў куце абраз Вастрабрамскай Божай Маці, а ў другой абавязкова фарбавалі яйкі на Вялікдзень і выпякалі смачныя наздраватыя «пасхі». У дзвюх бабуль праходзіла маё дзяцінства і паступова, кропля за кропляй, улівалася ў маю дзіцячую душу вера ў Хрыста. Вера маёй сям'і. Каталіцкая і праваслаўная. Хрысціўся я ў касцёле на мінскай Кальварыі, а ўсё жыццё займаюся збіраннем і рэстаўрацыяй праваслаўных святынь. І няма ў мяне супярэчнасці ў душы, калі я прымаю святую камунію ў касцёле ці атрымліваю блаславенне на рэстаўрацыю беларускай святыні ў царкве. Цягам часу адно толькі мяне здзіўляе на гэтым свеце — як нашы бабулі захавалі веру ў Хрыста, пражыўшы такое страшнае стагоддзе бязвер'я. На адзінай, на вялікі жаль, аўдыенцыі ў кардынала Казіміра Свёнтака я распавёў яму пра выратаванне веры ў нашай сям'і, і ён, з уласцівай толькі яму чыстай і дзіцячай усмешкай, сказаў на развітанне:

— Вялікі дзякуй усім бабулям за выратаванне Веры!

Пасля той размовы мне ўспомніліся прыцемкі інтер'ера францысканскага касцёла ліпеньскім вечарам 1983 года. У мяне была студэнцкая практыка перад дыпломам. Я прыехаў на эцюды ў Пінск. Пасля працы над невялічкім палатном пад палескім гарачым сонцам я прыйшоў у касцёл на вячэрнюю імшу хутчэй з цікаўнасці, чым па закліку сэрца. Поруч алтара туліліся ўсяго тры маленькія кволыя бабулі. Той вечар назаўсёды застаўся ў маёй памяці. Заплюшчваю вочы і зноў адчуваю прахалоднае паветра велічнага інтэр'ера касцёла, напоенае салодкім куродымам ладана, пашарпаных дубовых лаў, пацямнелых векавых палотнаў, халоднай старой тынкоўкі. Таямнічую цішыню, схаваную ў высокіх скляпеннях касцёла, працінаюць тонкія галасы бабуль, якія спяваюць гімн: Алілуя. І ўсё гэта нараджае ў душы нейкі забыты і далёкі ўспамін дзяцінства. Можа, гэта была генетычная памяць маіх продкаў, якія спрадвеку хадзілі ў храм? Я, нібы шпіён, акуратна паставіў на ўскрайчык касцельнай лавы свой «Зеніт» і некалькі разоў пстрыкнуў фотаапаратам без успышкі, не спадзеючыся на добры здымак у такіх прыцемках. І цяпер, узіраючыся ва ўжо амаль антыкварны падслепаваты слайд на гэдээраўскай фотаплёнцы, спрабую разгледзець будучага кардынала сярод пабожных бабуль каля алтара.

З таго часу я стаў задумвацца, што ўсё ў жыцці адбываецца невыпадкова і не па капрызе нейкіх прыродных выпрабаванняў. Хто называе гэта лёсам, хто кармай, хто дотыкам рукі Творцы. Будзем зваць гэту жыццёвую таямніцу — Божым наканаваннем. Менавіта Яно ў канцы 1980-х прывяло мяне ад простага ўважлівага капіравання абразоў у БДТМІ да разумення іх сапраўднай сакральнай сутнасці. Напачатку я разважаў так, што сам шукаю сакральныя рэчы для сваёй калекцыі і працы, але потым зразумеў — абразы самі шукаюць свой шлях. Іншая ікона па волі Божай ідзе не ў калекцыю, а ў храм. Так здарылася з аналойным абразом Казанскай Божай Маці XIX стагоддзя. Я толькі адрэстаўраваў гэты абраз, пакрыў

лакам, уставіў у ківот. Але раптам паўстала нейкае містычнае пачуццё аднесці яго ў царкву. Бяру абраз і вязу яго да матушкі Аляксандры ў Свята-Духаў сабор, што на Нямізе. Прыношу ў храм, а мне кажуць: у адной з віцебскіх цэркваў з аналоя выкрадзены абраз Казанскай Божай Маці і зладзейства адбылося менавіта ў святочны дзень — 21 ліпеня. У гэты дзень 1579 года дзяўчынка знайшла ў Казані на папялішчы святыню.

Віцебскі бацюшка прыехаў у Мінск у пошуках якой-небудзь замены — і мой адрэстаўраваны абраз апынуўся якраз дарэчы. Тут і задумаешся: ці па тваёй волі ўсё гэта здарылася?

Ён знайшоў мяне і нават двойчы паклікаў да сябе… Убачыў я святы абраз Полацкай Божай Маці ў маскоўскага рэстаўратара. Сам жа ўладальнік з Пскова пакінуў яго ў Маскве для доўгай працы з надзеяй аддаць потым за добрыя грошы. Аляксей, мой даўні сябра і мастак-рэстаўратар, звярнуў маю ўвагу на Тарапецкую (Полацкую) Багародзіцу, пры гэтым зазначыўшы, што абраз мае прамое дачыненне да беларускай гісторыі. Аднак у той момант сэрца маё прамаўчала. Я падумаў, калі ўпрошвае забраць — значыць, працы з абразом вельмі шмат, і сам Аляксей не вельмі хоча з ім валаводзіцца доўгі час. Але я адразу засцяродзіў сваю ўвагу на старажытнай іканаграфіі і незвычайным залатым асісце на адзеннях святых і зразумеў — абраз рэдкі, ці не XVI стагоддзя? Засмуцілі лікі… гэта быў жывапіс XIX стагоддзя… Калі ёсць вялікія страты роднага старога жывапісу — абраз праблематычны для сур'ёзнай прыватнай калекцыі. Увогуле, я не адважыўся ў першую сустрэчу набыць яго. Але абраз Полацкай Божай Маці стаяў перад вачыма ўсю дарогу з Масквы да Мінска... Нібы ён ехаў у цягніку побач са мной. Абраз клікаў мяне …

Гэта была дакладная копія, зробленая ў XVI ст. з Полацкай Багародіцы XII ст. Яна мае некалькі назваў па месцы свайго паходжання і па месцы, дзе яе ўшаноўвалі ў храмах — Эфеская, Корсунская, Полацкая, Тарапецкая. Па паданні абраз з'явіўся ў Полацку дзякуючы святой Еўфрасінні, якая пажадала мець у сваім манастыры хрысціянскую святыню — абраз, які напісаў у Эфесе сам апостал Лука. У Царград з благаславеннем і наказам паехаў верны слуга Еўфрасінні Міхаіл. Ён і прывёз з пашанай Эфескую святыню ў Полацк, але перад гэтым абраз амаль на год затрымалі жыхары Корсуні (Херсанеса) у Крыме, так ім хацелася памаліцца перад святыняй. Нарэшце хрысціянскі абраз з вялікім ушанаваннем быў унесены ў Полацкі манастыр, дзе яго ўпрыгожылі срэбранай шатай з каштоўнымі камянямі. Можа, гэта была работа таго ж Лазара Богшы, які працаваў над Крыжам святой Еўфрасінні. А каму княжна магла даць такую адказную замову? Толькі слыннаму майстру. У 1239 годзе абраз на некаторы час перавозяць у Тарапец, дзе благаслаўляюць ім княжну Аляксандру на шлюб з князем Аляксандрам Неўскім. Далей гісторыя Полацкай Багародзіцы патанае ў глыбокай плыні часу. Ёсць паданне, што святыня зноў была перанесена ў Полацк, дзе і знаходзілася да 1579 года, калі войскі Івана Грознага прыступілі да сцен горада. Ратуючы Полацкую Багародзіцу, чарніцы перанеслі па лясах і балотах абараз зноў у Тарапец, дзе ён знаходзіўся ў Корсунска-Багародзічным храме аж да 1921 года, калі бажніцу зачынілі бальшавікі. Абраз перанеслі ў мясцовы музей, а ў 1936 годзе ён трапіў у Рускі музей Санкт-Пецярбурга. Ёсць меркаванні спецыялістаў, што Полацкая Багародзіца XII ст. — ці не адзін са старэйшых цудатворных абразоў у Расіі. А можа, яго маляваў сам апостал Лука?...

Погляд Багародзіцы XVI ст. такі ж суровы і ўрачысты, як і на першакрыніцы. Здаецца, Яна глядзіць па-над схіленымі ў скрусе грэшнікамі, нібы прыслухоўваецца да ўсіх шматлікіх просьбаў, звернутых да Яе. Спрабую сам праз малітву і асэнсаванне гісторыі зразумець: хто і калі мог намаляваць гэты святы абраз.

Канец XVI стагоддзя. Пачатак вялікага крывавага супрацьстаяння Масковіі і Вялікага Княства Літоўскага. Інфлянцкая вайна, захоп і рабаванне Полацка. Паход Івана Грознага на Ноўгарад і Пскоў — усё гэта 1560—1580-я гады, час, калі ствараўся святы абраз. Што падштурхнула іканапісца да працы? Вядома, па-пер-

шае, узнесці пашану Божай Маці і Дзіцятку Езусу, але яшчэ была нейкая падзея, што ўзрушыла да стварэння дакладнай копіі абраза Полацкай (Тарапецкай) Багародзіцы? Можа, незразумелае і раптоўнае збаўленне Пскова ад вусцішнай долі, якую атрымаў вольны горад Вялікі Ноўгарад ад Грознага цара? Ці, можа, гэта падзяка нябесным сілам, якія выратавалі горад ад вояроў Рэчы Паспалітай у 1581 годзе? Полацкая Багародзіца не раз выказвала цуды вернікам: ратавала і ад чумы, і ад нападаў ворага. На каго было спадзявацца хрысціяніну ва ўсе часы на гэтым свеце — толькі на малітву да Багародзіцы. І з'явіўся святы абраз...

## «Пад тваю абарону, уцякаем, Святая Багародзіца…»

Тыдзень я ўзважваў усё за і супраць, перачытаў шмат інфармацыі пра абраз Полацкай (Тарапецкай) Багародзіцы. Патэлефанаваў у Маскву і, дзякуй богу, Абраз чакаў мяне. Кошт, праўда, падвоіўся...

Так нашы шляхі, святога абраза і мой, перакрыжаваліся па Божым наканаванні ў прасторы бясконцага касмічнага часу амаль праз 450 год… Полацкая Багародзіца слухала малітвы і асушвала слёзы многім вернікам за шматлікія стагоддзі свайго існаваня і надалей, дасць Бог, будзе дапамагаць людзям добрай волі. Маё жыццё ў сакральнай прасторы побач з Ёй — гэта маленькае імгненне ў чарадзе лёсаў тых, хто ратаваў і спадзяваўся на малітоўную дапамогу Полацкай Багародзіцы.

Пра што думаў іканапісец, які маляваў гэты абраз? Хіба ён мог прадбачыць, што яго сакральная праца праз стагоддзі трапіць на Беларусь… ды і назвы краіны Беларусь у XVI ст. ён не ведаў… Масковія і Вялікае Княства Літоўскае былі ворагамі на той час…

Мае знаёмыя беларускія калекцыянеры ніяк не адрэагавалі на старадаўні абраз. Зразумела — праблемы з лікамі. Я падумаў, можа, яно і лепш — няхай абраз пастаіць у маёй майстэрні некаторы час. З Божай дапамогай, Багародзіца сама знойдзе сваё месца на Беларусі. Так яно, дарэчы, і здарылася. Увесну 2004 года да мяне зайшоў Анатоль Дунчык, рэстаўратар Мінскага Епархіяльнага Упраўлення. Убачыўшы абраз, ён быў вельмі ўзрушаны і тут жа прыняў рашэнне — абраз павінен убачыць Уладыка Філарэт. Так сакавіцкай раніцай 2004 года абраз Полацкай Багародзіцы з'явіўся ў пакоях Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсея Беларусі.

Мітрапаліт вытрымаў час і не адразу даручыў рэстаўрацыю Святыні незнаёмаму яму рэстаўратару. Неаднаразова я прыходзіў да Мітрапаліта на аўдыенцыю ў вялікую прыёмную на другім паверсе Епархіяльнага Упраўлення. Гадзінамі працягваліся нашы гутаркі сам-насам, зусім, здавалася, на простыя тэмы жыцця. Падчас гэтых гутарак Уладыка сваім пранізлівым поглядам цёмных вачэй нібы вывучаў не толькі маю постаць, але і пільна ўглядаўся ў маю душу, у самыя цёмныя яе закуткі і, напэўна, ведаў, што было ў мяне з самага майго нараджэння і што будзе заўтра. Партыйныя савецкія службоўцы ва ўспамінах прызнаюцца, што не кожны з іх вытрымліваў гэты пранізлівы погляд Уладыкі, калі ў Мінскім гарвыканкаме разглядалі пытанне пра рэстаўрацыю праваслаўных храмаў.

Абраз доўга рыхтаваўся да рэстаўрацыі. Спяшацца працаваць з такой святыняй не выпадала жыццёвага вопыту — трэба было добра абдумаць паслядоўнасць: як здымаць стары лак, дзе знайсці мяжу жывапісу розных стагоддзяў, дзе і што таніраваць. Шматлікія спакусы прыйшлося перажыць перад адказнай працай.

Як раней працавалі іканапісцы? Яны былі манахамі, глыбока веруючымі людзьмі. Доўга маліліся і пасціліся перад працай. А ў сучасным матэрыяльным асяроддзі як прыгатавацца да карпатлівай працы з сакральным? Цяжка… Таму духоўнае ўмацаванне ў працы мне давалі малітвы сясцёр Свята-Еўфрасіньеўскага манастыра, анёлам-ахоўнікам пры мне была прыстаўлена матушка Сергія.

Яна распавяла мне цікавую гісторыю, якая адбылася ў знакамітым Рускім музеі. Сёстры з манастыра прыязджалі ў Санкт-Пецярбург, каб памаліцца перад старадаўнім абразом Полацкай Богародзіцы яшчэ XII стагоддзя. І кожны прыезд у Рускі музей быў азмрочаны выклікам расійскай міліцыі. Супрацоўнікі музея вельмі баяліся, што беларускія чарніцы ўпотай скрадуць абраз і прыхопяць яго ў Полацк, дзе святыня па праве і павінна знаходзіцца!

Па блаславенні Уладыкі Філарэта, у 2006 годзе абраз быў перанесены ў рэстаўрацыйныя майстэрні Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Там былі зроблены рэнтгенаграмы лікаў Багародзіцы і Дзіцяткі Езуса, узяты пробы темпернай фарбы на фізіка-хімічныя даследаванні. Трэба сказаць, што ў мяне ўжо на руках мелася экспертыза Расійскага дзяржаўнага іститута рэстаўрацыі, што абраз датуецца канцом XVI стагоддзя і хімічны аналіз фарбаў не супярэчыць гэтаму часу. Беларускія мастацтвазнаўцы таксама пацвердзілі час, калі быў намаляваны абраз — XVI ст. Можна прыступаць да ўмацавання леўкаса і зняцця старога лаку. Гэту шматмесячную карпатлівую працу правяла рэстаўратар Святлана Дзікуць. Кожны іншародны кавалачак жывапісу розных часоў міліметр за міліметрам выдаляўся пасля ўсебаковага аналізу і абмеркавання са шматлікімі рэстаўратарамі, у тым ліку з рэстаўратарам вышэйшай катэгорыі Аркадзем Шпунтом.

Намоленыя святыні… Іх ратавалі, яны самі ратаваліся Божым провідам. Нашы глыбока веруючыя бабулькі выносілі абразы з разбураных ваяўнічымі бязбожнікамі цэркваў, хавалі пад абарону сваіх ціхіх малітваў. На Беларусі я чуў такі шчымлівы аповед. У савецкі час разбурылі царкву і адна з прыхаджанак узяла дадому храмавую ікону Багародзіцы, каб зберагчы Яе. Так жа проста не паставіш абраз на падлогу ці не схаваеш за печ — абраз цудатворны і вельмі шанаваны вернікамі. Каб даць належную пашану іконе, бабулька ўпрыгожыла свой ложак лепшай ільняной бялізнай, якую прыхавала са свайго вяселля і палажыла на яе цудатворны абраз, накрыўшы коўдрай. Так і спалі ўсю савецкую эпоху пад адным дахам: Багародзіца на ложку, а бабулька побач на падлозе, пакуль не адбудавалі старую царкву.

Абраз Полацкай Багародзіцы, магчыма, быў выратаваны адной з такіх адданых прыхаджанак царквы ў Пскове ці побач з ім (па аповедзе апошняга ўладальніка абраз прыйшоў з Пскоўшчыны). Неміласэрныя старыя рваныя дзіркі на срэбнай шаце, якая ўпрыгожвала абраз, наводзяць на думку пра тое, што ён быў зняважаны ў 1920-я гады. З яго па-варварску сарвалі срэбную басму і вянец. Новая ўлада, пад лозунгамі перамогі «камуністычнага раю», распрадавала духоўную спадчыну народа. Куламесь бязбожнасці бальшавікоў не пашкадавала і гэты абраз. Высакародны метал, дзе былі адзнакі майстра XIX ст., быў рэквізаваны, а срэбная «кашулька» XVII стагоддзя без адзнак, што гэта срэбра, цудам ацалела. Старадаўнюю рызу першапачаткова ўпрыгожвалі каштоўныя камяні на «зорках Цнатлівасці», якія размешчаны на плячах і на чале Багародзіцы. На бармах каўняра і на рукавах тунікі Божай Маці таксама бачныя дзіркі ад страчаных срэбных каст. Дробныя дзірачкі на рызе каля рук і ножак святых — гэта месцы, дзе мацаваліся пярлінавыя каралі.

Вельмі шанаваная была Багародзіца, не ўсякі абраз упрыгожвалі такім каштоўным дэкорам. Шаты былі выкананы ў другой палове XVII стагоддзя з тоўстага прачаканенага срэбра. Такую ювелірную працу змаглі выканаць толькі прафесіяналы з вялікага горада. Напэўна, гэта былі майстры срэбных спраў Пскова ці Ноўгарада. Вага і таўшчыня рызы таксама кажуць пра шанаванне абраза. Справа ў тым, што свайго срэбра ў Расіі ў XVII ст. не было, здабываць яго пачалі ў Забайкальскіх руднях толькі пры Пятры І у 1704 годзе. Да гэтага срэбра завозілася з-за мяжы: з Еўропы, з Усходу, і таму высакародны метал быў вельмі дарагі. Успомнім, якія тонкія былі срэбныя расійскія капейкі XVI—XVII стагоддзяў. За малы памер ім далі мянушку «лускавінкі». Срэбра з Еўропы галоўным чынам трапляла гандлёвым шляхам з Галандыі — гэта срэбныя талеры. На аверсе талера быў

намаляваны леў, таму ім далі мянушку «левінталяры», а срэбра ў Расіі атрымала таўро «лявок». Так што на рызу Божай Маці пайшло нямала галандскага срэбра. Тоўстая срэбная рыза вельмі рэдкая з'ява для XVII ст. Дэкор захаванай «кашулькі» па-майстэрску пабудаваны на кантрасце магутнай фактуры складак адзенняў і кропкавым ювелірным барочным малюнкам на бармах тунікі Багародзіцы і хітона Хрыста. Рыза была першапачаткова пазалочаная (у паглыбленнях дэкору бачны рэшткі старадаўняга залачэння цытрынавага колеру) і прымацавана да асновы абраза срэбнымі (!) цвічкамі. Гэта сустракаецца вельмі рэдка, на што звярнулі адмысловую ўвагу мастацтвазнаўцы з Масквы ў сваей экспертызе.

Рызу пры даследаванні знялі ў Маскве. Захаванасць адзенняў пад рызай была на дзіва некранутай, і я назваў бы яе ідэальнай для 1570—1580 гадоў. Пры першым вонкавым вывучэнні іконы мяне ўразіў малюнак залатога асіста на адзеннях святых. Ён зіхацеў скрозь стары пацямнелы бурштынава-карычневы лак як унутранае чароўнае ззянне нябеснага стварэння і выдаваў таямніцу пра старажытнае візантыйскае паходжанне абраза.

«…з'явіўся на небе вялікі знак: жонка, апранутая ў сонца…» (Адкр. 12:1—2).

Багацце залатога асіста на мафорыі Багародзіцы не зусім звычайна для рускай іканаграфіі XVI стагоддзя. Гэта з XVII стагоддзя ўжыванне золата на складках адзенняў святых у строганаўскіх і царскіх іканапісцаў дасягнула сваёй дасканаласці. На старых абразах багацце золата ўласціва толькі адзенням Хрыста як жывога ўвасаблення Бога. Мафорый Багародзіцы, як правіла вытанчана ўпрыгожвалі асістам толькі з краю адзення. Усё гэта прыводзіла да высновы: рэдкая іканаграфія прыйшла з Візантыі. У адрозненне ад адзенняў, прыхаваных на стагоддзі пад срэбнай рызай, увесь астатні жывапіс зведаў шматлікія паднаўленні не толькі па фарбах, але і па ляўкасе. Я мяркую, што «кашульку» рэдка здымалі падчас шматлікіх векавых рэнавацый. У першую чаргу рэстаўратары XVII—XIX стагоддзяў імкнуліся надаць яркасць бачным часткам абраза — лікам, рукам і фону. Дзякуй богу, адзенні і ножкі Хрыста яны пакінулі ў спакоі пад цёмным лакам.

Фон іконы ў XVI ст. быў выкананы сусальным золатам. Зялёны (травяны) колер канца XVI — пачатку XVII стагоддзяў часткова захаваўся на німбах Багародзіцы і Хрыста. На захаваных старых частках жывапісу белы ляўкас нават трохі трымціць скрозь зялёны глаўканіт. Рэстаўратары праз вякі добра папрацавалі з фонам іконы. Тут сустракаецца і чырвоная сургучная масціка XVIII ст., і рэнавацыі з воску XIX—XX стст., і «галубец» эпохі ракако, і глухі зялёны XIX стагоддзя. Родны зялёна-травяны колер амаль па ўсім фоне старанна зняты пемзай да ляўкасу і перакрыты ў сярэдзіне XVIII ст. цёмна-карычневым паліментам пад залачэнне. Аднак і гэта яшчэ не усё: залачэнне праз сто год пакрылі модным колерам эпохі ракако — «галубцом». Усё змянялася на павевах модных хваляў у мастацтве. Апроч гэтага ляўкас вакол выяў святых пашкоджаны мноствам дзірачак ад цвічкоў наборнай басмы. На рэнтгене рэшткі крапяжу бачныя белымі кароткімі лініямі, якія ляжаць па краі адзенняў, як раны ад шрапнелі. Колькі ж разоў перабівалі і перараблялі наборную басму,аднаму Богу вядома.

Перада мной паўставала вялікая праблема з фонам: як таніраваць страты старога жывапісу і да чаго імкнуцца нарэшце? Да глухога зялёнага XIX стагоддзя, да блакітнага «галубца» пачатку XIX ці браць за аснову зялёна-травяны канца XVI — пачатаку XVII ст. Спыняюся на апошнім — так абраз будзе глядзецца больш гарманічна. У іканаграфіі зялёны — гэта колер вечнага жыцця, надзеі, райскага саду. І для старога іканапісу пскоўскай школы характэрны колер фону: зялёны ці чырвоны. Божая Маці з Дзіцяткам Езусам у асяроддзі вечнай прыгажосці і вечнага жыцця. Ці не на Багародзіцу мы спадзяёмся, калі разважаем пра тленнасць свайго быцця, у якім імкнёмся хоць бы на імгненне наблізіцца да Райскага саду… З Божай дапамогай…

Святыя лікі перапісваліся неаднаразова, аднак аўтарскі жывапіс XVI стагоддзя дзе-нідзе захаваўся — на правай шчацэ і на шыі Багародзіцы, на шыі

Дзіцяткі Езуса. У астатніх месцах на ліках бачны сляды выдалення пемзай тэмперных лесіровак амаль да аліўкавага санкіра. У XIX ст. рэстаўратар, каб не страціць малюнак пры падаўленні лікаў, нанёс грубы малюнак іголкай (цыр'ю) па аўтарскім жывапісе. Але нават цяпер на руках Божай Маці добра прачытваецца тонкая, па-майстэрску выкананая граф'я «лебядзіных» рук Багародзіцы (для XVI ст. характэрны плаўны вытанчаны малюнак рук, яны нібы падобныя на абрыс лебядзіных крылаў). Усё гэта паказвае высокае майстэрства іканапісца, які маляваў абраз Полацкай Багародзіцы і быў знаўцам лепшых узораў іканапісу пскоўскай і наўгародскай школ. Пры рэстаўрацыі лікаў давялося прымаць неадназначнае рашэнне: не прыбіраць рэстаўрацыю XIX ст. да амаль страчанага роднага жывапісу, а ашчадна таніраваць — дзе пад XIX стагоддзе, а дзе пад XVI. Інакш, захапіўшыся сваімі лесіроўкамі, можна дайсці ў рэстаўрацыі да поўнага наватвора. Эталонам старога жывапісу сталі ножкі Хрыста, якія цудам захаваліся амаль цалкам. Таніраванне раблю вельмі далікатна і кропкава, каб пакінуць невялікія часцінкі старога жывапісу і аб'яднаць рэнавацыі розных стагоддзяў. Такі метад завецца пуантэллю (ад франц. point — кропка) ці акупунктурай. Гэта нагадвае працу лекара, які сшывае раздробненыя часткі пашкоджанага цела. Не туды паставіш кропку маленькім пэндзлем пад нумарам «000» і ўся праца пойдзе дарэмна. Падумалася: ці ведаў вялікі французскі пуантыліст Поль Серра, што яго кропкавы метад жывапісу ляжа ў аснову рэстаўрацыі абразоў? Але, прыпамінаю, і да яго так працавалі вялікія жывапісцы, ствараючы аб'ёмнасць малюнка драбнюткімі рысачкамі, кропкамі і коскамі. Усё гэта мне нагадвае нейкі сакральны тайнапіс тонкім пэндзлем з трыма нулямі. Толькі ў Італіі старыя майстры гэты прыём жывапісу звалі «інкарната» ці «карнацыяй», а на Русі «инакопь». Але зрок у мяне ўжо не такі востры, каб займацца драбнюткай «карнацыяй» без прыстасаванняў. Гадзінамі працую пад вялікай цэйсаўскай прасветленай оптыкай да галавакружэння.

Вялікую цяжкасць у мяне выклікала рэстаўрацыя левай ручкі Дзіцяткі Езуса, якая трымае скрутак. На іконе з Рускага музея і на наступных сучасных спісах указальны палец левай ручкі Хрыста ідзе ўгару. Жэст левай ручкі на іконе, якую рэстаўрырую я, трохі іншы. Жывапіс па ручцы амаль страчаны (аўтарскі жывапіс захаваўся толькі па краі далоні і на двух ніжніх пальчыках), аднак на старой граф'і добра бачны вялікі палец, схаваны за скруткам. Таму я прыняў рашэнне аднаўляць левую ручку Хрыста па граф'і абраза XVI ст. Правая ручка Хрыста, якой Ён багаслаўляе, аднаўлялася таксама па старым малюнку, як і рукі Багародзіцы.

На арыгінале, што захоўваўся ў Рускім музеі, згублены малюнак нарукаўніка на правым рукаве тунікі Багародзіцы. На абразе XVI стагоддзя нарукаўнік добра захаваўся і дае нам магчымасць уявіць, якім быў малюнак на першакрыніцы.

Іканапісец, якому быў замоўлены спіс з абраза Эфескай Багародзіцы, падышоў да працы не толькі духоўна і высокапрафесійна, але і з адмысловай дбайнасцю і павагай да ўсіх дэталяў іконы. Кожная рысачка асіста, яго накірунак і вібрацыя перададзены гэтак жа дакладна, як на абразе XII ст. Скапіраваны нават каўчэг для мошчаў поруч правай ножкі Хрыста. Дарэчы, гэты каўчэг ніхто не ўзгадвае на абразе XII ст., калі складалі на яго экспертныя дакументы! Можа, у абраз з Візантыі першапачаткова былі ўкладзены святыя мошчы, калі яго везлі да Святой Еўфрасінні?..

Інфармацыі з цягам часу ўсё больш, і прыходзіць думка, можа, гэтыя два абразы XII і XVI стагоддзяў ляжалі поруч, калі працаваў іканапісец?

Памер абраза XVI ст. да рэстаўрацыі, якая была праведзена сто год таму, сапраўды супадаў з памерам арыгінала XII ст. 82,5х60,3х3,3 гл. Цяпер яна мае памер 78,1х57х2,6 гл. і невялікі каўчэг. Аснова абрэзана па краях і трохі зверху — гэта відаць з-за бакавых вельмі вузкіх палёў і па слядах ад пілы на адным з бакоў. Можа быць, абраз устаўлялі ў вызначаны памер іканастаса і трохі зменшылі?

У тым жа XIX ст. зверху і знізу ў тарэц абраза ўрэзаны былі шпонкі. З адваротнага боку аснова абраза ідэальна загаблявана. Зверху і знізу на адлегласці 1,5—2 см ад краю дошкі праз усю таўшчыню на роўнай адлегласці размешчаны адтуліны, у якіх дзе-нідзе захаваліся нагелі (драўляныя цвічкі).

Якія можна зрабіць высновы з рэнавацый самой дошкі абраза? Магчыма, што ён быў двухбаковы і выносны. Як і арыгінал з Рускага музея. Са зваротнага боку быў напісаны абраз святога Мікалая Цудатворца, які з часам быў згублены. Ці так магло здарыцца, што выносны абраз распілавалі ў XIX ст. і зрабілі два абразы XVI ст.? Такія абразы зваліся ў калекцыянераў канца XIX ст. «спілкамі». Адтуліны зверху і знізу на дошцы абраза, напэўна, былі прыстасаваны для мацавання нагелямі (драўлянымі цвічкамі) накладных шпонак з адваротнага боку і накладной рамы звонку. Яшчэ дзевяць нагеляў бачны ў ножак Божага Дзіцяткі, калі паглядзець на абраз пад вызначаным вуглом зроку. На адваротны бок яны не выходзяць. Можа, так мацавалася згубленая выносная ручка абраза?

У храмах выносныя абразы асабліва шанаваліся і лічыліся цудатворнымі. Яны, як і заалтарны крыж, выносіліся для глыбокай пашаны вернікам толькі ў вызначаныя дні: на вялікія святы, для хрэснага ходу ці для ўратавання горада ад вялікай бяды.

З часам будуць распрацаваны новыя метады рэстаўрацыі, з’явіцца лепшая апаратура — мае рэстаўрацыйныя ўстаўкі зроблены яечнай тэмперай — іх магчыма будзе прыбраць і палепшыць, на тое будзе Божая воля.

І на тым, дзякуй, Пане, што даў магчымасць дакрануцца да святога абраза Полацкай Божай Маці.

*P.S.*

Калі праца над рэстаўрацыяй абраза была завершана, мне ў рукі, дзякуючы матушцы Сергіі, трапіў поўны тэкст артыкула па гісторыі Эфескай Багародзіцы вядучага навуковага супрацоўніка Рускага музея І. Шалінай. І адразу разрозненая мазаіка гіпотэз і здагадак склалася ў суцэльную і вытлумачальную карціну гісторыі дадзенай іконы XVI ст.

«Яшчэ напачатку XX ст. у Корсунска-Багародзічным саборы Тарапца захоўвалася копія з Корсунскай іконы, зробленая ў XVI ст. Яе лёс пасля рэвалюцыі невядомы. Паводле паддання жыхары Тарапца, чакаючы прыезду ў горад цара Івана Грознага, вельмі хваляваліся, што святыня будзе вывезена ў Маскву. Таму вырашылі зрабіць з яе копію. Калі копія была гатовая, на яе апранулі срэбраныя шаты і ўпрыгожванні «Корсунскай Багародзіцы» і паставілі ў іканастасе на месца цудатворнай. Сам жа абраз без усякіх упрыгожванняў схавалі.

Сапраўды, у XVI ст. існавала традыцыя звозіць у Маскву з усяе Русі найбольш шанаваныя мясцовыя святыні. Так было з Божай Маці Уладзімірскай, Смаленскай, са старажытнасцямі Ноўгарада, Пскова і іншых гарадоў.

Перасцярогі жыхароў былі марныя, Іван Грозны не дайшоў да горада. Абраз і яго копія назаўжды засталіся ў Тарапцы…»

На падставе цытаты з працы І. Шалінай можна зрабіць выснову, што дадзены абраз Полацкай Багародзіцы XVI ст. і ёсць дакладны спіс «у меру і падабенства», які быў зроблены для Івана Грознага. А каб цар не адчуў падвох, копію замовілі лепшаму мясцоваму іканапісцу. З Грозным царом жарты кароткія! Для такога ўчынку трэба было мець вялікую мужнасць. Жыхары Тарапца ведалі ўжо пра гнеў Івана Васільевіча, які той абрынуў на суседнія гарады Цвер, Клін, Таржок і Ноўгарад. Летапісы дакладна паказваюць час, калі быў здзейснены паход на непакорныя цару Ноўгарад і Пскоў. Таму дату стварэння абраза з вялікай верагоднасцю можна аднесці да студзеня—сакавіка 1570 года.

Так здзейснілася, што ў Корсунска-Багародзічным саборы Тарапца былі выстаўлены на глыбокую пашану два абразы Полацкай Багародзіцы: справа ад алтара XII ст., а злева XVI. Маленне перад абразамі працягвалася да 1921 года,

пакуль новая ўлада зачыніла храм, а каштоўнасці і рэліквіі былі канфіскаваны ці згублены. Абраз XII стагоддзя трапіў у Рускі музей, а дакладны спіс XVI ст., выратаваны вернікамі з Тарапца і Пскова, апынуўся на маім працоўным стале.

Так, Божым наканаваннем абраз Полацкай Божай Маці XVI стагоддзя трапіў у горад Святой Еўфрасінні.

## Дзісненская Адзігітрыя

Ёсць месцы на зямлі своеасаблівыя, як бы адзначаныя Божай прысутнасцю. Усё вакол нібы звычайнае: і трава на пожні расце сакавіта-зялёная, і птушкі радасна спяваюць увесну, і снег марозна рыпіць пад нагамі. Але ёсць у наваколлі штосьці няўлоўнае, што не растлумачыць словамі. Успрыманне асяроддзя трымціць і крыецца дзесьці ў падсвядомасці. І таму сінь усёпаглынальнага неба тут здаецца бліжэй і ўзнікае пачуццё, што ты можаш проста рукамі дакрануцца да белага вэлюма аблокаў. Як у дзяцінстве, калі схаваешся ў зараслі лубіну, раскінеш у бакі рукі, і неба пачынаецца адразу тут, за фіялетавымі язычкамі кветак. Адно з такіх месцаў, напоўненых Святым Духам, і ёсць самы маленькі беларускі горад — Дзісна.

І Божая Маці таксама абрала гэта месца і з'явілася тут, абмытая халоднымі шэрымі хвалямі Заходняй Дзвіны, у водбліску страшнага вогнішча, якое вынішчала горад. І пажар адступіў. Гэта адбылося 10 жніўня, а год месцічы не памятаюць. Наогул, ці мае адзнаку ў часе Божы цуд? Вядома, разважаючы па зямных законах, ёсць лічбы — гэта стагоддзе, год, дзень, хвіліна, але там, на нябёсах — гэта вечнасць. Бывае нябеснае сустракаецца з зямным. Як у Дзісне, 10 жніўня кожнага года, з веку ў век. І людзі тут нараджаюцца з веку ў век адзначаныя Божай ласкай і здзіўляюць свет сваімі творамі. З роду Кастравіцкіх — паэт Гільём Апалінэр, з роду Грынявіцкіх — пісьменнік Аляксандр Грын, Язэп Драздовіч, Ігнат Буйніцкі…. І апякуецца Дзісненская Адзігітрыя гэтым беларускім мястэчкам. І будуецца тут замак на выспе пасярод хваляў Заходняй Дзвіны прыдворным архітэктарам Стэфана Баторыя італьянцам з Урбіна. І многія ўладары свету не раз наведвалі гэты горад і знаходзілі тут супакой і абарону. У Першую сусветную вайну ў маленькае мястэчка, ратуючыся ад кайзераўскіх войскаў, прыехала ўсё віленскае і губернскае начальства. Сам Арцыбіскуп Літоўскі і Віленскі, будучы Патрыярх Усея Русі, Ціхан некалькі месяцаў жыў тут і ўзносіў малітву перад цудатворным абразом. І ратавала Божая Маці ўсіх, хто звяртаўся да яе з надзеяй у малітвах. Што непадуладна было матэрыяльнай логіцы, знаходзіла тут увасабленне ў цудатворных справах. Звярталіся па дапамогу да абраза не толькі праваслаўныя, але і каталікі… Прыйшло XX стагоддзе, надышлі іншыя часы… часы бязвер'я…

«… падзялілі рызы Мае між сабою і аб вопратцы маёй кідалі жэрабя» (Евангелле ад Яна 19.24).

…З Яе сарвалі срэбныя шаты, пакінуўшы белыя раны на векавым ляўкасе. Яе кінулі на падлогу. След сучаснага варвара застаўся на адзенні Божай Маці…

Але абраз уваскрэснуў і перамяніўся, адкінуўшы ўсё матэрыяльнае…

Фіялетавыя прыцемкі развіталіся з апошнімі доўгімі промнямі зімовага сонца. Ад крыжоў і высокіх ігольчастых хвояў ляглі па снезе ультрамарынавыя цені. Мы, пілігрымы да Дзісненскай Адзігітрыі, у марознай цішыні, падымаліся да невялічкай Свята-Багародзіцкай царквы, якая месцілася на цвінтары маленькага мястэчка. «Ідзём як на Галгофу…» — падумалася мне ў той момант. Гэта параўнанне з сакральным месцам Ерусаліма з'явілася ў маіх думках на той момант зусім не выпадкова. Разважанні над святымі тэкстамі перапляліся з аповедам матушкі Сергіі пра вусцішную трагедыю, якая адбылася ў Дзісне адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

…Яго прымусілі выкапаць сабе магілу. Кінулі туды жывым. Перабілі лапатай ногі, каб не ўцёк. А ён толькі ціха маліўся і прасіў забойцаў не браць на сябе цяжкага граху. Не за сваё жыццё прасіў, а за іх счарнелыя душы. Увесну 1919 цяжкія камлыгі яшчэ не адталай зямлі перапынілі жыццё іерэя Канстанціна Жданава на ўскрайку горада Дзісна. Пад алтаром маленькай царквы і было пахавана зраненае цела пакутніка за веру. Улетку 1919 года пра тое паклапаціліся сталыя вернікі Свята-Успенскай царквы са Стара-Шаркоўшчыны, дзе служыў а. Канстанцін…

«Магчыма, — падумаў я ў той момант, — гэты невялікі сціплы храм і стаў тым недатыкальным каўчэгам, дзе падчас устанаўлення «сацыялістычнага раю» на зямлі захаваліся нашыя святыні — Дзісненская Адзігітрыя і мошчы айца Канстанціна». Багародзіца мафорыем апекавала ад знявагі свайго вернага пастыра, закатаванага бальшавікамі.

Рыпнула велізарнаякаваная металічная засаўка і расчыніліся цяжкія дзверы ў храм. Так у снежні 2010 года абраз Дзісненскай Адзігітрыі паўстаў перад мной у атачэнні бялюткіх карункаў нібы тонкія ўзоры марознай шаці, зробленыя мясцовымі майстрыхамі. Успомнілася, што больш за дваццаць гадоў назад я убачыў Яе ўпершыню ў альбоме «Іканапіс Беларусі XV—XVIII стагоддзяў» у вялікай срэбнай шаце XVIII стагоддзя. Нават на той час, калі я быў «зялёным» студэнтам БДТМІ, ілюстрацыя зрабіла на мяне незабыўнае ўражанне — ад пранізлівага позірку Багародзіцы зыходзіла такая моц, што ты сябе адчуваў менавіта тым скрушным грэшнікам, павінным ва ўсіх надыходзячых пакутах Божага Сына, які ціхенька сядзеў на руках сваёй Маці. Ад чорнага фону і халоднага зіхацення срэбнай шаты зыходзіла ўрачыстая суровасць. Ці мог я ўявіць сабе ў той бязбожны час напачатку 1980-х, што мой жыццёвы шлях яшчэ раз прывядзе мяне да цудатворнага вобраза, і я вазьму на сябе адказнасць за ўваскрэсенне гэтай святыні. І вось праз колькі дзясяцігоддзяў я ўбачыў абраз увачавідку, ужо без срэбраных шат, якія скралі сучасныя варвары. Далёкае пачуццё дотыку да таленавітага твора зноў аднавілася ў душы. Але жыццёвы вопыт дадаў да яго і новыя меркаванні…

«Якое майстэрства іканапісца! Ці не царскія жывапісцы прыклалі да абраза свае таленавітыя рукі? Майстры Аружэйнай Палаты з Крамля… — праносіліся думкі, калі я стаяў перад шклом ківота Дзісненскай Адзігітрыі. — Якія бармы на адзеннях Хрыста! Шляхетная ювелірная работа! Тонкая асістоўка хітона! Відавочна канец XVII стагоддзя. Напэўна, не — такі «прабельны» жывапіс лікаў характэрны для рускага іканапісу пачатку XVIII стагоддзя. Але пры чым тут рускія іканапісцы ў Беларусі XVII стагоддзя, не маглі ж царскія жывапісцы прыязджаць і працаваць у Дзісне!? Але як па-майстэрску намаляваны складкі памяранчава-кінаварнага хітона! А гіматый! Ніводнай лішняй лініі — усё выразна, усё звініць, рысачка да рысачкі. Дзіўна! Край мафорыя Багародзіцы — гэта ж сапраўды тыя «кружочкі-крыжыкі» — арнамент характэрны для маскоўскіх іканапісцаў Крамля. І гэты погляд Божае Маці…. Ад яго аж мурашкі па спіне. І ўсюды — раны, раны, раны. Белыя рваныя дзіркі на шматвяковым ляўкасе ад выдраных цвікоў срэбраных шат. Лік Божага Дзіцяткі знявечаны па контуры валасоў і вакол шыі. У душы ўзнікала жаданне тут жа спыніць пагібель святыні. Так… трэба ратаваць... І чым хутчэй…» Толькі праз паўгадзіны маўчання перад абразом, я адчуў, як марозна настыў інтэр'ер невялікага храма. Малітва паднімалася ўгару разам з воблачкам белай пары майго дыхання…

«Вітай, Марыя! Поўная ласкі, Пан з Табою! Бласлаўлёная ты між жанчын, і бласлаўлёны плод улоння Твайго Езус…»

Каму аддаць абраз на рэстаўрацыю? Адказ на гэтае пытанне ў мяне быў з самага першага дня маіх думак пра выратаванне святыні. Вядома, гэта павінен быць рэстаўратар з вялікім жыццёвым вопытам і майстэрствам — Аркадзь Шпунт, рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. І яшчэ, я памятаў яго аповед пра экспедыцыю па Беларусі супрацоўнікаў мастацкага музея ў 1970-х гадах у пошуках шэдэўраў беларускай культуры, якія цудам ацалелі ад ваяўнічых атэістаў і шматлікіх войн.

Больш як трыццаць гадоў назад мастацтвазнаўцы і рэстаўратары наведалі храм на цвінтары ў Дзісне. Уваскрэсенскі сабор на той час быў зачынены для вернікаў, таму Адзігітрыя Дзісненская, так ушанаваная вернікамі, месцілася ў маленькім храме. Вывучыўшы паданні Дзісненскага краю і пісьмовыя крыніцы XIX стагоддзя, экспедыцыя ехала аглядаць абраз XVI стагоддзя. Прыбылі на месца ў канцы жніўеньскага дня. Усё рабілі хутка, каб паспець разгледзець жывапіс пры дзённым святле. Дзень хіліўся да завяршэння, а старыя каваныя цвікі, якія трымалі шматкілаграмовыя срэбныя шаты, насілу выходзілі са старога ляўкаса. Абраз разглядалі амаль у змярканні і, можа таму, загадчыца аддзела старабеларускага мастацтва, з расчараваннем падвяла вынік:

— Дзевятнашка…

У той вечар усе падумалі, што абраз быў напісаны пад аклад у XIX стагоддзі, а арыгінал быў згублены. Такія незвычайныя для беларускай школы іканапісу былі візантыйскія прыёмы размалёўкі золатам адзенняў і выбеленая мадэліроўка лікаў. Належную ўвагу атрымала толькі высокамастацкая праца магілёўскіх «златарнікаў» па срэбранай шаце, на жаль, з часам згубленай…

Па вяртанні з маёй першай пілігрымкі ў Дзісну, я адразу наведаў Аркадзя, каб пераканаць яго ўзнавіць працу па рэстаўрацыі Дзісненскай Адзігітрыі. Так, ён добра памятаў гэты абраз і ахвотна адгукнуўся на маю просьбу. Аднак па фатаграфіях, зробленых мною пры цьмяным святле ў інтэр’еры маленькага храма, ён не падзяляў майго захаплення па датаванні абраза XVII стагоддзем.

— Пачакай, я прывязу Яе да вас у музей. Добра разгледзіш Яе, і ў цябе зменіцца стаўленне! — угаворваю я аўтара рэстаўрацыі каранаваных цудатворных святынь: Божае Маці Лагішынскай «Каралевы Палесся», Браслаўскай «Уладаркі азёр», Божае Маці Камайскай і іншых ушанаваных і важных для культуры нашай краіны твораў сакральнага мастацтва ….

— Давай разважаць ад срэбраных шат! — не здаецца Аркадзь. — Звычайна шаты рабілі гадоў на 50—100 пазней, чым малявалі абраз. Аклад 1770-х гадоў — значыць жывапіс у крайнім выпадку канца XVII — пачатку XVIII стагоддзя. І потым — выдаленне старога лаку пакажа нам усё. Яшчэ трэба ўлічыць, што беларускія абразы ў першую чаргу вызначаюцца арнаментам, якім упрыгожвалі фон. Тут свая спецыфіка! І свае прыёмы! Дарэчы, гэтага не ведалі нават лепшыя расійскія адмыслоўцы-рэстаўратары, якія прыязджалі з Масквы ў 1950—60-х гадах да нас ратаваць беларускія шэдэўры. На жаль, сваіх рэстаўратараў у нас на той час не было. Маскоўскія майстры падыходзілі да рэстаўрацыі нашага сакральнага жывапісу барока, як да працы са сваімі рускімі іконамі. Яны не ведалі спецыфічнай змешанай тэхнікі нашага іканапісу, што прыводзіла часта да знішчэння саміх твораў, якіх у нас было няшмат… Але майстры з Масквы, падобна, не ўсведамлялі гэтага.

Пасля доўгіх дэбатаў — здаюся. Як кажуць у шахматнай гульні — пакуль нічыя ў нашых здагадках па датаванні абраза. Як гэта ні дзіўна, але ў Беларусі я лепш ведаю рускі абраз. І ўсё таму, што іх больш захавалася і больш трапляла мне на рэстаўрацыю. Я дасканала вывучыў рускі іканапіс, патрымаўшы тысячы абразоў у сваіх руках: рысачкі, кракелюры, расколінкі, пах старога лаку былі мне знаёмыя не адзіны дзясятак год. Аднак, як я мог глыбока вывучыць стылістыку беларускіх абразоў, калі я бачыў іх толькі на ілюстрацыях ці за шклом у музеях. Нашых высокамастацкіх абразоў XVI—XVII стагоддзяў у добрым стане захавалася так мала, што іх можна было пералічыць на пальцах адной рукі.

Арнамент фону Дзісненскай Адзігітрыі да болю мне знаёмы яшчэ з часоў лекцый па гісторыі мастацтваў у інстытуце. Штосьці круцілася ў галаве вакол еўрапейскіх барочных арнаментаў, бачаных мною на ліёнскіх тканінах, на урбінскай маёліцы, у кніжных застаўках нямецкіх часасловаў. Не, думаю сам сабе, лепш вярнуцца да пошукаў часу стварэння абараза, калі ён будзе ў музеі перад вачамі…

Словы і добрыя намеры пра выратаванне Дзісненскай Адзігітрыі сталі ўвасабляцца ў справы толькі праз год. І ўвесь 2011 год быў напоўнены як духоўнай, так і матэрыяльнай працай, якая рыхтавала мяне да галоўнага — рашыцца ўзяць на сябе адказнасць за аднаўленне беларускай святыні. Усе справы, якія адбываліся ў гэты год, так ці інакш злучаны з дзісненскім краем. У лютым 2011 года ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь прайшла выстаўка дзіўных прац бацюшкі-фатографа Паўла Вялынцэвіча, які напачатку XX стагоддзя служыў ва Узменах, што недалёка ад Дзісны. Частка шкляных негатываў 1900-х гадоў трапіла ў мой збор па беларускай культуры, частка да калекцыянера Зміцера Сярэбранікава. Нашай сумеснай працай пры належнай дапамозе прафесійнага фатографа Уладзіміра Суцягіна было прыадчынена невялікае акенца ў дагэтуль мала вывучанае паўсядзённае жыццё Беларусі стогадовай даўніны. Так, пра жыццё Беларусі пачатку XX стагоддзя напісана шмат, але фота пабытавага жанру, а не салонных партрэтаў, захавалася вельмі мала. У фотаздымках бацюшкі Паўла ёсць і негатыў Уваскрэсенскага храма г. Дзісны, датаваны самім аўтарам: 1903 год. Менавіта там знаходзілася ў той час Дзісненская Адзігітрыя.

3 чэрвеня 2011 года адбылася яшчэ адна падзея, якая пацвердзіла нябачную сувязь Дзісненскай Багародзіцы і айца Канстанціна Жданава. У гэты дзень да беларускіх навамучанікаў быў прылічаны айцец Канстанцін. Яго мошчы хросным ходам былі перанесены з маленькага храма на цвінтары ў новую раку ва Уваскрэсенскім саборы. Разам з навамучанікам у храм вярнулася і Дзісненская Адзігітрыя.

Перапляценне такіх падзей зараз здаецца мне зусім не выпадковым. І нават тыя цяжкасці, якія ўзнікалі на шляху да абраза, я мяркую, былі таксама не выпадковымі.

Толькі маем намер разам з кіроўцам Аляксандрам на мікрааўтобусе выехаць раніцай у Дзісну, як ніадкуль узнікаюць перашкоды. Забыліся пра нейкія ключы, вяртаемся. Гляджу на гадзіннік — спазняемся на сустрэчу з Уладыкам Феадосіем, арцыбіскупам Полацкім і Глыбоцкім. Менавіта пад яго апекай знаходзіцца храм з цудатворным абразом і ён — мая апошняя інстанцыя пры вырашэнні пытання: ці даць мне абраз на рэстаўрацыю. Выязджаем з Мінска, лепш сказаць — вылятаем. Тут нячысцік не дрэмле — ДАІ цікуе за паваротам. Стоп, перавысілі хуткасць! Ізноў прыкрая затрымка, але парадак ёсць парадак… Даішнікі, даведаўшыся пра мэту нашага візіту да Адзігітрыі, міласціва нас адпускаюць з папярэджаннем не перавышаць хуткасць нават дзеля такой высакароднай справы. Нарэшце праз колькі гадзін вандроўкі з-за шэрага далягляду выглянулі белыя вежы-ветразі шматвяковай Сафіі. Мы ў Полацку. Доўгачаканая сустрэча з Уладыкам.

— Я разумею твой высакародны парыў. Урэшце, я веру табе. Я з задавальненнем аддам табе ў рэстаўрацыю абраз Адзігітрыі, — строга тлумачыць Уладыка і ў скрусе разводзіць рукамі. — А як мне паверацьчыноўнікі з Міністэрства культуры? Яны ж запатрабуюць ад мяне афіцыйную паперу з пячаткай і тлумачэннем, дзе знаходзіцца помнік культуры, які занесены ў рэестр самых значных для дзяржавы? Гэта ж нацыянальны здабытак беларускага народа!..

Званкі, званкі, званкі. Бясконцыя перамовы па тэлефоне. «Няўжо і раней мецэнаты адсылалі памагатых узгадняць свае духоўныя памкненні ў Вільню, Варшаву ці Санкт-Пецярбург?» — падумалася мне ў той час. Па чынавенскай іерархіі даходзім да намесніка міністра культуры Рэспублікі Беларусь. І ўсё вырашаецца з Божай дапамогай. Здымаюцца амаль усе канцылярскія перашкоды, уся адказнасць за абраз кладзецца на плечы бацюшкі Генадзя, настаяцеля Уваскрэсенскага храма Дзісны, і на мяне. Уладыка строга багаслаўляе мяне, і мне ўспамінаецца першая сустрэча з арцыбіскупам, калі ён прыязджаў годам раней глядзець на адрэстаўраваны мною абраз Полацкай Адзігітрыі. Я меркаваў, што ўсе іерархі царквы вельмі строгія і бачаць амаль наскрозь усе твае думкі і заганы. Высокая

постаць арцыбіскупа ў чорным адзенні з’явілася з ліфта, я падставіў рукі лодачкай для блаславення.

— Ты хто? — строга спытаў Уладыка, нібы Святы Пётр грэшніка каля брамы рая.

— Я рэстаўратар — толькі і змог я прашаптаць ад хвалявання ў той час…

Нарэшце мы выязджаем з Полацкага Свята-Еўфрасіньеўскага манастыра, побач з якім размешчана рэзідэнцыя Уладыкі, у бок горада Дзісны. Як добры анёл-ахоўнік нас суправаджае нястомная матушка Сергія, якая таксама руплівіца пра выратаванне абраза. У Дзісненскім храме бацюшка Генадзь з матушкай і рэгентам царкоўнага хору ўжо нараспеў чытаюць акафіст Багародзіцы каля новай ракі нявінна забітага айца Канстанціна Жданава. Настаяцель храма сардэчна блаславіўляе нас у калатутным ад снежаньскіх халадоў інтэр’еры. Бацюшка мне падаецца добрым полацкім баярынам, які сышоў на амбон наўпрост з ілюстрацый да дзіцячых казак. Няхай прабачыць мяне бацюшка за такое параўнанне. Ён такі ж каржакаваты, магутны і разам з тым добры. Гэта дабрыня і глыбокая народная мудрасць хаваюцца ў хітрыках прымружаных вачэй і ў беларускім акцэнце пры гутарцы. Нашы беларускія «дз», «гэ», «цэ» ў вуснах бацюшкі разбаўляюць сваёй мяккасцю строгасць малітваў на старaславянскай.

— Глядзіце, каб прыхаджанне не пабілі нас камнямі! — папярэджвае мяне бацюшка і дае загад на асцярожнае стаўленне да шанаванай святыні, але тут жа па-гаспадарску абмяркоўвае рамонт у храме. — Вы б кацёл для ацяплення ў Мінску прыгледзелі.

Кажу ў адказ, што хоць і займаюся часам дызайнам інтэр’ераў, але не вялікі спецыяліст па ацяпляльных катлах і пытаюся са здзіўленнем:

— Да вас столькі паломнікаў едзе і з Беларусі, і з Расіі, такі вялікі горад Полацк пад бокам, а на кацёл для храма няма каму ахвяраваць?

— Тут на рамонт столькі мільёнаў пайшло, — махае рукой бацюшка — што страшна падумаць.

— Добра, я патрасу нашых мінскіх бізнесменаў, — з надзеяй абяцаю я настаяцелю Уваскрэсенскага храма.

— Толькі моцна не трасіце! — усміхаецца бацюшка ў густую з сівізной бараду.

Асцярожна вымаем вялікі абраз з цяжкагаківота. У гарачай вадзе распускаю асятровы клей і накладваю часовыя прафзаклейкі з тонкай калькі на расколіну, што ідзе па ліку Адзігітрыі, на зацалаваныя рукі і ножкі Божага Дзіцяці, каб ніводны кавалачак ляўкасу з жывапісам не знік пры вандроўцы ў Мінск. Спавіваем абраз у байкавую коўдру, як каштоўнае дзіцё і, стрымліваючы дыханне, выносім Дзісненскую Адзігітрыю з храма ў мікрааўтобус. Бацюшка блаславіўляе яшчэ раз на дарожку са строгім наказам:

— Паспейце, калі ласка, да жніўня! У гэты дзень свята Дзісненскай Божай Маці, а самаго абраза не будзе ! Што я скажу сваім прыхаджанам?..

## На ўсё воля Божая…

Мы выязджаем з Дзісны на дарогу ў бок Полацка. Трэба заехаць у Свята-Еўфрасіньеўскі манастыр, адвезці дахаты нашага анёла-ахоўніка матушку Сергію, якая папярэдзіла сясцёр, што цудатворны абраз на хвілінку прыбудзе да іх. Надвор’е пагаршаецца. Шэрыя нізкія, нібы з цыны, зімовыя аблокі набрынялі снегам і дажджом. Каля манастырскай вежы-званіцы ў Полацку робім невялікі прыпынак. Душу кранула тое, як сёстры прыкладваліся вуснамі да халоднага металу «пежо» менавіта з таго боку, дзе ўнутры мікрааўтобуса стаяла Дзісненская Адзігітрыя. Выходзіць, наша машына асвячоная! Увечары надвор’е зусім зрабілася невыносным, і дарога да Мінска была сапраўдным выпрабаваннем. Снег і дождж утварылі такую белую каламуць, што не было відаць нічога на адлегласці некалькіх метраў.

— Як даедзем? — хваляваўся кіроўца Аляксандр, узіраючыся ў белую завіруху за шклом.

— З намі Божая Маці! — супакойваю я яго. — Нічога дрэннага не павінна здарыцца.

Бліжэй да ночы з хуткасцю чарапахі ўязджаем у Мінск. Працоўны дзень даўно скончыўся, але рэстаўратары чакаюць нас у музеі. Абраз асцярожна занеслі ў майстэрню, паклалі на працоўны стол. Няхай Яна, як дзіця, ляжыць спавітая ў байкавых пялюшках. Адпачывае і абвыкаецца на новым месцы…

Першае, так званае кантрольнае, ашчаднае зняцце старога лаку на твары і на руцэ Божай Маці дало нечаканы вынік. Шукалі жывапіс ці паднаўленне XIX стагоддзя, а яго папросту не было. З-пад пацямнелага лаку, змяшанага з чорным куродымам лампад, з'явіліся яркія фарбы роднага жывапісу. Далікатна-ружовы румянец на шыі Богамаці, блакітны малахіт каптура Адзігітрыі ў расчыненым акенцы-«кантрольцы» памерам усяго два на два сантыметры выклікаў тысячу эмоцый і здагадак. І не без падстаў, таму што абраз Дзісненскай Адзігітрыі не было з чым параўнаць у беларускім іканапісе. Аналагаў, хутчэй за ўсё, не захавалася ў куламецi неміласэрных выпрабаванняў для нашай шматпакутнай зямлі. Холаднасць цёмнага старога лаку змянілася цёплым ззяннем раскрытага старажытнага жывапісу.

Як потым здзіўлена ўсклікнуў Уладзімір Суцягін, адзін з паломнікаў да Адзігітрыі ўзімку 2010 года, убачыўшы адноўлены абраз:

— Яна ж чырвоная стала!...

У гэтым воклічы выявілася непасрэднае ўспрыманне абраза. Чырвоны колер — гэта колер прыгажосці. У славян чырвоны колер меў адмысловае сакральнае значэнне як сімвал адраджэння і ўваскрэсення да новага жыцця. Нездарма беларускі народны строй складаецца з белага і чырвонага, а для жыцця нашы продкі выбіралі прыгожыя куточкі прыроды, якім давалі імёны: Чырвоная Горка, Чырвоны Бор, Чырвонае…

Падчас рэстаўрацыі на ліках Божай Маці і Хрыста стаў дамінаваць цёплы тон: кінаварна-ружовы і чырвона-ахрысты. Духоўнае ўспрыманне Дзісненскай Адзігітрыі стала настолькі моцным, што ўявіць Яе, напрыклад, у экспазіцыі старажытнабеларускага жывапісу побач з іншымі абразамі стала немагчыма. Яна адна на сцяне магла трымаць велізарную залу. І нездарма нават у Дзісненскім храме ў Адзігітрыі ёсць сваё асобнае «чырвонае» месца перад алтаром, злева ад царскай брамы.

Ізноў пільна аглядаю Дзісненскую Адзігітрыю ў рэстаўрацыйнай майстэрні музея, прыпамінаю царскіх жывапісцаў з Аружэйнай палаты Крамля. Такі ж графічны малюнак сакральных адзенняў у Хрыста. Складаны аліўкава-зялёны колер гіматыя і кінаварна-ружовы хітона. Характэрны арнамент трох зорак сакральнай цнатлівасці на чале і на плячах Адзігітрыі, я бачыў такія ж на маскоўскай іконе Казанскай Божай Маці канца XVII стагоддзя, якую рэстаўраваў для прыватнай калекцыі. Нават арнамент фону дакруціўся ў галаве да здагадкі — гэты арнамент я бачыў на іконе Божай Маці Смаленскай-Шуйскай пачатку XVIII стагоддзя, прывезенай мною з Уладзіміра. На ўладзімірскім абразе фон быў выкладзены сусальным срэбрам, па якім чорна-арэшкавым і шафранава-чырвоным празрыстымі лакамі быў нанесены знакаміты барочны арнамент «паўлінае вока». Знаёмы рэстаўратар з Масквы, разглядаючы ўладзімірскі абраз, не прамінуў зрабіць заўвагу, што гэты арнамент характэрны для старадаўняга рускага паркалю з набіўным малюнкам. Адкуль жа ўзяўся на рускіх матэрыях еўрапейскі барочны арнамент «паўлінае вока»? Дарэчы, гэты арнамент мае яшчэ адну назву — «кветка граната», як знак Уваскрэсення Хрыста.

Упершыню на Русі ён з'яўляецца на кафлях Уваскрэсенскага сабора Нова-Іерусалімскага манастыра на Істры. Майстрам, якія стварыў гэты цуд, быў наш зямляк, выхадзец з Мсціслава Сцяпан Палубес. Гэта было ў 1658 годзе. Дарэчы,

менавіта ў гэта ж час майстры Аружэйнай палаты ўступаюць у перыяд найвышэйшага росквіту сваёй творчасці.

Як ні дзіўна, а штуршок да развіцця рускага мастацтва дала вонкавая палітыка Маскоўскай дзяржавы. Мы прывыклі да гістарычнага афарызму пра тое, што акно ў Еўропу прасек Пётр Аляксеевіч. Але першым, я думаю, прыадчыніў дзверы з Масковіі ў еўрапейскі свет, сам таго не ведаючы, бацька Пятра, цар Аляксей Міхайлавіч, дзіўным чынам празваны ў гісторыі «Цішэйшым». І еўрапейская культура з Вялікага Княства Літоўскага ўвайшла ў прыадчыненыя дзверы Расійскага Царства.

На жаль, геаграфічнае становішча Вялікага Княства Літоўскага паміж Усходам і Захадам зрабіла нашу зямлю не толькі цэнтрам, дзе перасякаліся і мірна суіснавалі шматлікія рэлігіі і культуры, але наша краіна стала вялікім полем бітвы на доўгія гады з веку ў век. Самым спусташальным і вусцішным для нашага народа было XVII стагоддзе, празванае пазней «крывавым патопам». У страшнай віхуры вайны, якая прайшла па нашых гарадах і мястэчках былі вывезены ў Масковію лепшыя майстры і, трэба меркаваць, шматлікія лепшыя іх творы як прыклад для пераймання. Сама Масква, горад «сорока сороков» цэркваў, неўзабаве на чвэрць ужо складалася з «белорусцов», якіх у Мяшчанскай слабадзе, дзе сучасная Цвярская вуліца, сталі зваць «літоўскімі людзьмі». Так у Рускім Царстве з'явіліся нашы разьбяры, жывапісцы, ювеліры, цаніннікі. Дзеля праўды, трэба ўспомніць і пра ваяўнічых спадчыннікаў вікінгаў, якія прайшлі ўраганам па поўначы і захадзе ВКЛ у крывавым патопе. Адкуль, скажаце, у знакамітай швецкай бібліятэцы горада Упсала ўзялася вялікая колькасць нашых старых рукапісаў, кніг і геаграфічных мап? Нават у сховішчах ёсць мапа знакамітага картографа з Нясвіжа Макоўскага. Можа, па добрай волі саміх «белорусцов» швецкія музеі папоўніліся шэдэўрамі нашых майстроў?

На плыні «крывавага патопу» ў сярэдзіне XVII стагоддзя трапіў у Маскву Сцяпан Палубес, узяты ў палон з Мсціслава царскім ваяводам князем Трубяцкім. Мсціслаўскі майстар упрыгожыў кафляй з арнаментам «паўлінае вока» фасады праваслаўных храмаў Расіі. Паланёнаму рамесніку яшчэ спрыяў лёс, таму што сам горад быў выразаны стральцамі пад корань, а цудам выжыўшых жыхароў звалі няйначай, як «недосеками». Але што дзівіцца, такое было крывавае стагоддзе не толькі для ВКЛ, але і для ўсёй еўрапейскай цывілізацыі. У 1630-м, калі маршал Ціль узяў штурмам горад Магдэбург, у жывых з 25 тысяч жыхароў засталося толькі пяць. На гэты конт згадваецца выслоўе — «O tempora, o mores!» («О часы, о норавы!»)…

Беларускія майстры здзівілі маскавітаў сваім мастацтвам «флемской» (ад нямецкага flamme — агонь) разьбы. І з'явіліся ў рускіх храмах іканастасы казачнай прыгажосці, выглядам якія нагадвалі евангельскае паданне пра «Неабпальную Купіну». На здзіўленых вернікаў глядзелі святыя лікі ў атачэнні залатога флемскага арнаменту. У рускім іканапісе з'яўляюцца сюжэты, навеяныя знакамітымі гравюрамі з Біблії «Thearum Biblicum» фламандца Піскатара, надрукаванай у Амстэрдаме ў 1650 г. Трэба меркаваць, шматлікія бібліятэкі і архівы былі вывезены з Вялікага Княства Літоўскага ў Масковію для далейшага вывучэння. Беларускі іканапіс, у які спалучаліся прыёмы візантыйскага і заходняга жывапісу, гэтак жа здзівіў усходніх заваёўнікаў. І вось ужо царскія іканапісцы пішуць лікі святых «яка ў жыцці» ў «фражской» манеры. Сам ушанаваны царом майстар Сымон Ушакоў на абразе Святая Тройца 1671 года ў архітэктурным пейзажы намаляваў італьянскі горад вялікага Паўла Веранэзе з карціны «Свята ў Сымона Фарысея». Рускія абразы апранаюць у каваныя срэбраныя шаты, упрыгожаныя арнаментальнымі гірляндамі з кветак і садавіны. Матывы граната, яблыка, вінаграднай лазы, якімі карысталіся беларусы ў дэкоры іканастасаў і шат, пранікаюць у архітэктурны стыль, празваны пазней «нарышкінскім барока».

Кола маіх разважанняў і здагадак пра датаванне і стылістыку абраза Дзісненскай Адзігітрыі замкнулася. Яно прыйшло з маленькага, настылага вільготным холадам храма на цвінтары горада Дзісны да велічных сцен Маскоўскага Крамля і вярнулася на радзіму. І як бачна, гэта пілігрымка ў часе і ў геаграфіі была невыпадковай. Нашы лепшыя майстры XVII стагоддзя далі штуршок для такіх пошукаў: трэ было параўнаць і супаставіць жывапіс Дзісненскай Божай Маці і крамлёўскіх іканапісцаў. Прыходзіць выснова, што нашы суайчыннікі ў XVII стагоддзі працавалі поруч з царскімі жывапісцамі і дзяліліся з імі сваім майстэрствам і сакрэтамі. Творамі царскіх іканапісцаў мы захапляемся ў шматлікіх музеях і храмах Масквы, Яраслаўля, Кастрамы… У мяне самога першыя ўражанні пра жывапіс Адзігітрыі былі «крамлёўскія», нягледзячы на відавочна «наш» родны фон з «паўліным вокам».

Сапраўды, няма прарока ў сваёй радзіме. З часам беларускіх настаўнікаў у Расіі забылі. Ніхто ні ў Расіі, ні ў самой Беларусі не ўзгадвае пра беларускія карані іканапісу Аружэйнай Палаты Крамля, якім ганарыцца Расія, як сваім духоўным дасягненнем і здабыткам.

Яшчэ адна загадка для мяне ў Дзісненскай Адзігітрыі… Але, хто можа разгадаць дотык Духа Святога да цудатворнага? Таленавіты твор магчыма раскласці на хімічныя формулы, час стварэння, мастацтвазнаўчую экспертызу, але гэта не тлумачыць, адкуль нараджаецца талент і цуд. Паспрабую знайсці адказ на больш матэрыяльнае пытанне аб «прабельным» жывапісе ліка Багародзіцы і пра кінаварна-чырвоны санкір, такі нехарактэрны для беларускіх абразоў. Светла-вохрыстыя, амаль белыя лікі сустракаюцца ў рускім іканапісе толькі з пачатку XVIII стагоддзя. А жывапіс Дзісненскай Адзігітрыі, мяркуючы па стылістыцы і арнаменце фону, магчыма аднесці да першай паловы XVII стагоддзя. У XVI—XVII стагоддзях іканапісцы Масковіі вельмі асцярожна выкарыстоўвалі белы колер — толькі так званыя «ажыўкі» ў самых светлых месцах лікаў. І ўсё ж, праглядаючы македонскія і балгарскія абразы XIV—XV стагоддзяў, знаходжу падобнага «папярэдніка» прабельнага жывапісу ліка Дзісненскай Адзігітрыі — гэта Балканы ці яшчэ раней Візантыя! І праўда, грэцкія майстры прыўнеслі ў іканапіс кантраст і яркасць колеравай гамы, пабудаванай галоўным чынам на цёплых земляных колерах. Дарэчы, успомнім вялікіх творцаў, выхадцаў з Грэцыі, Феафана Грэка і Дзіянісія, якія распісвалі храмы Расіі. Чаму б грэцкім майстрам не працаваць і ў Вялікім Княстве Літоўскам? Упэўнены, яны працавалі тут і перадавалі сваё майстэрства мясцовым іканапісцам. І гэта іх прабельны жывапіс лікаў па цёплым санкіры знайшоў сваё ўвасабленне ў беларускага майстра, які маляваў Дзісненскую Адзігітрыю.

Прайшло паўгода скрупулёзнай працы Аркадзя Шпунта па раскрыцці жывапісу, калі скальпель рэстаўратара міліметр за міліметрам набліжаў нас да першапачатковай задумы беларускага майстра XVII стагоддзя. І вось раскрыты ад старога лаку абраз знаходзіцца на працоўным стале ў маёй майстэрні — трэба прыступаць да не меней адказнай працы — таніроўкам страчанага жывапісу. Працую і не знікае пачуццё таямніцы, якая схавана пры стварэнні і жыцці самаго абраза сярод вернікаў. Здаецца, знайшоў многія адказы… Але ж — не…. Увесь працэс рэстаўрацыі праходзіць нібы ў сакральнай гутарцы з самім творам: хто быў той майстра, які стварыў гэту прыгажосць, і якім чынам ён абудзіў цудатворную моц здаецца такой матэрыяльнай рэчы? Іншы раз толькі моўчкі гляджу на лікі, забываючыся пра клопаты і пра саму працу: вось так бы і сысці ў бясконцасць услед за Божай Маці па доўгіх промнях адыходзячага летняга сонца, якое надвачоркам заглядае ў мае вокны. Разважанні, здагадкі… Магчыма, арнамент па ляўкасе быў створаны пазней, чым намаляваны сам абраз? Як іканапісец, ведаючы пра дэкаратыўны фон, для якога патрэбна была раўнюткая дошка, раптам заказвае яе з паглыбленнем-каўчэгам, які відавочна замінаў яго працы? Дошка пад абраз была выканана раней — адзіны адказ, які прыходзіць на розум. Значыць, фон абраза

са знакамітым «паўлінавым вокам» зроблены быў пазней, магчыма пад барочны іканастас храма, у які была ўнесена Святыня. А як жа самі лікі? Ці не намалявалі іх у XVII стагоддзі, калі абраз упрыгожвалі разьбяным арнаментам?

Больш за ўсё, як ні дзіўна, зведалі пакуты старадаўнія абразы менавіта ад непрафесійных рэстаўрацый, выкананых 100—300 гадоў назад. Як раней аднаўлялі абраз? У той час не было ні хімічна выверaных і падабраных растваральнікаў для зняцця старых лакаў, ні павелічальнай оптыкі, ні рэнтгена. «Рестаўратар-самавук» браў шчолак, змешваў яго з вадой у вялікіх драўляных ночвах, апускаў туды абраз і счышчаў пацямнелы лак пемзай, нібы грубай мянташкай. Тое, што заставалася ад старажытнага абраза, праклейвалася і дапісвалася з наступным пакрыццём лакам, які зноў цямнеў праз 100 гадоў. У лепшым выпадку для рэстаўрацыі выкарыстоўваўся спірт. Гэта добра, калі майстар быў трохі ленаваты і, не турбуючы сябе марнай працай з пемзай, проста перапісваў абраз па старым пакрыцці, калі магчыма было што-кольвек разгледзець пад цёмна-карычневым пакрыццём. Якія абразы аднаўлялі ў першую чаргу? Вядома, самыя ўшанаваныя — вернікі не шкадавалі на гэту добрую, як ім здавалася, справу сродкаў. Колькі рэстаўрацыйных плямін на знакамітай Уладзімірскай Божай Маці XII стагоддзя? Напэўна, пачынаючы з XIV стагоддзя, Яе абнаўлялі лепшыя майстры кожныя 50 гадоў. Яна ўся, як каштоўны дыван, выткана з кавалачкаў жывапісу XII—XIX стагоддзяў. Але, калі б нашы продкі не рэстаўравалі святыні, ці дажылі б яны да нашых дзён праз стагоддзі ці не ператварыліся б у прах з часцінак ляўкасу і фарбы? Дылема!

Праз цэйсаўскую оптыку знаходжу ў жывапісе месца, якое ледзь-ледзь прыадчыняе таямніцу часу. На ручцы Хрыста, якая бласлаўляе веруючых, і на шыі Багародзіцы ёсць невялічкія, можа, у пяць міліметраў, страты жывапісу XVII—XVIII стст., а пад ім праглядаецца іншая тэмпера з драбнейшым кракелюрам. На шыі Багародзіцы можна нават разгледзець рысачкі больш старажытнай «ажыўкі». Няўжо XVI стагоддзе? Так хочацца скальпелем дайсці да жывапісу часоў Сцяпана Баторыя, калі ў Дзісне працаваў архітэктар з Урбіна. Стрымліваю сябе і адкладваю скальпель. А раптам пад запісам XVII стагоддзя вялікія страты? Не бяру на сябе адказнасць — трэба і нашчадкам пакінуць трохі загадак Дзісненскай Багародзіцы.

Які раз прашу Багародзіцу аб дапамозе ў працы, Святога Духа — майстэрства ў руках, святых заступнікаў — умацаванні веры. А нячысцік, трэба сказаць, не дрэмле ўвесь гэты час. Не на прамую б’е, пякельнае стварэнне нібы цешыцца ці гуляе — б’е ўбок, але джаліць у самае сэрца. На Вялікую пятніцу мая дачушка трапляе пад машыну. Для няверуючага чалавека — гэта простае супадзенне абставін: пятніца, ды яшчэ трынаццатая, ды кот не той масці не там шпацыраваў… Але Дзісненская Адзігітрыя захоўвае маю дзяўчынку. Гэта проста цуд, што яна, праляцеўшы ад удару некалькі метраў, засталася жывой з некалькімі драпінамі на целе і спалохам у душы. Малітвы шматлікіх добрых людзей, якія суперажываюць маім цяжкасцям, дапамагаюць у працы над цудатворным абразом. А малітва Мітрапаліта Філарэта вельмі моцная…

Як і сотні вернікаў, я ўзношу сваю малітву, сваю сціплую працу да Багародзіцы і з надзеяй чакаю дзень у жніўні, калі нябеснае злучыцца з зямным у маленькім мястэчку Дзісна.

І няхай так будзе заўсёды. З веку ў век…

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

**Ідзе падпіска**
**на II паўгоддзе 2013 года:**

*індывідуальная льготная*
*для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 11500 руб.
на 3 месяцы — 34 500 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 17 600 руб.
на 3 месяцы — 52 800 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 47 000 руб.
на 3 месяцы — 141 000 руб.

*ведамасная льготная*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 38 100 руб.
на 3 месяцы — 114 300 руб.

**«ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**
**г. Мінск**
**Магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
**Магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
**Магазін «Глобус», вул Валадарскага,16.**

***e-mail: polymya@bk.ru***

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Стараверавай*

Падпісана ў друк 11.09.13 г. Фармат 70×108 1/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,99. Ул.-выд. арк. 17,33. Тыраж 2670 экз. Заказ 2905.
Кошт нумара ў розніцу 18400 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.